# ПАЗІЦЫЯ

## ПЫТАННЕ, ЯКОЕ ТРЭБА ЗАДАВАЦЬ ЧАСЦЕЙ

Люблю глядзець старыя, даваенныя кінафільмы рэвалюцыйнай тэматыкі. Тыя, на якіх або з якімі вырастаў. І некаторыя сучасныя гэтай жа тэматыкі — таксама. Натуральна, аднойчы я павінен быў у сябе ж самога спытаць: чаму? Што мне ў іх падабаецца? І занадта ж прамалінейнае ў некаторых з іх ідэйна-мастацкае рашэнне, і на ілюстрацыйнасць нярэдка хварэюць, і наіўнага ў іх сустракаецца нямала... А вось жа нечым падабаюцца, нечым хвалююць! Адказ акрэсліўся без цяжкасці: падабаюцца вернасцю сацыяльным і маральным ідэалам Кастрычніка, рэвалюцыйнай высакароднасцю іх герояў — змагароў за новы свет і будаўнікоў гэтага свету, падабаюцца чысцінёй іх дум і памкненняў, непадкупнай, непахіснай цвёрдасцю сапраўды камуністычнай жыццёвай пазіцыі.

Сказанае поўнасцю адносіцца і да любімых даваенных — 20-х і 30-х гадоў — кніг. І да многіх сучасных — таксама. Гэтыя фільмы і кнігі ўсяляюць у душу веру ў прыгажосць і веліч ідэй сацыялізма, у бясспрэчнасць сацыяльнай і маральнай праўды нашага грамадскага ладу. Героі гэтых твораў змагаюцца і гінуць за жыццё, у якім ад подлага старога свету не будзе нічога — нічога, што магло б прынізіць і абразіць чалавечую годнасць. Скажу шчыра: наўрад бы ці гэтыя творы хвалявалі мяне так моцна, калі б іх ідэйны змест не быў актуальны сёння, калі б жыццё не сутыкала з фактамі і з’явамі, якіх у нашым грамадстве быць не павінна. Не павінна — таму што яны амаральныя і агідныя па самой сваёй сутнасці. Партыя ў пастановах красавіцкага (1985) і кастрычніцкага (1985) Пленумаў ЦК, у рэзалюцыі і іншых дакументах XXVII з’езда КПСС назвала гэтыя негатыўныя з’явы і заклікала грамадскасці» да бязлітаснай барацьбы з імі. Так, наступіў час бескампрамісна-бязлітасных адносін да ўсякай абразлівай для нашага жыцця брыдоты. Пачынаючы з Кастрычніка 1917-га мільёны людзей ішлі на бой і смерць за жыццё, у якім гэтага не будзе — гэтага гандлярскага смуроду, гэтай крывадушнасці, гэтай маральнай нечыстаплотнасці, гэтай мяшчанскай прагавітасці, гэтай пошласці і цынізму. Прыйшоў час, калі па ўвесь голас і ўсё выразней будзе гаварыць сваё слова Сумленне. Чалавечае, камуністычнае, партыйнае сумленне.

У новай рэдакцыі Праграмы КПСС вялікае месца адводзіцца ўсталяванню ў нашым грамадстве камуністычнай маралі, якая з’яўляецца, па-першае, мараллю калектывісцкай, па-другое —

гуманістычнай, па-трэцяе — актыўнай, дзейснай. Гэта мараль, зазначаецца ў праграмным партыйным дакуменце, «несумяшчальная з эгаізмам, сябелюбствам і своекарыслівасцю», яна ўсталёўвае «сумленнасць, прастату і сціпласць у асабістым і грамадскім жыцці», яна заахвочвае чалавека «да актыўнага непрымання ўсяго, што супярэчыць сацыялістычнаму ладу жыцця, да настойлівай барацьбы за камуністычныя ідэалы».

Мараль і культура — паняцці вельмі блізкія, якія ў жыцці і ўсяго грамадства і асобнага чалавека ў многім істотным супадаюць, сумяшчаюцца, накладваюцца адно на другое. Чалавек сапраўды культурны — гэта, канешне ж, чалавек маральны, сумленны, сціплы. Таго, хто паводзіць сябе амаральна, хто несумленна ставіцца да сваіх чалавечых і грамадскіх абавязкаў, а найперш — да працы, хто эгаістычна і нясціпла трымаецца ў калектыве, з таварышамі і калегамі, — культурным не назавеш. Не кажучы ўжо пра тых, хто мараль нашага сацыялістычнага агульнажыцця парушае ў самай грубай форме — пра хуліганаў, злодзеяў, хабарнікаў, паклёпнікаў і іншых тыпаў, якія размінуліся з культурай катэгарычна.

У маім разуменні найбольш блізкі сінонім да азначэння «чалавек культурны» — гэта «чалавек сумленны». Сумленнасць — вось апора і стрыжань культурнай, высакароднай асобы, грунт і глеба яе духоўнай, чалавечай годнасці. Адукацыя ж сама па сабе пры браку сумленнасці— да культуры, да сапраўднай інтэлігентнасці чалавека не далучае. Ці мала мы сустракаем дыпламаваных хамаў, высокаадукаваных мярзотнікаў? «Ножніцы» паміж адукацыяй і выхаваннем пачынаюцца з дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту і пры спрыяльных умовах «разыходзяцца» чым далей, тым шырэй. Веды чалавек набывае, розным навукам навучаецца, а выхаванне, ці адукацыя душы, за ведамі, за навучаннем не паспяшае. Таму што гэтай душы мала ўдзяляецца ўвагі — на работу з ёю не хапае часу ні ў бацькоў, ні ў настаўнікаў, ні ў грамадскасці. Хаця зусім зразумела, што адукаванасць чалавека можа даць жаданы плён і карысць для грамадства толькі тады, калі будзе спалучана з маральнай выхаванасцю, з сумленнасцю. Школьная рэформа, якая пачала ажыццяўляцца ў краіне, прадугледжвае павышэнне эфектыўнасці менавіта выхаваўчай работы з вучнямі. Бо трэба, каб малады чалавек выходзіў на прасторы жыцця маральна выхаваным, сумленным, высакародным — інача сказаць: культурным.

Культурны чалавек ад дзікуна і цыніка адрозніваецца перш за ўсё здольнасцю — і на начах у людзей і сам-насам з сабою — чырванець ад сораму. Незастрахаваны ад памылак і няверных крокаў, ад зрываў і падзенняў, ён, аднак, кожны такі свой

правінак перад людзьмі і ўласным сумленнем моцна перажывае, ён пакутуе праз гэта, і перажыванне становіцца для яго маральным урокам, дзякуючы якому ён як чалавек расце, падымаецца ў сваім духоўным развіцці на нейкую прыступку вышэй.

Час, у якім мы жывём, задачы далейшага развіцця грамадства патрабуюць ад нас рэзкага павышэння маральных патрабаванняў і крытэрыяў — ва ўсіх сферах жыцця і грамадскай чыннасці. Ва ўсіх — і ва ўседзяржаўным маштабе, усюды і скрозь. Бо наіўна думаць, што можна стварыць высокамаральны клімат у нейкай адной сферы, ізалявана ад іншых сфер. Толькі як усеагульная, усенародная справа павінен разумецца сёння курс на абнаўленне маральнага самаадчування грамадства, на мабілізацыю яго духоўных і маральных рэсурсаў, на бязлітасную барацьбу з усім тым, што ідзе ў разрэз з прынцыпамі камуністычнай маралі. На парадак дня з усёй цвёрдасцю і вастрынёй ставіцца пытанне аб неабходнасці падцягнуцца да ўзроўню прынцыповых партыйных і грамадзянскіх паводзін — як па вытворчасці, так і ў побыце.

Культура працы, руплівыя адносіны да сваіх абавязкаў, беражлівае стаўленне да грамадскай каштоўнасці, да матэрыяльнай і духоўнай спадчыны — усё гэта пытанні сумленнасці. Але аднымі заклікамі: «Працуйце сумленна! Зарабляйце і ешце хлеб толькі чэсны!» дасягнем нямнога. Заклікі пераконваюць слаба, калі побач — безліч прыкладаў таго, як можна соладка, усмак і на поўную губу есці хлеб крадзены, жульніцкі, незапрацаваны, як лёгка можна, прабіўшыся на сякую-такую пасаду, урываць для сябе лішні дармовы кавалак ад агульнага, ад дзяржаўнага. Што да хлеба крадзенага — дык тут усё ясна: рана ці позна ён можа вельмі нясмачна адрыгнуцца. Горш, бо не зусім ясна, з тым кавалкам, што бесцырымонна ўрывае для сябе ад усіхнага, ад грамадскага таварыш, якога злодзеем назваць нібыта не выпадае; больш таго — таварыш нібыта сам змагаецца за новы, прыгожы, культурны лад жыцця, сам ходзіць у змагарах за камуністычныя ідэалы. Але іменна — нібыта... Пакуль ягомасць на трыбуне, на сцэне, на экране. А затым... Зрэшты, чаму затым? Менавіта пакуль ён на трыбуне — яму на кватэру, як-то кажуць: з чорнага ходу, дастаўляюць гасцінец — ну, скажам, падсвінка з калгаснай фермы, ці пару індыкоў, ці пуда паўтара свежага карпа з дзяржаўнай сажалкі. І таварыш прымае «гасцінец» як належнае — назад з абурэннем не адсылае, усім сваім грамадзянскім сумленнем не закіпае ад гневу. Таварыш не гаворыць сабе: «Пачакай, пастой!.. Ды гэта ж усё-такі непрыгожа! Гэта ж брыдка! Гэта — не паводле нашай маралі, нашага камуністычнага сумлення!..» Не, ён гаворыць сабе зусім іншае. Ён гаворыць: «Ды

дробязь! Падумаеш — парася ці авоська рыбы!..» І дадае — можа, нават і не без гонару: «Другім — нельга, а мне — можна!» Ах жа і жывучае яно, гэтае самадаравальнае, распуснае «а мне можна...». І як даказаць таварышу, што — няможна? Што няма ў яго такога права — няма і быць не можа. І што такое патуранне ўласнай распушчанасці шкодна ўплывае на агульны маральны клімат. Бо і другія скажуць: «Дык яму можна, а нам нельга? Ну не! У пас раўнапраўе! Будзем і мы, па меры магчымасці, рабіць гэтак жа...»

І, вядома, робяць. Урываюць-рвуць ад дзяржавы — ад грамадскага — хто дзе, хто як і хто колькі можа.

Часта думаю: чаму чалавек так лёгка пераступае праз уласнае сумленне? Чаму ён так не шануе сваё імя, так не даражыць сваёй чалавечай годнасцю? Чаму яму ўсё адно, што пра яго падумаюць людзі — суседзі, знаёмыя, таварышы? Неяк старшыня прыгараднага — пад Мінскам — калгаса скардзіўся: «Вы знаеце — проста няма ратунку ад праезджых злодзеяў! Спыняюць свае «Жыгулі» ці нават «Волгі» — і з прыдарожнай плантацыі хапаюць-крадуць усё, што вырасла: моркву, рэпу, бручку, буракі, капусту, нават бульбу рыюць. Накідаюць у багажнік — і памчаліся. Страта наносіцца гаспадарцы вельмі адчувальная — лік на дзесяткі тон ідзе!..» Падобныя скаргі я чуў і ад многіх іншых старшыняў. Ну, а хто ж гэтыя ўладальнікі быстраходных «Жыгулёў» і «Волгаў»? Можна не сумнявацца, што ў большасці выпадкаў — людзі з вышэйшай адукацыяй. З дыпломам людзі. Затрымай іх каторага і спытай далікатна: «Прабачце, а вам... не сорамна?»— нават здзівіцца інтэлігентны, культурны з выгляду таварыш. Скажыце яму: «Вы злодзей»,— абразіцца і раззлуецца: «Ды кіньце вы! Падумаеш – дзьве галавы бручкі выдраў!.. Ды яе там сто гектараў!..» Адным словам - на ўзроўні чэхаўскага «зламысніка» дыпламаваны таварыш тлумачыць будзе.

У апошнія гады набыла ў нас пэўнае пашырэнне адна вельмі непрыгожая ў сваёй маральнай сутнасці з’ява — фіктыўнае скасаванне шлюбу дзеля пашырэння жыллёвай плошчы і вырашэння такім спосабам кватэрнага пытання. Інтэлігентныя, культурныя ён і яна бяруць па суду развод, потым ён атрымлівае па месцы працы для сябе кватэру, а затым яны сходзяцца зноў, выгадваючы ў выніку большае, лепшае жыллё. Ганебны гэты вопыт узбагачаецца рознымі варыянтамі. Усім вядома, што жыллёвая праблема ў нашых гарадах — адна з найбольш вострых і вырашаецца з пэўнымі цяжкасцямі.

І ўсё-такі, і ўсё-такі!.. Да якой жа ступені саманепавагі і самапрыніжэння трэба апусціцца, каб ісці на падобную здзелку з сумленнем! Колькі святога, чалавечага трэба растаптаць у сабе, на якое пасмешышча выставіць сябе перад людзьмі — дзеля таго, каб

ашукаць Савецкую ўладу, каб без чаргі — за кошт тых, хто мае больш пільную патрэбу — атрымаць кватэру! Пішу, а ў галаву прыходзіць нядобрая думка: а можа, у пас гэта ўжо не пасмешышча, не ганьба? Таму — і не сорамна?..

Асабліва трывожна і горка бачыць, што з атрафіраваным сумленнем падымаюцца ў жыццё многія маладыя людзі. Выяўляецца гэта ў з'явішчах самых розных, але, бадай, ці не самая небяспечная з іх — гэта дармаедства, утрыманства, вальготнае існаванне за кошт добрых старых бацькоў, іх зарплаты або нават і пенсіі, задавальненне ўласных патрэб без ніякіх клопатаў і турбот — так бы мовіць, дзяржаўнай ці грамадскай гатоўкай. Такія дарослыя дзеці ведаюць толькі адно: «Дайце! Абавязаны даць! Абавязаны клапаціцца!» Да таго ж, выхаваныя у духу спажывецка-ўтрыманскай псіхалогіі велікарослыя абібокі ўзбройваюцца прыёмамі і фразамі з арсенала сацыяльнай дэмагогіі. Колькі месяцаў назад былі мы з Васілём Быкавым па Палессі, за Прыняццю. І была ў адным калгасе сустрэча з чытачамі, якая зацягнулася дапозна. Па заканчэнні, на ганку клуба, падышоў да мяне франтаваты з выгляду здаравень гадоў дваццаці пяці ад роду.

— Дазвольце вапросік.

— Калі ласка...

— Чым вот нам, маладым, цяпер заняцца?

— Цяпер каля адзінаццаці вечара. Пара адпачываць.

— Ды я спрашываю ваабшчэ: чым нам у свабоднае ўрэмя тут, у дзярэўні, займацца?

— Спортам, напрыклад. На спартыўных пляцоўках — у валейбол гуляйце, у баскетбол, у гарадкі...

— Ды няма ў нас у дзярэўні ні адной пляцоўкі. Нічога няма!

— Няма? Ну што ж, заўтра раніцай мы з Васілём Уладзіміравічам пачнём рабіць для вас, маладых і дужых, валейбольную пляцоўку. Раз вы чакаеце, каб вам нехта зрабіў яе...

— Ясна!

І малады здаравец адышоўся. Ці стала яму сорамна? Не ведаю. Хацелася б думаць, што так.

Мы згадалі пра несуноў і выхапняў, ашуканцаў, дарослых утрыманцаў і дэмагогаў, але гэтае ж пытанне «Прабачце, а вам... не сорамна?» трэба задаваць і кожнаму бракаробу, і кожнаму прагульшчыку, і кожнаму бюракрату-валакітчыку, і кожнаму кар'ерысту-выскачку, і кожнаму фанабэрыстаму хаму — і ўсякаму іншаму кожнаму, у кім спіць ці дрэмле сумленне, хто вышэй за інтарэсы грамадскія ставіць свае ўласныя, эгаістычныя, хто кіруецца ў жыцці мараллю мяшчанскай, антыкалектывісцкай, а гэта значыць антысацыялістычнай па сутнасці. «Абы мне было

добра, абы я з гэтага нешта меў — нейкі выйгрыш-выгаду, абы гэта спрыяла майму спакою, майму дабрабыту...» — вось яна, гэта сутнасць, часцей за ўсё адкрыта не вымаўленая, а спрытна замаскаваная рознымі спосабамі грамадзянскай мімікрыі. На жаль, так рэдка — ці з-за далікатнасці, ці з-за нясмеласці — задаецца гэта пытанне: «Прабачце, а вам... не сорамна?» Рэдка ў тым ліку і ў нашай мастацкай літаратуры, у тэатры і кіно,— там, дзе яно павінна гучаць з асаблівая сілай. Наша айчынная літаратура заўсёды вызначалася моцным пафасам маральнасці, высокім голасам сумлення, заўсёды была выхавальніцай народа. Гэтай каштоўнай якасцю яна даражыць і сёння. І ўсё ж яе зварот да чалавечага сумлення на сучасным этапе развіцця нашага грамадства павінен быць больш дзейсным. Каб пасля сустрэчы з новай кнігай чытач абавязкова задумаўся: «А ці так я жыву — ці сумленна? Ці ўсё я раблю, што павінен рабіць для людзей, для Радзімы? Ці так усе мы жывём — у сваім доме, у сваім калектыве, у сваёй вялікай грамадзе? Ці апраўдваем мы такое высокае і такое адказнае прызначэнне — быць чалавекам на зямлі?..» Вядома, сказанае цалкам датычыць і іншых відаў мастацтва. Трэба, каб і з кіно, і з тэатра, і з канцэртнай залы чалавек выходзіў расхваляваны неспакоем, з растрывожанай душой, з узрушаным сумленнем. Дасягнуць гэтага магчыма толькі адным шляхам — калі ў творы будзе і сапраўдны грамадзянскі, чалавечы неспакой, і трывога, і ўзрушанасць...

— Прабачце, а вам... не сорамна?

— Не, не сорамна!

— А мне — сорамна. Нават вочы апусціць хочацца.

— А гэта ўжо ваша справа. Значыць, ёсць чаго саромецца. Вось і чырванейце на здароўе!

— Прабачце, але мне... за вас сорамна.

— Што?!

— Сорамна за вас, кажу. Вы ж чалавек усё-такі. А ў чалавека павінна быць сумленне. Іначай — чаго ж ён варты?

— Знаеце што?..

— Знаю.

— Ну вось і ідзіце. І не лезьце да мяне са сваёй мараллю. Начхаць мне на тое, што вы пра мяне думаеце!

Што ж, можа адбыцца і такі дыялог у паважанага чытача з нейкім сваім суайчыннікам. Можа — калі гэты гора-суайчыннік ужо абыдлеў душою дарэшты, непапраўна. Але ў большасці выпадкаў шчырае, непрымірымае слова хоць маленькі, а ўсё-такі след у чалавечай душы пакідае. Бо як сказана ў пісанні вуснамі мудрых: зерне падае не на камень.

*1.09.1985*

# ЗАЦІКАЎЛЕНЫ ЎДЗЕЛ

Беларуская літаратура шмат увагі ўдзяляе вобразу сельскага працаўніка — хлебароба, жывёлавода, механізатара, кіраўніка гаспадаркі, прадстаўніка вясковай інтэлігенцыі. Гэта — адна з самых моцных яе традыцый, якая ідзе ад Купалы і Коласа, Гарэцкага і Чорнага, Зарэцкага і Галавача і прадоўжана ў наступных дзесяцігоддзях многімі пісьменнікамі ўсіх пакаленняў. Наша літаратура заўсёды памагала чытачу ўсвядоміць вялікую ісціну, што праца хлебадаўца-земляроба — самая лепшая ў свеце, што місія аратая і сейбіта, касца і жняца, пастуха і садоўніка — самая высакародная з высакародных на чалавечай планеце; і што аблягчэнне гэтай працы з дапамогай вырабаў прамысловай вытворчасці, спалучэнне яе з працай фабрычна-завадской — у імя агульных мэт дабрабыту і росквіту — знак часу, варты самых высокіх песень і слоў. Ёсць падставы гаварыць пра рэальныя дасягненні на гэтым тэматычным кірунку сучаснай беларускай прозы, паэзіі, драматургіі; з пісьменніцкага поля зроку вёска не знікае — наадварот, на яе звяртаецца ўсё больш пільны пагляд.

Аднак, паклаўшы руку на сэрца, трэба прызнаць, што далёка не ўсе творы пра вёску адказваюць ідэйна-эстэтычным запатрабаванням чытача. Мнагавата ў іншых публікацыях настальгіі па мінуламу, мнагавата журботна-адзінокіх бабуль і мудрых на слоўца дзядоў, і, на жаль, малавата вобразаў герояў, якія актыўна дзейнічаюць, якія ў сваёй грамадскай працы свядома мэтанакіраваныя, якія па-партыйнаму і па-дзяржаўнаму думаюць і разумеюць, што цяпер наша вёска ўступіла ў паласу найвялікшай — бадай, не менш значнай, чым была калектывізацыя,— перабудовы. Значыць, і ад саміх пісьменнікаў, якія працуюць над вясковай тэмай, патрабуецца больш выразнае разуменне, куды ж ідзе сёння наша вёска і якая яе будучыня, патрабуецца больш зацікаўлены ўдзел у пошуках шляхоў стварэння новай сельскай явы. Толькі шкадаваць, што вось, маўляў, была добрая старая вёска — і адышла, няма яе болей, што было ў ёй наладжанае, традыцыйна-самабытпае жыццё — і адышло, нічога не засталося,— гэта не пазіцыя для пісьменніка. Вялікай карысці з такога шкадавання не будзе — ні для чытачоў, ні для літаратуры. Вёска цяжка, я сказаў бы, драматычна-напружана, шукае сябе. Гэта — ісціна, якую не толькі належыць засвоіць, але якую нам трэба сёння сцвярджаць сваім пісьменніцкім словам больш пераканаўча, больш горача, калі хочаце, больш ярасна. Бо за велічэзным эканамічным зместам Харчовай праграмы краіны трэба бачыць вялікі сацыяльна маральны сэнс усёй прадвызначанай работы.

І таму няма ў пісьменніка права стаяць ад гэтай усенароднай справы ўбаку, у пазіцыі раўнадушнага назіральніка або прымаць у ёй удзел толькі для адводу вачэй, «з боку прыпёку».

Успамінаецца, як у пасляваенныя гады адзін беларускі акадэмік у сябе ў гародзе зацята праводзіў селекцыйную работу па паляпшэнню гатункаў азімага жыта. Гэты акадэмік не быў біёлагам і наогул да Аддзялення прыродазнаўчых навук АН БССР адносін не меў. Гэта быў пісьменнік, народны паэт Беларусі Якуб Колас. Зазначу, дарэчы: як пазней высвятлілася, селекцыйная работа Коласа была навукова абгрунтаванай і для сельскай гаспадаркі ўяўляла пэўную цікавасць. Беларускія літаратары, дзяржаўныя і грамадскія дзеячы ўспамінаюць і другі паказальны факт з біяграфіі выдатнага пісьменніка: яго палымянае выступленне на адным з партыйных з’ездаў рэспублікі наконт камення на палях — якое яны замінішча для хлебаробаў і як іх можна было б, сабраўшы, скарыстаць у будаўніцтве.

Наконт і першага і другога здаралася, помню, чуць іранічныя рэплікі — маўляў, вычмураў стары дзівак, не ў сваю справу ўмешваўся. Гаварыў бы лепш з трыбуны партыйнага з’езда пра літаратуру, пра клопаты пісьменніцкія, а пра каменне і іншыя скажуць. І паляпшэннем гатункаў жыта ёсць каму займацца. Павінен сказаць, што гэтыя іранічна-дасціпныя таварышы не ўбачылі і не зразумелі галоўнага, што было жывой існасцю душы вялікага пісьменніка-грамадзяніна, не ўбачылі яго вялікай нераўнадушнасці да лёсу і спраў народа, да клопатаў, якімі жыла партыя і дзяржава. Іранізаваць, як вядома, наогул не цяжка. Іранізаваць мы, здаецца, навучыліся, у тым ліку — і цынічна, над чыстым і высакародным, над тым, што павінна быць свяшчэнным для выхаванага чалавека. Але іронію на абедзенны стол не пакладзеш, на стол трэба класці хлеб і сёе-тое да хлеба. Таму не іранізаваць трэба, а — аналізаваць, мысліць, думаць аб тым, як жа яно, жыццё наша, пойдзе далей, думаць, можа быць, і пакутуючы, і мучаючыся — у жаданні дапамагчы сваёй пісьменніцкай працай, сваім словам агульнай справе.

Я зусім не хачу сказаць, што кожнаму пісьменніку належыць заняцца якім-небудзь канкрэтным, карысным для грамадства, гаспадарчым пытаннем, як-то кажуць — па сумяшчальніцтву з работай над раманам або паэмай. Не пра гэта размова. А пра тое, што справу выхавання маладых пісьменнікаў трэба весці так, каб яны ўваходзілі ў літаратуру з коласаўскай нераўнадушнасцю да клопатаў народа і краіны, каб яны перш за ўсё гэтымі клопатамі жылі, гэтаму прысвячалі свой талент і працу.

Гэта справа першаступеннай важнасці. Але ці заўсёды мы помнім пра гэта? Нядаўна ў адным з часопісаў сустракаю пад

апавяданнем імя незнаёмага маладога аўтара. Ну, думаю, з чаго пачынае таварыш? З чаго? З банальнай сямейнай гісторыі на курорце, на беразе мора.

І вядома, можна тут жа мне запярэчыць, што не так важна пра што апавяданне, які яго сюжэт, што перш за ўсё трэба глядзець, як яно па пісана, ці таленавіта. І ўсё ж такі,— чаму пачынаць з таго ведання жыцця, якое здабыта імі марскім пляжы? Хіба самае цікавае, самае значнае ў нашым грамадскім быцці адбываецца там - на курорце? Ці магла рэдакцыя часопіса так адкрыта і сказаць маладому аўтару: не іуды скіравана ваша ўвага, таварыш! І магла, і павінна была гэта зрабіць.

Чаго нестае нашым многім кнігам, дык гэта па сапраўднаму даследчыцкага падыходу (у мастацкім, зразумела, плане) да характару чалавека працы, глыбокага філасофскага асэнсавання сацыялістычнай асобы. Такая асоба — сапраўдны савецкі чалавек, чалавек новай сацыяльнай псіхалогіі, новых, камуністычных грамадскіх паводзін гэта найвялікшае і найкаштоўнае дасягненне рэвалюцыйнага развіцця нашай краіны. Паказаць яго, гэтага чалавека, у поўны рост, ва ўсёй прыгажосці і велічы — што можа быць больш ганаровым для мастака слова і што можа быць больш дастойным прадметам яго творчай гордасці?

І выдатных, слаўных людзей у пас нямала ў кожным працоўным калектыве, пра іх гавораць а самых высокіх трыбун таварышы па рабоце і відныя дзяржаўныя дзеячы, пра іх пішуць у газетах і расказваюць па радыё, іх паказваюць у кінахроніцы і па тэлебачанні. І ў кожнага з іх — свой, часам нялёгкі лёс, свой, часам зусім няпросты, жыццёвы шлях. Яны — непараўнана больш цікавыя, больш змястоўныя і духоўна больш багатыя за тых буркатуноў і разумнікаў-ірнікаў, якія, апрача ганебнага раўнадушша да лёсу народа, нічога іншага явіць не могуць. Але вобраз вось такога, сапраўднага, героя нашых дзён стварыць нялёгка: па-першае, яго трэба адкрыць у жыцці, убачыць, пранікнуць у яго сутнасць, а па-другое — выпісаць яго псіхалагічна праўдзіва, ярка і паўнакроўна.

Чаму здаецца прынцыповай удачай пісьменніка Віктара Казько вобраз Мацвея Роўды з рамана «Неруш»? Таму што гэта герой не выдуманы, гэта ўбачаны ў жыцці тып гаспадарніка, чалавека адукаванага, культурнага, які, аднак, не адразу прыходзіць да ўсведамлення, што ён абавязаны думаць гістарычна, абавязаны глядзець наперад, адчуваючы за спіной гісторыю роднага краю, усё шматвяковае быццё народа, адчуваючы пад нагамі зямлю, у якую ён урос каранямі сваёй душы. Звяртаю ўвагу іменна на гэты твор, таму што ён вельмі паказальны і павучальныя абставіны яго нараджэння на свет. Віктар Казько ў апошнія гады літаральна прападаў на Палессі —

месяцамі сядзеў там, ездзіў, лазіў, ні разу не папрасіўшы, між іншым, творчай камандзіроўкі. І вось — у чытачоў яго новы раман,— кніга сур'ёзная, напісаная і эмацыянальна, і ўдумліва, кніга пра сучаснасць, пра вялікія сацыяльна-маральныя праблемы, народжаныя эпохай карэннай перабудовы сельскай гаспадаркі, часам гістарычнага павароту ў лёсе вёскі, пералому ў жыцці-быцці шматмільённага сельскага люду.

Слабым веданнем жыцця, людзей, умоў іх быту і працы тлумачыцца адна з істотных заган нашай літаратуры, сутнасць якой у прафесіянальнай абязлічанасці героя. Кожная працоўная прафесія, як вядома, накладвае — за доўгія гады работы — свой адбітак на характар і ўнутраны, духоўны свет чалавека, на яго разуменне прыроды рэчаў, на яго адносіны да людзей, на яго псіхафізічны воблік, нарэшце і неадменна — на яго мову, паколькі ў кожнай прафесіі яна ў пэўнай меры — свая, асаблівая. Але ці часта чытач, знаёмячыся з героем, можа пазнаць і пераканацца, што перад ім сапраўды прадстаўнік данай прафесіі? На жаль, не. Куды часцей мы абыходзімся толькі намінальным абазначэннем роду заняткаў, прафесіі або стэрэатыпнай вонкавай дэталлю, накшталт: «рукі ў яго былі ў мазуце, твар таксама»,— ну, ясна, герой твора — механізатар.

А глянем пад гэтым тэматычным вуглом гледжання па пашу дзіцячую літаратуру — на кнігі паэзіі і прозы, адрасаваныя юным чытачам, пачынаючы ад самых маленькіх і канчаючы старшакласнікамі. Пра што яны, гэтыя кнігі? Пра што заўгодна — у тым ліку пра паняцці і рэчы вельмі сур'ёзныя, як, напрыклад, вучоба ў школе, пераемнасць героіка-патрыятычных традыцый, адносіны да бацькоў, да сяброў, да свету прыроды. Але вельмі мала — аб прыгажосці працы на карысць грамадства, аб адносінах да такой працы, гэта значыць аб тым, што ляжыць у аснове маральнага кодэксу краіны сацыялізма і з'яўляецца галоўнай прыладай камуністычнага выхавання моладзі. Мала твораў, якія б ярка і пераканаўча паказвалі, як патрэбны, якія важныя і слаўныя самыя розныя і звычайныя працоўныя прафесіі. Якія б даводзілі юнаму чытачу, што наогул звычайных ці незвычайных прафесій няма — усякая праца незвычайная, калі яе любіць, калі ў яе ўкладаць душу, разумеючы, што яна неабходная, што гэтай працай я прыношу людзям радасць.

Нямнога, на жаль, знойдзем мы ў кнігах для дзяцей і юнацтва старонак, якія паэтызуюць майстэрства і ўмельства працоўнага чалавека, селяніна або рабочага, яго прафесіянальную майстравітасць,— старонак, якія можна было б памясціць у школьныя літаратурныя хрэстаматыі, у зборнікі для пазакласнага чытання. Старонак, якія о былі блізкімі паэме «Новая зямля» Якуба Коласа,

што і па сёння з’яўляецца неперяўзыдзеным узорам паэтызацыі працы земляробчай, сялянскай, якая дае чалавецтву хлеб надзённы. Заўважу мімаходзь, што падобныя торы — не старэюць з цягам часу і самім духам сваім заўсёды актуальныя, бо хлеб — як і праца, і любоў да Радзімы — тэма для літаратуры і мастацтва сталая, вечна надзённая.

І тады, калі мы будзем збіраць хлеба ў тры ці нават у пяць разоў больш,— гучанне гэтай тэм ы не аслабне, значэнне яе не паменшае.

Вось чаму, на мой пагляд, людзям, якім даручаны клопаты аб падручніках па роднай мове, аб кнігах для чытання, варта ў гэтых адносінах уважліва перагледзець праграмы. Таленавітыя творы (падкрэсліваю — таленавітыя!) аб прыгажосці і доблесці земляробчай працы, аб шчасці ўмець і любіць працаваць на зямлі павінны запяць у школьных кнігах для чытання больш дастойнае месца. І пры выданні дзіцячай мастацкай літаратуры трэба перш за ўсё звяртаць увагу на гэта — на гэты аспект, на гэту задачу. Нельга мірыцца, каб літаратура, у якой бы то ні было меры, садзейнічала выхаванню бяздзейных летуценнікаў, беларучак, разумнікаў-дэмагогаў, дармаедаў. У дапамогу настаўнікам патрэбны новыя добрыя, змястоўныя, разумныя кнігі. Але яны, як вядома, самі не пішуцца — іх павінен стварыць пісьменнік.

Вялікая арганізацыйна-творчая роля ў забеспячэнні чытачоў новымі творамі аб сучаснасці, аб людзях высокай працоўнай і сацыяльнай актыўнасці адводзіцца літаратурна-мастацкім часопісам. Трэба сказаць, што жанрава разнастайных мастацкіх твораў і публіцыстычных матэрыялаў аб героях працы, аб лепшых людзях рэспублікі, аб праблемах сацыяльна-эканамічных і маральна-псіхалагічных публікуецца ў нашых часопісах нямала. Незадавальненне выклікае не колькасны паказчык, а якасны; засмучае тое, што часта гэтыя публікацыі павярхоўныя, апісальныя, проста нецікавыя. Чытаць іх сумна, на якую ж эфектыўнасць ідэйна-эстэтычнага парадку можна разлічваць? На мой пагляд, такім публікацыям асабліва нестае грамадзянскай, сапраўды партыйнай палкасці, ваяўнічай пазіцыі, маральнага пафасу. Не хапае асабістай зацікаўленасці, нераўнадушнасці ў размове з чытачом. Не хапае «ярасці высакароднай» — у многіх станоўчых герояў, а значыць — у іх бацькоў-аўтараў. Але ж гэтых якасцей пісьменніка-барацьбіта, байца-змагара, народнага трыбуна, якому сумленне не дае маўчаць або мямліць раўнадушна,— гэтых якасцей, як-то кажуць, на базары не купіш. Іх можна толькі выхаваць.

## ТРОХІ ПРА АРЫЕНЦІРЫ І КРЫТЭРЫІ

Работа пісьменніка — ва ўсіх сваіх разнастайных праявах, ад пачатку і да канца — работа ідэалагічная. Мы маем справу з чалавечай душой, свядомасцю, з фарміраваннем гэтай свядомасці. Значыць, нашай асноўнай задачай з'яўляецца павышэнне ідэйна-мастацкай якасці шораў — удасканаленне нашай зброі ў барацьбе за новага чалавека — будаўніка камуністычнага грамадства. Пісьменнік — ідэалагічны работнік асобага назначэння і рангу, і ён ні ў якім разе не мае зараз права ідэйна расслабіцца, а тым больш — адысці ўбок, на пазіцыю «мая хата з краю». Наадварот! Калі пісьменнік сапраўдны сын сваёй зямлі і народа — а гэта ж безумоўна так! - то ён у гэтых умовах усенароднага руху за здзяйсненне вялікіх задач і вялікіх праграм жыцця возьме на сябе, на свае плечы асабліва шмат, разумеючы, што гэты ўсенародны клопат яго датычыць, можа быць, у першую чаргу. Хаця б таму, што народ надзяліў яго талентам, даў яму свой голас: гавары! І гавары ў час, цяпер, калі мне трэба. І гавары праўду — бо мяне не ашукаеш. Гавары так, каб у мяне сіла ў душы прыбывала!

Паша пісьменніцкая зброя — слова. Вобразнае, мастацкае слова. Як лепш паставіць яго на службу народа, на службу ідэалам камунізму,— у гэтым уся сутнасць задачы. Канечне ж, для гэтага трэба штодзённа жыць справамі народа — глыбока да сэрца браць усе яго клопаты, трывогі, радасці і засмучэнні, як свае, адчуваць і разумець яго спадзяванні, яго думкі, яго духоўныя памкненні. Трэба добра, дасканала ведаць жыццё народа, рэальны стан рэчаў у грамадстве, нашу жывую рэчаіснасць. А яна — вельмі і вельмі няпростая, яна ўся ў развіцці, у руху, а гэта значыць — і ў супярэчнасцях. Каб па-сапраўднаму глыбока бачыць і разумець такую рэчаіснасць, ад пісьменніка патрабуецца многае. Трэба вучыцца думаць, асэнсоўваць тыя складаныя сацыяльныя з'явы і працэсы, якія ў ёй адбываюцца, вучыцца глядзець на рэчаіснасць шырока, маштабна. Трэба вучыцца пазнаваць і разумець сучасніка — героя сваіх будучых кніг, адкрываць для сябе яго духоўны свет, ступень яго свядомасці, яго маральныя прынцыпы. Толькі гэта можа быць надзейным грунтам творчга поспеху. Грунтам, але не гарантыяй, бо і гэта яшчэ не ўсё. Пісьменніку яшчэ патрэбна грамадзянская смеласць, мужнасць глядзець праўдзе ў вочы, а такую мужнасць здольна забяспечыць толькі непахісная ідэйная перакананасць, неадступнасць ад свайго камуністычнага верую, ад прынцыпаў камуністычнай маралі. Як бачым, вельмі многа трэба для таго, каб напісанае пісьменнікам было вялікай праўдай жыцця і часу, каб яно не аказалася дробнай праўдачкай, што тырчыць на абочыне нашага магістральнага шляху. Каб яно не

аказалася і тым святочным плакатам, на якім усё прыгожа, маляўніча, але — аднабакова, зададзена, звужана.

Новыя поспехі і дасягненні нашай літаратуры ў значнай ступені будуць залежаць ад таго, наколькі настойліва і актыўна кожны з нас будзе рупіцца пра павышэнне сваёй ідэйна-тэарэтычнай падрыхтоўкі, пра пашырэнне сваіх духоўных гарызонтаў. Аб філасофскай культуры творчасці, гэтак жа, як і аб культуры эстэтычнай і этычнай, нам яшчэ патрэбна клапаціцца ды клапаціцца! Як часта яшчэ даводзіцца чытаць творы — і ў паэзіі, і ў прозе, і ў драматургіі — прымітыў або відочная пошласць якіх выдаюць надзіва нізкі ўзровень гэтай самай культуры. Аб гэтым — аб правінцыяльнай убогасці духу — ужо неаднойчы заходзіла гаворка ў нашай крытыцы. Праблема гэта надзвычай сур’ёзная. Недаравальна пісьменніку разважаць аб жыцці, аб складаных з’явах жыцця на ўзроўні абывацеля.

На выкананне пастаўленых партыяй задач сёння вельмі важна мабілізаваць пісьменніцкае публіцыстычнае слова. У апошнія год-два публіцыстыцы мы ўдзяляем шмат увагі — бадай, як ніколі раней. На маю думку, надзвычай важна мовай мастацкай публіцыстыкі расказваць пра канкрэтных выдатных людзей нашых будняў — герояў працы, пра людзей, што з’яўляюцца ў калектывах маякамі ва ўсіх адносінах, што жывуць і працуюць як сапраўдныя грамадзяне пашай сацыялістычнай Бацькаўшчыны. Асабліва — пра людзей высокіх маральных прынцыпаў, пра людзей вялікага і чыстага сумлення. Расказваць, як ім бывае нялёгка процістаяць усялякай нікчэмнасці, хлусні, цынізму, подласці, якую даводзіцца весці барацьбу за праўду і справядлівасць, і якія яны ўсё ж шчаслівыя — шчаслівыя ўсведамленнем сваёй высокай грамадзянскай і чалавечай годнасці.

На сучасным этапе развіцця нашага грамадства асабліва вялікая роля адводзіцца марксісцка-ленінскай літаратурнай крытыцы. Значыць, патрэбны далейшыя намаганні, каб крытыку актывізаваць, зрабіць больш баяздольнай і прынцыповай, больш патрабавальнай, каб яна пастаянна павышала эстэтычныя і класава-партыйныя крытэрыі аналізу і ацэнкі, больш ваяўніча адстойвала творчыя прынцыпы сацыялістычнага рэалізму.

Сапраўдная крытыка не задавальняецца канстатацыяй ды інфармацыяй аб выдадзенай кнізе, сапраўдная крытыка актыўна ўплывае па літаратурны працэс, на фарміраванне поглядаў і густаў чытача, на грамадскую думку.

Няма сумнення, што кожны наш крытык тэарэтычна ведае, якімі прынцыпамі і крытэрыямі ён павінен кіравацца. Бяда, аднак, у тым, што далёка не заўсёды гэта пацвярджаецца на справе — канкрэтнай творчай практыкай. У нас ёсць выдатныя

крытычныя сілы, таварышы з багатым творчым вопытам, з тонкім разуменнем літаратуры, з вялікай і шчырай любоўю да мастацкага слова і такой жа вялікай мерай патрабавальнасці, з высокім пачуццём адказнасці за сваю місію, за сваё прызванне крытыка. Назаву, да прыкладу, апошні па часе артыкул В. Бечыка «У чаканні галоўнага» («ЛІМ» за 26 жніўня г. г.). Думаю, што менавіта так — па-таварыску шчыра, па-гаспадарску заклапочана, па-грамадзянску патрабавальна і трэба гаварыць аб літаратуры. Вельмі прыемна, што часта слова ў якасці рэцэнзента бяруць самі пісьменнікі і нярэдка з большым поспехам, чым іншы крытык. Як пісаць рэцэнзію, даў на старонках «Полымя» прыклад В. Казько — у водгуку на кнігу А. Жука «Паляванне на Апошняга Жураўля». У чым сакрэт? Перш за ўсё ў тым, што В. Казько супаставіў кнігу з жыццём, са з'явамі і людзьмі жывымі, нават з тымі, якіх ведае асабіста. Ён разважае пра кнігу і пра жыццё — гэта галоўнае, чаго не хапае многім крытычным выступленням. Так, крытыку трэба знаць жыццё і не горш, чым аўтару твора, які ён разглядае, а можа, нават і лепш.

Трэба ў рэдакцыях больш рашуча ставіць заслон крытыцы павярхоўнай, апісальна-бездапаможнай, прымітыўнай, а тым больш — крытыцы нядобрасумленнай, прадузятай, беспрынцыпнай. Трэба канчаць у крытыцы з праявамі кампліментарнасці, з рэцыдывамі падхалімства. Тое, што таварышу імярэк хочацца пахвалы — гэта зразумець няцяжка. Цяжэй зразумець, чаму на павадку хваравітай амбіцыі часам ідуць паважаныя і паважныя людзі. Калі няма мужнасці зрабіць крытычныя заўвагі, сказаць праўду аб творы, то ўжо лепей прамаўчаць зусім, тады і маўчанне можа быць прызнана за своеасаблівую форму крытыкі. Увогуле ж, баязлівы крытык — гэта нонсэнс, бяссэнсіца. Крытык павінен быць мужным чалавекам. Адзін балгарскі пісьменнік дасціпна сказаў: «Колькасць літаратурных крытыкаў прадаўжае расці, а колькасць крытыкаваных аўтараў прадаўжае памяншацца». На жаль, гэты досціп прыкладаецца і да нашай беларускай сітуацыі. Мы прымаем у члены Саюза пісьменнікаў вельмі шмат крытыкаў і літаратуразнаўцаў, яны складаюць амаль не трэць нашай арганізацыі, а так рэдка бачыш некаторыя імёны ў бягучай крытыцы — пад артыкулам або рэцэнзіяй, і асабліва — пад рэцэнзіяй крытычнай.

Крытыка, зразумела,— тады крытыка, калі яна абнародавана. Калі ж яна ў рукапісе, у шуфлядзе стала — гэта яшчэ не крытыка. І тут самы раз сказаць аб ролі і адказнасці нашых літаратурных і грамадска-палітычных перыядычных выданняў. Калі рэдакцый — ці з боязі, ці з нейкіх іншых меркаванняў — сяброўскіх, кан'юнктурных — не хоча друкаваць востры,

прынцыповы і аб'ектыўны артыкул або рэцэнзію,— гэта вельмі дрэнна. Шчыра скажам — гэта нікуды не варта. Гэта — не пісьменніцкая, не грамадзянская, тым больш не партыйная пазіцыя. Гэта наносіць двайную шкоду: па-першае, чытачы не дапалучаюць цікавае патрэбнае слова, па-другое, гэта падрывае аўтарытэт выдання, сее нядобрыя сумненні ў душы аўтара, кепска ўплывае на маральную атмасферу нашай арганізацыі. Я веру ў тое, што ў літаратуру прыйдуць (ужо ідуць) новыя пакаленні крытыкаў, якія будуць апантаны ідэяй служэння літаратуры, якіх нішто — ніякія пазалітаратурныя меркаванні — не змогуць пахіснуць, падкупіць, прымусіць пайсці па здзелку з сумленнем.

Дэмакратычнасць, партыйнасць і народнасці» — вызначальныя рысы нашай літаратуры і ўсёй духоўнай культуры ў цэлым. Яны пераходзяць у спадчыну новым пакаленням, як адна з самых каштоўных традыцый. Гэта традыцыя засцерагала і засцерагае нашу літаратуру ад уплыву шкодных, антынародных, дэкадэнцкіх плыняў, ад пошасці снабізму і гурманства, гэта заўсёды дыктавала здаровы, цвярозы, па-народнаму сур'ёзны падыход да творчасці, вучыла глядзець на літаратуру як на служэнне народу і яго ідэалам, а не як на забаву і прыемнае правядзенне вольнага часу. Дэмакратызм, шчырае таварыскае супольніцтва заўсёды панавалі ў нас і ў самой атмасферы літаратурнага жыцця, ва ўзаемаадносінах паміж сабой. Нам пакінулі гэта ў спадчыну Янка Купала і Якуб Колас, М. Гарэцкі і Кузьма Чорны, М. Лынькоў і І. Мележ. Дык давайце ж больш даражыць гэтай цудоўнай рысай характару нашага народа, гэтай выдатнай традыцыяй нашага літаратурнага жыцця. Давайце будзем больш радавацца поспехам нашых таварышаў, калег, паплечнікаў. А радавацца ёсць чаму. Лепшае з дасягненняў нашай літаратуры сёння ўжо відно ўсяму свету. Калі, напрыклад, такое было, каб у замежным універсітэце студэнтам-філолагам чытаўся спецыяльны курс лекцый па творчасці беларускага пісьменніка? Мы ведаем, што такі гонар належаў Льву Талстому, Дастаеўскаму, Чэхаву. Сёння ж і мы можам паганарыцца гэтым. Так, у Балгарыі, у Плоўдзіўскім універсітэце чытаецца курс лекцый па творчасці Васіля Быкава. Выбар тэматыкі спецкурса аўтар тлумачыць тым, што В. Быкаў — буйнейшы савецкі пісьменнік і што да яго творчасці ў Балгарыі праяўляецца надзвычайная грамадская цікавасць. Між тым, самі мы не надта спяшаемся сказаць грунтоўнае, важкае слова пра нашых лепшых паэтаў і пісьменнікаў. Колькі яшчэ выдатных імён у беларускай літаратуры — і з тых, што жывуць і працуюць сёння, і з тых, каго ўжо сярод нас няма — пра якіх варта расказаць чытачам больш грунтоўна, шырока,— і пра творчасць і пра жыццё! Гэта трэба не самім пісьменнікам ці, ва ўсякім разе — менш за ўсё трэба ім. Гэта

трэба чытачам. Трэба нашай культуры. Дзеля яе аўтарытэту. У выдатных пісьменнікаў не толькі творчасць, але і само жыццё павучальнае, часам — на мяжы подзвігу. Не буду прыводзіць шмат прыкладаў, але адзін прывяду. Быў сярод нас і заўсёды будзе ў нашай літаратуры паэт Сяргей Дзяргай: грамадзянін з вялікай літары, антыфашыст-падпольшчык, усё жыццё цяжкахворы і разам з тым горача апантаны — і творчасцю, і любоўю да людзей, да Бацькаўшчыны, да роднага слова. Як бы цікава і карысна было маладым людзям і, перш за ўсё, маладым літаратарам пачытаць пра яго жыццё і творчасць кнігу — нарыс ці літаратурны партрэт! Але такой кнігі, на жаль, няма, і калі яна напішацца — невядома.

А вось яшчэ адна праблема. Як наша літаратура выходзіць за межы рэспублікі, як — у колькасных і якасных паказчыках — яна перакладаецца на іншыя мовы і, перш за ўсё, на рускую, як мову міжнацыянальных зносін, мову, на якой беларускія творы могуць чытаць у любым кутку краіны і нават усёй планеты. Ці ўсё ў нас тут ажыццяўляецца справядліва, як мае быць і, зноў жа, у добрых беларускіх традыцыях? Ці можна, напрыклад, лічыць нармальным, што сёй-той з ласкавых і спрытных выдае ў перакладзе на рускую літаральна ўсё — да апошняга радка, не сумняваючыся, відаць, што менавіта яго кнігі найлепшым чынам прадстаўляюць мастацкае слова беларускага народа, зусім не бянтэжачыся, што гэтак не выдаваліся ў перакладах нават Купала і Колас, што яшчэ вельмі слаба вядомыя рускамоўнаму чытачу Чорны і Гарэцкі, і амаль зусім невядомыя дзесяткі іншых таленавітых паэтаў і пісьменнікаў — асабліва з тых, што ўжо самі пра сябе паклапаціцца не могуць. Думаю, што нам варта пільней пацікавіцца гэтым пытаннем і сказаць аднойчы сваё важкае слова, бо справа гэта выключнай культурнай і палітычнай важнасці: гаворка ж ідзе аб прадстаўніцтве мастацкай культуры Беларусі, народа нашага ў вялікім свеце, гаворка ідзе пра гонар і аўтарытэт рэспублікі.

Асабліва вялізная роля ў справе камуністычнага выхавання належыць літаратуры для дзяцей і падлеткаў. У нас створана выдавецтва «Юнацтва», палепшыліся ўмовы творчай працы дзіцячых пісьменнікаў. У свой час быў праведзены спецыяльны пленум праўлення СП БССР, прысвечаны гэтай дзялянцы пашай літаратурнай нівы. І ўсё ж тут яшчэ многа нявырашаных складаных праблем, ёсць адчуванне, што мы вельмі вінаваты перад юнымі чытачамі. Неабходна зноў пільна паглядзець і грунтоўна разабрацца ў гэтай гаспадарцы — пад прыцэльным пытаннем: што чытаюць сёння беларускія дзеці? Ці ёсць ім што чытаць? Ці ўплывае хоць трохі наша літаратура на іх грамадзянскае станаўленне?

Ідэйна-эстэтычнае, сацыяльнае і маральнае выхаванне літаратурнай моладзі, клопат пра яе грамадзянскае сталенне і

творчы рост заўсёды былі ў цэнтры ўвагі нашай пісьменніцкай сям'і.

Што самае галоўнае ў змесце работы з моладдзю? Пра гэта добра, на мой погляд, сказаў выдатны рускі пісьменнік Гаўрыіл Траяпольскі, дарэчы — вучань і выхаванец нашага Р. Р. Шырмы: «Няма на свеце ні адной хлусні, якая не выдала б сябе за праўду. Хлусня заўсёды імкнецца быць на святле, і, выдаючы сябе за праўду, яна можа нават і ўразіць. Дык вось, разабрацца ў тым, што ж ёсць праўда для твайго народа, што ёсць праўда для тваёй Радзімы,— гэта галоўнае ў ідэалагічным выхаванні маладых пісьменнікаў». Вось пра гэта — пра выхаванне літаратурнай моладзі ў духу праўды нашай сацыялістычнай Радзімы — мы абавязаны і думаць і клапаціцца яшчэ больш.

Не апошнім клопатам і кіраўніцтва Саюза, і нашай партарганізацыі павінен быць клопат пра стварэнне спрыяльнай творчай атмасферы. Лепшы спосаб дасягнуць такога — грамадзянская актыўнасць кожнага з нас, наша нераўнадушнасць, наша заклапочанасць агульнымі інтарэсамі. Няхай кожны — смела і адкрыта — выходзіць на людзі з усім тым, што яго турбуе, з усімі сумненнямі, заўвагамі і парадамі, з усім, што можа паслужыць нашай супольнай карысці. Публічнасць, публічнасць і яшчэ раз публічнасць ва ўсім — каб усё на-ясна, каб усё адкрыта,— гэта найлепшая гарантыя таго, што ў атмасферы нашага агульнажыцця не завядзецца ніякі хваробатворчы мікроб. Усякая няпраўданесправядлівасць нічога так не баіцца, як публічнасці. Будзем помніць і гэта.

*1.09.1983*

## ЛЕПШАЕ, НА ВЫСОКІМ УЗРОЎНІ І — СВОЕЧАСОВА

Пачну з добра вядомага факта. У снежні 1942 года Аркадзь Аляксандравіч Куляшоў — супрацоўнік газеты 11-й арміі «Знамя Советов» — прыбыў з фронту, каб паказаць сябрам свой новы твор — толькі што завершаную паэму «Сцяг брыгады». Знакамітае чытанне адбылося на кватэры ў Твардоўскага, у прысутнасці групы паэтаў і пісьменнікаў, якім адразу ж стала ясна, што не толькі беларуская, а ўся савецкая паэзія ўзбагацілася творам незвычайнай ідэйна-мастацкай сілы і глыбіні. Але каб стаць з'явай усесаюзнай літаратуры — паэме належала спачатку загучаць на «ўсесаюзнай» мове, на мове нашага братэрскага яднання, нашай савецкай супольнасці. І яна загучала па-руску вельмі хутка. Ужо ў пачатку наступнага, 1943, года здвоены лютаўска-сакавіцкі нумар часопіса «Знамя» апублікаваў выдатную паэму «Сцяг брыгады» Куляшова ў выдатным перакладзе Міхаіла Васільевіча Ісакоўскага. У тым жа сорак трэцім гэты пераклад быў выдадзены асобнай кнігай — і тысячы, тысячы, тысячы чытачоў, а найперш — байцоў гераічнай савецкай арміі далучаліся сэрцам да болю і гневу паэта, і мацней сціскалі ў руках зброю, і з яшчэ большай рашучасцю ішлі ў наступ на ненавіснага ворага. І не толькі савецкія воіны так прынялі тады паэму беларускага аўтара — гэтак прынялі яе, дзякуючы перакладу Ісакоўскага, і байцы-антыфашысты ў Югаславіі, і ў іншых краінах, куды яна змагла ў той суровы час трапіць.

Паэма рабіла сваю вялікую справу — працавала на Перамогу.

І так, выдатная паэма — у выдатным і такім своечасовым перакладзе! У гэтай формуле, мне здаецца, і заключаны галоўны сэнс таго, пра што і хацелася б трохі нагаварыць.

Мастацкі пераклад заўсёды быў і працягвае заставацца надзвычай важным сродкам, з дапамогай якога дасягаецца ўзаемапаразуменне паміж народамі, узмацняецца кантактаванне нацый, узаемнае іх узбагачэнне духоўнымі набыткамі. Іншымі словамі — ён служыць міру і дружбе людзей добрай волі на зямлі, іх супрацоўніцтву ў імя сацыяльнага і культурнага прагрэсу. Ісціна гэта агульнавядомая, але яна належыць да ліку тых, значнасць якіх ад паўтарэння не траціцца, надзённая вастрыня — не прытупляецца. Прытупіцца ёй не дае сам час— наадварот, ён з усё большай відочнасцю актуалізуе значэнне мастацкага перакладу.

Кожная нацыянальная культура набывае ў нашы дні ўсё большую інтэрнацыянальную змястоўнасць, і менавіта гэтым перш за ўсё прадвызначаецца перспектыва яе далейшага развіцця і забяспечваецца сама магчымасць стаць важным укладам у агульначалавечую духоўную скарбніцу.

Камуністычная партыя і Савецкі ўрад заўсёды надавалі і надаюць выключна вялікае значэнне справе пашырэння і ўмацавання культурных сувязей паміж народамі, справядліва бачачы ў гэтым адну з актыўных форм барацьбы за аб’яднанне людзей у інтарэсах міру і прагрэсу, у інтарэсах сцвярджэння высакародных, гуманных ідэалаў чалавецтва. Агромністая роля адводзіцца мастацкаму перакладу ў духоўным жыцці нашай шматнацыянальнай краіны — роля ва ўмацаванні дружбы паміж народамі-братамі, у садзейнічанні яшчэ больш цеснаму іх ідэйна-палітычнаму згуртаванню і культурнаму збліжэнню. Насуперак намаганням майстроў антыкамуністычнай, антысавецкай прапаганды, якія імкнуцца пасеяць атруту адчужэння ў душах савецкіх людзей розных нацыянальнасцей і распаліць паміж імі варожасць, насуперак іх недарэчным прароцтвам аб хуткім распадзе баявога саюза народаў — будаўнікоў камунізму,— адбываецца пастаяннае і няспыннае эканамічнае, палітычнае і духоўнае збліжэнне брацкіх рэспублік. Усё больш актыўным і плённым становіцца абмен духоўнымі каштоўнасцямі паміж імі, які садзейнічае агульнаму ўздыму і росквіту.

У гэтых умовах вельмі ўзрастае роля і значэнне мастацкага перакладу як дзейснага сродку ўзаемаўзбагачэння нацыянальных культур, умацавання адзінства і згуртаванасці народаў пашай краіны. Асабліва ж узрастае значэнне перакладу твораў нацыянальных літаратур на рускую мову,— значэнне не толькі літаратурнае, але і дзяржаўнае, палітычнае. Думаю, няма патрэбы падрабязна тлумачыць, чаму мы падкрэсліваем асобую ролю рускамоўнага перакладу. Яна прадвызначана, па-першае, той роллю, якую адыгрывае руская мова ў жыцці нашага савецкага грамадства як мова міжнацыянальных зносін, мова нашага братэрскага яднання, нашай гаспадарча-эканамічнай і сацыяльна-культурнай супольнасці, нашага дзяржаўна-палітычнага адзінства, а па-другое — той сусветна-гістарычнай роллю, якую руская мова адыгрывае сёння ў міжнародных адносінах, у жыцці ўсёй планеты як мова дэкрэтаў пераможнай сацыялістычнай рэвалюцыі, мова Леніна, мова вялікай рускай культуры, навукі, літаратуры, мова, валодаць якою стала сёння неабходнасцю для соцень мільёнаў людзей на ўсіх мацерыках і кантынентах. Праз рускую мову пашыраецца і ў межах Саюза і ў цэлым свеце культура любога народа нашай краіны. Значыць, сам факт перакладу літаратурна-мастацкага твора на рускую мову ёсць факт далучэння данай нацыянальнай культуры да скарбніцы культуры ўсесаюзнай і агульначалавечай. З другога боку — ёсць факт прызнання гэтай нацыянальнай культуры ў свеце, прызнання яе заслуг і аўтарытэту, бо гэта ж — пераклад на мову, якою пісалі і пакарылі бязмежны

чытацкі свет Пушкін, Гогаль, Някрасаў» Дастаеўскі, Талстой, Чэхаў, Маякоўскі, Шолахаў, гэта — далучэнне да вялікай рускай літаратуры, якая заваявала павагу і любоў планеты.

Таму будзем гаварыць шчыра: быць выдадзеным у перакладзе на рускую мову — гонар для іншамоўнага пісьменніка вялізны. Гонар — і адказнасць. Вялізнай павінна быць і адказнасць. Адказнасць і таго, хто напісаў твор, і тых, хто перакладае і выдае гэты твор на рускай. Што да гонару — то гэты бок справы мы, беларускія літаратары, разумеем выдатна, тут ні тлумачыць, ні падаграваць нікога з нас няма патрэбы. А вось што датычыць адказнасці — пра гэта, на вялікі жаль, і мы самі, і нашы сябры — перакладчыкі, выдаўцы — нярэдка забываем. Вельмі хацелася б, каб на нашай аб’яднанай сустрэчы мы гаварылі перш за ўсё аб гэтым — аб адказнасці. Аб неабходнасці прад’яўляць да сябе і да працы таварышаў больш высокія патрабаванні. Аб неабходнасці даваць бой яўнаму браку і халтуры, беспрынцыпным і дзяляцкім адносінам да справы мастацкага перакладу. Аб тым, як нам лепш весці далей усю гэту агромністай важнасці работу, як, зыходзячы з дасягнутага, ісці далей наперад, каб самым дастойным чынам прадстаўляць — праз рускі пераклад — беларускую літаратуру вялікаму свету.

Калі акідваеш позіркам шлях беларуска-рускага перакладу за апошнія 50 гадоў,— а менавіта тады, пасля I з’езда пісьменнікаў СССР ён пачаў набываць сапраўдны размах і маштабы,— то міжволі пранікаешся і пачуццём гонару за роднае мастацкае слова, за наша краснае пісьменства, і пачуццём шчырай братняй удзячнасці за ўвагу да нас, за падтрымку нашай літаратуры на шляхах да ўсесаюзнага і ўсягасветнага, замежнага чытача.

На жаль, зусім немагчыма ў кароткім слове падрабязна ахарактарызаваць набыткі і заваёвы беларуска-рускага перакладу за паўстагоддзе, яго становішча на сённяшні дзень, выявіць усе заганы і памылкі ў гэтай рабоце, усё тое, што замінае далейшаму руху наперад, паставіць усе праблемы. Спадзяюся, гэта мы зробім супольнымі намаганнямі і, можа быць, не за адзін раз. Таму дазволю сабе спыніцца толькі на некаторых момантах, пачаўшы з агульнага абрысу творчасці нашых сяброў-перакладчыкаў у акрэслены перыяд.

Агромністая заслуга ў мастацкім узнаўленні беларускай паэзіі па рускай мове належыць народнаму паэту краіны Міхаілу Васільевічу Ісакоўскаму, імя якога я ўжо называў у самым пачатку. З глыбокім пачуццём удзячнасці мы згадваем таксама творчае дачыненне да гэтай справы іншых найлепшых рускіх паэтаў старэйшага пакалення — Аляксандра Твардоўскага, Аляксандра Пракоф’ева, Сяргея Гарадзецкага, Эдуарда Багрыцкага, Ганны

Ахматавай, Усевалада Раждзественскага, Ярослава Смелякова, Ільы Сельвінскага, Мікалая Браўна, Міхаіла Святлова, Мікалая Забалоцкага, Самуіла Маршака, Мікалая Ушакова, Мікалая Рыленкава.

Акідваючы поглядам гэтае дзівоснае сузор'е імён — як не прасякнуцца гордасцю за нашу паэзію: калі такія творцы ахвяравалі ёй свой час і талент,— то пра больш высокае прызнанне яе і марыць не прыходзіцца. І значыць — яна таго заслугоўвае! А далучым сюды імёны іншых добрых рускіх паэтаў, якія таксама нямала зрабілі, а хто жыў-здароў — і зараз робяць, для азнаямлення рускамоўнага чытача з беларускай паэзіяй: тут і Міхаіл Галодны, і Мікалай Сідарэнка, і Павел Дружынін, і Барыс Ірынін, і Уладзімір Дзяржавін, і Марк Шэхцер, і Пётр Сямынін, і Вера Звягінцава, і Дзмітрый Осін, і Барыс Слуцкі, і Вадзім Шэфнер, і Анатоль Чапуроў, і многія іншыя. Асобна хачу вылучыць імя Дзмітрыя Кавалёва, а таксама імёны Браніслава Кежуна, Марыі Камісаравай — паэтаў і нашых верных сяброў, якія цягам дзесяткаў гадоў сведчылі сваю душэўную прывязанасць да беларускай паэзіі, і, дарэчы, не толькі як таленавітыя перакладчыкі, але і як актыўныя, шчырыя прапагандысты і папулярызатары нашага паэтычнага слова ў Расіі. І ўжо зусім асобна трэба назваць імя лаўрэата Дзяржаўнай прэміі рэспублікі, заслужанага дзеяча культуры БССР Якава Хелемскага. Тое, што зрабіў на карысць нашай паэзіі гэты таленавіты і нястомны майстар мастацкага перакладу, без перабольшання можна назваць творчым подзвігам. Нагадаю толькі ўсім нам добра вядомае: дзякуючы яго майстэрскім перакладам, два беларускія паэты — Максім Танк і Пятрусь Броўка — сталі лаўрэатамі Ленінскай прэміі, яшчэ адзін паэт — Пімен Панчанка — стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР. У яго ж перакладах вершы і паэмы Аркадзя Куляшова заслугоўвалі гэтых абедзвюх прэмій, разам узятых, і калі па нелітаратурных прычынах не былі імі адзначаны — то ад гэтага наша разуменне і наша ацэнка працы перакладчыка ні на ёту не памяншаецца. А колькі яшчэ беларускіх паэтаў прадставіў рускаму чытачу Хелемскі? Глебка, Лужанін, Зарыцкі, Грахоўскі, Кірэенка, Аўрамчык, Вялюгін, Пысін, Лось, Караткевіч, Барадулін, Бураўкін, Законнікаў і яшчэ і яшчэ!

Дагэтуль я гаварыў пра паэтычныя пераклады, якія ў асноўным ужо ёсць гісторыя руска-беларускай літаратурнай узаемадзейнасці,— хоць і жывая, і недалёкая,— тым не менш у значнай меры ўжо гісторыя. А як жа сёння? Якая карціна вырысоўваецца на сённяшні дзень? Неаднойчы чуліся галасы, што карціна істотна змянілася ў горшы бок — а іменна: што сёння творчыя ўзаемасувязі новых пакаленняў рускіх і беларускіх паэтаў аслаблі,— у параўнанні з тым, якімі яны былі калісьці ў старэйшых. Думаю,

што з вывадамі спяшацца не трэба; паспрабуем высветліць, ці многа праўды ў гэтых галасах засмучэння. Можа быць, у параўнанні з недалёкім мінулым — з часамі Твардоўскага, Ісакоўскага, Пракоф'ева — сённяшні стан рэчаў у нечым і прайграе. І ўсё ж я хачу рашуча запярэчыць супроць недаацэнкі поспехаў у галіне сучаснага беларуска-рускага паэтычнага перакладу, супроць недаацэнкі працы тых нашых сяброў, што прыйшлі ў падмогу і на змену старэйшым, і паспелі ўжо многа зрабіць, і самі ўжо далёка не маладыя. Пачынаючы дзесьці яшчэ з 60-х гадоў актыўна і плённа далучаюцца да перакладу беларускай паэзіі такія вядомыя рускія паэты, як Уладзімір Гардзейчаў, Святлана Кузняцова, Анатоль Чапуроў, Рыма Казакова, Алег Шасцінскі, Уладзімір Фірсаў, Ігар Шклярэўскі, Сямён Батвіннік, Аляксандр Нікалаеў і іншыя. У апошнія гады паспяхова выступаюць у якасці перакладчыкаў нашай паэзіі больш маладыя таварышы, як Пётр Кошаль, Уладзіслаў Арцёмаў, Анатоль Вяршынскі. Нарэшце, перакладамі беларускай паэзіі на рускую мову займаецца досыць шматлікі атрад паэтаў, якія з'яўляюцца членамі нашай беларускай пісьменніцкай арганізацыі: гэта — Навум Кіслік, Браніслаў Спрынчан, Іван Бурсаў, Фёдар Яфімаў, Валянцін Тарас, Святлана Яўсеева, Іосіф Васілеўскі, Аляксандр Дракахруст, Генадзь Бубнаў і іншыя. Пры гэтым, некаторыя з іх — як, скажам, Кіслік, Спрынчан, Бурсаў — маюць досыць важкі ў гэтай галіне даробак, паспелі зрабіць шмат. Такая агульная карціна, што датычыць перакладу на рускую мову нашай паэзіі ў адным аспекце, які можна назваць «кадравым», г. зн. з пункту гледжання — хто ж нас перакладае. Аспект — надзвычай важны, бо ад асобы перакладчыка, ад яго таленту і густу залежыць не толькі мастацкая якасць перакладу, узровень майстэрства, але ў значнай ступені і адбор твораў: таленавіты, аўтарытэтны паэт-перакладчык абыкаго, абы-што, абы-якое ўзнаўляць на сваёй роднай мове і прапаноўваць у друк не стане. Не магу ўявіць, каб, скажам, Якаў Хелемскі, ці Уладзімір Гардзейчаў, ці Навум Кіслік, ці Святлана Кузняцова заняліся перакладам графаманскіх «сцішкоў», хаця б сабе і ў нейкіх незвычайных абставінах, пры нейкіх асобных акалічнасцях.

Глянем цяпер гэтак жа абегла, якая ў гэтым жа «кадравым» плане сітуацыя з перакладам на рускую мову беларускай мастацкай прозы. На мой погляд, тут становішча крыху горшае. Справа ў тым, што сярод перакладчыкаў прозы мы бачым вельмі мала імён добрых рускіх пісьменнікаў. Не знаю нават, каго з іх вылучыць як сталага друга нашай прозы. Нямала зрабіў у свой час Дз. Кавалёў. Эпізадычна далучаліся і сёе-тое пераклалі Уладзімір Салаухін, Мікалай Грыбачоў. Больш актыўна працуюць на гэтай

ніве пісьменнікі, якія жывуць у Беларусі: Георгі Папоў, Аляксандр Міронаў, Уладзімір Кудзінаў, Валянцін Тарас, Уладзімір Машкоў. Асноўную масу нашай мастацкай прозы перакладалі і перакладаюць гэтак званыя «чыстыя» перакладчыкі — літаратары, якія самі раманаў, аповесцей, апавяданняў не пішуць. Многія з іх працавалі або і зараз працуюць на прафесіянальным узроўні. Крытыка неаднойчы згадвала такія імёны са старой гвардыі, як, скажам, Яўгеній Мазалькоў, Арсеній Астроўскі. Багата маюць на сваім рахунку такія перакладчыкі, як Валянціна Шчадрына, Тамара Залатухіна, Іван Кірэенка, Аляксандра Часнакова, Таццяна Гарбачова, Беніямін Элькін і іншыя. З тых перакладчыкаў прозы, што жывуць у Мінску, варт добрага слова і за актыўнасць і за якасць работы — Уладзімір Жыжэнка. Пасля такога пераліку можна было б сказаць: дык добра! — і запытацца — чаго ж яшчэ хацець? Можна было б, калі б не адна акалічнасць. Рэч у тым, што ўсё больш нашых пісьменнікаў пачынаюць перакладаць свае творы самі. І будзем шчырымі: па прычыне незадаволенасці ўзроўнем работы тых перакладчыкаў, якім давяраюць гэтую работу цэнтральныя выдавецтвы. Усе мы ведаем, як мала часу на творчасць лёс адпусціў Івану Мележу, і тым не менш аб’ёмісты раман у дзвюх кнігах «Мінскі напрамак» ён быў вымушаны перакласці сам. Не ад вясёлага жыцця, зразумела. Лішняга часу, паўтараю, у яго не было, і сам ён гэта ведаў найлепш. Найвялікшая беларуская кніга нашых дзён «Палеская хроніка» засталася незакончанай. Бадай, ці не канчаткова перайшоў на аўтапераклад Васіль Быкаў — усе апошнія аповесці ён пераклаў сам, — зноў жа цалкам па прычыне незадаволенасці тым, як яго падавалі ўсесаюзнаму чытачу перакладчыкі. Гэтаксама ўсе свае творы сам перакладае на рускую Віктар Казько. Пералік прыкладаў я мог бы значна прадоўжыць. Тэарэтыкі лічаць, што ў нашых умовах прагрэсіруючага білінгвізма падобная практыка аўтаперакладу будзе з гадамі ўсё больш пашырацца. Тэарэтыкам відней, але сказаць, што тут няма праблемы, думаецца, нельга. Бо мне, чытачу, трэба, каб Васіль Быкаў, за адпушчаны яму век напісаў па магчымасці больш, я хацеў бы чытаць яго новую аповесць штогод. Я — гэта мільёны чытачоў у цэлым свеце! І мне зусім не трэба, каб твор, які Васіль Быкаў ужо даў людзям, ён яшчэ раз пісаў — на гэты раз ужо на другой мове,— толькі таму, што няма добрага перакладчыка. Каб ён выконваў гэту работу за кошт працы над новай кнігай.

Ну, але добра: як ні шкада жывому пісьменніку часу — ён урэшце мае і нейкае задавальненне, бачачы, што ў ягоным уласным перакладзе твор гучыць. А як жа быць вялікім і выдатным нябожчыкам, якія ўжо самі сабе не памогуць, а іх творы перакладаюцца дрэнна, адкрыта халтурна? Яны ж — упрыгожанне

нацыянальнай літаратуры і, будучы перакладзенымі таленавіта, маглі б пашырыць і ўзвысіць славу свайго народа, сваёй Бацькаўшчыны. Гаворка заходзіць, такім чынам, аб надзвы-. чай важнай праблеме. Патрэбны новыя — у сэнсе лепшыя, дасканалейшыя — пераклады многіх-многіх твораў і Купалы, і Коласа, і Багдановіча, і Гарэцкага, і Чорнага, і іншых класікаў беларускай літаратуры. Нядаўна я прачытаў том «Белорусскне поэты» ў вялікай серыі «Библиотека поэта» — апошняе выданне, здаецца, 1963 года. Перачытаў — і стала вельмі сумна: за пэўным выняткам, гэта і не Багушэвіч, і не Цётка, і не Багдановіч.

Амаль дваццаць пяць гадоў назад у Маскве на ўсесаюзнай канферэнцыі па пытаннях мастацкага перакладу наш вучоны і пісьменнік Сцяпан Александровіч прывёў прыклад з рускага выдання Кузьмы Чорнага, які выклікаў агульны рогат публікі: фразу Чорнага «ў канюшыне стракаталі конікі», што значыць парусску «в клевере стрекотали кузнечики», перакладчык творча ўзнавіў так: «в конюшне ржали лошадки». Ці можам мы сказаць з упэўненасцю, што падобныя анекдатычныя «лошадки» ўжо не ржуць у новых і найноўшых перакладах нашай літаратуры на рускую мову?

Вось чаму пытанні мастацкай якасці перакладу, пытанні перакладчыцкага майстэрства павінны заставацца ў нас на першым месцы і ставіцца вельмі прынцыпова і востра. Дрэнна, калі пра плён працы перакладчыка чытач гаворыць: «Гэта не зусім Колас або не зусім Купала», але яшчэ большая бяда, калі, пазнаёміўшыся з перакладам, чытач гаворыць: «Гэта — зусім не мастацтва, зусім не паэзія», калі паэзія, мастацтва наогул забіваецца. Вядома, у любым перакладзе заўсёды нешта ёсць і ад перакладчыка. Гэтае «нешта» — непазбежнае нават у самым верным і дасканалым перакладзе, і растлумачэнне гэтай непазбежнасці можа завесці ў нетры тэорыі мастацкага перакладу, што мне тут рабіць не выпадае. Іначай, трэба пачынаць спачатку — з пытання, што такое мастацкі пераклад наогул, успамінаць выказванне мудрага Гётэ аб тым, што ў выніку спалучэння, сплаўлення дзвюх змястоўных сутнасцей, дзвюх мастацкіх культур — культуры аўтара арыгінала і аўтара перакладу — «узнікае нешта трэцяе» і г. д. Бясспрэчна, пераклад ёсць «нешта трэцяе», і спадзявацца, што на аблічны перакладзенага твора не адаб'ецца аблічча перакладчыка — проста наіўна (калі, вядома, у перакладчыка гэтае аблічча ёсць). Зразумела, хацелася б, каб у перакладзеным творы як мага больш засталося ад вобліка аўтара арыгінала, але гэта ўжо залежыць не толькі ад майстэрства перакладчыка, а і ад прыроднай блізкасці абодвух талентаў — аўтара і яго перакладчыка. Напрыклад, у перакладах Хелемскага з

Куляшова гэтае «нешта ад Хелемскага» менш адчуваецца, чым у ягоных жа перакладах з Панчанкі, а ў перакладах гэтага майстра з Броўкі ягонага ўласнага почырку яшчэ больш. Але, паўтараю, не гэты адбітак аблічча перакладчыка на перакладзеным творы павінен нас засмучаць — ён натуральны і непазбежны. Найпершым нашым клопатам быў, ёсць і будзе клопат аб тым, каб беларуская літаратура паступала да рускамоўнага чытача лепшымі, вартымі яго ўвагі, творамі і ў дасканалым, майстэрскім творчым узнаўленні.

Пра якасць беларуска-рускіх перакладаў павінна больш, а галоўнае — смялей і вастрэй гаварыць крытыка. Сказаць, што яна не гаворыць зусім — нельга, але вось крытыкі баявой і прынцыповай — на жаль, малавата. Далёка не ўсе выдадзеныя ў Маскве, у Ленінградзе, у Мінску ў перакладзе на рускую мову кнігі беларускіх пісьменнікаў рэцэнзуюцца! А калі і рэцэнзуюцца — ці ў многіх рэцэнзіях гаворыцца пра якасць перакладу? Або: ці паставіла крытыка хоць раз франтальна пытанне аб тым, што перакладаецца — аб адборы імён і твораў для перакладу на рускую мову? Калі б зусім аб'ектыўна, з усёй мужнасцю паглядзець на гэты бок справы — ці не высветлілася б, што перакладаецца нямала і літаратурнага баласту, такіх «твораў», якія і на беларускай выдаваць неабавязкова было. Чаму яны перакладаюцца? Відаць, таму, што ў гэтай справе яшчэ мнагавата самадзейнасці, што выдавецтвы ў пэўнай меры яшчэ працуюць на самацёк, дакладней — па прабіўных аўтараў і іх гэткіх жа прабіўных перакладчыкаў.

Уяўляецца таксама вельмі неабходнай грунтоўная размова нашай крытыкі аб асаблівасцях перакладу з беларускае мовы на рускую — аб асаблівасцях у самым шырокім плане. Рэч у тым, што наконт перакладу з блізкароднасных моў пашырана ўяўленне, нібыта тут перакладчык можа абысціся самай малой затратай сіл, а таму — справа выйгрышная. Уяўленне — памылковае, бо і тут перакладчыка чакаюць свае і немалыя цяжкасці. Заслугоўвае пахвалы настойлівае даследаванне спецыфікі беларуска-рускага перакладу ў працах В. Рагойшы, А. Яскевіча, М. Новікавай, аднак жа будзем лічыць, што гэта яшчэ толькі абнадзейваючы пачатак.

Рускія перакладчыкі беларускай літаратуры,— зрэшты, як і ўкраінскай,— знаходзяцца ў тым асаблівым становішчы, што іх работа, па прычыне моўнай блізкасці, неадменна падлягае кантролю як з боку беларускіх аўтараў, так і з боку беларускіх чытачоў. У нас у Беларусі ступень валодання рускай мовай у масах насельніцтва вельмі высокая, ва ўсякім разе, дастатковая для таго, каб ацаніць — як зроблены пераклад: добра ці дрэнна, удала ці няўдала? Гэта, на нашу думку, павінна павышаць пачуццё

адказнасці ў перакладчыка, ва ўсякім разе, аб гэтым трэба заўсёды помніць.

Яшчэ адно пытанне — гэта наш клопат аб пашырэнні кола перакладчыкаў, аб прыцягненні творчай увагі маладых паэтаў і пісьменнікаў да беларускай літаратуры, да Беларусі ўвогуле. Думаю, калі мы больш патурбуемся, зоймем больш разумную і перспектыўную пазіцыю — мы знойдзем і магчымасці і спосабы, як разбагацець на таленавітых, добрых і верных сяброў-перакладчыкаў з ліку сучасных рускіх паэтаў і пісьменнікаў. Гэтаксама як і спосабы зрабіць больш плённым і эфектыўным творчае супрацоўніцтва беларускіх пісьменнікаў з рускімі выдавецтвамі.

Як бачым, клопатаў — і творчага і арганізацыйнага парадку, якія датычаць перакладу беларускай літаратуры на рускую мову,— шмат. Тут закрануты толькі некаторыя з іх. Хочацца выказаць спадзяванне, што зрабіць новы крок наперад у вырашэнні акрэсленых задач — сілы ў нас хопіць. І што ў выніку на рускую мову будзе перакладацца з нашай літаратуры сапраўды ўсё самае лепшае, на высокім узроўні майстэрства і — своечасова.

*1984*

## НАША АГУЛЬНАЯ РАДАСЦЬ

Гэтага дня, гэтага свята чакалі. Можна сказаць: усенародна. Не толькі мінчане, але і жыхары ўсёй рэспублікі. Чакалі і верылі. Не сумняваліся. Ды і як было не верыць, калі ўсё рабілася на вачах — і кожны мог пабачыць асабіста: метро — мінскае метро — сапраўды будуецца! Якія маглі быць сумненні, калі слова гонару прагучала на ўсю краіну: ён будзе, Мінскі метрапалітэн, будзе! Калі гэтае слова падхапілі і прынялі да сэрца як баявы заклік усе паўтара мільёна мінчан, усё насельніцтва рэспублікі. Як было не паверыць, калі кожны з нас ведаў: на гэтае слова, што вырвалася, можна сказаць^ з самога сэрца Беларусі, на гэты жыццёвы клопат беларускай сталіцы адгукнуліся душою Масква і Ленінград, Кіеў і Харкаў, Ташкент і Тбілісі — і яшчэ дзесяткі гарадоў Саюза, і адгукнуліся справай, канкрэтнай дапамогай. Адгукнулася ўся наша вялікая Радзіма, што няйначай як сказала: так, гораду-герою Мінску патрэбна метро — а значыць, дапаможам беларусам усе разам. Дапаможам перш за ўсё майстрамі-метрабудаўцамі, спецыялістамі, інжынерамі і рабочымі, у якіх ужо багаты вопыт пракладкі падземных чыгунак, дапаможам неабходнай тэхнікай, будматэрыяламі, абсталяваннем. Ведалі мы, мінчане, пра ўсё гэта — і верылі, не сумняваліся. Верылі, бо і самі за сем гадоў неаднойчы выходзілі метрабудаўцам на падмогу — каб сваім сціплым працоўным укладам наблізіць час радасці, час пераможнага завяршэння і доўгачаканага пачатку.

Верылі, безумоўна, верылі!.. А калі ўпершыню спусціліся па ўсходках ці на эскалатары на першую станцыю, калі ўпершыню зайшлі ў вагон блакітнага экспрэса — і што называецца з ветрыкам — паімчаліся да канечнага прыпынку,— успомніце, дарагія пасажыры, якія былі вашы самыя першыя словы, што вы гаварылі знаёмым і незнаёмым, адзін аднаму і сабе самому — са шчаслівай усмешкай у паглядзе:

— Проста не верыцца!.. Проста не верыцца!.. У нашым родным Мінску — метро! Ды якое цудоўнае!.. Проста не верыцца!..

Так здзіўляюцца людзі толькі нечаму вельмі незвычайнаму, дзівоснаму, што ўяўляецца казкай-цудам.

Але мы — не ў казцы, мы — у жывой рэчаіснасці.

Перада мною першыя запісы з «Кнігі водгукаў і прапаноў», зробленыя на станцыях Мінскага метрапалітэна 30 чэрвеня 1984 года — у дзень адкрыцця рэгулярнага руху падземных экспрэсаў. Іх каля дзвюх тысяч. Каля дзвюх тысяч водгукаў за адзін дзень! Немагчыма без хвалявання чытаць гэтыя шчырыя, ад сэрца, радкі, у якіх і радасць, і захапленне, і гордасць, і ўдзячнасць,— і нельга сказаць, чаго больш, бо ўсе гэтыя пачуцці зліты ў адно — у

невымернае пачуццё шчасця. А выказаліся людзі розных узростаў, розных пакаленняў, розных прафесій. І не толькі мінчане, але і госці, удзельнікі святочных урачыстасцей, прысвечаных 40-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

«Які цудоўны падарунак атрымалі ад партыі і ўрада жыхары горада-героя Мінска!..»

«Як беларус і ўдзельнік Айчыннай вайны, я ганаруся за свой беларускі народ і яго творчасць на карысць Радзіме!..»

«Я жыву ў Мінску з 1945 года. Тады і цяпер! Гэта проста цуд! Не верыцца! Ад хвалявання, гордасці за свой родны горад цяжка выказаць усё, што хочацца напісаць!..»

«Сорак гадоў назад нельга было і ўявіць, што ў такім разбураным горадзе будзе такое цудоўнае збудаванне — метрапалітэн!..»

Гэтыя словы — як і яшчэ сотні да іх падобных — належаць ветэранам вайны і працы, былым франтавікам, партызанам, падпольшчыкам, тым, хто змагаўся за свабоду Радзімы, за сённяшні шчаслівы дзень народа, хто ў першыя ж гады пасля перамогі над ворагам уздымаў нашы гарады, і Мінск у тым ліку, з руін і папялішчаў. Так, яны помняць, яны бачылі на свае вочы, якім быў наш горад-герой, горад-патрыёт, горад-змагар у незабыўным ліпені 1944-га, у першыя месяцы Свабоды. Вялікае, невымернае гора народа прайшло праз кожнага з іх, апаліўшы сэрцы пакутным болем; вялікія, здавалася, неадольныя, цяжкасці ляглі на іх плечы: трэба было падымаць да жыцця, да радасці, да сонца зруйнаваны ўшчэнт горад!.. Ці не дзіўна, што многія з іх — немаладыя, сівагаловыя, прытомленыя нялёгкай жыццёвай дарогай — пісалі гэтыя свае радкі са слязамі на вачах, не саромеючыся іх — слёз спазнанага шчасця?..

«Я адразу памаладзеў, убачыўшы такое цудоўнае тварэнне... Вялікі дзякуй усім тым, хто прымаў удзел у будаўніцтве!» А подпіс — безыменны, проста: інвалід Айчыннай вайны. Прыміце, дарагія таварышы метрабудаўцы, гэту шчырую чалавечую падзяку! Вам аддае паклон інвалід Вялікай Айчыннай. І ў яго асобе — усе, каго пакалечыла вайна, каму выпалі на ўсё жыццё дадатковыя цяжкасці і пакуты. Іх усё менш і менш сярод нас — іх, колішніх салдатаў, абаронцаў Радзімы. Тым даражэй іх слова, іх памяць пра мінулае, іх запаветы і наказы на будучыню. Колькі яны перажылі, колькі перадумалі, колькі разоў вярталіся памяццю туды, назад, у агонь бою — і ўсё з пачуццём упэўненасці, што ахвяры прынесены нездарма, кроў праліта не марна: над роднай зямлёю ўжо чатыры дзесяцігоддзі яснее чыстае, мірнае неба, а жыццё прыгажэе, прыгажэе, прыгажэе...

«Мінск! Мой горад-герой! Ты — велічны рукатворны помнік усім тым, хто, не шкадуючы жыцця і крыві сваёй, адстаяў тваё

жыццё і незалежнасць, хто ўзняў цябе з попелу і руін, хто стварыў такія палацы, як гэты метрапалітэн. Дзякуй цудоўным людзям майго горада!..» З гэтымі радкамі ўдзячнасці, якія напісала шчаслівая мінчанка, пераклікаюцца тысячы іншых радкоў. «Калі б сорак гадоў таму назад нам, дзецям вайны, сказалі, што мы пад зямлёй у Мінску ўбачым такія прыгожыя палацы, ніхто б не паверыў. Горад быў у руінах... Дзякуй будаўнікам! Дзякуй партыі! Дзякуй за клопат пра людзей!..» «Многа бачыў я ў гарадах Савецкага Саюза метро, але такое цудоўнае бачу ўпершыню. Ад усёй душы і чыстага сэрца выказваю ўдзячнасць будаўнікам метрапалітэна...» «Якое хараство! Слёзы на вачах ад радасці! Я прыехала на адпачынак з поўначы спецыяльна ў гэтыя дні, каб падзяліць невымерную радасць разам з нашымі людзьмі. Вялікі дзякуй, дарагія метрабудаўцы!..»

Прыміце ж іх, гэтыя словы людской удзячнасці, паважаныя таварышы метрабудаўцы: праекціроўшчыкі, інжынеры, архітэктары і мастакі, рабочыя. Вам дзякуюць «дзеці вайны» і іх дзеці — сённяшнія маладыя людзі розных працоўных прафесій, студэнты, вучні. Дзякуюць тыя, у каго яшчэ амаль усё жыццё наперадзе, каму яшчэ доўга-доўга карыстацца гэтым самым зручным відам гарадскога транспарту. Дзякуюць не толькі за ўдарны тэмп будаўніцтва, за датэрміновае ўвядзенне метрапалітэна ў строй, за добротнасць і надзейнасць збудавання, але і за таленавітыя, творчыя архітэктурна-інжынерныя рашэнні будаўнічых задач, за высокі мастацкі густ, выяўлены ў афармленні ўсіх, без выключэння, станцый. Дзякуюць таму, што ведаюць, як вам было нялёгка, што вы працавалі, забываючы на адпачынак, па сон, на яду, што вас нярэдка даймала страшэнная зморанасць і вы літаральна падалі ад стомы з ног — каб праз колькі хвілін зноў падняцца і ўзяцца за справу, прыступіць да працы. Больш таго: каму невядома, што на такой грандыёзнай і складанай будоўлі, як пракладка метрапалітэна, вас падсцерагалі не толькі нечаканыя цяжкасці, але нярэдка і небяспека, што ад вас вымагаліся пе толькі сіла, уменне, спрыт, але і мужнасць: у поўным сэнсе слова — мужнасць! Вось чаму першыя пасажыры Мінскага метро справядліва падкрэсліваюць, што ваша стваральная праца роўна гераічнаму подзвігу.

Як і трэба было чакаць — і пра гэта сведчаць водгукі першых пасажыраў — мінскае метро абудзіла ў сэрцах жыхароў беларускай сталіцы і ўсёй рэспублікі глыбокія патрыятычныя і інтэрнацыянальныя пачуцці. «Калі сеў у электрычку метро, адразу адчуў вялікі прыліў гордасці за наш савецкі народ, за нашу Беларусь...» «Калі я зайшла ў метро, маё сэрца перапоўнілася радасцю і гордасцю...» «Устаньце, Купала і Колас, устаньце — на нашу агульную радасць

пагляньце!..» «Дзякуй гарадам і рэспублікам, якія дапамаглі стварыць такія падземныя палацы ў Мінску! Хай жыве дружба народаў СССР!» Водгукаў такога гучання, такога зместу, у якіх мінчане выказваюць удзячнасць народам-братам за падмогу і ласку, вельмі шмат. Як і водгукаў, пакінутых гасцямі Мінска, дочкамі і сынамі розных народаў нашай шматнацыянальнай Бацькаўшчыны, якія, разам з віншаваннямі, выказваюць і сваё захапленне творчым энтузіязмам беларускага народа, яго мужнасцю, працавітасцю, дабрынёй і шчырасцю. «Беларусы! Вы дастойны такога метро! Вы заслужылі яго сваёй мужнасцю і працай!» «Які добры і мужны народ беларусы! Нават страшна падумаць, што фашысты хацелі знішчыць такі народ!..» «Як усё хораша!.. А фашысты хацелі знішчыць такі народ! Жах падумаць!..»

Так, вялікая і векапомная праўда ў словах, што прыйшлі на вусны простым працоўным людзям у дзень вялікай і векапомнай радасці. Фашысты — хацелі. Як хочуць гэтага сёння іх паслядоўнікі — неафашысты і ўсе іншыя ворагі сацыялізма, ворагі міру і дружбы народаў, ворагі сацыяльнага прагрэсу і духоўнай культуры чалавецтва. Працоўныя Мінска і рэспублікі, як і госці нашай сталіцы, гэта выдатна разумеюць, і таму клопат партыі і ўрада аб дабрабыце народа ўспрымаюць у адзінстве з клопатам аб міры, аб недапушчэнні тэрмаядзернай вайны. Вось словы рабочага Віктара Чорнага: «Пабудаваўшы такія цудоўныя палацы пад зямлёю, савецкія людзі яшчэ раз наказалі капіталістычнаму ладу, што яны хочуць міру ў небе, на зямлі і пад зямлёй!» А ветэраны партыі і працы выказаліся так: «Мы, жыхары Мінска, шчыра дзякуем нашай Камуністычнай партыі за клопат пра людзей... Мы таксама дзякуем ураду, які вядзе барацьбу за захаванне міру на зямлі. Хочацца жыць і жыць у гэтай мірнай краіне!..»

Як не далучыцца да гэтых праўдзівых слоў і не паўтарыць услед за паважанымі старэйшынамі: сапраўды, калі ты бачыш, што само грамадства клапоціцца пра твой дабрабыт і шчасце, што ўсё тут падпарадкавана тваім чалавечым інтарэсам, твайму духоўнаму росту і ўзвелічэнню,— сапраўды, і жыць хочацца, і радавацца жыццю бясконца!..

*1.07.1984*

## СКАРБЫ НАРОДА — НАРОДУ

Беларускі фальклор... Кожны, хто хоць крыху дасведчаны ў гісторыі духоўнай культуры славянскіх народаў, на гэтыя словы, напэўна, скіруецца ўвагай і зрэагуе нязмушанай думкай, накшталт: «О, беларускі фальклор! Гэта — багацце незвычайнае! Скарбы гэта — неацэнныя! Няшмат хто на свеце можа пахваліцца такімі!..» Самі мы, беларусы, а найперш — беларускія вучоныя-фалькларысты, ведаем, якія незлічоныя і неацэнныя багацці-скарбы вусна-моўнай паэтычнай творчасці належаць нашаму народу, як многа ў памяці яго душы і сэрца захавалася песень і казак, легенд і паданняў, прыказак і загадак. Захавалася і працягвае жыць далей, надараючы радасцю новыя пакаленні, служачы ім шчаслівай узнагародай за вернасць спадчыне,— той самай спадчыне, што, па словах Купалы, «ад прадзедаў, спакон вякоў» і што завецца так проста і сціпла «ўсяго старонкай роднаю».

Ведаем перш за ўсё таму, што самі раслі-выраталі сярод гэтых дзівосна-чароўных кветаў народнай паэзіі і бачылі, колькі яе ў народзе і якая яна прыгожая, змястоўная, самабытная. Ведаем таксама і па тым, што паспелі зрабіць для яе зберажэння і захавання нашы папярэднікі — нястомныя руплiўцы на ніве народнай мастацкай культуры ў 19-м і першай палавіне 20-га стагоддзяў,— гэта значыць, па зборніках фальклорных матэрыялаў З. Даленгі-Хадакоўскага, Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, П. Шпілеўскага, І. Насовіча, П. Бяссонава, А. Дэмбавецкага, П. Шэйна, М. Нікіфароўскага, Е. Раманава, У. Дабравольскага, М. Федароўскага, А. Сержпутоўскага, Л. Шлюбскага, М. Гарэцкага, С. Сахарава, Р. Шырмы і мпогіх-многіх іншых. Я назваў толькі імёны самых значных, буйных беларускіх фалькларыстаў-збіральнікаў і то бачна, як многа лепшых людзей свайго часу разумелі ідэйна-мастацкую каштоўнасць і значэнне фальклору ў жыцці грамадства і як яны шчыравалі, каб гэты самы прыгожы плён народнага паэтычнага генія не страціўся і не змарнаваўся.

Ведаем мы пра ўсё гэта — і тым не менш вымушаны сёння здзівіцца і прасякнуцца пачуццём самага шчырага захаплення і гордасці, гледзячы на кніжную паліцу, на якой у адзін рад выстраіліся дзесяткі аб'ёмістых, прыстойна выдадзеных тамоў з эмблемай БНТ — беларуская народная творчасць. Унікальнае 40-томнае акадэмічнае выданне Збору беларускага фальклору скора будзе завершана, і тады наша пачуццё захаплення і гордасці няйначай як падымецца на яшчэ больш высокую метку.

Сапраўды, якое незвычайнае багацце, якія неацэнныя скарбы! Нават зусім коратка ахарактарызаваць кожны з ужо выдадзеных тамоў у адной невялікай нататцы — цяжка, дакладней

кажучы — немагчыма, і таму я паспрабую прайсціся вокам і сэрцам па гэтай залатой паэтычнай паліцы толькі для таго, каб выказаць сваё самае агульнае ўражанне і даць самую агульную ацэнку.

З песень пачнём, зразумела, імі пачыналася і само выданне. Песенная творчасць займае ў Зборы роўна палавіну з запланаванай агульнай колькасці кніг. Песні абрадавыя, якіх неймаверна багата ў Беларусі (гэта прызнана фальклярыстамі свету), і песні неабрадавыя, гэта значыць — лірычныя і ліра-эпічныя (іх таксама надзвычай шмат, хаця і трохі менш, чым абрадавых). Песні абрадавыя — як сямейнага цыкла, прыўрочаныя да трох найважнейшых момантаў у жыцці чалавека (нараджэнне, шлюб, пахаванне), так і песні гэтак званага народнага земляробчага календара, прымеркаваныя да пэўных этапаў сельскагаспадарчых работ і старажытных вясковых свят,— уяўляюць сабой яркі, праўдзівы адлюстровак народнага жыцця і побыту, звычаяў і традыцый, працоўнай дзейнасці селяніна. Разам з тым яны выяўляюць ненераўзыдзена высокі ўзровень мастацкага, паэтычнага мыслення народа.

«Радзінная паэзія»... Песні ў гонар нованароджанага, у гонар маці-парадзіхі і бабкі-павітухі. У славу жыцця і чалавека. Цэлы вялізны том. Між іншым — фальклору нашых блізкіх братоў-суседзяў гэтыя песні невядомы. Гэта — набытак нашага беларускага фальклору, тое, што складае яго нацыянальную спецыфіку.

«Вясельныя песні»... Вяселлю прысвечаны ажно сем тамоў выдання: адзін з іх адведзены на апісанні шлюбнага абраду ў розных мясцінах Беларусі, астатнія шэсць — займаюць песні, што спяваліся на традыцыйным беларускім вяселлі — ад заручын і да перазоваў (пярэзваў, гасцей). Колькі іх у Зборы ўсяго, гэтых песень? Ды каля дзесяці тысяч! Дзесяць тысяч песень маладым людзям, што ўступаюць у шлюб, утвараюць новую сям'ю! Дзесяць тысяч паэтычных выяў народнай душы — выяў радасці і замілавання, любові і пашаноты, весялосці і смутку! Дзесяць тысяч мудрых пажаданняў, паказаў і перасцярог дарослым дзецям, што выходзяць на самастойную дарогу жыцця! Міжволі падумаеш: якой жа высокай павінна была быць чалавечая маральнасць беларускага селяніна і якім трывалым павінна было быць яго пачуццё адказнасці за будучыню, каб у такой меры апаэтызаваць клопат пра лёс і шчасце дзяцей, каб гэтулькі ўвагі надаць паяднанню навек двух закаханых сэрцаў! І яшчэ падумаеш: ці дастаткова мы сёння вывучаем гэты маральны і эстэтычны вопыт працоўнага чалавека? Ці належна яго цэнім? Ці разумна яго выкарыстоўваем? Ці абапіраемся на яго?..

Песні зімовыя, веснавыя, валачобныя, купальскія, жніўныя, восеньскія — кожнаму з гэтых цыклаў каляндарна-абрадавай паэзіі адведзены ў Зборы асобны том. Гэта — вялікая паэзія працы на зямлі, працы хлебароба і жывёлавода, садоўніка і пчаляра, праца ў імя хлеба надзённага, паэзія любові да зямлі і яднання чалавека з прыродай. І не толькі: ва ўсіх гэтых песнях на першым месцы — вобраз працоўнага чалавека — аратага і сейбіта, касца і жняі,— чалавека багатай, чыстай і прыгожай душы, высакародных памкненняў. Унікальным па каштоўнасці Зборам з’яўляецца ў гэтым цыкле том «Валачобных песень» — наш своеасаблівы ліра-эпас, такі блізкі сваёй паэтыкай, маляўнічасцю і велічнасцю вобразаў да рускіх былін. А беларускія песні жніва! Колькі ў іх, разам з паэтызацыяй працы і хлеба, чуецца скаргаў на долю, на цяжкі сацыяльны прыгнёт! А нашы песні восеньскія — песні яравога жніва і талакі, такія арыгінальныя па меласу, так дзівосна злітыя з асеннімі настроямі роднай беларускай прыроды!.. Дарэчы, варта зазначыць, што і песні валачобныя, і жніўныя, і восеньскія — гэта нашы адметныя нацыянальныя фарбы на шматкаляровай палітры песеннага фальклору славян.

Неабрадавая лірыка... Першым з гэтага цыкла выйшаў том «Песні савецкага часу» — каля трохсот твораў, народжаных новым жыццём, новым грамадскім ладам. Пранікнёныя і ўзнёслыя, яны ўслаўляюць герояў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, поспехі сацыялістычнага будаўніцтва ў краіне, мужнасць і гераізм народа ў барацьбе супраць фашысцкай навалы, змаганне савецкіх людзей за мір, за ажыццяўленне запаветаў Леніна, ідэалаў Камуністычнай партыі. Гэта — абуджаная ў сэрцах радасць мільёнаў, радасць народа, які назаўсёды пазбыўся сацыяльнага і нацыянальнага ўціску і на шляхах творчага супрацоўніцтва з народамі-братамі знайшоў свой сапраўдны лёс. Услед за гэтым томам чытачы атрымалі «Песні пра каханне», «Жартоўныя песні», «Сямейна-бытавыя»... А на чарзе — песні сацыяльнага зместу, песні казацка-салдацкія і рэкруцкія, а таксама — прыпеўкі, або частушкі.

Асабняком стаяць два тамы беларускіх народных балад. Тысяча сто дваццаць восем узораў цудоўнай ліра-эпічнай і эпічнай паэзіі! Думаецца, што мы, беларускія фалькларысты, моцна вінаватыя перад гэтым — асаблівай змястоўнай і мастацкай вартасці — жанрам народнай творчасці. Няведама, з чыёй «нялёгкай рукі» пайшло і вельмі доўга трымалася ў фалькларыстыцы сцверджанне, што ў беларусаў, за выключэннем некалькіх песень ваенна-гістарычнага зместу, свайго песеннага эпасу няма — толькі лірыка. Але прачытаем гэтыя два тамы балад — 1128 суровых і нават страшных песень-расказаў пра трагічны або драматычны лёс простага працоўнага чалавека. Якімі гаваркімі, яркімі малюнкамі і

штрыхамі папоўніцца наша ўяўленне пра гісторыю народа і зямлі, на якой мы жывём і пра якую дбаем сёння!..

Зазначу, што ў кожным песенным томе змешчаны не толькі тэксты, але і шматлікія запісы мелодый, што робіць усё выданне прыдатным для практычнага выкарыстання музыкамі і спевакамі і таму асабліва каштоўным.

Аднак пяройдзем ад песенных тамоў да іншых — да фальклорнай прозы і драматургіі, да загадак і мудраслоўя. На першым месцы тут, бясспрэчна, казкі — цудоўныя беларускія казкі, пра якія яшчэ ў дакастрычніцкі час вядомы рускі фалькларыст прафесар С. В. Саўчанка пісаў: «Мы можам смела сцвярджаць, што па жывасці і прыгажосці расказа беларускія казкі не маюць сабе роўных». Чатыры тамы казак — больш шасцісот нумароў. Магутная вусна-апавядальная літаратура! Несмяротная паэзія чалавечай мары аб шчасці, аб сацыяльнай і нацыянальнай свабодзе; неадольная туга добрага, шчырага чалавечага сэрца па роўнасці і братэрству, праўдзе і справядлівасці. Паэзія няўрымслівай фантазіі, крылатага палёту думкі, яснавідных прадбачанняў і веры ў шчаслівую будучыню, у перамогу дабра над злом; паэзія мудрасці і жыццёвага аптымізму.

Да тамоў казак прымыкаюць «Легенды і паданні». Тут жа побач — «Жарты, анекдоты, гумарэскі»,— неўміручы народны смех. Смех дасціпны і вясёлы, дабрадушна-іранічны і саркастычна-з’едлівы. Пераканаўчае сведчанне духоўнай сілы і маральнага здароўя народа. Зрэшты, смех — сапраўдная душа і многіх казак, і песень, багата яго і ў томе пад назвай «Народны тэатр», і ў двух тамах «Прыказак і прымавак», і ў «Загадках», і ў «Выслоўях». Творы вясёлыя і «смешныя» асабліва наглядна пацвярджаюць, якая багатая і сакавітая жывая мова народа, якое дакладнае, трапнае і дасціпнае яго слова. Вось ужо дзе сапраўды можна павучыцца ў народа-мастака і моватворцы, як паслугавацца гэтым дзівосным інструментам чалавечай камунікатыўнасці і паэзіі.

І так, паэтычныя скарбы народа вяртаюцца народу. Каля трыццаці тамоў — з сарака намечаных — ужо на кніжных паліцах. Зноў і зноў абводжу іх паглядам і думаю: маючы такое, валодаючы такім і знаючы, разумеючы, што гэта такое — як можна паверыць у недарэчныя старыя плёткі пра духоўную беднасць і ўбоства працоўнага беларускага люду ў мінулым? Як можна жыць і не ганарыцца — сам-насам з сабою і перад усім светам — народам, які стварыў гэтакія багацці? І яшчэ думаю: кожнаму, хто захоча спазнаць гістарычны лёс і жыццё-быццё беларускага народа, яго душу і характар, гэты Збор Беларускай Народнай Творчасці можа сказаць вельмі многа. А перш за ўсё для яго адкрыецца галоўнае,— тое, што наш працалюбівы, таленавіты, мужны і гераічны народ

ніколі не марыў ні аб чым іншым, як аб жыцці ў міры і шчасці, у дружбе з усімі, хто жадае гэтага ж, што ён больш за ўсё на свеце цаніў і цэніць праўду, справядлівасць, дабрыню, спагаду шчырасць і чуласць, адным словам — чалавечнасць.

Шмат каштоўных і значных выданняў, якія маюць эпахальнае значэнне ў развіцці нацыянальнай мастацкай культуры, ажыццёўлены або ажыццяўляюцца ў апошнія дзесяць — пятнаццаць гадоў у Беларусі. Зводнае выданне «Беларуская народная творчасць» — адно з самых важкіх і прадстаўнічых. Выданне яшчэ не завершана, але ўжо і сёння можна ўпэўнена гаварыць аб разумнасці ініцыятывы фалькларыстаў Акадэміі навук БССР і аб мудрасці партыйных і дзяржаўных рашэнняў, якімі гэтая ініцыятыва навукоўцаў была падтрымана.

Вядома, што ні адна добрая справа — нават малая, ну, а тым больш вялікая — не адбываецца сама сабой, а здзяйсняецца канкрэтнымі людзьмі, іх намаганнямі, іх клопатамі. Вось чаму лічу сваім абавязкам назваць, нарэшце, імёны вучоных-фалькларыстаў, супрацоўнікаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, якія самаадданна працуюць (або працавалі) над ажыццяўленнем гэтага выдання. Гэта — фалькларысты-славеснікі А. С. Фядосік (ён жа загадчык сектара фальклору, галоўны адказны за выданне), К. П. Кабашнікаў, А. С. Ліс, І. К. Цішчанка, Г. А. Барташэвіч, Л. М. Салавей, Л. А. Малаш, К. А. Цвірка, А. І. Гурскі, М. А. Каладзінскі, М. Я. Грынблат, музыказнаўцы З. Я. Мажэйка, В. І. Ялатаў, Т. А. Дубкова, С. Г. Нісневіч. Непасрэднае дачыненне да падрыхтоўкі і рэдагавання тамоў мелі або і маюць вядомы дзеяч музычнай культуры Г. І. Цітовіч, этнограф В. К. Бандарчык, іншыя дасведчаныя людзі. А першым ініцыятарам выдання быў тагачасны дырэктар ШЭФ, паэт-акадэмік П. Ф. Глебка.

Усім ім — наша шчырая падзяка і хвала!

*1984*

## СВЯТЛО ВЯЛІКІХ ТРАДЫЦЫЙ

Таварыства кнігалюбаў БССР, з дапамогай навукоўцаў і літаратараў рэспублікі, наважыла выдаваць беларускі бібліяфільскі зборнік «Белая вежа». Скажу адразу: гэтая пахвальная ініцыятыва чакалася ў шырокіх колах аматараў кнігі даўно, і можна толькі пашкадаваць, што мы так прыпазніліся з ёю. Але, здаецца, гэта якраз той выпадак, пра які будзе дарэчы сказаць словамі народнай прымаўкі: лепш позна, чым ніколі.

Бясспрэчна, Беларусь павінна мець такое бібліяфільскае выданне, як «Белая вежа». Беларусь, першыя «грамацеі» якой перапісвалі кнігі ад рукі яшчэ ў XI-XII стагоддзях — у часы Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага — і дзе гэтае падзвіжніцкае племя перапісчыкаў і летапісцаў множылася ў наступныя эпохі вельмі энергічна і не выракалася свайго высакароднага рамяства нават тады, калі ўжо ваўсю стукацелі друкарні. Беларусь, якой 470 гадоў назад выпаў гонар пахваліцца першымі ва ўсходнеславянскім свеце друкаванымі кнігамі, «ціснутымі» знакамітым доктарам «лекарскіх і вызваленых» навук Францыскам Скарынак Беларусь, на землях якой ужо ў XVI-XVII стагоддзях было мноства друкарань і працавала шмат вядомых, таленавітых майстроўдрукароў, чыя прадукцыя — кнігі — разыходзілася не толькі па краю, але і далёка за межамі Бацькаўшчыны. Беларусь, дзе першыя, яшчэ рукапісныя кнігазборы паявіліся бадай што ўслед за ўзнікненнем пісьменнасці, а пазней — у часы Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага, Мялеція Сматрыцкага і Апанаса Філіповіча,

Сімяона Полацкага і Казіміра Лышчынскага — існавалі такія багатыя бібліятэкі, якім маглі б пазайздросціць многія вядомыя кніжныя цэнтры тагачаснай Еўропы; дзе, можна сказаць, ужо ў тыя нялёгкія, драматычныя часы нашай нацыянальнай гісторыі складваўся своеасаблівы культ кнігі — і не толькі ў асяроддзі буйной феадальнай знаці, вышэйшага духавенства, багатага купецтва, але і сярод дробнай шляхты, радавых дзяржаўных службоўцаў, рамеснікаў і іншага дэмакратычнага, простага люду.

Сотні, сотні, сотні кніг, на тытульным лісце якіх пазначана: «друковано в Вілні» — у Вільні, у цэнтры духоўнага жыцця, культуры і асветы Беларусі таго перыяду. Дзесяткі, дзесяткі, дзесяткі выданняў з паметкаю: «друковано» ў Нясвіжы, у Заблудаве, у Еўі, у Кутэйне, у Магілёве, у Супраслі... А яшчэ друкаваліся кнігі ў Лоску, у Берасці, у Полацку і Гародні... Гэта ўсё — на землях этнаграфічнай Беларусі. Апрача таго, беларускія старадрукі — на мове арыгінала, г. зн. на старабеларускай мове — выдаваліся ў Празе і Крулеўцы (Кёнігсберзе), у Кракаве і Пазнані, у

Рыме і Стакгольме, а таксама на тэрыторыі сучаснай Украіны: у Кіеве, у Львове, у Астрозе, у Крамянцы, у Чарнігаве...

Выдаўцамі кніг былі або выдатныя вучоныя-мысліцелі і асветнікі (нярэдка — яны ж і аўтары ці перакладчыкі і інтэрпрэтатары твораў), як ужо названыя вышэй Скарына, Будны, Цяпінскі, або — друкары-прафесіяналы, звычайна — адукаваныя гараджане, прадстаўнікі духавенства. Так, у Вільні выдаваў кнігі паплечнік рускага першадрукара Івана Фёдарава беларус Пятро Мсціславец, і асабліва шмат — браты Лукаш, Кузьма і Лявон Мамонічы; у Кутэйне пад Оршай — Спірыдон Собаль; у Магілёве — Максім Вошчанка; у Полацку — Лявон Кішка... Друкарні былі або прыватныя, або брацкія («друковано в Вілні, в друкарні братвой»), або манастырскія (кляштарныя), а выдаваліся кнігі «стараннем і коштам» або саміх аўтараў, або — брацтваў і манастыроў, або — багатых людзей краю, відных і ўплывовых, патрыятычна пастроеных дзяржаўных асоб. Друкаваліся кнігі перш за ўсё на мове старабеларускай — асабліва творы свецкага зместу, вучэбнага назначэння, апакрыфічныя, творы рэлігійнай палемікі, а таксама на стараславянскай мове, па латыні, па польскай (чым далей — тым больш). На жаль, пасля праклятай даты 1697 года, калі каралеўскім указам на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага пісьмовая беларуская мова была ў афіцыйным ужытку заменена польскай, выданне беларускамоўных кніг на Беларусі пачало рэзка скарачацца і фактычна было зведзена на нішто. Гэтае «нішто», зразумела, цалкам задаволіла і імператрыц і імператараў Расіі — новых гаспадароў краю пасля вядомых трох падзелаў Рэчы Паспалітай. Адраджэнне беларускага кнігадрукавання — ужо на іншай, нацыянальна свядомай аснове — наступіла толькі праз дзвесце гадоў, у пачатку 20-га стагоддзя, з першымі свабодамі, здабытымі ў полымі першай рускай рэвалюцыі. Сапраўдны ж яго росквіт пачаўся пасля перамогі Кастрычніка.

Нават самы абеглы пагляд на шлях і лёс беларускай кнігі дазваляе бачыць, якая магутная традыцыя кнігадрукавання існуе на нашай зямлі, якая багатая, складаная і драматычная яго гісторыя. Безліч фактаў — пераканаўча, красамоўна, доказна — гаворыць нам аб тым, як ірвалася душа народа да асветы, да культуры і да кнігі — да кнігі, што як дзівосны светач азорыць урэшце дарогу да свабоды, да праўды і шчасця. Уяўляецца, што менавіта гэта і будзе сапраўдным ідэйным зместам альманаха «Белая вежа»: чалавек і кніга, імкненне чалавека праз кнігу глыбей спазнаць сябе і жыццё, таямніцы прыроды і законы грамадскага агульнажыцця,— з тым, каб лепш выконваць сваю вялікую і адказную місію на зямлі.

Канкрэтная ж тэматыка альманаха бачыцца настолькі разнастайнай, што нават прыблізна ахапіць яе нейкім пералікам немагчыма. Што, напрыклад, мне як чытачу хацелася б сустракаць на старонках гэтага выдання? Змястоўныя і добра напісаныя матэрыялы пра значныя факты з гісторыі кнігадрукавання на Беларусі; пра цікавыя выданні, што сталі бібліяграфічнай рэдкасцю; пра выданні несправядліва забытыя і страчаныя — можа быць, назаўсёды, а можа, і не; пра кнігі знішчаныя і загубленыя — якія не проста існавалі, жылі-былі, а змагаліся і загінулі ў барацьбе з рэакцыяй і няпраўдай, як героі; пра кнігі без азначэння месца і году друкавання і пра вяртанне ім — у выніку ўпартых пошукаў — уласнага пашпарта з прапіскай; пра незвычайны лёс многіх выданняў, пра іх вандроўкі і падарожжы ў свеце; аб тым, як рэдкія, неацэнна каштоўныя кнігі, у тым ліку сусветнага значэння рарытэты, знікалі з Беларусі,— як бессаромна іх выкрадалі, вывозілі і прысвойвалі заваёўнікі-чужынцы, як безадказна свае ж невукі прадавалі або дарылі іх за межы краю — без элементарнага разумення, што скарбы духоўнай творчасці народа павінны яму, народу, і належаць і што ніхто не мае права гэтыя багацці — гэты гонар і славу нацыі — разбазарваць. Хацелася б адкрываць для сябе ў публікацыях альманаха новыя, невядомыя старонкі пра жыццё і дзейнасць выдатных беларускіх кнігавыдаўцоў; пра тых, хто дзеля жыцця кнігі, у імя яе вялікасці Кнігі цярпеў ганенні і пакуты; пра постаці таленавітых друкароў і пра лёс асобных друкарань; пра кнігі, якія не выйшлі — якія рыхтаваліся або былі падрыхтаваны да друку, але якім так і не суджана было пабачыць свету — усё па той жа прычыне сацыяльнага і нацыянальнага бяспраўя народа; пра кнігі, брашуры, часопісы, газеты, лістоўкі, якія распаўсюджвалі гуманістычныя, прагрэсіўныя і рэвалюцыйныя ідэі па Беларусі, і ў першую чаргу — пра беларускія выданні твораў Леніна, Маркса, Энгельса. А хіба не цікава будзе прачытаць што-небудзь новае пра знакамітыя кнігазборы і бібліятэкі, пра апантаных кнігалюбаў і аўтарытэтных знаўцаў кнігі, пра незвычайных, перадавых чытачоў? Або, скажам, пра ўзаемадачыненні аўтараў кніг з выдаўцамі і цэнзарамі, пра адшуканыя аўтографы, пра цікавыя эпізоды з біяграфіі таго ці іншага твора? Або — пра выдатныя ілюстрацыі да кніг і пра таленавітых мастакоў-графікаў, пра кнігі-малюткі і іншыя нестандартныя выданні, пра кніжныя знакі (экслібрысы), пра майстроў друкарскага цэха, пра рэстаўратараў кнігі? Дый ці мала яшчэ чаго, што будзе па душы чытачам, можна расказаць на старонках такога выдання!..

Няма сумнення, што бібліяфільскі альманах «Белая вежа», пры клапатлівым, зацікаўленым да яго стаўленні рэдкалегіі і

аўтарскага калектыву, можа паспяхова служыць важным асветніцка-выхаваўчым задачам: прышчапляць павагу і любоў да кнігі як да плёну творчай энергіі людзей, да крыніцы чалавечай мудрасці і дабрыні, абуджаць у чытачоў пачуцці нацыянальнай годнасці і інтэрнацыянальнага брацтва, спрыяць крышталізацыі гістарычнай самасвядомасці і тым самым — садзейнічаць развіццю патрыятычных настрояў, спяліць у душы гордасць за свой народ і яго культуру, яго духоўную моц і веліч, за гонар і славу нашай сацыялістычнай Бацькаўшчыны.

*1984*

# ГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЎДЗЕ Ў ВОЧЫ

У свеце ўжо даўно ідзе вялікі, лёсавызначальны для чалавецтва паядынак — чалавека з нелюддзю, чалавечнасці з нялюдскасцю. Акрэслілася зусім рэальная сітуацыя: стратэгія мірнага суіснавання і супрацоўніцтва, стратэгія жыцця — супрацьстаіць стратэгіі канфрантацыі, вайны і смерці, і гэтай рэальнасцю па сутнасці прадвызначана ўсё астатняе, чым сёння ўсе мы, людзі, жывём на планеце, у тым ліку і місія мастацкай літаратуры. Чым жыве, чым павінна жыць у такіх умовах літаратура? Як яна працуе на чалавека і чалавечнасць, як змагаецца за чалавека? Якім яна бачыць нашага сучасніка і якім яго паказвае? Хто ён — герой нашых новых кніг? Якая яго грамадзянская пазіцыя? Што ён сцвярджае і што адмаўляе ў жыцці? За што змагаецца? З якімі сацыяльнымі, грамадскімі ідэямі ідзе ён, гэты герой, да чытача?

Пытанні гэтыя маюць для нас першаступенную важнасць. Клопат аб павышэнні сацыяналнай актыўнасці літаратуры, аб актывізацыі яе ролі ў духоўным жыцці грамадства — наш найпершы клопат. Час нараджае праблемы, у абыход якіх літаратура не можа, не мае права пайсці , калі яна хоча называцца літаратурай. На маю думку, у нашым літаратурным жыцці ў свой час было ў нейкай меры дапушчана недапушчальнае: у справядлівым і неабходным выступленні супроць вульгарна-сацыялагічнага падыходу да адлюстравання рэчаіснасці быў зроблены такі перакос, што пачалі пазбягаць у мастацкім мысленні сацыяльнасці наогул, іншымі словамі — з бруднай вадою сёй-той паспяшаўся выплехнуць і дзіця. Некаторыя таварышы няйначай як пачалі асцерагацца надзённасці, публіцыстычнасці, баявітасці ў адстойванні ідэйна-філасофскіх і маральных каштоўнасцей сацыяльна, пачалі патрошку спаўзаць да бяскрылага натуралізму і апісальніцтва або да фармалістычнай пустаты, нярэдка завуаліраванай уяўнай глыбакадумнасцю ці закамуфляванай архісучаснай атрыбутыкай. Як жа гак? — задаеш іншы раз сабе пытанне.— Чаму наш дарослы чалавек такі сацыяльна нячулы? У сувязі са сказаным, я ўсё больш пераконваюся, што сёння задачай першаступеннай важнасці для дзеячаў літаратуры і мастацтва з'яўляецца змаганне — не на жыццё, а на смерць — супроць бездухоўнасці, утылітарна-спажывецкай псіхалогіі, крывадушнасці і цынізму. Спосабы такога змагання ў літаратуры вядомы: бязлітасна развенчваць носьбітаў гэтай сацыяльна-духоўнай атруты і акрылёна, таленавіта сцвярджаць праўду, якой жывуць сумленныя, прыгожыя нашы працоўныя людзі — сапраўдныя героі часу.

У мінулым годзе я шчыра быў узрадаваны многімі вобразамі сучасніка, якія паявіліся на старонках новых твораў, а ў першую

чаргу, бадай,— вобразам Ігната Вапшчэткі з рамана Кудраўда «Сачыненне на вольную тэму» і вобразам Улімы Падатак з рамана Пташнікава «Алімпіяда». Праўда жыцця, моц і самабытнасць народных характараў, яркасць карцін працы і побыту — вось тое, што зближае новыя творы нашых вядомых празаікаў. Думаю, што створаны Пташнікавым вобраз Улімы Падаляк — прынцыповая ўдача пісьменніка. Чытаючы раман пра яе суровы, драматычны лёс, міжволі думаеш: вось яны, тыя людзі, на якіх трымаліся і трымаюцца не толькі наш дабрабыт, наш плён, наша гаспадарка, наша дзяржаўная моц, але — і наша мараль, наша чалавечнасць, наша вера ў чалавека. Вось ужо дзе сапраўды нікому не можа быць сорамна стаць перад такой жанчынай на калені, хоць сама яна і не падумала ніколі пра нейкую сваю выдатнасць, пра свае асаблівыя заслугі. Колькі месяцаў назад, позняй восенню, я пабываў у тых мясцінах, дзе Пташнікаў шукаў і знайшоў сваю гераіню. Там, у вёсцы Задроздзе жыве ўжо амаль 50 гадоў удавою мая дзядзіна, жонка старэйшага дзядзькі Аляксандра, расстралянага ў 1936 «ворага народа». Дома яе не застаў, хата зашчэплена. Пытаюся на. вуліцы ў якойсьці бабулькі: дзе яна можа быць? «Дык яна на полі, адказвае, на лецішчы, працуе. Учора выбірала буракі, калгасныя, а сёння падымае трасту. Працуе...» Я напачатку нават не хацеў паверыць, я ведаў, што дзядзіне ўжо 82 гады. Паехаў на поле — і сапраўды: працуе! З грамадкай такіх жа бабулек, як сама, ці амаль такіх. «Вот хаджу яшчэ, сказала мне, просіць брыгадзір, дык і хаджу: кожны дзянёчак. Няма ж каму рабіць, людзей не хапае...»

У 82 гады, сагнуўшыся ў крук, кожны дзень у полі — ці на бураках, ці на лёне. А ў Мінску, у адным толькі Мінску — тысячы 22-гадовых дармаедаў і дармаедак, якія і палец аб палец не ўдараюць, адно п'юць ды распуснічаюць на ўтрыманні таты-мамы ці добрай бабулі! Вось дзе, таварышы, прастор пісьменніку і для вялікага думання, і для вялікай працы. Дазвольце прывесці адну цытату. «Хто не разумее, што выхаванне будучага пакалення з'яўляецца самай галоўнай задачай. У нас гэта задача ўскладняецца яшчэ рознымі пабочнымі праблемамі і таму патрабуе больш, чым. дзе-небудзь, клопатаў. У сярэднезаможных сем'ях маткі не заўсёды аддаюць дастаткова часу, каб пільна і належным чынам сачыць за развіццём дзіцяці, але яшчэ горш — праяўляюць асаблівы клопат, каб убраць яго, як ляльку. Такім чынам дзеці прывыкаюць да раскошы, не паважаюць таго, што здабыла цяжкай працай іх бацькоў і матак. Цяпер больш чым калі трэба дбаць пра выхаванне і гартаванне характару дзіцяці, трэба навучыць яго жыць эканомна». Хто і калі, вы думаеце, гэта напісаў? Роўна сто гадоў таму назад наш першы вялікі народны

паэт Францішак Багушэвіч! Як кажуць: калі б не дата пад публікацыяй, дык не паверыў бы, што гэта напісана не сёння. Падаў я гэту цытату, каб і сабе і ўсім нам напомніць, як пільна і зацікаўлена ставіліся да праблем жыцця нашы вялікія настаўнікі, як мужна яны глядзелі жыццю ў вочы. І якая ў гэтым плане багатая ў нас традыцыя, якая для нашай творчай моладзі школа!

І сёння, як і раней, шмат гаворым пра творчую вучобу маладых, пра авалоданне майстэрствам,— пытанне гэта не простае, але адно павінна ўсё ж быць ясна: трэба добра ведаць зробленае папярэднікамі, класікамі нацыянальнай літаратуры, трэба глыбока засвойваць урокі іх жыцця і творчасці. Расказвалі, што калі рыхтаваўся вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння беларускага паэта-дэмакрата Гальяша Леўчыка, адзін наш малады паэт спытаў: «А хто гэта такі — Леўчык? Я не чуў такога». Вось дзе яшчэ наша бяда, таварышы, бяда ды і вялікая. Мы — невукі, мы мала ведаем, мы не ведаем нават гісторыі сваёй роднай літаратуры. Мы карыстаемся заваёвамі народа, усім тым, што сёння маем, і мала думаем, каму гэтым абавязаны. Абавязаны ж многім, а ў тым ліку і Леўчыку, які яшчэ ў 1912 годзе, сугалосна Купалу і Коласу, па-народнаму проста пісаў:

Хто адрокся сваіх,
Хто стыдацца нас стаў
І прыліп да чужых,-
Каб ён свету не знаў!

Мову родную хто
Пазабыў, асмяяў,
Загубіў за нішто,—
Каб ён свету не знаў!

Хто з народам не жыў
І карысці не даў,
Хто сваіх не любіў,—
Каб ён свету не знаў!

Упэўнены, што разумны чытач гэты верш, напісаны больш як 70 гадоў назад, не праменяе на дзесятак іншых зборнікаў. Баюся, што мы вельмі перабольшваем і проста хлусім самі сабе, калі пішам у крытычных артыкулах пра высокі інтэлектуальны ўзровень некаторых сучасных твораў, пра іх філасафічнасць. Асцярожней трэба з такімі азначэннямі і характарыстыкамі, асцярожней. Бо, можа быць, гэта якраз тое, чаго нам, нашай літаратуры, перш за ўсё і не хапае. Ва ўсякім разе, будзем яшчэ больш дбаць пра гэта, чым пахваляцца. І не будзем за інтэлектуалізм прымаць звычайную пустату. «Пустотою звеня» —

назвала не так даўно свой артыкул у «Правде» паэтэса Юлія Друніна. У нашым друку, на жаль, падобных артыкулаў не паяўляецца, хаця фабрыкацыя вершаванай пустаты наўрад ці менш інтэнсіўная, чым у сучаснай рускай паэзіі, і змястоўная важкасць, і сапраўдны інтэлектуалізм, і філасофская глыбіня, і, калі хочаце, мудрасць — усё гэта можа паявіцца ў творы толькі пры адной умове: калі аўтар глыбока да сэрца бярэ самыя актуальныя, самыя вострыя, самыя балючыя праблемы сучаснасці, калі ён увесь, усімі фібрамі душы, у сваёй сучаснасці. Прыдумаць жа сабе такія якасці можна, вядома, толькі ашукаць чытача прыдуманым — немагчыма. Дазволю сабе прачытаць верш аднаго сучаснага паэта. Называецца ён «Справакаваны адказ».

Вы — будучыні, кажаце, паэты?
А як мяркуеце туды дапяць,
калі ўжо сёння вашыя куплеты
і ў паласе газетнай ледзь ліпяць?

Куды вы зможаце сягнуць далёка
за роем ветраных стракоз услед,
калі і птушкі пачынаюць лётаць
міжзорнымі дарогамі ракет?

Вы што вядзьмарыце парой вячэрняй
над зёлкаю духмянай за сталом,
калі зямлю трасе неміласэрна
ад выбухаў усёзнішчальных бомб?

Для заўтра нарыхтоўваеце словы —
маўляў, паслужым барацьбе пасля?
А нам цяпер патрэбен верш суровы,
патрэбен сёння нам баец-пясняр!

Шануйце голас свой ад ветраў свежых —
нам бачыць гэтакіх не ўпершыню.
Вам будучыні хочацца належыць?
А я належу сённяшняму дню!

Я ўвесь у ім — у сонечным і хмурным,
яму я прагну жар душы аддаць...
І можаце мяне вы кан'юнктурным —
ці як вам даспадобы — называць!

Калі, як воінаў, у бой гарачы
я свае вершы пасылаю сам —

я ведаю: яны там штосьці трацяць.
Але ж яны й знаходзяць штосьці там!

Апаленыя і негаваркія,
праз вогненны прайшоўшы гарызонт,
яны падобны па салдат, якія
трымаюць фронт!

Аўтар верша — балгарскі паэт Эўцім Эўцімаў. Спадзяюся, чытачу зразумела, чаму мне захацелася, каб гэты твор стаў беларускім.

*1985*

## ПАЭЗІЯ ГЭТА ЛЁС
## Інтэрв'ю для газеты «Чырвоная змена»

— Чым, на вашу думку, вытлумачыць спад цікавасці да твораў маладых, і ўвогуле ці назіраецца падобная з'ява?

— Перш за ўсё хачу сам паставіць пытанне як кажуць, для ўдакладнення, для яснасці: а каго мы лічым і каго можна залічваць да маладых аўтараў? Таго, хто апублікаваў першыя творы ў перыядычным друку? Хто выдаў першую кніжку? Хто не з'яўляецца членам Саюза пісьменнікаў (хаця мае ўжо некалькі кніжак)? Аўтара, якому дваццаць ад роду і ён пачаў пісаць год-два назад, ці аўтара, якому пад саракоўку і ў якога ўжо амаль дваццаць гадоў творчага стажу?

Удакладненне гэтага пытання не лішняе, бо неразбярыха з ім прыносіць пэўную і, калі хочаце, немалую шкоду. Працяглае ў часе, пастаяннае паўтарэнне па адрасе аўтара «малады, малады, малады» здольна затрымаць яго творчы рост, штучна прадоўжыць перыяд творчага і грамадзянскага станаўлення, таму што зніжае пачуццё адказнасці і патрабавальнасці да сябе: маўляў, я ж яшчэ малады, што вы ад мяне хочаце! Вядома, калі побач жывуць і працуюць 60-ці і 70-гадовыя — дык для іх 30-гадовы чалавек здаецца аўтарам маладым. Для іх, але не для чытачоў, якім, шчыра кажучы, увогуле мала абыходзіць, колькі табе настукала. Яны ведаюць, што Максім Багдановіч памёр на 26-м годзе жыцця, а Міхаіл Лермантаў загінуў на 27-м. Дык хто ж у нас сёння маладыя, пра каго гаворка? Што да майго разумення, дык я катэгарычна супраць таго, каб у разрад «маладых» залічалі 35-40-гадовых аўтараў, у якіх ужо і стаж, і плён творчае працы даволі значныя і якія ўжо займаюць у літаратуры сваё прыкметнае месца.

Аднак жа вернемся да пытання анкеты. Думаючы пра рост або спад цікавасці да літаратуры, я не хацеў бы аддзяляць маладых аўтараў ад немаладых. Калі спад цікавасці ёсць — дык прычына яго, канечне ж, не ўзроставая. Я не бачу спаду цікавасці да творчасці, напрыклад, Васіля Быкава, якому пераваліла за шэсцьдзесят, але гэтаксама і да творчасці Аляксея Дударава, якому трохі больш за трыццаць. Наадварот, маштаб і ўзровень грамадскай увагі да гэтых аўтараў расце і павышаецца. І, я думаю, не трэба тлумачыць — чаму. У сучасных умовах наогул заваяваць увагу, выклікаць цікавасць чытачоў — нашмат цяжэй, чым гэта было калісь, скажам, гадоў 30-40 назад, калі літаратура не мела такога канкурэнта, як тэлебачанне, і калі сам тэмп жыцця, характар працы і побыту давалі чалавеку больш магчымасці пасядзець над кнігай, пабыць сам-насам са сваімі думкамі.

Час настойліва падказвае, дае зразумець, што сёння пісьменніку, паэту ні ў якім разе не трэба гнацца за аб'ёмам, за колькасцю, а вельмі і вельмі дбаць пра якасць. У нас жа, насуперак гэтаму, наадварот: пануе тэндэнцыя пісаць і друкаваць як мага больш. Вершаваныя зборнікі, касякі вершаў ідуць адзін за адным, не маючы, часцей за ўсё, ідэйна-змястоўнай важкасці, вобразна выяўленчай сілы. Яшчэ не закончаны друкавацца адзін раман у адным часопісе, а ўжо тымчасове пачынаецца друкаванне другога рамана ў другім. Якая ж пры такой паспешлівасці можа быць якасць, якая змястоўнасць і глыбіня? Сапраўды выдатныя творы гэтак хутка не робяцца. Затое ім і не пагражае спад цікавасці.

— Ёсць цікавыя кніжкі маладых аўтараў, але ці заўсёды стаіць за радкамі асоба?

— Я думаю, калі кніжка сапраўды цікавая, дык за яе радкамі абавязкова стаіць асоба, бо хіба нецікавы чалавек, пазбаўлены адзнак асабістасці, можа напісаць цікавую кнігу? Чым жа яна будзе цікавая, калі сам аўтар не вызначаецца ні розумам, ні характарам, ні адметнасцю светаўспрымання,— іншымі словамі — калі ён не з'яўляецца асобай? Хіба што фармалістычнымі выбрыкамі і выкрутасамі, прэтэнцыёзнасцю вонкавых прыёмаў, хітрым разлікам пустату і банальнасць падаць незвычайна, манерна? Дык сур'ёзны, удумлівы чытач на такую прыманку не клюне. Як таго старога вераб'я — яго на мякіне не ашукаеш.

— Па якіх адзнаках можна выявіць сапраўдны паэтычны талент?

— Сапраўдны талент выяўляецца сам, яго выяўляць не трэба. Чытаючы, я адчуваю: гэта напісана таленавіта, народжана мастаком-творцам. Або наадварот: гэта зроблена, скляпала бяздушным рамеснікам. У творы таленавітым мяне захапляе праўда жыцця, праўдзівасць характараў, учынкаў і пачуццяў героя, высакароднасць грамадзянскай пазіцыі аўтара; захапляе шчыры, непрытворны голас жывой чалавечай душы, дабрата, смеласць і мужнасць, без чаго здзейсніцца ў поўнай меры талент не можа; захапляе навізна і непаўторнасць светабачання, яркасць, вобразнасць, дакладнасць мовы, адчуванне слова, яго хараства г сілы, яго незаменнасці, натуральнасць гучання радка, сказа, рэплікі. Шмат што мяне захапляе і прымушае перажываць, хваляваюца, думаць. А ў творах графаманска-рамесніцкіх нічога гэтага я не знаходжу.

— Хто з маладых паэтаў найбольш блізкі вам па творчаму почырку і каму з іх вы можаце прадказаць літаратурную будучыню?

— Па-першае, а навошта, каб нехта быў мне блізкі іменна па почырку? Настолькі блізкі, каб нават не адрозніваць — каб былі

зусім падобныя? Які ж сэнс у такой блізкасці і што ад гэтага выйграе чытач? У свой час Маякоўскі наконт перайманне маладымі яго почырку дасціпна і слушна сказаў: «Не делайте под Маяковского! Делайте под себя!» Так што, калі гаварыць пра блізкасць, то я прымаю і вітаю гэта толькі ў адным сэнсе: як блізкасць духоўную, ідэйную, як блізкасць адзінадумцаў і адзінаверцаў.

Што ж да прадказання літаратурнай будучыні, то справа гэта вельмі рызыкоўная, займацца падобнай футуралогіяй я, шчыра кажучы, пабойваюся. За маёй памяццю многім — у маладосці — прарочылі вялікі творчы шлях, прыгожую будучыню. А пасля лёс распараджаўся па-свойму — і нічога вялікага, нават хоць бы трохі значнага не атрымалася. Вядома, сярод маладых паэтаў (не пачаткоўцаў, а тых, што ўжо заявілі аб сабе выразна, упэўнена) ёсць імёны, на якія я ўскладаю асаблівыя надзеі, творчы патэнцыял якіх, на маю думку, моцны. Напрыклад, Любоў Тарасюк, Леанід Галубовіч, Алесь Жыгуноў, Алесь Пісьмянкоў, Уладзімір Мазго, Віктар Шніп, Алесь Жамойцін, Васіль Сахарчук — спынюся на гэтым, хаця мог бы, папрыгадаўшы, назваць і яшчэ імён колькі. Але зноў жа паўтараю: будучыня кожнага з іх — перш за ўсё ў іх уласных руках.

— Вашы пажаданні маладым, сыходзячы са свайго творчага вопыту.

— Сыходзячы са свайго творчага вопыту... Але ж мой творчы вопыт — гэта менавіта мой вопыт, і я не думаю, што ён можа быць прыдатны для некага іншага. Мой вопыт — гэта маё жыццё, мой працоўны шлях, мой асабісты лёс, нарэшце... Сумняваюся, што ў ім ёсць нешта асабліва павучальнае для творчага станаўлення іншых. Кожны з маладых, калі ён самабытны творца, пойдзе сваім шляхам і будзе набываць свой уласны творчы вопыт, і толькі гэтак займе сваё месца ў літаратуры, і менавіта гэтым будзе цікавы для чытачоў Трэць адпушчанага мне дарослага жыцця я аддаў навуцы — літаратуразнаўству, фалькларыстыцы... Ці маю я права параіць каму-небудзь з маладых паэтаў: пайдзіце і вы такім жа шляхам? Трэць — калі не больш — творчых сіл і часу я ахвяраваў на мастацкія пераклады — наперакладаў горы вершаў, паэм, апавяданняў, п'ес, раманаў... Ці магу я, аднак, сказаць сённяшнім маладым: бярыце з мяне прыклад і рабіце гэтак жа? Чвэрць веку я зарабляў на хлеб надзённы педагагічнай працай ва універсітэце... Ці магу я параіць гэта ж іншым? Ці самы лепшы гэта спосаб існавання пісьменніка ў сваім часе?

Тым не менш пажаданні для маладых у мяне ёсць. Уласна, адно пажаданне: жывема і працуйма, таварышы, так, каб стаць вартымі звання прадаўжальнікаў таго, што здзейснілі вялікія сыны

народа, такія волаты мастацкага слова, як Багушэвіч, Цётка, Багдановіч, Купала, Колас, Гарэцкі, Чорны, Куляшоў, Мележ... Што трэба, каб займець права на такое званне? Вельмі многа! Талент — гэта само сабой. Вельмі многа — апрача таленту. А што менавіта? Ну, напрыклад, самаадданасць ці нават самаахвярнасць у працы. Палымяная грамадзянская турботнасць. Вялікая мужнасць. А перш за ўсё — разуменне, што паэзія — гэта не фабрыкацыя метафар, не гульня ў сінтаксічныя фігуры і не практыкаванні ў славесных вывертах. Паэзія — гэта лёс: лёс твайго народа, тваёй Радзімы, тваёй планеты, а таму — і твой асабісты; паэзія — гэта тваё грамадзянскае, чалавечае «не магу маўчаць!». Пачынайма, дарагія сябры, з гэтага!..

*10.05.1985*

## ВЯЛІКІ ПАТРЫЯТЫЧНЫ КЛОПАТ

Дзесьці адразу пасля вайны з беларускіх часопісаў (а не ў школе ад настаўнікаў — як ні горка зазначаць гэта) я даведаўся, што ў ваколіцах нашай Тайны, на Лагойшчыне, прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады Янкі Купалы, што ён часта бываў тут у маці, на хутары Акопы, і пазней, ужо будучы сталым чалавекам, і што менавіта тут напісаў многія-многія свае цудоўныя вершы, самыя лепшыя паэмы і ўсе п'есы, у тым ліку геніяльную «Паўлінку». Што менавіта гэтую мясцовасць — былую Гайна-Слабадскую воласць — ён лічыў сваёй «малой радзімай»: «А я толькі верабейка, ўзрошчаны пад Гайнай» (верш 1908 года «Я не сокал...»). Адкрыццё гэта, помню, мяне ўразіла незвычайна. Са мною штосьць адбылося. Я пачаў неяк па-іншаму глядзець на свет. Пачаў прад'яўляць да сябе нейкі іншы рахунак больш высокі і строгі, ці што? Як бы раптам адчуў, зразумеў штосьць вельмі важнае такое, пасля чаго заставацца ранейшым ужо нельга. Я ж занадта шмат ведаю: я ведаю, што з'яўляюся земляком Купалы! Шмат гадоў пазней пра гэта скажацца ў вершы: «Мне хацелася бегчы, і крычаць, і пытацца: ці вы знаеце, людзі? Тут Купала хадзіў!..»

Акалі ж бы яшчэ я тады даведаўся, што і да Пасадца – радзімы Змітрака Бядулі — зусім блізка, і да былога фальварка Ядвігіна Ш. у Карпілаўцы рукой падаць — кіламетраў дзесяць, і што з Гайны родам паэт і выдавец Ігнат Шыдлоўскі, і што Лагойск — родавае гняздо сусветна вядомых вучоных братоў К. П. і Я. П. Тышкевічаў, і што недзе тут нарадзіўся піянер усходнеславянскай фалькларыстыкі З. Даленга-Хадакоўскі, і што ў Лагойску бываў, жыў і працаваў славуты асветнік XVII стагоддзя Мялецій Сматрыцкі, і што былы мураваны двор Айнаравічы, да якога ад маёй роднай вёскі і вярсты няма, у тым жа XVII стагоддзі належаў Яну Цадроўскаму, які суправаджаў Радзівіла ў паездках па Еўропе і пакінуў надзвычай цікавы дзённік, і што засценак Альхавец пад Гайнай належаў бацькам вядомага філолага, прафесара Я. А. Ляцкага, які яшчэ ў 1904 годзе апублікаваў каля двухсот беларускіх народных песень Гайна-Слабадской воласці... На вялікі жаль, нічога гэтага я ў свае школьныя гады не ведаў.

А як гэта важна і як гэта трэба — своечасова ўводзіць у душы дзяцей факты гісторыі сваёй мясцовасці! Важна, таму што мы хочам — і абавязаны! — выхоўваць маладых людзей патрыётамі. Але выхаванне патрыятызму без выхавання любові і павагі да сваёй малой радзімы — па-сапраўднаму плённым быць не можа. Гэта аксіёма, даказваць якую няма патрэбы. А ў якім жа стане ў нас справа вывучэння і асвятлення гісторыі вёсак і колішніх мястэчак? Ды калі сказаць адным словам, то ў кепскім. Як на

прыклад можна спаслацца на артыкулы пра беларускія вёскі ў БелСЭ. Як мала ў іх гістарычнага матэрыялу, каштоўнага і неабходнага ў такім выданні! А між тым, так было б цікава даведацца: якія і калі з гэтай вёскі вядомыя людзі выйшлі, якія тут падзеі адбываліся, якія добрыя звычаі, гаспадарчыя і культурна-бытавыя традыцыі вяліся?

Многія нашы сучаснікі выхаваны ў такой абыякавасці да гісторыі роднага паселішча, да памяці продкаў, што нават гістарычных назваў выракаюцца з лёгкасцю незвычайнай: як пот са лба змахваюць, мякка кажучы. Самы красамоўны з нядаўніх фактаў — ліквідацыя назвы вёскі Магільна на Уздзеншчыне,— назвы, якой сама мала семсот гадоў і ў якой без перабольшвання слаўная гістарычная біяграфія.

Асцеражыся!, таварыш, са святынямі!
Чым замяніць іх думаеш, скажы?..

На добры лад, пра такое сяло, як Магільна, трэба было б напісаць цэлую кнігу — навуковы гісторыка-этнаграфічны нарыс. Зрэшты, такіх старажытных вёсак, якія заслугоўваюць асобнага нарыса ці манаграфіі, у Беларусі нямала,— варта адно зацікавіцца. У 1960 годзе, у час сваёй першай паездкі ў Балгарыю, я купіў у сафійскай кнігарні даволі аб'ёмісты том пад назвай «Сяло Яварава. Манаграфія». Заінтрыгавала мяне менавіта тое, што цэлая манаграфія прысвечана аднаму сялу. Аўтар яе — цяпер вельмі вядомы пісьменнік, народны дзеяч культуры НРБ Нікалай Хайтаў. Праз колькі гадоў ён выдаў яшчэ адну такую ж манаграфію — «Сяло Манастыр». Увогуле ж у нашых балгарскіх сяброў падобных выданняў ужо дзесяткі. Варты пераймання вопыт, ці не праўда? Дарэчы, аўтарскія сілы знайшліся б і ў нас. Так, мне вядома, што наш выдатны гісторык М. М. Улашчык ужо даўно напісаў змястоўную кнігу пра мінулае сваёй роднай вёскі Віцкаўшчына, што на Дзяржыншчыне. І ёсць спадзяванне, што яна нарэшце ўбачыць свет.

Фашысты, палачы, знішчаючы нашы вёскі — выпальвалі, вынішчалі і нашу памяць. Памяць народа, нацыі. Разам з людзьмі, жыхарамі вёсак, яны знішчалі ўсё — помнікі дойлідства і іншыя ўзоры матэрыяльнай культуры, якімі тыя вёскі славіліся, традыцыі і звычаі, якіх у тых вёсках трымаліся, гульні і забавы, якія іх побыт упрыгожвалі, песні, якія там спяваліся, казкі, легенды і паданні, якія там бытавалі і шанаваліся, і іншыя скарбы народнай памяці, набыткі духоўнага вопыту народа. Пра гэты наш рахунак фашызму мы чамусьці гаворым мала, а ён — страшны. Вёскі, назвы якіх засталіся толькі на могілках у Хатыні, аднавіць немагчыма. Але, можа, не позна ўваскрэсіць сёе-тое з іх далёкага і

не так далёкага мінулага? Узнавіць і зберагчы для нашчадкаў — каб ведалі, чым слаўная іх зямля, іх гісторыя?

Пытанне гэта заслугоўвае самай сур'ёзнай увагі. Зрэшты, яно закраналася ўжо — так ці іначай — у нашым друку не раз. Пара пагаварыць аб гэтым грунтоўнна, і галоўнае — узяцца за справу практычна. Па прыкладу нашых украінскіх пабрацімаў, якія выдалі шматтомную гісторыю гарадоў і вёсак Украіны.

Патрэбна гісторыя населеных пунктаў Беларусі, у тым ліку і тых, якіх ужо няма. Трэба ведаць, чым быў славен наш край і што было на нашай роднай зямлі да нас. Праз якія пакуты і выпрабаванні, праз якія трагедыі і павароты лёсу нашы дзяды і прадзеды прайшлі. Гэта — плённы, верны шлях і спосаб выхаваць павагу і любоў да таго, што ёсць, і веру ў тое, што будзе.

*1.08.1985*

## І НАШ АБАВЯЗАК

У ажыццяўленні ўсенароднай задачы пераадолення п'янства і алкагалізму ў краіне агромністы абавязак кладзецца па літаратуру і мастацтва, на дзеячаў літаратуры і мастацтва. Чаму — зразумела. Роля літаратуры і мастацтва ў духоўным жыцці нашага грамадства, у справе ідэйна-эстэтычнага і маральнага выхавання працоўных надзвычай вялікая.

У нашай краіне літаратура і мастацтва ў цэлым заўсёды былі на варце духоўнага, маральнага здароўя народа. Заўсёды былі прапагандыстамі, прапаведнікамі маральнасці, цвярозага, разумнага ладу жыцця. Заўсёды паказвалі страшную, згубную сілу п'янства. І ўскрывалі прычыны гэтай сацыяльна-бытавой хваробы, гэтай вялікай грамадскай бяды. У старыя часы пісьменнікі і дзеячы мастацтва першапрычыну п'янства справядліва бачылі ў прыгнечаным становішчы працоўных, у сацыяльнай несправядлівасці і крыўдзе, у забітасці і цямноце, у бескультур'і. У нашу савецкую, сацыялістычную эпоху — п'янства ў творах літаратуры і мастацтва ў цэлым асуджалася і асуджаецца, высмейвалася і высмейваецца, але! Па-першае, рэдка рабіліся спробы зазірнуць у корань зла, у прычыны, якія напэўна ж не тыя самыя, што былі калісьці; ва ўсякім разе — галоўных ранейшых прычын не стала; значыць, паявіліся нейкія новыя прычыны. Якія гэта прычыны? Ці загаварылі мы пра іх на ўвесь голас, ці назвалі іх? Мы часцей канстатавалі факт, апісвалі яго і гэтым абмяжоўваліся. Праўда, апісвалі так, каб выклікаць агіду, каб стрымаць і адвярнуць чалавека ад п'янства. Па-другое, у творах літаратуры, у тэатры і кіно п'яніцы не столькі бязлітасна асуджаліся, колькі злёгку, бяскрыўдна ўпіваліся. Вакол зла — якое прыняло пагражальныя маштабы і абарачвалася тысячамі чалавечых трагедый — пладзілася таннае, прымітыўнае смехатворства, замест агню сатыры — вясёлыя, забаўныя жарцікі і гумарэскі. Іначай сказаць, у літаратуры і мастацтве так, як і наогул у грамадстве, небяспека зла недаацэньвалася. Будзем справядлівымі — пазіцыя творчай інтэлігенцыі была на ўзроўні, што называецца, «шырокіх працоўных мас». Пераламаць такія, я сказаў бы, «гумарыстычныя», паблажлівыя адносіны да п'янства не так проста, але гэта трэба рабіць рашуча. Што было раней — тое было. Не караць жа цяпер, калі мы ўсе раптам паразумнелі, тых пісьменнікаў, артыстаў, кінадзеячаў, што былі ў сваіх творах занадта паблажлівымі да гэтага пачварнага страшыдла — зялёнага змея. Але надалей — давядзецца ўсім нам сур'ёзна задумацца і заняцца тым, каб правесці перабудову ў свядомасці ўсёй літаратуры і мастацтва. Як і ў свядомасці ўсяго грамадства. Паўтараю,

гэта будзе нялёгка. Між іншым, тут трэба строга адрозніваць, дзе асуджэнне п'янства, а дзе замаскіраванае гумаркам раўнадушша і нават больш таго — заахвочванне. Нядаўна ў адной нашай газеце быў надрукаваны вершык, увесь змест якога такі: герой верша перад піўнушкай стаў дагары нагамі і зайшоў у піўнушку на руках. Чаму на руках? Таму што ён, ці бачыце, даў жонцы слова, што болей яго нагі тут не будзе. Вось такі змест гэтага гумарыстычнага «перла». Скажам шчыра: дурнота гэта і безгустоўнасць, а не гумар. Зусім зразумела, што падобныя смешачкі-жарцікі ў нас не павінны паяўляцца — ні ў друку, ні ў эфіры, ні на сцэне, ні на экране. Справа, пра якую ідзе гаворка, зусім-зусім не жартоўная.

У святле пастаўленай задачы натуральна ўзнікае пытанне, як жа быць з той літаратурнай спадчынай, у якой нямала яркіх, каларытных карцін і эпізодаў з удзелам бутэлькі? Пытанне сур'ёзнае. Але ў адным я ўпэўнены, што шарахацца ў паніку не трэба, а скажаць і перайначваць, перарабляць класіку — катэгарычна нельга. Моладзі, школьнікам — яе трэба тлумачыць, трэба даваць з'яве ацэнку адкрыта, не хітруючы. А то ў нас можа быць і такое, што сёй-той пачне палохацца ў мастацкім творы самога слова «чарка», у тым ліку ў творах даўніх, нават у фальклоры, у апісаннях; народнага вясельнага ці радзіннага абраду. А між тым у нашых старых абрадах слоў пра чарку было куды больш, чым выпітых чарак. Вось што чытаем, напрыклад, у старадаўнім апісанні беларускага народнага вяселля: «Маці з чаркай у руцэ так вітае будучага зяця: «Зяценька! Што мыслю сабе, то і табе!» І падае чарку. Малады вылівае яе цераз галаву. Маці зноў гаворыць тое ж самае і зноў падае чарку. Малады зноў вылівае яе. За трэцім разам ён, нарэшце, прымае чарку і, дакрануўшыся да яе губамі (заўважце — толькі дакрануўшыся!), кідае ў чарку грошы і аддае матцы». Вось такое апісанне абраду і такі зяць. Як па сённяшні дзень, дык такому зяцю цаны няма! Як-то кажуць — дай бог кожнаму такога зяця! Гэта ж не зяць — а ком золата!

Так што кідацца ў крайнасць з перапуду — не трэба, а то так можна далёка зайсці. Паўтараю, мінулае трэба тлумачыць, а не закрэсліваць, тым больш калі ў гэтым мінулым нічога шкоднага для выхавання моладзі няма, а наадварот — ёсць добры павучальны прыклад. Да мінулага патрэбен цвярозы гістарычны падыход.

Прапагандай цвярозасці можна дасягнуць шмат — нямала можна дасягнуць адмінстрацыйна-прававымі мерамі, пакараннем, таварыскім судом, гэтаксама — суседскім і сяброўскім унушэннем, уздзеяннем, увагай і падтрымкай... Але сапраўды плённай барацьба з гэтым злом будзе тады, калі мы будзем ведаць яго прычыны. Перш за ўсё — аб'ектыўныя прычыны. Адна з іх, бясспрэчна,— гэта лішак вольнага часу, які чалавек не ўмее

распарадзіцца, незанятасць чалавека, душы чалавечай. Чалавек не ведае, дзе дзець вольны час. Трэба даць работу яго душы, даць цікавы занятак. Каб пасля рабочага дня і ў выхадныя — чалавек знаў, да чаго прыкласці рукі, сэрца, душу, дзе прымяніць свае здольнасці. Адгэтуль вынікаюць задачы — трэба непараўнана шырэй разгортваць усемагчымыя гурткі мастацкай самадзейнасці, гурткі народнага прыкладнога мастацтва, арганізоўваць спартыўныя клубы і секцыі, клубы сустрэч па інтарэсах; адкрываць літаратурна-мастацкія гасціныя або святліцы. На апошнім крыху спынюся падрабязней — тут вялікая роля адводзіцца творчай інтэлігенцыі. Справа гэта ў нас новая, але вельмі перспектыўная, пакуль прыклады адзінкавыя. Па вуліцы Глебкі ў Мінску існуе літаратурна-мастацкая гасціная імя Галубка. Ініцыятар і «дырэктар» гасцінай — мастак А. А. Наліваеў. Існуе ўжо некалькі гадоў, правяла дзесяткі сустрэч з вядомымі літаратарамі, музыкантамі, мастакамі, артыстамі, навукоўцамі. Размешчана яна ў цокальным памяшканні, сціпла, але работа ў ёй праходзіць вельмі патрэбная, ёсць ужо варты пераймання вопыт. Другая літаратурна-мастацкая гасціная адкрылася з паўгода назад у інтэрнаце ВА «Інтэграл». Па маім перакананні, гэтаму пачыну трэба даць шырокую дарогу, аказаць самую дзейсную падтрымку. Асабліва — гасціным або святліцам у маладзёжных рабочых інтэрнатах. Памяшканне для гэтага пры жаданні заўсёды можна вымеркаваць — было б разуменне, якім дабром, якім выйгрышам гэта акупіцца! Я падкрэсліваю: асабліва ў маладзёжных рабочых і студэнцкіх інтэрнатах, бо галоўнае — засцерагчы ад бяды моладзь, не дапусціць — каб маладыя ўцягваліся, пачыналі піць. Дарэчы, і самы строгі, бязлітасны суд трэба вяршыць над тымі, хто спакушае і ўцягвае ў п’янства моладзь.

*25.10.1985*

## КАБ ТВАЁ СЛОВА БЫЛО ПАТРЭБНА ЛЮДЗЯМ
### Інтэрв'ю для газеты «Голас Радзімы»

— Чалавек не можа быць вольным ад грамадства. Таму сусветная прагрэсіўная літаратура сваіх герояў заўсёды разглядала на сацыяльным фоне. Што вы можаце наконт гэтага сказаць?

— Пісьменнік і грамадства, пісьменнік і народ, гістарычнае жыццё-быццё народа... Паяднанне і непадзельнасць гэтых паняццяў для лепшых, выдатных дзеячаў літаратуры было несумненнай ісцінай заўсёды. Сапраўдны мастак слова не можа жыць і тварыць у адрыве, у ізаляванасці ад жыцця грамадства, ад тых вялікіх сацыяльных, палітычных, культурных і іншых праблем, якімі жыве народ, шырокія масы працоўных; не можа быць раўнадушным да надзённых клопатаў і трывог сваіх сучаснікаў — людзей, што з ім разам, побач, на адной зямлі, у адным чалавечым доме. Бо інакш непазбежна ўзнікае справядлівае пытанне: для каго ты, шаноўны, пішаш? Толькі для сябе самога? Ці для зусім вузкага кола такіх жа, як сам, адключаных ад вялікага свету чалавечай супольнасці, літаратурных снобаў? Можна, вядома, ахвяраваць свае здольнасці і на гэткі варыянт «творчага» існавання, можна, сышоўшы ў бок з дарогі шырокіх людскіх настрояў, усесціся і спакойна праседзець усё жыццё на ўласнай эстэцкай купіне. Можна, вядома! Як-то кажуць: вольнаму — воля! Але якая цана такому сядзенню? Каму патрэбны яго вынік? Ды гэта ж відавочнае марнатраўства — нікчэмнае, вартае жалю марнатраўства! І чаму ў такім разе ты, шаноўны-незаангажыраваны, тым не менш прэтэндуеш па грамадскую ўвагу? Ты ж усё-такі прэтэндуеш, калі па шчырасці? Прэтэндуеш хаця б ужо тым, што не сабе пад нос, а ўголас, з разлікам на слухачоў пускаеш філіпікі па адрасе сацыяльна-заангажыраваных, грамадска-актыўных творцаў. Дзе ж у такім разе логіка? Сацыяльную змястоўнасць творчасці адмаўляеш, а ўвагі грамады ўсё-такі хочацца? Зрэшты, логіка ёсць, проста не трэба хітраваць з чытачамі і з самім сабою. Ёсць рашучы і, дарэчы, глыбока заангажыраваны курс на пэўную апрацоўку грамады, ёсць выразная мэта — насаджваць у грамадстве сацыяльную індыферэнтнасць, адчужанасць, індывідуалізм і эгаізм. Для сапраўдных, сумленных мастакоў слова такая логіка — непрымальная.

Што да нашай беларускай літаратуры, то глыбіня і моц сацыяльнага пафасу, грамадскага гучання твораў заўсёды былі яе вызначальнымі рысамі. «З цэлым народам гутарку весці, сэрца мільёнаў падслухаць біцця»,— сказаў яшчэ ў пачатку веку вялікі Купала. Вось — наш шлях і наша грамадскае верую, наша зыходная творчая ўстаноўка і наша вялікая жыватворная традыцыя.

На гэтым стаялі, стаім і будзем стаяць непахісна. З павагі да літаратуры і да здаровага чалавечага розуму. З павагі да таго, што гэта традыцыя нам дала, што мы сёння маем і чым ганарымся перад светам. Што б нам дала нейкая іншая традыцыя — не ведаю. Нейкай іншай, на шчасце, у нашай літаратуры не было і няма.

— Сёння ў пашай літаратуры існуюць такія паняцці, як, напрыклад, «вытворчы раман» ці «вясковая проза», а сярод галоўных літаратурных герояў можна ўбачыць сакратара райкома партыі ці дэпутата Савета. Менавіта з гэтага на Захадзе робіцца выснова аб нібыта утылітарнасці савецкай літаратуры, зніжэнні яе мастацкага ўзроўню. Якое ваша меркаванне?

— Да такіх дэфініцый, як «вытворчы раман», «вясковая проза» і іншыя, з якімі даводзіцца сутыкацца ў бягучай літаратурнай крытыцы, я асабіста стаўлюся насцярожана і прымаю іх толькі як пэўную ўмоўнасць, прыдатную і зручную для размовы аб тэматычнай разнастайнасці і стылёвай шматграннасці сучаснай савецкай літаратуры. Насцярожана таму, што ў дачыненні да «краснага пісьменства» катэгарычнасць дэфініцый ёсць у той ці іншай меры схематызацыя, якая пры разглядзе твора непазбежна вядзе да збяднення яго ідэйна-мастацкага зместу. Апошні заўсёды намнога шырэйшы і багацейшы за ўсякую, нават самую раскаваную схему. Згадаем, напрыклад, такія раманы, як «Неруш» В. Казько, «Алімпіяда» І. Пташнікава, «Сачыненне на вольную тэму» А. Кудраўца. У цэнтры ўвагі кожнага з іх — вёска і людзі вёскі, іх жыццё і праблемы. Але «вясковымі» я назваць іх не магу. Гэта — кнігі пра лёс беларускага народа і беларускай зямлі, пра сацыяльныя, духоўныя, маральныя працэсы, што адбываюцца ў народзе. Ну, а дзе жывуць і працуюць героі... Ды на роднай зямлі жывуць! Тут найперш важна, чым занята душа гэтых герояў, якія іх думкі і клопаты, які іх духоўны свет і як гэта ўсё пададзена ў творы: ці ярка? ці праўдзіва? ці пераканаўча? Калі менавіта так — чытач рад і ўдзячны пісьменніку і менш за ўсё думае: «вытворчы» гэта раман ці яшчэ які-небудзь. Жыццёвая ж прафесія і пасада героя можа быць і самая звычайная, і вельмі рэдкая. У тым ліку, зразумела, герой можа займаць і пасаду партыйнага работніка і быць дэпутатам Савета. Гэта зусім натуральна. У нас у краіне некалькі тысяч дэпутатаў Вярхоўнага Савета і дзесяткі тысяч людзей — дэпутаты мясцовых Саветаў. Гэта — наша жыццё, наш лад, наша савецкая рэчаіснасць, з якой мы, савецкія пісьменнікі, у сваёй творчасці зыходзім. Не прыдумляць жа нам нейкую рэчаіснасць іншую! Кожны пісьменнік у свеце піша ці павінен пісаць пра тое, што добра ведае, што яго цікавіць і хвалюе. Мы — не выключэнне. Мы пішам пра жыццё, якое ведаем, пра людзей,

якіх ведаем, і для людзей, якіх ведаем. Што праўда, цікавіць і хвалюе нас не ўсё. Не цікавіць нас, напрыклад, парнаграфія, і парнаграфічных раманаў у пас ніхто не піша. Не піша — бо чалавек нармальны, псіхічна здаровы і маральна выхаваны не можа апусціцца да, выбачайце, паскудства, не можа дазволіць сабе такую непавагу да літаратуры і да сваіх чытачоў, якіх, паўтараю, ён добра ведае. Так што наконт высноў аб утылітарнасці і нізкай мастацкасці нашай літаратуры можна сказаць: чуем мы гэта ўжо амаль семдзесят гадоў. Яшчэ не надакучыла панам-саветолагам круціць старую шарманку. Няхай! А тым часам лепшыя творы савецкіх пісьменнікаў ідуць па ўсім белым свеце. І ішлі б яшчэ больш шырока, калі б ад страху перад іх жыццёвай праўдай, перад іх сацыяльнымі, грамадскімі ідэаламі не ствараліся штучныя бар’еры, не ўздымалася заслона. Дадам нарэшце для большай яснасці: ёсць у нашым літаратурным побыце і праявы спекуляцыі на нібыта выйгрышнай тэме, пазначаныя нізкім мастацкім узроўнем. Але не бачыць, якую бязлітасную вайну мы абвяшчаем падобнаму утылітарызму самі, можна толькі пры вялікім нежаданні бачыць.

— Работам нашых лепшых майстроў слова заўсёды ўласцівы сацыяльны аптымізм, вера ў лепшае ў чалавеку. Чым, на ваш погляд, гэта абумоўлена?

— Сацыяльны аптымізм нашай літаратуры — гэта адлюстраванне аптымізму, якім прасякнута наша штодзённае жыццё, наш грамадскі лад, заснаваны на прынцыпах сацыяльнай справядлівасці, роўнасці, братэрства. Гэта — адлюстраванне філасофіі гуманізму, чалавекалюбства і жыццялюбства, якую мы вызнаем і сцвярджаем. Вера ў чалавека, у перамогу чалавечнасці і дабра над нялюдскасцю і злом, у несмяротнасць жыцця на зямлі — не толькі на нашым сцягу, але і ў сэрцах у нас, гэта наш светапогляд і наша перакананне, так мы выхаваны. А выхавацелямі, дарэчы, з’яўляюцца і класічная літаратура — айчынная і замежная, і народная творчасць, фальклор. Жыццё чалавека — гэта вялікі цуд, самы каштоўны дар прыроды, і ім трэба бясконца даражыць, значыць — трэба змагацца супраць замаху на жыццё чалавека і чалавецтва. Трэба сцвярджаць і славіць хараство жыцця на зямлі, а не прыніжаць і не абражаць яго. У гэтым сэнсе мы, савецкія пісьменнікі, лічым сябе прамымі пераемнікамі вялікіх гуманістычных традыцый літаратурнай класікі і фальклору. Для чаго ж сеяць бязвер’е і песімізм, пладзіць упадніцкія настроі? Вядома, жыццё для чалавека — не святочны праспект, хапае і складаных праблем, і драм, і трагедый, чалавеку бывае цяжка, нават вельмі. Дык тым больш ён мае права разлічваць на духоўную і маральную падтрымку ад літаратуры!

Аслабляць або і зусім забіваць у чалавеку волю да жыцця — самае ганебнае, што можа спасцігнуць пісьменніка.

— Нашы літаратары часта сустракаюцца з чытачамі. У вас таксама бывае шмат творчых сустрэч. Пра што вы з вашымі чытачамі гаворыце?

— Чытачы на такіх сустрэчах бываюць самыя розныя і тэмы размоў — таксама. Вядома, пісьменнік радуецца, калі з размовы вынікае, што яго твор закрануў душу чытача, усхваляваў яго, абудзіў добрыя, грамадзянскія пачуцці і думкі. Здаралася такую радасць перажыць і мне. Завязвалася неаднойчы сур'ёзная размова аб сацыяльна-эканамічных праблемах жыцця, бывалі ў цэнтры ўвагі пытанні экалогіі, гісторыі, культуры, мовы, школьнай асветы і выхавання, мастацтва і літаратуры. Люблю і паважаю такога чытача, у якога ўзнікаюць да цябе, пісьменніка, пытанні, які ўступае з табой у гаворку і, можа, нават у спрэчку,— адным словам, чытача нераўнадушнага. Добра, што такіх чытачоў многа і што іх колькасць увесь час расце.

*1.10.1985*

## «А ПІСАЦЬ ЁСЦЬ ШМАТ ЧАГО...»

Калісьці, а дакладней — без малога сто гадоў назад, першы вялікі, сапраўды народны беларускі паэт Францішак Багушэвіч, раздумваючы аб праклятай долі-нядолі свайго краю і народа, горка і гнеўна пытаўся: «а пакажы ж, ваша, хоць адну ксёнжачку ці аб гаспадарцы, ці так аб жыцці нашым, каб па-нашаму?» Гэта значыць, каб на роднай мове, па-беларуску. І далей працягваў: «Перадумаўшы ўсё гэта, я, братцы, адважыўся напісаць для вас сякія-такія вершыкі: хто іх спадабае, таму дзякуй! А хто падумае лепш і больш напісаць, таму чэсць вечная і ад жывых людзей і ад бацькавых касцей! А пісаць ёсць шмат чаго...» Дасведчаны ў гісторыі беларускай літаратуры чытач помніць, што словы гэтыя ўзяты з аўтарскай прадмовы да зборніка «Дудка беларуская», выдадзенага за мяжой і пад псеўданімам, паколькі на сваёй Бацькаўшчыне родная мова ў якасці літаратурнай была забаронена, і гэта забарона ўпершыню, і то часткова, была знята толькі першай рускай рэвалюцыяй у 1905 годзе.

Каля ста гадоў назад вялікі паэт быў бы шчаслівы бачыць хоць бы адну беларускую кнігу, напісаную сучаснікам (старых, напісаных даўным-даўно, было шмат). І быў бы рад бачыць сваіх братоў — беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, ведаць, што яны ёсць — яны побач, пішуць кнігі, працуюць на карысць роднаму краю,— і іх нямала, і нішто не гняце ім душу, і ў іх такія ж правы і магчымасці, як і ў больш шчаслівых суседзяў... Пра тыя не так і далёкія часы Багушэвіча, а затым пра час Цёткі, Купалы і Коласа, Багдановіча і Гарэцкага, сёння нам трэба ўспамінаць і думаць часцей. Для таго, каб лепш бачыць і разумець сучаснасць, каб ясней, выразней уяўляць сабе будучыню і глядзець у яе больш упэўнена. Без прамытага болем і абвостранага нераўнадушнай думкай гістарычнага зроку, без мэтанакіраванага пасціжэння сувязі часоў, пакаленняў, лёсаў сур'ёзна працаваць у літаратуры немагчыма. А мы, вядома ж, хочам працаваць сур’ёзна. Мы абавязаны працаваць сур’ёзна. Калі літаратура заўсёды была ў нас грамадскай справай першаступеннай важнасці, то тым больш высокая роль ёй адводзіцца сёння. Сёння — калі лёс твайго народа і тваёй краіны, а значыць, і твой уласны, так спалучаны з лёсам усяго неабсяжнага, супярэчлівага і ўсё больш небяспечна раздзіраемага варажнечай свету, з лёсам амаль пяцімільярднага чалавецтва. І калі Багушэвіч сто гадоў назад, ахопліваючы паглядам і сэрцам мастака сучасную яму рэчаіснасць, гаварыў: «а пісаць ёсць шмат чаго», то сёння гэтыя словы гучаць для нас як мнагакратна ўзмоцненае рэха.

Так, пісаць нам, літаратарам, ёсць шмат аб чым. Час, якому мы належым, ставіць столькі вялікіх і неадкладных задач, такія надзённыя, актуальныя, жыццёва важныя праблемы, дыктуе такія прыцягальныя творчыя задумы,— што толькі паспявай працаваць! Думаю, што іменна з такім, сапраўды грамадзянскім разуменнем і адчуваннем свайго абавязку перад часам, перад чытачом, імя якому Народ, і ўступаюць беларускія пісьменнікі ў новы этап жыцця краіны,— этап яе паскоранага эканамічнага, сацыяльнага і культурнага развіцця. Нам — усім і кожнаму — належыць перабудаваць уласныя настроі думак і пагляды, адносіны да сваіх спраў і абавязкаў з тым, каб зрабіць сваю работу больш паспяховай і плённай, каб мацнейшым і больш адчувальным было ўздзеянне пісьменніцкага слова на грамадскую свядомасць, на маральны клімат нашага сацыялістычнага агульнажыцця. Абы-якое і абы-як напісанае слова нікому дапамагчы не можа.

Такія бескарысныя словы (чытай — кнігі) ні вымаўляць, ні друкаваць не трэба — яны пусты гук. Слова павінна быць ідэйна і мастачка паўнацэнным, важкім, выразным, уразлівым. Дэкларацыі аб вернасці камуністычным ідэалам, аб трываласці ідэйных пазіцый застануцца пустымі і гучнымі фразамі, калі ў творы адсутнічае эмацыянальна і вобразна пераканаўчая мова мастака-майстра. Нельга, немагчыма прымітывам і шэрасцю, агульшчынай і яўным графаманствам мацаваць нашу ідэалогію, сцвярджаць сацыяльныя і маральныя ідэалы нашага грамадства. Няздара здольны толькі скампраметаваць ідэю і пашкодзіць добрай справе. Нашы безадказныя адносіны да гэтага — таксама. Толькі талент у спалучэнні з глыбокай ідэйнай пераканаўчасцю можа паслужыць справе камунізма!

Хочацца спадзявацца, што з гэтага часу мы з усёй прынцыповасцю і вусна і ў друку будзем гаварыць аб тым, што нам вельмі перашкаджае ў рабоце, што па сутнасці тармозіць пастулальнае развіццё літаратурнага працэсу і што мы павінны мужна і рашуча пераадолець. Я маю на ўвазе ў першую чаргу ўжо даўно запанаваны ў нас, на нашу ганьбу і сорам, кампліментарны дух крытыкі, у выніку чаго, у атмасферы крытычнай руціны, наша асяроддзе прыкметна падтачылі шкодныя маральныя немачы і хваробы, з якіх асабліва сацыяльна небяспечнымі з'яўляюцца бессаромны літаратурны падхалімаж, абкурванне фіміямам самазваных «геніяў», даванне хабару ў выглядзе хвалебных рэцэнзій і іншыя непрыстойныя, брыдкія з'явы гэтага ж раду. Ад паспяховай барацьбы з гэтым злом у значнай меры будуць залежыць усе іншыя нашы і поспехі і дасягненні.

# КАБ ЛЮДЗЬМІ МІЖ ЛЮДЗЕЙ ПАЧУВАЦЦА

*Што мы пакінем у спадчыну нашчадкам — наступным пакаленням?*

Як добра, што гэта пытанне стукаецца ў нашы сэрцы ўсё мацней, што размова пра гэта набывае вострааактуальнае гучанне! А калі ж бы ды гадоў трыццаць назад яно было пастаўлена што называецца рубам і — усенародна, у агульнадзяржаўным маштабе? Які неацэнны быў бы выйгрыш для грамадства — сённяшняга і заўтрашняга! Наколькі больш матэрыяльных і духоўных багаццяў мы змаглі б захаваць, зберагчы, перадаць у спадчыну і наколькі б менш мы тымчасове гэтых багаццяў загубілі, зліквідавалі, знішчылі, наколькі б менш мы і нашы нашчадкі страцілі!

Пра спадчыну, якая дасталася і якую трэба перадаць наследнікам, чалавек думаў спакон веку. Апрацоўваў зямлю, даглядаў жывёлу, будаваўся, гадаваў і выхоўваў дзяцей, наладжваў узаемаадносіны з суседзямі і з усім навакольным светам, святкаваў святы, весяліўся або смуткаваў — і пастаянна думаў, турбаваўся: а што ад яго пяройдзе, перадасца ў спадчыну? Чалавек хацеў, каб яго дзеці былі шчаслівыя, шчаслівейшыя, чым ён сам, і ён стараўся пакінуць ім як мага больш і таго, што стварылі рукі, і таго, што напрацавала душа. Само сабой зразумела — і ўсё тое, што дала яму для карыстання і для душы прырода, зямля, на якой ён нарадзіўся і жыў.

Цягам стагоддзяў чалавек думаў і дбаў пра гэта галоўным чынам сам, хаця і раіўся, вядома, і дзяліўся сваімі клопатамі з людзьмі. Але жыццё развівалася так, што гэты клопат усё ў большай меры рабіўся клопатам грамадскім. Рост сацыяльнай і нацыянальнай самасвядомасці пашыраў пагляд на праблему спадчыны як на дзяржаўна-народную. Сапраўды такою, сапраўды грамадскаю гэта праблема стала ў нас пасля перамогі Кастрычніка, з пераходам на новыя эканамічна-сацыяльныя і палітычныя асновы жыцця, з усталяваннем сацыялістычных прынцыпаў ва ўсіх сферах чалавечай жыццядзейнасці. Спадчына — вялікая, галоўная спадчына, — не перастаўшы быць «маёй, уласнай, асабістай», стала «нашай, агульнай, усіхнай». І наша адказнасць за яе, не перастаўшы быць асабістай адказнасцю кожнага, стала нашай адказнасцю агульнай, грамадскай. Вось чаму грамадскасць гэтак нераўнадушна ставіцца да лёсу матэрыяльнай і духоўнай спадчыны сваёй зямлі, сваёй Бацькаўшчыны, чаму яна гэтак зацікаўлена ў па-гаспадарску мудрым вырашэнні ўсіх датычных яе задач.

Каб адказаць на пытанне, што мы пакінем-перададзім наступнікам нашым, трэба, па-першае, добра ведаць, якая спадчына дасталася нам з мінулага, з вякоў, ад продкаў, а па-другое, трэба бачыць і цвяроза цаніць тое, чым мы гэту спадчыну ўзбагацілі самі (калі ўзбагацілі), што дадалі-дапрынеслі са свайго ўласнага працоўнага, сацыяльнага, маральнага і эстэтычнага вопыту. На мой погляд, наша бяда якраз і пачынаецца з таго, што мы ўсё яшчэ слаба ведаем свае мінулае, цьмяна і часам нават вельмі цьмяна ўяўляем, што за багацці маем у сваім распараджэнні, да чаго мы павінны прыкласці душу і рукі, каб творча развіць далей, узмацніць, узбагаціць, упрыгожыць. Чаму слаба і цьмяна — гэтаму ёсць свае вытлумачэнне. У свой час мы далі сябе здорава запалохаць мінулым — мінулым як сімвалам усяго цяжкога, змрочнага, нядобрага. Але ж у мінулым было не толькі зло. Мінулае — гэта наша гісторыя, а ў ёй было і шмат высокага, прыгожага, гераічнага, увогуле яе рухаючай, вядучай сілай была плынь прагрэсіўная, гуманная, гісторыя не спынілася, яна развівалася і развіваецца, — мы працягваем яе развіваць, мы — яе сённяшнія творцы. Як бы бедна, гаротна, цяжка ні жыў у мінулым народ — ён быў народ, ён быў вялікі веліччу творчага духу, высакароднасцю маралі, сілай і хараством таленту, дужасцю веры сваёй, крылатасцю мар і спадзяванняў. Як бы шмат у яго мінулым ні было забабонаў, прымхаў і ўсякага іншага дзікунства — непараўнана больш было мудрасці і святла, шчодрасці і дабрыні, — усяго таго, што склала змест несмяротнай, неўвядальнай і неперасўзыдзенай у сваім хараstве народнай паэзіі — фальклору.

Запалохаўшы, — па наіўнасці, па недасведчанасці, каб не сказаць мацней, — самых сябе, мы пачалі было і цурацца і пазбягаць мінулага цалкам, без разбору, толькі таму, што яно мінулае; пачалі чужацца яго, ігнараваць і грэбаваць ім, адыходзіць ад разумення, што спадчынай — духоўным вопытам і культурным набыткам народа — трэба даражыць як самім жыццём. Расплата за такую бяздумнасць не магла быць лёгкай — мы гэта бачым і адчуваем ужо даўно. Як ні горка прызнавацца, але многія з нас урэшце зусім адарваліся ад духоўнай глебы стагоддзяў, ад народных традыцый і звычаяў, ад літаратурнай і мастацкай класікі, і поўнасцю перайшлі на спажыванне сучаснага культурнага шырспажыву, прывучылі сябе да эрзац-мастацтва, якое — падобна ўсякай бяздарнай пошасці — ідзе ў наступ на чалавека, страшна нахабна, ваяўніча, агрэсіўна. У роздумах і клопатах пра спадчыну, якую мы хочам пакінуць для душы патомкаў, трэба абавязкова помніць пра гэту злую небяспечную сілу, імя якой — антыкультура, — і няспынна, на кожным кроку, абвяшчаць ёй смяротны бой. Многія, — і гэта бачыць асабліва

горка, — не падняліся да элементарнага разумення, што самым вялікім і неацэнна каштоўным скарбам у духоўнай спадчыне народа з'яўляецца яго мова, і ставяцца да гэтага скарбу абыякава, раўнадушна, а то і зусім нігілістычна. Гэта датычыць і тых, што прэтэндуюць, між іншым, на годнасць творцаў нацыянальнай культуры. Якая вартая жалю памылка! Удумацца толькі: таварышы хочуць тварыць нацыянальную культуру ў адрыве ад першаасновы гэтай культуры, ад яе першага і галоўнага элемента — мовы!

Вось і прыкінем цяпер: колькі ж работы чакае ўсіх і кожнага, хто сур'ёзна, не на словах, а на справе хоча клапаціцца пра вялікую і прыгожую спадчыну для нашчадкаў. Работы — непачаты край! Але гэта нікога з нас не павінна палохаць. Калі пра спадчыну думаў і пісаў — на заранку сацыялістычнай эры — Янка Купала, хіба гэтай работы было менш і хіба яна ўяўлялася яму і яго сучаснікам лягчэйшай? Вялікая работа ў імя вялікай мэты абуджае вялікае натхненне. Яно і дапаможа! Мы будзем рабіць гэту работу дзеля таго, каб спадкаемцы нашы, наследнікі нашы людзьмі між людзей пачуваліся, — гэтак жа, як пачуваемся сёння мы; каб радаваліся багаццям-скарбам роднай зямлі і думалі з удзячнасцю, што гэта іхнія продкі для іх зрабілі, зберагл і, захавалі, — гэтак жа, як радуемся і думаем пра сваіх папярэднікаў мы, каб ганарыліся тым, што яны не абы-чые наследнікі і належаць не да абы-якога прапашчага, безыменнага роду, — гэтак жа, як ганарымся за сваё імя і свой род мы.

*19.03.1986*

## НАЙПЕРШЫ КЛОПАТ ДУШЫ І СЭРЦА

На XXVII з’ездзе КПСС было сказана, што перамены і пераўтварэнні, якія павінны адбыцца ва ўсіх сферах грамадскага жыцця краіны, настолькі глыбокія і маштабныя, што па сутнасці з’яўляюцца рэвалюцыйнымі, маюць рэвалюцыйны характар. Гэта значыць, калі мы не забыліся на сэнс слова «рэвалюцыйны», у нашым жыцці многае павінна змяніцца самым рашучым чынам, грунтоўна.

Але ж такія перамены самі па сабе не адбудуцца, іх могуць ажыццявіць толькі людзі. Мабілізаваць людзей на гэтую вялікую ўсенародную справу, памагчы ім зразумець народжаныя часам рэвалюцыйныя задачы — да гэтага і заклікае нас, літаратараў, партыя. Патрэбна незвычайная, грандыёзная па маштабах перабудова грамадскай псіхалогіі, перабудова розуму і настрою мільёнаў. Ад нас чакаюць дапамогі, але пытанне ў тым, ці пачалася гэта перабудова ў самім нашым асяроддзі. Ці ўсе мы ўжо ўключыліся як належыць у гэтую тытанічную, разлічаную на многія гады работу?

Перш за ўсё трэба сказаць пра тое, што сапраўдныя, таленавітыя і сумленныя пісьменнікі і паэты ніколі ад гэтай работы не адключаліся. Яна заўсёды была сэнсам іх жыцця, найпершым клопатам душы і сэрца.

Перабіраю ў памяці вершы і паэмы, напрыклад, Пімена Панчанкі, Сільвы Капуцікян, Мустая Карыма, Міхаіла Дудзіпа, Дзмітра Паўлычкі, Юсцінаса Марцінкявічуса, Анатоля Вярцінскага, Паўла Боцу, Барыса Алейніка, Анатоля Жыгуліна, Яўгеніі Янішчыц, Леаніды Лары, Арві Сійга, Нарыса Шышаева,— не буду пералічваць іншыя імёны, не менш дастойныя, для прыкладу дастаткова і гэтых. Якія гэта добрыя, сур’ёзныя, глыбокія паэты і як іх слова, сказанае і шмат гадоў назад і ўчора, да месца сёння, як патрэбна яно душы чалавечай, каб гэтая душа стала чысцейшай, святлейшай і дабрэйшай, каб чалавек хоць крыху ўзняўся як чалавек вышэй. Не думаю, што такім паэтам неабходна нейкая пераарыенціроўка ў магістральным напрамку іх творчасці.

Таксама, як і празаікам Сяргею Залыгіну, Васілю Быкаву, Васілю Бялову, Рыгору Бакланаву, Валянціну Распуціну, Івану Васільеву, Віктару Астаф’еву, Анатолю Собалеву,— ну, тут пералічваць можна вельмі доўга.

Таксама і такім крытыкам, як Уладзімір Калеснік ці Ігар Дзядкоў. Усяго па краіне гэта многія сотні імёнаў, гэта вялікая магутная разнамоўная літаратура — магутная сваёй праўдай, сумленнем, мужнасцю, выдатная сваёй нязрушнасцю з дарогі, якой яна ішла, ідзе і, вядома ж, будзе ісці далей. Дай толькі, божа, ёй здароўя ды меней усялякіх перашкод на шляху да людзей! Таму

што па нашы ідэалы, на нашы мэты можа працаваць толькі слова таленавітае і сумленнае. Бяздарнае і лжывае — народу паслужыць не можа. А яшчэ, і гэта ўжо залежыць не толькі ад Саюза пісьменнікаў, трэба, каб гэтая таленавітая і сумленная літаратура не адцяснялася і не захінalася ад вачэй чытача багатымі пладамі ўсялякага недастойнага, спекулятыўнага і проста нікчэмнага сачыніцельства. І каб імёны сапраўды добрых паэтаў і пісьменнікаў не замоўчваліся, не заганяліся ў цёмны куток. Спрытных і настырных сачыніцеляў заўсёды было шмат, і меней іх, на жаль, не стала. Падобна, што наадварот. Урокі нашай літаратурнай гісторыі чамусьці на карысць не ідуць. Вунь як мільгалі, грымелі, узносіліся некаторыя вершатворцы ў дваццатыя, трыццатыя гады, потым у саракавыя — пяцідзесятыя. Народ пераконвалі, што яны і ёсць сапраўдныя, больш таго, лепшыя з лепшых, выдатныя, яны, маўляў, і робяць літаратуру. Але мінулі гады, дзесяцігоддзі, і што ж? Каго з іх сёння можна, а галоўнае, варта чытаць?

Але практыка мітуслівага мільгацення прадаўжаецца.

На адрас некаторых чытач проста лямантуе: божа, да чаго ж гэты таварыш ужо надакучыў! Што ні тэлеперадача — зноў ён, і зноў — буйным планам! І зноў — агульныя славясы! Ды пасаромеўся б! Нельга ж гэтак мільгацець! Непрыстойна. Калі ты нават і таленавіты, усё роўна непрыстойна. Таму што ты не адзін у літаратуры, талентаў шмат. Ёсць думка, што гэтыя ўсюдыісныя, нястомныя таварышы валодаюць грамадскай актыўнасцю. Што актыўнасцю — так, але ці трэба яе ўвесь час вітаць як грамадскую? Ці такая ўжо яна каштоўная для грамадства? А калі гэта проста самарэклама?

Аб перабудове цяпер больш гавораць тыя, што цягам доўгіх гадоў балабонілі ўпустую — ці то прозай, ці то вершамі, ці то крытыкай. Але ці здольныя яны на нейкую перабудову і галоўнае — ці будзе з гэтага толк? Напярэдадні XXVII з’езда КПСС і ў першыя дні яго работы адзін вядомы белетрыст паспеў выступіць у друку пяць разоў — на тэму, як ён успрыняў дакументы партыйнага з’езда і як ён думае перанастроіцца. У прыватнасці, ён прызнаўся, што ў выніку пачутага на з’ездзе ён настолькі паразумнеў, што цяпер яму давядзецца мяняць усю канцэпцыю новага рамана. Вось так — адразу будзе мяняць усю канцэпцыю, г. зн. ідэйна-філасофскую сутнасць твора. Як кашулю ці касцюм — памяняў, ды і толькі! Няцяжка ўявіць, чаго каштавала яго ранейшая канцэпцыя ды і чаго будзе каштаваць новая. Звычайная прафанацыя самой ідэі мастацкай творчасці, звычайнае паслужлівае «чего изволите». Пра якую праўду жыцця, пра якія ўрокі праўды можна тут гаварыць? У дадзеным выпадку, як

відаць, мы маем справу са звычайным прымітывам. Але паўстае пытанне: чаму ў пашай такой пісьменнай, такой адукаванай краіне ідэйна плоскае сачыніцельства, эстэтычна і маральна ўбогае, прымітыўнае — каціруецца па рангу Лявонава, Быкава, Бондарава, падтрымліваецца тымі ж рэгаліямі, тымі ж шматтомнымі зборамі твораў і г. д.? Ці ж не бачна або не зразумела, якую гэта наносіць шкоду агульнай справе — справе духоўнага здароўя грамадства? Ці ж не ясна, як такая санкцыянаваная ўраўнілаўка таленту і шэрасці натхняе шэрасць на плоданашэнне?

Сёння задачай надзвычайнай важнасці з'яўляецца павышэнне грамадзянскага гучання нашай паэзіі, яе маральнага пафасу, голасу сумлення. У гэтым імкненні асаблівую актуальнасць набывае творчасць тых паэтаў-класікаў, для якіх толькі што названыя рысы ўласцівы ў найвышэйшай ступені. У рускай паэзіі — гэта, акрамя Пушкіна і Лермантава, вядома ж, Някрасаў, Ясенін, Маякоўскі, Твардоўскі. Але вось пытанне: ці дастаткова мы арыентуем моладзь, у тым ліку творчую, на гэтыя імёны? На тое, што ў іх увасоблена і што за імі стаіць? Нядаўна на экзамене прафесар папрасіў студэнтку рускага аддзялення прачытаць што-небудзь на памяць з Твардоўскага. «Ну, што вы! — адказала яна.— Твардоўскага я не люблю, гэта не мой паэт!» Тое, што ў чытача могуць быць свае густы — зразумела. Але дзіўна, з якой лёгкасцю, без ценю збянтэжанасці гэта было сказана. Нават з нейкім гонарам, з выклікам. «Твардоўскага я не люблю…» Але ж Твардоўскі — гэта сама Расія, гэта рускі народ, гэта сумленне рускай літаратуры і рускай грамадскай думкі сярэдзіны XX стагоддзя! Ёсць імёны, якія сталі высокімі сімваламі, і з гэтым трэба лічыцца, іначай — дрэнна, іначай — цынізм. Калі гаворка ідзе пра такія імёны — гэта ўжо, выбачайце, не проста справа густу. Гэта ўжо справа іншага, намнога вышэйшага парадку — ідэалагічнага, светапогляднага, маральнага. Твардоўскі — глыбокі і неабдымны; усё істотнае ў народным жыцці, народным лёсе ён ахапіў сваім розумам, душой і сэрцам і ўвасобіў у сапраўдным рускім Слове, якое я пішу з вялікай літары. Адыходзіць ад вопыту, ад урокаў Твардоўскага — значыць адыходзіць ад таго, ад чаго паэтам аддаляцца нельга. Адцягваць увагу ад Твардоўскага — значыць адцягваць ад вялікіх праблем народнага жыцця, і непазбежна адцягваць туды, дзе ўладарыць дробнае, другараднае, эгаістычнае, фанабэрыстае… І тады можна забыцца і не думаць пра Чарнобыль, пра яго балючыя ўрокі і думаць толькі пра сябе, клапаціцца перш за ўсё пра тое, «изящно ли пляту я» (Маякоўскі).

У балгарскага паэта-сатырыка Канстанціна Паўлава ёсць эпіграма, якая ў перакладзе гучыць так:

Няхай ад горкіх дум зусім сканаю,
Я нават рад, што высах як шкілет.
Нічога больш агіднага не знаю,
Чым атлусцелы з роскашы паэт.

Гаворка, канечне ж, не толькі пра фізічную атлусцеласць, і менш за ўсё пра гэта. Гаворка пра тое, што да ўсенароднай бяды, як чарнобыльская, нельга дакранацца цукерачна-саладжавымі, пошлымі вершамі.

Ад чаго залежыць паспяховае развіццё літаратуры або, наадварот, што стрымлівае яе развіццё? Пытанне вельмі вялікае, складанае, шматграннае, і коратка адказаць на яго немагчыма. Хацеў бы звярнуць увагу ўсяго толькі на адну грань, якая мне ўяўляецца даволі істотнай. Напрыклад, у нас у Беларусі ўсё больш выходзіць кніг, напісаных кепскай мовай — беднай, канцылярскай, поснай, несакавітай, нацыянальна ненатуральнай, калькіраванай. Выходзяць зборнікі вершаў, якія засмучаюць коснаязыкасцю і элементарнай непісьменнасцю. Асабліва гэта заўважна ў творчасці маладых аўтараў. Ды і кнігі некаторых вядомых пісьменнікаў, шчыра скажам, дэградуюць у моўных адносінах. Але паколькі добрая літаратура на кепскай, беднай мове немагчыма, гэта — аксіёма, то натуральнае пытанне: у чым жа справа, дзе прычына гэтай трывожнай з’явы? Бо калі прычыну не ліквідаваць — як будзе далей развівацца літаратура?

А прычына — галоўная прычына — вядомая: моцнае звужэнне сферы ўжывання роднай мовы ў рэспубліцы, у масах насельніцтва і асабліва — у школах, ужо не толькі ў гарадскіх, але і ў сельскіх. Пісьменнік жыве не ў бязмоўнай прасторы, ён жыве ў асяроддзі пэўнай мовы, якая непазбежна ўплывае на мову яго твораў, мову, якой ён піша. Нядаўна я прачытаў уступнае слова А. Ганчара, якім ён адкрыў IX з’езд пісьменнікаў Украіны, і мне больш чым зразумела, чаму ён з такой вялікай трывогай і такой глыбокай заклапочанасцю гаворыць пра родную мову, пра злачынна непаважныя адносіны многіх чыноўнікаў і мяшчан да гэтага найвялікшага тварэння нацыянальнага духу, да гэтага фундаменту нацыянальнай культуры.

Па маім перакананні, настаў час, калі разгляд гэтага пытання на самым высокім узроўні далей адкладаць нельга. Усе мы ведаем, колькі шкоды нанёс валюнтарызм у сферы эканомікі, гаспадарання, сацыяльнага будаўніцтва. Пра гэта гаварылася і гаворыцца нямала. Ну, а колькі шкоды нанёс ён у галіне культуры, у галіне духоўнай творчасці? Ці ж мы забыліся, як усёй савецкай паэзіі ў прыклад ставіліся графаманія вершы нейкага Панцялея Махіні? Менавіта ў перыяд валюнтарызму ўзмацніўся нядобры крэн у бок, мякка кажучы, бестурботнага стаўлення да лёсу роднай

мовы ў Беларусі, ды і не толькі ў нас, як я зразумеў з выступленняў сабратоў,— на Украіне таксама.

У часопісе «Коммунист» № 8 за гэты год апублікаваны артыкул акадэміка Ю. Брамлея, у заключных абзацах якога гаворыцца: «У ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі КПСС, у рэалізацыі яе непарушных ленінскіх прынцыпаў няма і не можа быць дробязей. Трэба пастаянна помніць, што нацыянальныя з'явы — вельмі далікатная сфера, якая патрабуе вялікага такту, як пры яе вывучэнні, так і асабліва пры вырашэнні практычных пытанняў».

*25.06.1986*

## ЧАС ПРАСВЯТЛЕННЯ

На IX з'ездзе пісьменнікаў Беларусі размова адбылася сур'ёзная, дзелавая, заклапочаная. Але, як і на VIII Усесаюзным, аб самой літаратуры, аб якасці канкрэтных твораў гаварылася параўнаўча мала. У цэнтры ўвагі, бадай, былі пытанні ўзаемаадносін літаратуры з чытачамі, з выдавецтвамі і кнігагандлем; пытанні стану і развіцця нацыянальнай культуры, школы, мовы, адносін да гістарычнага мінулага, да літаратурнай і наогул духоўнай спадчыны.

Гаварылася пра ўсё гэта таму, што залежнасць літаратуры ад грамадскіх умоў жорсткая. Што толку, напрыклад, што таленавіты навеліст Ян Скрыган, чыя творчасць не пасароміла б любую літаратуру свету, выдаў двухтомнік свайго выбранага? Што толку, калі гэта выбранае выйшла тыражом... чатыры тысячы экземпляраў? На дзесяць мільёнаў жыхароў рэспублікі! Або: што толку, што беларускія літаратурна-мастацкія часопісы друкуюць добрыя творы, змястоўныя нарысы і артыкулы аб праблемах эканамічнага, сацыяльнага і культурнага развіцця рэспублікі? Што толку, калі нават некаторыя РДК, не кажучы пра сельскія клубы, не выпісваюць ні аднаго з гэтых часопісаў? Гэта значыць тыя, хто перш за ўсё павінен іх чытаць — людзі сваёй рэспублікі — іх не чытаюць. Аб тым, як мала ў іх чытачоў, сведчаць і мізэрныя тыражы. Дык ці маглі маўчаць і не гаварыць пра гэта пісьменнікі на сваім з'ездзе?

На жаль, далёка не ўсе своечасова зразумелі, што перамены, гэтак званыя арганізацыйна-творчыя, наспелі даўно, і што іх трэба ажыццяўляць, і што ўсяму здольнаму на гэтыя перамены патрэбна падтрымка. Супраціўляльнасць сіл рэтраградскіх нельга меншыць і недаацэньваць. Бо для іх усякая ўступка ў пазіцыі — гэта ўступка ў іх «сацыяльных» заваёвах, да якіх яны надта ж прывыклі. Як-то кажуць — не будзем наіўнымі. На словах яны перамены вітаюць, а на справе — гнуць і будуць гнуць «у тым жа духу». Ранейшы стан рэчаў іх цалкам задавальняў. У тым ліку і небяспечнае для сапраўднай культуры, для духоўнага жыцця краіны пашырэнне атмасферы цярпімасці да культуры масавай, да пошлага духоўнага шырспажыву, да эрзац-мастацтваў. Наступленне гэтага зла несумненна звязана з аслабленнем ідэйнага, партыйнага, народнага пачатку і ў самім жыцці і ў мастацкай культуры. Наша супроцьстаянне яму павінна быць больш моцным, а барацьба — больш актыўнай. І тут нам, літаратарам, ёсць над чым задумацца. Як жа так: праблема ў жыцці стаіць вунь як востра — а ў літаратуры? У беларускай — больш чым нясмела. І ад гэтага сумна. Хто ж

адужае мараль ваяўніча-ашалелага мяшчанства? Хто павінен адваёўваць у яго чалавечыя душы?

Адна з няпростых задач, пра што ішла размова і на нашым з'ездзе,— пераадоленне правінцыяльнага самазадавальнення. Трэба прызнаць, што гэта згубнае для пісьменніка самаадчуванне ўкаранілася ў нас трывала — і не дзіўна: культывавалася ж цягам дзесяцігоддзяў. Дзесяткі гадоў грымелі ва ўсе трубы пра сярэдняе, як пра выдатнае, пра пасрэднае, як пра высока таленавітае, а мерай значнасці было адно: колькасць і таўшчыня тамоў. Гігантаманія — уласцівасць і характэрная рыса таго ж правінцыялізму. На жаль, скарапіс, дакладней — скаравыпечка раманаў, аповесцяў, зборнікаў вершаў не спынілася, працягваецца.

Задача задач, канечне ж,— стварэнне яркіх, моцных кніг пра сучаснасць. Такіх кніг у беларускай літаратуры пакуль што мала. А галоўнае — ім не хапае, я сказаў бы, астаф'еўскага ці распуцінскага бясстрашша «рэзаць праўду-матку», не хапае смеласці і глыбіні сацыяльна-маральнаму аналізуючаму і абагульняльнаму пагляду, нестае філасофскага, скажам сціплей — мыслоўнага пачатку. Ну, а ці шмат у нас, у Беларусі, яркіх, па-сучаснаму напісаных кніг пра далёкае мінулае? Як мірыцца з фактам, што па сутнасці няма беларускай гістарычнай прозы? Некалькі кніг рана забранага смерцю Караткевіча — гэта вельмі мала. Або вось яшчэ актуальная для нас праблема: слабая развітасць публіцыстычных жанраў. Так, імёны некалькіх публіцыстаў падняліся высока, нават ва ўсесаюзным маштабе, гэта праўда. Ну, а ў цэлым? Ці ўсе хвалюючыя грамадства пытанні жыцця ахоплены нашай публіцыстыкай? І ці можна сказаць, што ў нас ёсць вялікі, зацікаўлены, прагны да яе слова чытач?

У сучаснай беларускай літаратуры ёсць вельмі таленавітыя людзі — і ў прозе, і ў паэзіі, і ў драматургіі, і ў крытыцы. Ёсць безумоўныя дасягненні. Але не пра гэта хочацца сёння думаць. Поспехі — яны бачны, за іх турбавацца не трэба. Пра іх пішуць многія. Як правіла — інфармацыйна, павярхоўна, без асэнсавання. А іменна асэнсавання чакае жывы літаратурны працэс — глыбокага, маштабнага.

Наперадзе — небывалая па напружанасці работа,— творчая, арганізацыйная, выхаваўчая. Засароміўшыся ад сяго-таго ў сваім нядаўнім мінулым, наша літаратура павінна на многае адкрыць вочы і, на маё разуменне, рашуча змяніць характар самой размовы з чытачом. Рабіць сёння выгляд, што нічога не здарылася,— калі на наш цудоўны зялёны палескі край звалілася вялікая бяда з непрадбачанымі паследкамі,— не толькі непрыстойна, амаральна, але і злачынна. Калі хто гэтага не зразумеў, не адчуў сэрцам — хай

адкладзе пяро ўбок. Да лепшых, як-то кажуць, часоў, калі зноў можна будзе на паперы і весяліцца, і гарэзнічаць, і ў ладкі пляскаць, прытанцоўваючы. Сёння хочацца бачыць у пісьменнікаў больш грамадзянскай турботнасці і, скажам шчыра, больш мужнасці. Даўно і слушна вызначана: сапраўдны пісьменнік — гэта пісьменнік-грамадзянін, гэта нераўнадушны, палымяны барацьбіт за сцверджанне высокіх сацыяльных ідэалаў і маральных прынцыпаў. Не будзем закрываць вочы: многія з нас, проста кажучы, не тым жывуць, не за тое хварэюць, не аб тым клапоцяцца. Можна ж жыць і недастойна для звання пісьменніка, дробна, па-абывацельску. Жыць, не ведаючы, чаго ты хочаш: як гавараць вялікі сатырык — ці то канстытуцыі, ці залівной сяўружыны з хрэнам. Дзе ўжо тут лезці ў настаўнікі чытачам, народу! А ў пас жа літаратура заўсёды была настаўніцай у жыцці. Як я разумею, пачынаць трэба з гэтага — з пытання да сябе: Чым жывеш? Да чаго імкнешся? Што цэніш і шануеш у жыцці? Што вызнаеш? Пытанне не толькі для пісьменнікаў, вядома.

*20.07.1986*

## КАБ РАСЛА І ДУЖЭЛА НАДЗЕЯ ПЛАНЕТЫ
## Інтэрв'ю для зборніка «Беларусь: 1986»

— Мінулы, 1986, год — значная вяха ў Вашым творчым жыцці: Вы сталі лаўрэатам Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева. Гэта, безумоўна, вялікая падзея і для ўсёй нашай літаратуры. За што Вы ўдастоены высокага звання і ў чым яго асаблівасць?

— Міжнародная літаратурная прэмія імя Боцева ўстаноўлена ўрадам НРБ у 1976 годзе і прысуджаецца адзін раз у пяць гадоў. Што гэта за ўзнагарода і ў якіх мэтах яе ўстанавілі — пра гэта ў Палажэнні аб прэміі сказана дакладна: за рэвалюцыйную паэзію і публіцыстыку. Зусім зразумела, чаму такая прэмія названа іменем Боцева. Не толькі ў балгарскай, але і ў сусветнай літаратуры Хрыста Боцеў — адзін з найвялікшых паэтаў і рэвалюцыянераў, чыё імя замацавалася ў свядомасці многіх пакаленняў, у гістарычнай памяці ўсяго чытаючага свету як сімвал вернасці радзіме і брацтву людзей добрай волі, як найбольш дасканалае ўвасабленне творчага генія народа, як вечны заклік да барацьбы за свабоду, за ажыццяўленне самых высакародных ідэалаў чалавецтва. Хрыста Боцеў явіў сабой дзіўны, рэдкі прыклад адзінства патрыятычнай і творчай мэтанакіраванасці, адзінства паэта і чалавечай асобы, жыцця і творчасці, слова і справы; і слова не толькі паэтычнага: ён быў і бліскучым, палымяным публіцыстам — яго артыкулы, прамовы, заклікі і сёння чытаюцца з такой жа душэўнай адзыўнасцю, як і яго геніяльныя вершы. Хрыста Боцеў увесь гарэў прагай барацьбы за вызваленне яго шматпакутнай радзімы з чужаземнага ярма, ён жыў барацьбой, і толькі барацьбой, і загінуў на полі бою — у бітве з ворагамі.

Натуральна, уся прагрэсіўная сучасная паэзія свету высока цэніць боцеўскія традыцыі — традыцыі свабодалюбства і родалюбства, традыцыі народнасці, дэмакратычнасці, гуманізму. І, бадай, сёння няма ні аднаго сапраўды значнага паэтычнага таленту, які не быў бы ў галоўным блізкі памкненням паэтычнага генія Боцева. Не сумняваюся, што іменна гэта ўлічвалася, калі прысуджалася прэмія яго імя такім выдатным, з сусветнай вядомасцю паэтам, як Ніколас Гільен (Куба), Рафаэль Альберці (Іспанія), Аляксей Суркоў і Расул Гамзатаў (СССР), Ласла Надзь (Венгрыя), П’ер Сегерс (Францыя), Марыо Бенедэцці (Уругвай). Я быў надзвычай рад, калі даведаўся, што разам са мной гэтай высокай адзнакі ўдастоены знакаміты ўкраінскі паэт і выдатны публіцыст Дзмітро Паўлычка.

Хацеў бы падкрэсліць, што, прыняўшы гэту высокую міжнародную ўзнагароду, я не магу не ўсведамляць, што атрымаў яе як прадстаўнік літаратуры, якой належу,— роднай беларускай літара-

туры. Літаратуры складанага, драматычнага, каб не сказаць трагічнага, у мінулым лёсу, літаратуры, якую гісторыя ніколі не песціла ўвагай. Будучы вытокамі сваімі такой жа старажытнай, як і руская і ўкраінская, яна прайшла неверагодна цярністы шлях, але выстаяла і выжыла, каб сёння ва ўвесь голас гаварыць праўду пра свой народ, пра наш час. Не магу не думаць з удзячнасцю пра тых, хто стаяў каля вытокаў нашай літаратуры, хто яе ствараў і ўзвялічваў, у каго я, пачынаючы з буквара, вучыўся і вучуся да гэтага часу. Іменна таму, што лёс беларускай літаратуры па працягу стагоддзяў бы такі нялёгкі і складаны, натхненне яе творцаў жывілася перш за ўсё ідэямі рэвалюцыйна-вызваленчымі і гуманістычнымі, мацавалася верай у перамогу ідэалаў сацыяльнай і нацыянальнай справядлівасці, роўнасці і брацтва. Пералічым хаця б самыя вялікія яе імёны з мінулага і пачатку нашага стагоддзя: бясстрашны выкрываецца подлай, прагнілай самадзяржаўнай сістэмы, паэт і драматург Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч; пераканаы рэвалюцыянер-дэмакрат, стваральнік першай беларускай газеты «Мужыцкая праўда», таленавіты публіцыст Кастусь Каліноўскі; першы ў поўным сэнсе слова народны паэт Беларусі, вялікі праўдашукальнік і заступнік прыгнечанага народа Францішак Багушэвіч; палымяная паэтэса-рэвалюцыянерка, чыёй мужнасці хапіла б не на адзін дзесятак яе пабрацімаў,— Цётка; сумленнейшы і высакароднейшы рыцар роднага слова і беларускай нацыянальнай культуры, з неспатольнай прагай рэвалюцыйнага абнаўлення жыцця і адраджэння бацькоўскага краю, пісьменнік, вучоны і публіцыст Максім Гарэцкі; збалелы ў настальгічных муках, у пакутных марах аб волі і шчасці радзімы, змардаваны царскаю катаргай таленавіты паэт Алесь Гарун; нарэшце, найвялікшыя летапісцы гістарычнага лёсу беларускага народа, волаты народнага духу і мовы, валадары дум абуджаных і абуджаючыся да праўды і святла мільёнаў,— Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч. Вось дзе вытокі тых выдатных традыцый грамадзянскасці, сацыяльнай і маральна-філасофскай значнасці, грамадскай заангажаванасці і дзейснасці, якія так плённа былі прадоўжаны і развіты ў беларускай літаратуры новага, паслякастрычніцкага перыяду — літаратуры сацыялістычнага рэалізму. Хіба не вернасць гэтым традыцыям вызначыла ідэйна-мастацкія пошукі і творчыя дасягненні Цішкі Гартнага і Міхася Чарота, Уладзіслава Галубка і Змітрака Бядулі, Уладзіміра Дубоўкі і Міхася Зарэцкага, Кузьмы Чорнага і Кандрата Крапівы, Платона Галавача і Міхася Лынькова, Піліпа Пестрака і Валянціна Таўлая, Аркадзя Куляшова і Івана Мележа, Петруся Броўкі і Максіма Танка, Аляксея Пысіна і Уладзіміра Караткевіча, Пімена Панчанкі і Васіля Быкава, Янкі Брыля і Івана Шамякіна?.. Калі нават

спыніцца на гэтых імёнах — якая ўражлівая маштабамі і разнастайнасцю талентаў карціна! А за апошнія ж дзесяцігоддзі ў нашу літаратуру прыйшло і трывала у ёй сцвердзілася яшчэ некалькі пакаленняў яркіх не абы-якіх талентаў, чые творы, разам з кнігамі толькі што пералічаных, усё больш выводзяць беларускае мастацкае слова і за межы Беларусі, і за рубяжы Айчыны. Гавару аб гэтым так падрабязна таму, што іменна агульнымі намаганнямі ўсіх — ад дзядоў-прадзедаў да ўнукаў-праўнукаў — дасягнуты тыя поспехі, якія прынеслі беларускай літаратуры пэўнае прызнанне ў свеце. Безумоўна, новая высокая адзнака, якая выпала на долю аднаго з яе чорнарабочых, павінна разглядацца і як ацэнка нашых агульных дасягненняў на ніве літаратурна-мастацкай творчасці, і як знак добразычлівай увагі да Беларусі і беларускага народа.

— Мінулы год увайшоў у гісторыю чалавецтва як Міжнародны год міру. Што канкрэтна было зроблена ў гэты год беларускімі літаратарамі для ўмацавання міру і дружбы паміж народамі?

— Адказваючы на пытанні арганізатараў Шостай сафійскай міжнароднай сустрэчы пісьменнікаў, М. С. Гарбачоў сказаў: «Людзі часам задаюцца пытаннем: што ў наш тэрмаядзерны век можа зрабіць літаратура, што можа мастацтва? На мой пагляд, вельмі многае. І галоўнае — дапамагчы стварэнню такой маральнай атмасферы, калі гонка ўзбраенняў, раздзьмухванне ваеннага псіхозу будуць лічыцца злачынствам супроць права людзей па жыццё». І далей: «Многае можа зрабіць пісьменнік, калі ён узброены сумленным, шчырым і чалавекалюбівым словам».

Мне пашчасціла, у складзе савецкай дэлегацыі, быць удзельнікам гэтага міжнароднага пісьменніцкага форуму і выступаць на ім. І, вядома ж, на гэту, галоўную для ўсіх нас, тэму: што могуць сёння зрабіць для захавання міру і жыцця на зямлі пісьменнікі? У прыватнасці, я гаварыў пра тыя вялікія магчымасці, якія дае пісьменніку ў справе ўмацавання дружбы народаў мастацкі пераклад. Каб супрацоўнічаць і дружыць — трэба на магчымасці лепш адзін другога ведаць,— тады хутчэй рассеюцца вырасльія на няведанні і па яўнай хлусні сумненні, падазрэнні, недавер. А перакладзеныя творы іншамоўных пісьменнікаў,— само сабой: таленавітых і сумленных,— адзін з самых лепшых спосабаў пазнаць тую або іншую краіну і яе народ. Вось чаму так пажаданыя намаганні і пісьменнікаў і кнігавыдаўцоў, скіраваныя на тое, каб перакладная мастацкая літаратура займала ўсё больш значнае месца ў духоўным жыцці кожнай сучаснай нацыі. Бо гэта будуць намаганні — у самым прамым сэнсе слова — у падтрымку і абарону міру на зямлі.

Але нельга недаацэньваць і непасрэднае публіцыстычнае — і вуснае і друкаванае — слова пісьменніка пра мір, аб прыгажосці і каштоўнасці жыцця чалавечага і аб страшэннай злачыннасці тых, хто на гэта жыццё замахваецца. Асабліва калі гэта слова, як сказаў М. С. Гарбачоў, «сумленнае, шчырае і чалавекалюбівае». У гэтых адносінах многія беларускія пісьменнікі на працягу мінулага года папрацавалі нямала і, думаецца, прынеслі свой душэўны дар на алтар міру. Не сумняваюся, напрыклад, што праўдзівае слова Васіля Быкава, з якім ён выступаў перад рознымі аўдыторыямі ў Англіі і Францыі, добра папрацавала супроць шаленства ворагаў міру, за згуртаванне людзей добрай волі ў іх супроцьстаянні пагрозе ядзернай катастрофы. Уразлівымі, як заўсёды, былі публічныя выступленні Алеся Адамовіча ў Вене ў час сустрэчы прадстаўнікоў дзяржаў — удзельніц Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Падобныя выступленні — гэта, па мой пагляд, безумоўнае садзеянне пісьменнікаў таму, каб у свеце павялічылася колькасць цвярозамыслых людзей — людзей сучаснага палітычнага мыслення. Добра разумею сціплыя памеры такога садзеяння, але ж у гэтай справе мы не маем права грэбаваць нават і самай маленькай крыхой. Нават калі гаворка ідзе пра аднаго чалавека, якога ўдалося зрабіць прыхільнікам новага, разумнага, рэалістычнага падыходу да праблем вайны і міру.

Ну, а самая галоўная і важная пісьменніцкая мірабудоўчая справа — гэта ўсё ж яго мастацкая творчасць, яго кнігі, якія сцвярджаюць жыццё і радасць свабоднай працы, паказваюць мужнасць і гераізм савецкага чалавека ў імя свабоды, жыцця і міру, выкрываюць глыбока антычалавечную сутнасць фашызму і яго сучасных паслядоўнікаў,— творы, якія заклікаюць, натхняюць і мабілізуюць на добрыя справы, на працоўныя подзвігі, на высокія, гераічныя здзяйсненні,— творы, якія выкрываюць і паражаюць шматаблічнае зло ў сённяшняй нашай рэчаіснасці — адпаведна ідэйна-маральным патрабаванням часу, духу і задачам перабудовы.

— Беларуская літаратура заўсёды старалася мацаваць інтэрнацыянальныя сувязі з літаратурамі народаў нашай краіны, брацкіх сацыялістычных краін, з прагрэсіўнымі літаратурамі свету. Чым у гэтым плане быў характэрны год мінулы?

— У Праграме КПСС, прынятай XXVII з’ездам партыі, падкрэсліваецца, што мірнае суіснаванне дзяржаў з розным грамадскім ладам — «гэта такі міжнародны парадак, пры якім панавала б не ваенная сіла, а добрасуседства і супрацоўніцтва, адбываўся шырокі абмен дасягненнямі навукі і тэхнікі, каштоўнасцямі культуры на карысць усіх народаў». Да каштоўнасцей культуры,

зразумела, адносяцца і творы мастацкай літаратуры. Гэта — у аспекце міжнародных адносін. З другога боку, у Праграме ленінскай партыі запісана: «Рост і збліжэнне нацыянальных культур, умацаванне іх узаемасувязей робяць больш плённым узаемнае ўзбагачэнне, адкрываюць савецкім людзям самыя шырокія магчымасці далучыцца да ўсяго каштоўнага, што народжана талентам кожнага з народаў нашай краіны». Адсюль — з заключанай у гэтых словах вялікай ісціны нашага часу — выцякае і разуменне намі задач, што стаяць перад пісьменніцкай арганізацыяй у справе развіцця літаратурных узаемасувязей. Бо сапраўды — вялікія духоўныя каштоўнасці створаны і ствараюцца літаратурамі ўсіх краін свету. І гэтыя каштоўнасці, гэта значыць, творы літаратуры, кнігі, мы абавязаны зрабіць набыткам нашых беларускіх чытачоў, нашага народа. І наадварот: мы вельмі і вельмі зацікаўлены ў тым, каб нашы беларускія кнігі, зразумела, лепшыя з іх, як можна далей і шырэй ішлі за межы рэспублікі,— па ўсім шматнацыянальным Саюзе ССР і ва ўсе зарубежныя краіны. У гэтых мэтах мы стараемся, па-першае, устанаўліваць новыя кантакты з пісьменнікамі брацкіх рэспублік і замежных краін, а па-другое — больш клапаціцца пра поспехі ў галіне мастацкага перакладу. Грэбаваць магчымасцямі кантактавання з вялікім літаратурным светам — нельга, не маем права.

— Якімі бачацца Вам інтэрнацыянальныя сувязі беларускай літаратуры ў перспектыве?

— Гляджу на гэтыя сувязі аптымістычна, і мой аптымізм можна лёгка зразумець у святле задач, пастаўленых XXVII з’ездам КПСС у галіне ідэалогіі і культуры, у святле тых палажэнняў Праграмы КПСС, на якія я толькі што спасылаўся. Сам час будзе абавязваць нас думаць і клапаціцца аб расшырэнні і ўмацаванні творчых кантактаў з пісьменнікамі брацкіх рэспублік і замежных краін, аб росце колькасці і якасці ўзаемных мастацкіх перакладаў, аб узаемнай прапагандзе і папулярызацыі лепшых твораў літаратуры.

Час будзе заклікаць нас да гэтага яшчэ і таму, што будзе плённа расці і развівацца сама беларуская літаратура, што бліжэйшыя гады — гэта, я веру, гады яе новага ўзвышэння і росквіту. Бо наша зямля на таленты багатая, а ўмовы для іх нараджэння і самасцвярджэння наступілі вельмі спрыяльныя.

*1987*

# ПАЧАТАК ДОБРАГА ЗРУХУ

Перабудова, і перш за ўсё творчая, пакуль што ідзе ў нас, у беларускай літаратуры, слаба. Не толькі не набірае сілу, а быццам нават і задумалася: а ці варта? Ці варта выходзіць з апатыі, з абыякавасці і бестурботнасці? Некалькі моцных і вострых, у духу часу, вершаў Пімена Панчанкі — занадта мала для жаданай антытэзы. Адзін пераканаўчы прыклад. Роўна год назад на Палессі здарылася вялікая бяда. Мінуў цэлы год — але так і не відаць, што гэта ўскалыхнула, узрушыла нашых пісьменнікаў, што прыкметна паболела ў іх слове заклапочанасці, болю, трывогі. Не пра адчай і не пра паніку гаворка. Не. Але і нельга ж нам пасля Чарнобыля пісаць так, быццам нічога не здарылася, быццам не дадзены ўрок найглыбейшага грамадска-сацыяльнага сэнсу. Быццам нам не стала ў шмат разоў ясней: што ёсць годнасць і што ёсць ганьба, як трэба весці нам нашы справы і як не трэба.

У сувязі з гэтым — зусім коратка пра такую «дробязь» у нашым творчым жыцці, як сумленне. Пяць гадоў назад у кнізе публіцыстыкі «Покліч жыцця і часу» мне давялося выказацца пра гэта — і я прашу прабачэння за цытату: «Наша літаратура стаіць на парозе новага, больш высокага разумення свайго маральнага абавязку. Наспяваюць умовы, у якіх намнога больш, чым яшчэ нядаўна, чым учора і нават сёння, будзе гаварыць сваё слова сумленне. Сімптомы гэтага добрага зруху ўжо адчуваюцца, ужо наяве яго прыкметы. Усё ідзе к гэтаму — к больш адчувальнаму панаванню чалавечага, грамадзянскага, камуністычнага сумлення ва ўсім духоўным жыцці нашага грамадства, і перш за ўсё — у літаратуры і мастацтве». Такі зрух, вядома ж, не па нораву тым, каму незразумела, што значыць жыць і паводзіць сябе ў жыцці сумленна. Бяда, калі ў іх ліку знаходзяцца апекуны літаратурнага працэсу, кнігавыдаўцы, тыя, што могуць уплываць на лёс кнігі і нават на лёс аўтара, Але яшчэ горш, яшчэ большая бяда, калі сам пісьменнік пераступае праз сумленне, здраджвае сваім перакананням, сваім маральным прынцыпам. А менавіта — калі ён свядома гаворыць і піша няпраўду.

У партыйных дакументах апошняга часу акцэнтуецца ўвага на неабходнасці ўзмацніць інтэрнацыянальнае выхаванне ў пашай шматнацыянальнай сацыялістычнай Айчыне. Вялікае і складанае гэта пытанне — інтэрнацыянальнае выхаванне ў сучасных умовах, але пытанне, ад якога адступацца мы не маем права, яно — састаўная частка агульнай задачы па перабудове духоўнага жыцця грамадства. Гаварыць пра гэта заўсёды крыху рызыкоўна — усіх граней у кароткім слове не ахопіш, а скажаш пра адну — прадузятыя таварышы могуць абвінаваціць у вузкім, аднабаковым

поглядзе. Безліч разоў я задаваў сам сабе пытанне: ці можа быць сапраўдным інтэрнацыяналістам і наогул паўнацэнным грамадзянінам нацыянальны нігіліст, які не паважае мову і культуру свайго народа? Я звяртаўся да думак многіх разумнейшых, адукаванейшых людзей свету, але прывяду словы толькі аднаго з іх — аднаго з самых культурных рускіх пісьменнікаў савецкай эпохі К. Г. Ластоўскага: «Па адносінах кожнага чалавека да сваёй мовы можна зусім дакладна меркаваць не толькі аб яго культурным узроўні, але і аб яго грамадзянскай вартасці. Сапраўдная любоў да сваёй краіны немагчымая без любві да сваёй мовы. Чалавек, абыякавы да роднай мовы — дзікун. Ён шкаданосны па самой сваёй сутнасці. Таму што яго абыякавасць да мовы тлумачыцца паўнейшай абыякавасцю да мінулага, сённяшняга і будучага свайго народа».

Але ж мы, па жаль, яшчэ нямала плодзім менавіта нацыянальных нігілістаў. Колькі юных маіх аднапляменнікаў уваходзяць у свядомае жыццё нацыяналіст несвядомымі, не ведаючы сваёй роднай мовы, не цікавячыся нацыянальнай мастацкай культурай, гісторыяй свайго народа. Натуральна, што менавіта гэтыя нацыянальна бясполыя маладыя людзі ўтвараюць асяроддзе, у якім лягчэй успрымаецца ўсялякая ідэалагічная пошасць, лягчэй расцвітае бездухоўнасць, пошласць, цынізм, фарміруюцца антыпатрыятычныя настроі.

Месяц назад мы ў Саюзе пісьменнікаў БССР падводзілі вынікі «Кніжчынага тыдня», і там амаль усе выступіўшыя госці выказаліся з выпадку аднаго адкрыцця, якое вельмі засмуціла іх. Яны даведаліся, што ні ў сталіцы Беларусі Мінску, ні ў адным абласным цэнтры, ні ў адным горадзе і нават гарадскім пасёлку рэспублікі практычна няма ніводнай беларускай школы. Есць англійскія, французскія, іспанскія — а беларускіх няма. Госці выказалі глыбокае шкадаванне і вялікае недаўменне: «Каму і навошта гэта трэба, каб з жыцця адыходзіла старажытная, літаратурна цудоўна распрацаваная, на думку спецыялістаў,— адна з самых мілагучных славянскіх моў?»

Такая на сённяшні дзень моўная сітуацыя ў Беларусі, якая склалася і па аб’ектыўных, і па суб’ектыўных, валюнтарысцкіх прычынах. Такія факты, ад якіх, як вядома, нікуды не ўцячэш, хоць мы і прывыклі абыходзіць іх збоку. Паверце, няма нічога больш цяжкага для душы, чым гаварыць пра гэта перад тварам нашага цудоўнага брацтва. Але і не гаварыць — нельга. Бо ёсць жа неаспрэчная ісціна: без мовы няма і не можа быць літаратуры. Мастацкі ўзровень твора прама залежыць ад моўнага майстэрства пісьменніка, ад багацця і жывасці яго лексікі, натуральнасці гучання фразы. Дзе і як можа беларускі пісьменнік узбагачаць і

ўдасканальваць сваю рабочую мову? Нацыянальная ж мова развіваецца ў натуральных умовах — у быце, у сям'і, у вытворчых адносінах людзей... Ну, а калі гэтых натуральных умоў для яе развіцця няма? Якая ж перспектыва пашай нацыянальнай літаратуры ды і ўсёй беларускай культуры наогул, паколькі мова — першаэлемент культуры? Як вы, спадзяюся, разумееце, для нас сёння гэта — пытанне з пытанняў, мы глыбока заклапочаны моўнай сітуацыяй, што склалася ў Беларусі. Але хіба наш клопат — гэта толькі наш клопат?.. Узаемаразуменне і ўзаемапавага, а калі трэба — і ўзаемадапамога ўсіх нацыянальных атрадаў літаратараў саюза — гэта закон нашага жыцця, нашага брацтва. Нядаўна мы, беларускія пісьменнікі і ўсе патрыёты беларускай культуры, перажылі выпадак, калі раптам, з усёй глыбокахвалюючай ясна-сцю, адчулі, якое ж цудоўнае яно — наша сапраўды нацыянальнае ўзаемаразуменне. Гаворка ідзе пра сціплую публікацыю на старонках «Литературной газеты» вершаў выдатнага беларускага паэта-дэмакрата Алеся Гаруна і артыкула пра яго пад рубрыкай «Да 100-годдзя з дня нараджэння». Мяркую, што большасць з вас не надалі асаблівага значэння гэтай публікацыі — маўляў, усё нармальна, тым больш што вершы выдатныя, а творчы лёс паэта ў поўным сэнсе слова трагічны. Дык вось, гэтая публікацыя не адносіцца да звычайных. Па-першае, ужо амаль 60 гадоў, як творчасць Алеся Гаруна замоўчваецца — з канца 20-х гадоў у Беларусі не выдадзена ніводнай яго кнігі; па-другое, у сябе, па радзіме паэта, стагоддзе з дня яго нараджэння мы так і не змаглі адзначыць. Усё па той жа, дагэтуль непераадоленай, прычыне коснасці і дагматызму.

Але я павінен сказаць і пра тое ў нашай усесаюзнай літаратурнай прэсе і ў дзейнасці праўлення саюза, што нас засмучае, што не памагае ў рабоце, а наадварот — ускладняе сітуацыю. Звяртаюся з просьбай і, калі ласка, зразумейце правільна: больш давярайце ў вырашэнні тых ці іншых пытанняў нам, не лічыце, што вы лепей ведаеце людзей і становішча спраў у рэспубліцы. І прэстыжныя паездкі адных і тых жа таварышаў, і шчодрае прысуджэнне ім жа ўсемагчымых прэмій, і кірмашна-карусельнае мільгаценне адных і тых жа 3-4 асоб з усёй вялікай літаратуры, і, наадварот, вострая крытыка ў друку ці замоўчванне іншых, не менш, а то і больш таленавітых,— усё гэта рэчы, як паказвае жыццё, зусім не бяскрыўдныя. Бо калі, напрыклад, хтосьці выкарыстоўвае ўсесаюзны друк для негатыўнай ацэнкі свайго малавядомага калегі з рэспублікі — пакрыўджаны наўрад ці зможа адказаць з такой жа высокай трыбуны. І застаецца пакрыўджаным. А крыўда, акрамя злосці і варожасці, нічога не

нараджае. Вось і хочацца спытацца: тады навошта ўсё гэта? У імя чаго, браткі, шчыруем?

Цяпер пра некаторыя прыватныя, але вельмі важныя для развіцця нашай літаратуры, практычныя пытанні. У 1988 годзе ў Беларусі выйдзе з друку адна-адзіная «першая кніжачка» паэзіі. Адна — на ўсю 10-мільённую Беларусь! А маглі б выдаць свае вершы дзесяць маладых — як мінімум! І з гэтых дзесяці — глядзіш — два-тры выраслі б у сапраўдных паэтаў! Але няма месца гэтым дзесяці першым, пачынаючым. Няма! Каб даць ім месца — трэба пацясніць дзесяць вядомых ці нават славутых. Але хіба так бывае? Ды і хіба гэта вырашэнне пытання? Чаму маладога трэба выдаваць за кошт вядомага, кніга якога таксама новая і яе чакаюць чытачы?

Каб знайсці выйсце з цяжкага становішча,— яшчэ 25 гадоў назад нарадзілася ў нас ідэя — выдаваць бібліятэчку часопіса «Маладосць»: дванаццаць маленькіх першых кніжак паэзіі, прозы, драматургіі ў год. Здавалася б: як проста і як танна! І што ж? Не было за 25 гадоў ніводнага з'езда ці пленума пісьменнікаў рэспублікі, дзе б не гаварылася пра неабходнасць гэтага выдання, дзе б не прымалася пастанова — прасіць адпаведныя інстанцыі... 25 гадоў! — а бібліятэчкі ўсё як не было, так і няма! Па сённяшні дзень — такое «грандыёзнае» пытанне не вырашана! Нехта недзе запярэчвае,— тлумачаць нам. Дзіўна і незразумела! Хто ж вы, шаноўныя таварышы, і чаму вы так не хочаце, каб у беларускую літаратуру хутчэй уваходзілі новыя таленты?..

Ці вось яшчэ — іншы факт. Гадоў дзесяць назад скарацілі лістаж нашых часопісаў — выданняў Саюза пісьменнікаў Беларусі. З паперай было цяжка ў краіне. Гэта адмоўна адбілася на якасці друку і мастацкім афармленні часопісаў, што ў сваю чаргу прывяло да зніжэння іх тыражоў: дробныя шрыфты чытаць цяжка, непрыемна. Вырашылася ў краіне праблема з паперай, але ніяк не рашаецца праблема з вяртаннем ранейшага аб'ёму нашым часопісам. А нам жа даўно патрэбен новы часопіс!

Пасля сказанага будзе зразумела, чаму ў асяроддзі беларускіх літаратараў таксама захваляваліся, калі пачулі аб стварэнні ў Маскве кааператыўнага выдавецтва. Пытанне пісьменнікі ставяць напрамкі: а ці будзе дазволена нам у Беларусі зрабіць тое ж самае? Асабіста я хачу сказаць наступнае: калі іншага выйсця няма — я таксама за кааператыўнае выдавецтва. Але разам з тым — у душы нейкае пачуццё крыўды, а можа, нават і сораму. Крыўды і сораму за нашу родную дзяржаву. Бо давайце перш за ўсё скажам сабе з усёй шчырасцю, што гэта азначае. А гэта азначае, што дзяржава распісваецца ў сваім бяссіллі і капітулюе перад ёй жа створанай махінай Дзяржкамвыда. Выправіць становішча, нават ва ўмовах

перабудовы, яна не можа. Дзяржаўнае выдавецтва не можа за 3-6 месяцаў ператварыць рукапіс у кнігу, а самадзейнае, выбачайце, кааператыўнае — можа! Знойдзе і машыны, і паперу, і ўсё іншае. Дзіўна і нават вельмі дзіўна! Забюракрацілі кнігавыдавецкую справу да абсурду, да смехатворнага становішча. Каб выдаць жменю вершаў маладога паэта — патрабуецца ў лепшым выпадку тры, а то і пяць, і ўсе сем казачных гадоў. Але ці не хопіць быць у чыіхсьці вачах пасмешышчам? Ці не час пачаць паважаць сябе — сваю вялікую краіну і яе вялікую культуру?

# САЦЫЯЛЬНА-МАРАЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ Ў ЖЫЦЦІ І Ў ЛІТАРАТУРЫ

Крыху больш двух гадоў назад наша краіна ўступіла на шлях карэннай, можна сказаць, рэвалюцыйнай перабудовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця: і ў эканамічнай, і ў сацыяльнай, і ў духоўнай. У дакладзе на студзеньскім (1987) Пленуме ЦК КПСС М. С. Гарбачоў даў вельмі дакладнае растлумачэнне, як мы павінны разумець гэту перабудову; якія яе важнейшыя накірункі. Дазвольце ў сціслым пераказе нагадаць самае галоўнае. Перабудова — гэта рашучае пераадоленне застойных працэсаў і злом механізма тармажэння... Перабудова — гэта апора на жывую творчасць мас, гэта ўсебаковае развіццё дэмакратыі, пашырэнне публічнасці, крытыкі і самакрытыкі... Перабудова — гэта няўхільнае павышэнне ролі інтэнсіўных фактараў у развіцці савецкай эканомікі... Перабудова — гэта рашучы паварот да навукі, дзелавое партнёрства з ёю практыкі... Перабудова — гэта прыярытэтнае развіццё сацыяльнай сферы, пастаянны клопат пра духоўнае багацце, культуру кожнага чалавека і грамадства ў цэлым... І нарэшце, перабудова — гэта энергічнае збавенне грамадства ад скажэнняў сацыялістычнай маралі, паслядоўнае правядзенне ў жыццё прынцыпаў сацыяльнай справядлівасці...

Такая, калі коратка, праграма перабудовы праграма рэвалюцыйнага абнаўлення жыцця ў яе галоўных накірунках і момантах.

Як вы разумееце, размова пра сацыяльна-маральныя праблемы сёння можа весціся толькі ў рэчышчы ідэй гэтага абнаўлення, у святле пастаўленых XXVII з'ездам партыі задач; гэтаксама як і ўся наша наступная творчая і арганізацыйна-грамадская работа павінна паслужыць мэтам перабудовы.

У навагоднім звароце да савецкага народа М. С. Гарбачоў сказаў: «Мы ўступілі на шлях глыбокіх перамен. Гэта наш з вамі выбар. Яшчэ даюць сябе адчуць сілы застою і бесклапотнасці, надзеі каго-кольвечы на тое, што ўсё вернецца ў старую каляіну. Але гэта не шыпіць руху савецкага грамадства па шляху перабудовы. Мы павінны быць цвёрдымі і паслядоўнымі. Ніякіх паслабак мы не можам сабе дазволіць. Ініцыятыва і адказнасць, крытыка і публічнасць, дэмакратыя і дысцыпліна — вось наша палітычная і маральная пазіцыя, эфектыўныя сродкі развіцця сацыялістычнага ладу» («Правда» за 1.1.1986).

Рашучасць і ўпэўненасць, з якою кіраўнік партыі сказаў аб немагчымасці спыніць працэс перабудовы, перадалася мільёнам савецкіх людзей, стала апорай іх працоўнага энтузіязму, а для нас, пісьменнікаў — крыніцай творчага натхнення. Бадай што ніхто з нас не помніць такога спрыяльнага для мастацкай творчасці, для

развіцця эстэтычнай думкі — часу... Але было б недаравальнай памылкай спадзявацца, што калі стала лягчэй дыхаць, дык будзе і лягчэй тварыць, лягчэй жыць у літаратуры. Наадварот! Будзе цяжэй і нават намнога цяжэй, бо літаратура ўключаецца ў вялікую барацьбу — у барацьбу зацятую, зацяжную і непрымірымую. На літаратуру ўскладаюцца велізарныя і цяжэзныя задачы. Каб ажыццявіць глыбокія рэвалюцыйныя перамены ў сферах эканамічнай, сацыяльнай, духоўнай, трэба самым рашучым чынам многае перайначыць у псіхалогіі нашых людзей, у характары іх мыслення, у маральным клімаце грамадства, у сферы ідэалагічнай. Іначай сказаць — патрэбна перабудова душы чалавечай. І тут літаратура можа адыграць ролю неацэнную. Праўдзівае, пераканаўчае слова пісьменніка можа дапамагчы людзям усвядоміць, што, па-першае, так жыць і працаваць, як было дагэтуль, далей нельга, нельга цярпець і мірыцца з тым, з чым дзесяткі гадоў мірыліся, і што, па-другое, жаданых перамен ніхто за нас саміх не зробіць, толькі мы самі — сваёй калектыўнай воляй, агульным намаганнем усіх.

Натуральна, што пачынаць трэба з дакладнага вызначэння, якія гэтыя негатыўныя з'явы, супроць чаго канкрэтна трэба змагацца. Якія ў першую чаргу заганы павінны быць кваліфікаваны як сацыяльна і маральна небяспечныя? Якія першаступенныя, галоўныя прычыны гэтых заган? На грунце чаго прарастае і расцвітае размаітае зло? Бо хаця змагацца патрэбна з усякім злом — і з вялікім і з малым, і з кардынальным і з прыватным — аднак жа сур'ёзная рэалістычная літаратура павінна «глядзець у корань», бачыць галоўнае і ахвяравацца, канечне ж, на гэта галоўнае.

Час прадыктаваў усім нам, сённяшнім грамадзянам краіны, вярнуцца,— можна сказаць,— усенародна вярнуцца да пытання: што адпавядае ідэалам і прынцыпам камуністычнай маралі ў нашым сацыяльным побыце і што не адпавядае? Мы апынуліся перад неабходнасцю не проста задумацца, а ўсенародна загаварыць аб тым, што ў нас рабілася або працягвае рабіцца не паводле маральных пастулатаў грамадства. На многія з'явы і рэчы мы вымушаны паглядзець нанава і па-новаму, многае ўдакладніць, многім паняццям вярнуць іх сапраўдны сэнс і аблічча. Таму што з гэтымі паняццямі адбыліся розныя падмены, на іх напластавалася шмат хлусні, утварылася шмат скрыўленняў.

На жаль, я не магу спыніцца на ўсіх тых сацыяльна-маральных праблемах, якія моцна хвалююць сёння нашу грамадскасць і якія, канечне ж, акажуцца у цэнтры пісьменніцкай увагі на бліжэйшыя гады. Таму я вылучу толькі праблемы першаступеннай, на мой погляд, важнасці. Напрыклад, як

пакончыць у нашым грамадскім жыцці і ў літаратуры з няпраўдай, з хлуснёй і крывадушнасцю, з гэтак званай двайной мараллю. Крывадушнасць стала ў нас вельмі небяспечным злом. Абман, ашуканства, прыпіскі, ліпавыя справаздачы, паказуха і да т. п.— усё гэта ідзе ад крывадушна, ад няшчырасці. Але ж. на хлусні вырастае толькі новая хлусня, а з няпраўды — толькі яшчэ большая няпраўда. Дабро не вырастае. Толькі напачатку можа здацца, што выраслі дабро і поспех. Але рана ці позна фальшывыя дасягненні і перамогі непазбежна будуць выкрыты.

Калі і чаму чалавек пачынае хлусіць — чалавек дзяржаўны і на дзяржаўнай службе? У навуцы — чалавек вучоны? У літаратуры — паважаны таварыш аўтар? Чаму, ведаючы, што гэта няпраўда, фікцыя, абман, чалавек сцвярджае, піша, гаворыць, што гэта — праўда, поспех, перамога? Што прымушае яго да гэтага? Ну, відаць, ізноў жа страх, толькі ўжо страх іншы — страх за пасаду, за цёплае месца; затым, напэўна, прагавітасць — прага нажывы, прывілеяў, дастатку; затым — славалюбства, прага рэгалій, узнагарод, рэкламы і г. д. Ну, а чаму чалавек не баіцца пакарання за няпраўду? А таму, што ведае: недзе вышэй ёсць той, каму яго хлусня патрэбна. І той яму за хлусню ўдзячны і пры выпадку — заступіцца. А чаму ён не баіцца суда маральнага? А вось гэта ўжо пытанне да ўсіх нас...

Асабліва горка бачыць, як фальш і крывадушнасць наскрозь выядаюць душу людзям маладым, ператвараючы іх у цынічна беспардонных дэмагогаў, якія на трыбуне заклікаюць да аднаго, а сышоўшы з трыбуны робяць зусім другое. 5 мая г. г. «Комсомольская правда» змясціла допіс «Шашлык у цесным коле», чытаць які проста страшна. Кіраўнікі камсамола г. Рэзекнэ і прадстаўнікі ЦК ЛКСМ Латвіі праводзілі семінар камсоргаў. Вечарам пакінулі ўдзельнікаў семінара глядзець відэазапіс конкурсу палітычнай песні, а самі — замкнуліся ў пакойчыку, дзе жлукцілі гарэлку, віно, смажылі шашлыкі, а затым прынеслі відэамагнітафон і, як піша аўтар нататкі, «ад сладастрасных сцэн на экране не маглі адарвацца». Вось так: вы, маса камсамольская, якую мы сабралі вучыць розуму, глядзіце конкурс палітычнай песні, запіваючы мінералкай, а мы ў гэты час будзем глядзець «клубочку» — запіваючы саракаградуснай. А назаўтра ў зале адзін з гэтых камсамольскіх лідэраў прачытаў камсоргам лекцыю «Ідэалагічная барацьба і моладзь», пры гэтым, цытую: «надзвычай прыгожа гаварыў аб безыдэйнасці «металістаў», «панкаў», асуджаў чыюсьці амаральнасць і двудушнасць і «быў сустрэты бурнымі апладысментамі». Такія вось норавы ўкараніліся ў побыце некаторых важакоў нашай камсамольскай моладзі. Я сказаў: «некаторых», але баюся, што тут лепш падышло б іншае слова —

«многіх», і нават «многіх-многіх». А ў выніку?.. Працытую два радкі з М. С. Гарбачова: «І часам атрымліваецца: чалавек чуе адно, а ў жыцці бачыць другое. Пытанне тут сур'ёзнае і не толькі выхаваўчае, але і палітычнае».

Мы хочам зрабіць наша грамадства духоўна высакародным, у якім будуць панаваць законы сумлення, маральнай чысціні, чалавечай годнасці. А як мы думаем дасягнуць гэтага? Хлуснёй або палавінчатай праўдай, якая горш за хлусню? Заганяючы праўду ў закуткі свядомасці? Пакідаючы яе для размовы тэт-а-тэт — удваіх? Не дапускаючы яе на публічную трыбуну? Манапалізуючы права на ісціну ў апошняй інстанцыі?.. Так можна дасягнуць толькі таго, чаго мы дасягнулі: застою ў сферах эканамічнай і сацыяльнай, няшчырасці і раздваення асобы — у сферы маральнай.

Асабліва небяспечным злом трэба лічыць парушэнні прынцыпу сацыяльнай справядлівасці. Гэтых парушэнняў у нашым жыцці назіраецца безліч, чым перш за ўсё і абумоўлена паніжэнне маральнасці ў пэўных слаях насельніцтва, пашырэнне такіх агідных з'яў, як закаранелы эгацэнтрызм, чыноўная фанабэрыя, легальнае казнакрадства, усёдазволенасць, хцівасць, пошласць, цынізм і г. д.— аж да адкрытага антыпатрыятызму і здрадніцтва. Нядаўна на канферэнцыі журналістаў Масквы быў прыведзены такі факт — цытую па газеце «Правда» (за 9.2.1987); «Журналісты «Московской правды» пачалі расследаванне: што такое сталічныя спецшколы і хто ў іх вучыцца? Высвілася: многа дзяцей кіраўнічых таварышаў. З першага класа ездзяць на вучобу ў службовых аўтамашынах. Іншы раз гэта не школы, а палацы з райскімі куточкамі, фантанамі, басейнамі. Дык вось уплывовыя таты, дазнаўшыся аб расследаванні карэспандэнтаў, спалохаліся, атакуюць рэдакцыю і МГК КПСС. Ціснуць, граюць мускуламі: «Спыніце!..»

Маскоўскія журналісты гавораць пра спецшколы, а ў пісьмах працоўных, што друкуюцца на старонках цэнтральных газет, выказваецца абурэнне наконт многіх устаноў са словам «спец» у пачатку назвы,— устаноў, якія замацоўваюць і падтрымліваюць неўпрыкмет створаную сацыяльную іерархію. «Чаму,— пытаецца Наталля Скарадзелава з горада Выкса,— ад чалавека патрабавалі, патрабавалі, на словах абяцалі, а на справе ўтварылася ў грамадстве як бы некалькі слаёў маралі, дысцыпліны, адказнасці нарэшце?» («Советская культура» за 5.3.1987). Вось аб гэтым расслаенні маралі мы, беларускія літаратары, пішам яшчэ, на жаль, малавата. Мала ў нас твораў, у якіх бы ярка і пераканаўча было паказана, як сацыяльная іерархія разбэшчвае людзей, народ, нацыю, як адступленне ад рэвалюцыйных ідэалаў і маральных

прынцыпаў сацыялізма прыводзіць да сацыяльна-класавага і палітычнага перараджэння.

Сацыяльныя і маральныя праблемы сёння як ніколі цесна звязаны ў адзін вузел, які і рассекчы магчыма толькі разам. Не можа лічыцца здаровай і жыватворнай мараль, якая дапускае сацыяльную несправядлівасць, а значыць — і сацыяльную крыўду. Мараль, у якой мала спагады і спачування,— таго, што калісьці называлася ўжо амаль забытым словам «міласэрнасць». Мараль, якая затуманена шкоднымі для духоўнага здароўя грамадства ідэйна-палітычнымі міфамі.

Складанасць і адказнасць гістарычнага моманту, які перажывае наша краіна, патрабуюць ад усіх нас называць рэчы сваімі імёнамі. Многія вялікія беды здарыліся іменна таму, што зло не называлі злом, што абыходзіліся хлуснёй, замоўчваннем, недаказанасцю — у імя нібыта нейкіх вышэйшых інтарэсаў. На паверку гэты вышэйшы інтарэс нярэдка зводзіўся да аднаго «страшнага» пытання: а што пра нас падумаюць і скажуць там — за мяжою? Толькі загаварылі пра жыццёва важную і даўно набалелую праблему — як тут жа адразу: стоп! «Вось бачыце: там — падхапілі, цытуюць вас! Так што — задумайцеся!..» Ну, і задумаліся, і замоўклі. І што? Будзем маўчаць? Не будзем падымаць і публічна абмяркоўваць наспелыя балючыя пытанні? Будзем заганяць хваробу далей унутр? А як жа ў такім разе будзе развівацца арганізм грамадства? Які будзе яго рост, і моц, і сіла?

За самы апошні час ужо неаднойчы было выказана ўдзячнае прызнанне савецкай літаратуры за тое, што яна — сіламі сваіх лепшых творцаў — рыхтавала маральна-псіхалагічную глебу для перабудовы, спяліла ўмовы і тым самым набліжала час гэтых незвычайных рэвалюцыйных перамен. Зразумела, што добрага слова заслугоўваюць перш за ўсё тыя аўтары, якія таленавіта, шчыра і мужна адлюстроўвалі ў сваіх творах праўду жыцця і для якіх вернасць свайму чалавечаму і грамадзянскаму сумленню была вышэй за ўсё іншае. Зразумела і тое, што такіх праўдзівых, сацыяльна змястоўных, грамадска значных твораў магло б быць больш, калі б на агульным стане літаратуры не адбілася, як сказана ў дакладзе М. С. Гарбачова на студзеньскім (1987) Пленуме ЦК КПСС, «ідэалогія і псіхалогія застою». Давайце яшчэ раз — разам — паспрабуем унікнуць у сутнасць крытычных ацэнак, заўваг і высноў, якія прагучалі з трыбуны Пленума. Чытаю паасобныя вытрымкі з даклада кіраўніка партыі: «Знізіліся крытэрыі ў ацэнках мастацкай творчасці. Гэта прывяло к таму, што побач з творамі, у якіх падымаліся сур'ёзныя сацыяльна-маральныя праблемы, адлюстроўваліся рэальныя жыццёвыя калізіі, выходзіла нямала пасрэдных, безаблічных твораў, якія нічога не давалі ні

розуму, ні пачуццям. Узмацнілася пранікненне ў савецкае грамадства стэрэатыпаў з буржуазнай масавай культуры, якая павязвае пошласць, прымітыўныя густы, бездухоўнасць». І далей: «У дзейнасці творчых саюзаў не хапала прынцыповасці, патрабавальнасці, сапраўднага клопату аб развіцці і падтрымцы талентаў. Часта пытанні першаступеннай важнасці, якія датычаць стану сферы культуры, заставаліся без належнай увагі з боку кіраўніцтва саюзаў. І ў той жа час расцвілі казёншчына і фармалізм, паявілася крайняя нецярпімасць да крытыкі. У шэрагу выпадкаў непамерныя амбіцыі сталі браць верх над рэалістычнымі ацэнкамі і самаацэнкамі».

На вялікі жаль, усё сказанае вышэй у поўнай меры датычыць і нас з вамі, жыццядзейнасці нашай пісьменніцкай арганізацыі, сучаснага стану беларускай літаратуры. Таму і ўяўляецца, што наша сённяшняя размова павінна быць у вышэйшай ступені самакрытычнай. Як-то кажуць, адкладзём падлік дасягненняў і поспехаў на пасля — да лепшых часоў.

Гэта, вядома, не азначае, што ў падрыхтоўку перабудовы беларуская літаратура не ўнесла свой уклад і што ў гэтым плане ёй няма чым пахваліцца і нават паганарыцца. Дазволю сабе сёе-тое шаноўным чытачам напомніць. Напрыклад, вось гэты, апублікаваны больш чым трыццаць гадоў назад, верш:

Станкоў не знаюць, араць не ўмеюць,
Да воза з гноем не йдуць і блізка.
Разумнае, вечнае, добрае сеюць
Між мас працоўных амаль з калыскі.

Ідуць насустрач грашовай справе,
На пафас голы яны не клюнуць.
Маліцца будуць, калі ты ў славе,
Калі ты ў горы — з насмешкай плюнуць.

Разлік дакладны ды плюс удача,
Паклон начальству ды жартаў крышку —
Глядзіш і стаўка, а там і дача,
Грунтоўны базіс ашчаднай кніжкі.

І, ўладкаваўшыся адмыслова,
Чужыя думкі прыстойна крадуць.
Зусім забылі жывое слова
І занядбалі людскую праўду.

Застылі твары кароўім лоем,
Нос падпірае тупая веліч.

Глядзяць з пагардай на ўсё малое,
Балбочуць нешта ды ружавеюць.

А хто памкнецца іх быт парушыць,
Адразу трапіць у іх засаду:
Яны аблаюць, яны заглушаць,
Яны задушаць салідным задам.

Іх распазнаюць людскія вочы,
Ні ў якіх норах ім не схавацца.
Мы гэта зробім, калі не хочам
Да прыстасаванцаў прыстасавацца.

Так, гэта строфы са знакамітых «Прыстасаванцаў» Пімена Панчанкі. У рэдакцыі першай, лімаўскай, публікацыі. Трыццаць з гакам гадоў прайшло з таго часу — а гучыць так, нібы сёння напісаны, нібы прадыктаваны ідэалагічнымі задачамі перабудовы, ці не праўда? І як шкада, што такі ювеналаўскай сілы сатырычны гнеў не выкарыстоўваўся належным чынам для сацыяльнага і маральнага выхавання! Не помню, каб артысты чыталі яго са сцэны, ці з эфіру, ці з экрана. А ўявім на імгненне, які быў бы выхаваўчы плён, калі б гэты верш гучаў па радыё літаральна кожную раніцу — як гэная фіззарадка. Наколькі менш было б сёння ў Беларусі прыстасаванцаў, бюракратаў, дармаедаў, выхапняў!

Прыгадаем і аповесць Аляксея Кулакоўскага «Дабрасельцы», апублікаваную ў 1958 г. і фактычна выкінутую на дзесяткі гадоў з літаратуры. Дабрэнная, вартая высокай пахвалы была кніга! Таленавіта, праўдзіва, і галоўнае — своечасова паказаў Кулакоўскі, якая бяда насоўваецца на нашу вёску, які ў ёй пачынае панаваць злачынна-шкодны тып бессаромнага п'яніцы і дэмагога, што разбэшчвае сваёй амаральнасцю ўсіх і ўсё. І зноў жа міжволі падумаеш: а калі б тады хапіла ў адказных таварышаў мудрасці і, замест аб'яўленага ёй астракізму, яе паставілі ў прыклад іншым? Ды ўвесь час перавыдавалі, ды прымусілі ўсіх сельскіх і раённых начальнікаў прачытаць яе?!.

А ўспомнім выступленне Васіля Быкава аб праблемах рэалізму на 5-м з'ездзе пісьменнікаў Беларусі ў I 966 годзе. К таму часу ў беларускай літаратуры аб вайне ўжо адбыўся яго знакаміты быкаўскі прарыў да праўды. З ланцугоў акружэння, якое мацавалася аб'яднанымі сіламі схематызму і зададзенасці, псеўдарэалізму і псеўдарамантызму, ён вырваўся на стратэгічны прастор строга рэалістычнай, безаглядна праўдзівай творчасці. Быкаў тады быў ва ўзросце нашых сённяшніх саракагадовых, і жылося яму — ах як нясоладка ў асадзе арганізаванага ўмелыдамі-спецыялістамі

ганення. Але ён, прайшоўшы загартоўку ў гарніле народнага сумлення, не зламаўся, і з трыбуны з'езда ягоны голас прагучаў як выбух бомбы... і зноў жа з горыччу думаеш: у зале тады многія дружна, адкрыта падтрымалі яго пазіцыю, чым засведчылі гатоўнасць нашай літаратуры працаваць на сённяшнюю перабудову, але ж не падтрымалі тыя самыя ўмельцы-спецыялісты, і ў выніку рух эстэтычнай думкі ў нас, а галоўнае — мастацкай практыкі пэўным чынам прытармазіўся, замарудзіўся.

Чаму сёння ёсць патрэба ўспомніць гэтыя паказальныя факты нашай нядаўняй літаратурнай гісторыі, гэтыя своеасаблівыя вехі на няпростым шляху нашага грамадзянскага сталення? Ды таму, што ўрокі мінулага ўвогуле забываць нельга, з іх абавязкова трэба рабіць разумныя высновы, каб не паўтараць сёння і заўтра памылкі папярэднікаў, не рабіць новыя глупствы. Апрача таго, супастаўленне мінулага з нашым днём сённяшнім ёсць лепшы спосаб убачыць і зразумець, якія бязмежныя рэальныя магчымасці для плённай творчасці адкрыў усім нам абвешчаны партыяй курс на перабудову

Я спаслаўся на факты ў пэўным сэнсе выключныя, але спяшаюся сказаць, што і ў цэлым беларуская літаратура апошніх двух-трох дзесяцігоддзяў — гэта не толькі застой і руціна, як можа хтось скарапалам падумаць, не толькі шэрасць, хаця, вядома, і гэтага «дабра» ў ёй хапае. Разумны гаспадарскі погляд вымушае прызнаць, што і ў акрэслены перыяд у нас паявілася нямала твораў, якія і сёння добра кантактуюцца з душой чытача і будзяць яго сумленне, твораў, проста кажучы, выдатных і добрых, якія значна ўзвысілі аўтарытэт усёй нашай літаратуры і якія мы, ахопленыя настроем абнаўлення, успамінаем з удзячнасцю. У таго ж Пімена Панчанкі, якога я цытаваў, ёсць не толькі «Прыстасаванцы». Прачытайце ўсё, што ім напісана за перыяд пасля XX з'езда КПСС — усе яго кнігі. Вы не знойдзеце ў іх ні аднаго верша, пра які можна было б сказаць: гэта — сёння не гучыць, састарэла! Увогуле, яго сапраўды грамадзянская і гуманістычная ідэйная пазіцыя, не кажучы пра яркасць таленту і майстэрства, выклікае пачуцці самай глыбокай павагі і захаплення. І невыпадкова, што менавіта ён першы прыняў раўненне на заклік перабудовы і задаў у паэзіі новы тон. Пачытайце вершы і паэмы 70-х гадоў Аркадзя Куляшова — якой гэта магутнай інтэлектуальнай і эмацыянальнай сілы таран супроць усялякай мярцвячыны на дарозе жыцця, супроць страхалюднага бюракратызму і раўнадушнасці, коснасці і руціны! Пачытайце вершы апошніх кніг лірыкі Максіма Танка — гэтыя дзіўна яркія іскры з неаслабна напружанага току яго роздуму аб жыцці і часе. А крута замешаная на салдацкай мужнасці і

сціпласці, на чалавечай міласэрнасці і нацыянальнай годнасці, ачышчаная болем за лёс народа ад фальшывых памкненняў і гукаў лірыка незабыўнага Аляксея Пысіна! А несціхана балючыя мары пра шчасце роднага краю Уладзіміра Караткевіча! А шчырая, пранікнёная песня-споведзь Еўдакіі Лось — пра турботы і клопаты жаночага сэрца, сэрца каханай, сястры, маці!.. Хіба ўсё гэта не дапаможа сучасніку адкрыць сваю душу насцеж — насустрач свежым, веснім вятрам абнаўлення?.. Гэта — усяго некалькі, на выбар, імён, і толькі ў паэзіі. А паставім побач вялікую і з вялікай літары Кнігу сучаснай беларускай літаратуры — «Палескую хроніку» Івана Мележа,— глыбока праўдзівую эпапею народнага жыцця, з рэдкім мастакоўскім і чалавеказнаўчым пранікненнем у лёс людзей на балоце, а па сутнасці — у лёс усяго беларускага сялянства, беларускай вёскі. Ды паставім аповесці і апавяданні Янкі Брыля, неадменна прасветленыя трохі тужлівай марай аб гарманічна прыгожых, высакародных людзях,— марай і верай, што такія людзі на свеце ёсць, на свеце — і нашай роднай зямлі таксама. Ды кнігі несправядліва прызабытага Аркадзя Чарнышэвіча — мастака адметнага, удумлівага і з дакладным сацыяльным бачаннем. Ды кнігі гэтаксама недаацэненага Міколы Лупсякова — дасканалага знаўцы жыцця і побыту самага рознага працоўнага люду. Ды забойчай сілы камедыю Кандрата Крапівы «Брама неўміручасці»,— бязлітасна з'едлівую сатыру на пачварныя адхіленні ад сацыяльных і маральных ідэалаў нашага грамадства. І само сабой зразумела — паўтара дзесятка аповесцей Васіля Быкава, пра якога толькі што гаварылася. Вось ізноў жа — усяго некалькі імён з прозы і драматургіі, з якімі несумненна звязаны працяг і развіццё лепшых традыцый беларускай савецкай класікі, а менавіта — традыцый праўдзівасці, народнасці, дэмакратычнасці, грамадзянскай сумленнасці і мужнасці.

Пра тое, што нам, сённяшнім чорнарабочым літаратуры, ёсць у каго павучыцца і дэмакратычнасці, і мужнасці, і рэвалюцыйнай непрымірымасці да бюракратызму, могуць пасведчыць наступныя радкі з адной беларускай аповесці, напісанай яшчэ ў канцы 20-х гадоў: «...Агульначалавечае шчасце можна толькі заваяваць у жорсткім змаганні. Мы яго заваёўваем, але яшчэ не заваявалі. Але ў нас ужо і цяпер ёсць такія, што забяспечылі сваё асабістае існаванне, засеўшы ў кабінетах сацыялістычнай дзяржавы. Яны мысляць, што іхняя місія скончана і што яны маюць права на сваю долю шчасця ад таго агульнчалавечага. Яны сёння гатовы ўжо сесці ў мяккія крэслы сваіх кватэр, у якія (крэслы) так шчыльна ўмяшчаюцца іх таўстыя зады, і ўспамінаць аб бітвах рэвалюцыі, як пра нешта мінулае. Яны гатовы скрозь вывесіць шыльды з лозунгамі аб рэвалюцыі і заваяваным ёю, назваць вуліцы гарадоў

імёнамі вялікіх рэвалюцыянераў, абвясціць сацыялізм пабудаваным... Яны гатовы ўвагнаць сацыялізм у форму бронзавых і гіпсавых статуэтак і помнікаў, каб гэтым паралізаваць яго дзейсную сілу».

Калі, зачытаўшы гэтыя радкі, я спытаў на адным сходзе, хто іх напісаў,— нехта з прысутных у зале адказаў: Ленін. Напісаў іх, канечне, не Ленін, а выдатны беларускі пісьменнік Платон Галавач, аднак вельмі паказальна, што было названа імя правадыра рэвалюцыі. Таварышы адчулі, што і пафас, і гучанне радкоў — ленінскае. Што гэта, несумненна, ленінская пазіцыя. Так глыбока і арганічна быў прасякнуты іх аўтар ідэямі і духам ленінізму.

Што і казаць: як бы добра было ў нашых часопісах сёння прачытаць моцныя, мастачка яркія творы, у якіх усё ад Леніна: ленінская партыйная прынцыповасць, ленінская бескампраміснасць у змаганні за ідэалы сацыялізма, ленінская бясстрашнасць перад тварам: праўды! Мы цягам цэлых дзесяцігоддзяў голасна і ўрачыста гаварылі, што жывём і працуем з Леніным у сэрцы,— гаварылі так часта і так лёгка, што ўжо амаль механічна, амаль не задумваючыся: а ці заўсёды гэта так? А ці сапраўды — ва ўсім і ўсюды мы зверыем свае думы і справы па Леніну? Пытанне не здымаецца і сёння; бо калі б мы паслядоўна і непахісна ва ўсім ішлі ад Леніна — перабудова ў краіне разгортвалася б куды больш рашуча і зрухі былі б куды больш прыкметныя. У краіне — і, зразумела, у літаратуры.

Наколькі сур'ёзна і блізка да сэрца прынялі перабудову дзеячы савецкай літаратуры і мастацтва, наколькі глыбока зразумелі яе неабходнасць, могуць сведчыць наступныя радкі з артыкула вялікага акцёра нашай эпохі Міхаіла Ульянава: «Або мы пойдзем далей да канна, або спынімся на паўдарозе, згорнем гэту перабудову, і тады зноў — балоцістая нерухомасць, дрыгва, з якой нам ужо не выбрацца ніколі» («Советская культура», 7.2.1987).

Цяпер вельмі часта і ў друку і па тэлебачанні — ставіцца пытанне: а як трэба разумець перабудову ў літаратуры і ў літаратурным жыцці? Напэўна, так, як і ва ўсім іншым: рэзка павысіць патрабавальнасць да сябе. У творчасці гэта азначае: пісаць праўду, і толькі праўду, у жыцці — строга кіравацца прынцыпамі камуністычнай маралі. Як-то кажуць: проста і ясна. Але гэта на словах. А на справе? Як, скажам, перайсці на бескампрамісныя ў дачыненні да жыццёвай праўды пазіцыі? Што для гэтага трэба зрабіць? Думаю, што без масавага забойства тут не абысціся. У Беларусі ў актыўным творчым страі некалькі сот пісьменнікаў. Дык вось трэба задушыць некалькі сот баязлівых і нікчэмных рэдактараў. На кожнага прыпадае ўсяго толькі адзін — не больш. Вы здагадаліся, што размова ідзе пра рэдактара, які

сядзіць у кожным з нас. Раней, чым узненавідзець рэдактара выдавецкага — узненавідзь свайго ўласнага ў самім сабе, перамажы яго і пачні пісаць, гаварыць перад чытачом так, як глыбока набожны чалавек гаворыць на споведзі, дзе і самая малая няпраўда-хлусня выключаецца. Акадэмік Д. С. Ліхачоў нядаўна пісаў: «Літаратура — гэта сумленне грамадства, яго душа. (...) Літаратура, у якой не б'ецца трывога сумлення,— гэта ўжо хлусня. А хлусня ў літаратуры, пагадзіцеся,— горшы від хлусні». Т далей: «У літаратуры за апошнія дзесяцігоддзі ўзяў верх дух спажывецтва. Паявілася тэндэнцыя пісаць на продаж, тое, што пройдзе напэўна» («ЛГ», 1.1.1987).

Так, адбылося пэўнае разбэшчанне маральнай свядомасці пісьменніка. Ён і сам ведае, што напісанае ім — не зусім праўда, а можа, і зусім няпраўда, але таксама ведае, што менавіта гэта пройдзе праз усе Сцылы і Харыбды, будзе надрукавана, спадабаецца «княгіні Мар'і Аляксееўне» і прынясе добрыя дэвідэнты... Сёння, аднак, справа безнадзейная — спадзявацца на поспех у чытачоў, пішучы ў рамках рэгламентаванай праўды і заверанай пячаццю грамадзянскай смеласці. У літаратуры па нейчых рэгламентацыях і рэцэптах адкрыцця не зробіш; ідэйна-мастацкі пошук павінен быць свабодны, а не стрыножаны. У сувязі з гэтым, я думаю, неабходна па-новаму глянуць на некаторыя звыклыя лозунгі, накшталт: пісьменнікі, глыбей вывучайце жыццё! Лозунг нібыта правільны: без ведання жыцця добрую кнігу не напішаш. Але ў ім думка выказана недакладна, і такім чынам робіцца няслушнай сама зыходная ўстаноўка. Трэба, каб лозунгам было: пісьменнікі, жывіце шчыра, сумленна і абавязкова — актыўным грамадзянскім жыццём, жывіце тымі клопатамі, радасцямі і трывогамі, якімі жыве народ! І нічога больш. І тады прыйдуць тэмы, знойдуцца героі, і напішуцца на ўзроўні вашага таленту творы, і іх прыме чытач. Калі ты сапраўды верны сын народа, калі ў цябе жывое чалавечае сумленне і добрае мужнае сэрца, ты заўсёды сам адчуеш, што гаварыць людзям і як гаварыць,— без нічыёй падказкі і без заклiку.

Мы яшчэ, відаць, не зусім усвядомілі адну рэч: адбываецца рэзкая змена масавага чытача. Разбуджаны іншы, з іншымі патрабаваннямі, з іншымі ідэйнымі і маральнымі меркамі чытач. Ён выспяваў дзесяцігоддзямі і — выспеў: схамянуўся, працёр вочы, агледзеўся. Ён будзе рашуча не прымаць белетрыстыку і вершатворства без адзнакі новага мыслення, новага самаадчування, новага погляду на стан рэчаў, на жыццё, на духоўную сутнасць і прызначэнне чалавека. Тых літаратараў, хто гэтага не ўсвядоміць і адпаведным чынам не перабудуецца,— чакае вялікае засмучэнне: давядзецца бачыць свае творы на

паліцах кнігарань і бібліятэк незапатрабаванымі. Сам чытач прымусіць нас пераадолець своеасаблівую міфалагізацыю мастацкага мыслення, якая спеляноўвала літаратуру цягам дзесяцігоддзяў, прымусіць смялей ісці насустрач безагляднаму рэалізму, даваць дарогу жывому пачуццю, вострай аналітычнай думцы, інтэлектуальнаму пісьму. Паэтаў і публіцыстаў прымусіць пераадолець нашу традыцыйную — ад культаўскіх часоў — фальшыва-напышлівую патэтыку, чыноўна-казённую рыторыку і псеўдарамантычнае пустаслоўе. [ ў прозе, і ў паэзіі, і ў драматургіі прымусіць нас загаварыць цішэй і больш натуральна, цвярозым, а не штучна ўзвінчаным голасам і простай, звычайнай чалавечай мовай. Адным словам — як у класікаў; давядзецца пісаць на іх узроўні. А калі сур'ёзна — давядзецца ісці да іх на вывучку, прайсці пад іх наглядам перакваліфікацыю.

Што да паэзіі, то хацеў бы тут затрымацца на яе праблемах трохі асобна. Ад усяго таго, што сёння друкуецца ў форме верша, уражанне самае супярэчлівае. Побач з сапраўды таленавітым чытачу выдаецца процьма рыфмаванага ці верлібраванага слоўнага шалупіння. Гэтага шалупіння, гэтай мякіны так многа, што ў ёй нядзіўна згубіцца зерням сапраўднай паэзіі. У краіне і ў нас на Беларусі адбыліся падзеі, якія — хто-хто — а паэт ніяк не можа абысці міма, успрыняць спакойна, як нешта звычайнае. Партыя абвясціла курс на перабудову. Ускалыхнулася ўсё грамадства, узрушана загаварыла жаданне і воля мільёнаў перайначыць жыццё. Чарнобыльская аварыя, можна сказаць, сфакусіравала ў сабе многія сацыяльна-маральныя праблемы і няйначай падкрэсліла неабходнасць рашучых перамен. Гэта вялікая трагедыя прымусіла іначай глянуць і на справу прадухілення тэрмаядзернай вайны, зусім не абстрактна ўявіць увесь жах магчымага ўсеагульнага самазабойства. Значыць, для ўсіх нас павінен быў бы пачацца, па сутнасці, новы адлік часу, наступіць новае мысленне, разуменне свайго абавязку на іншым, больш высокім узроўні адказнасці. Калі сказаць коратка — жыць і пісаць па-ранейшаму нельга. На вялікі жаль, паэзія — гэты, здавалася б, найбольш чуйны орган грамадскай самасвядомасці — у цэлым яшчэ не засведчыла жаданага зруху, пералому ў сваім грамадзянскім самапачуванні, у сваёй ідэйна-маральнай настраёвасці. Вядома, сёе-тое ў самы апошні час паявілася і паяўляецца. Падборкі вершаў П. Панчанкі і Г. Бураўкіна, «Балючая памяць» С. Грахоўскага, «Рэтушоры» Г. Каржанеўскай і «Зона» У Някляева на старонках «ЛІМа», вершы А. Вялюгіна і паэма С. Законнікава «Кульмінацыя» ў «Полымі», «Зажураны трыпціх» Р. Барадуліна і вершы Л. Тарасюк у «Маладосці», падборкі вершаў А. Разанава і М. Мятліцкага ў «Беларусі»...— вось, бадай, самыя

прыкметныя рэчы, у якіх выявілася тая трывожная ўзрушанасць настрою, што павінна была б сёння быць у нашай паэзіі дамінуючай, вызначальнай. Зразумела, апублікавана нямала і іншых добрых ці неблагіх паэтычных твораў — добрых, але напісаных яшчэ як бы ў ранейшым тоне, без выхаду на новыя ідэйна-светапоглядныя і эмацыянальна-псіхалагічныя рубяжы. У той жа час друкуюцца касякі вершаванай руціны, псеўдапаэтычнай рыторыкі і альбомшчыны, чытаючы якую, міжволі хочацца ўскрыкнуць: «Апомніцеся, браткі! Дзе і калі мы жывём? Паглядзіце, што дзеецца навакола і ў свеце!.. Пра што і дзеля чаго вашы метафары, вашы рыфмы?..» Прывяду хаця б два прыклады з часопісных публікацый гэтага года:

Бывай! Ад'язджаю ужо назаўсёды.
Хвалююць і маняць другія агні…
Трывогі дарожныя, мары, нязгоды,
Пероны, вакзалы, надзеі, цягнік…

Дарэмна суцешыць мяне хоча вецер,
Дарэмна адзіная зорка мігціць.
Я ведаю, што нізавошта на свеце
Не зможам сустрэцца з табой мы ў жыцці.

І гэтак далей — яшчэ некалькі строф. Руціна, таварышы, самая што ні ёсць лірычная руціна! Бяздумны набор неабавязковых слоў Зачытаныя радкі належаць прадстаўніцы слабага полу, хаця ў літаратуры скідкі па гэта не робіцца. Але ж і мужчыны патанаюць у такім жа трывіяльна-альбомным, дробязным інтыме:

І ты да ранку не заснеш:
Сустрэнемся — хаваеш вочы…
Мне не лягчэй, што нашы ночы
Другому скупа аддаеш.
А мне хіба што дорыш сны…
Забыць бы ўсё, навек адрынуць…
Але трывожаць успаміны —
Тры тыя нашыя вясны.

Таварышы, не будзем у абурэнні крычаць: навошта пісаць такое? Хто як можа — так і піша. Але спытаем: навошта друкаваць такое? Якая патрэба? Што — не хапіла мужнасці адхіліць, адмовіць? Дык знайдзіце гэтую мужнасць, калі ласка! Вам даверана выданне — часопіс ці газета — не для таго, каб тыражыраваць альбомныя шэпты. Вось чаму неабходна сёння падкрэсліць: уся віна цалкам кладзецца на тых, хто благаслаўляе падобнае вершатворства ў друк. Кажуць, і гэта сапраўды так, што Твардоўскі ў «Новом мире» мала друкаваў вершаў. Думаю, што

правільна рабіў. Пры сённяшнім узроўні пісьменнасці, адукацыі, рыфмуюць тысячы і дзесяткі тысяч людзей. Больш сціплыя з іх трымаюць свае рыфмы дома. Менш сціплым, якія самі гэтага не разумеюць, трэба гаварыць: трымайце і чытайце свае вершы дома — на людзі іх выносіць не гадзіцца. Так і гаварыць: выбачайце, сёння гэта для шырокага чытача не гадзіцца.

Сацыяльныя і маральныя прабл емы ў жыцці — гэта і ёсць тое, чым штодзённа заняты і заклапочаны нашы людзі, якія побач з намі і наўкола нас, гэта іх працоўныя будні, іх турботы, іх трывогі і перажыванні. Якія ж яны і чым яны жывуць — калі меркаваць па нашых кнігах? Што такое сёння беларускі народ паводле беларускай жа літаратуры? Якім паўстае ў ёй абагульнены вобраз нашага сучаснага суплямсніка — працоўнага беларуса? Што ў ім сёння ёсць ад таго нацыянальнага характару, які вядомы свету па творах фальклору і літаратурнай класікі? Што ў гэтым характары змянілася і ў які бок? Што гэты характар страціў і што набыў? Што на радасць нам страціў і што на радасць нам набыў? Што на вялікі жаль страціў і што на вялікі жаль набыў? Пытанні ставяцца ў самай агульнай форме, але іх можна і канкрэтызаваць — каб канкрэтней суаднесці з тым, што мы ў апошні час напісалі і пішам. Як, напрыклад, сённяшні беларус — нашчадак Лявона Зябліка, Міхала і Ганны, Лабановіча, Андрэя Летуна, Тварыцкага і Зосі — як ён ставіцца да працы, да зямлі, да хлеба? Да багаццяў прыроды? Да памяці вайны? Да ідэалаў рэвалюцыі і прынцыпаў сацыялізма? Як ён глядзіць на грошы і багацце? На каханне і сям'ю? На жонку і — наадварот — на мужа? На ўзаемаадносіны бацькоў і дзяцей? На духоўную спадчыну продкаў? Як ён разумее свой грамадзянскі абавязак? Як уяўляе сабе, што ёсць дабро і што ёсць зло? Што ёсць чалавечая годнасць і што ёсць ганьба? Якія яго сённяшнія няпісаныя законы, норавы, звычаі, завядзёнкі?..

Пытанняў, як бачыце, многа, і марных сярод іх няма,— усё, чаго яны датычаць, гэта істотнае ў нашым грамадскім жыцці і ўсё моцна ўзаемазвязана: паруш адно — пачынае разбурацца другое. Ці дае наша сённяшняя творчасць на гэтыя пытанні дастаткова пераканаўчы, сацыяльна, маральна і эстэтычна змястоўны адказ? Як шаноўны чытач разумее, пра ўсё адразу сказаць немагчыма, таму я зусім бегла крануся толькі таго, што, на маё разуменне, з'яўляецца асабліва істотным і важным і што мяне асабіста найбольш хвалюе.

Тэма працы была, ёсць і будзе ў нашай літаратуры галоўнай, магістральнай — як бы ўпарта нехта з нас ні забываўся пра гэта, ахвяруючыся на другараднае і дробязнае. Даўно было абвешчана: «Владыкой мира будет труд». Рэальнае панаванне працы і ёсць сапраўдная сутнасць сацыялізма. Чаго варты чалавек, яго

аўтарытэт і значэнне, яго права на ўвагу і павагу,— у сацыялістычным грамадстве ўсё гэта вызначаецца адным крытэрыем — яго адносінамі да працы. На вялікі жаль, галоўныя прынцыпы нашага сацыяльнага ладу — «хто не працуе, той не есць» і «ад кожнага па магчымасці, кожнаму па працы» — для многіх сталі неабавязковымі, пачалі проста ігнаравацца. Задача літаратуры — раскрыць закладзеную ў гэтых прынцыпах невычэрпную маральную сілу, глыбокі гуманістычны сэнс, памагчы ўсвядоміць іх як аснову сацыяльнай і маральнай вартасці чалавека, аснову ўсяго таго добрага, што мы, людзі, не маем права траціць. Менавіта таму, а невыпадкова, вялікую ўвагу чытачоў і крытыкаў выклікалі такія творы найноўшай беларускай прозы, як «Алімпіяда» І. Пташнікава, «Сачыненне на вольную тэму» А. Кудраўца, «Паляванне на Апошняга Жураўля» А. Жука — творы, у цэнтры якіх вобразы шчырых, да самаахвярнасці добрасумленных працаўнікоў. І Уліма Падаляк і Ігнат Сцяпанавіч Вапшчэткі, і Сцяпан Дзямідчык — гэта носьбіты той слыннай беларускай працавітасці, якая, на шчасце, яшчэ засталася ў нашым народзе і пра якую сумленнейшы сярод сумленных рускіх пісьменнікаў І. А. Васільеў зусім нядаўна пісаў: «Аднойчы, вярнуўшыся з паездкі па Беларусі, я выказаў сваім землякам папрок у ляноце. На мяне пакрыўдзіліся... Але я бачыў, як працуюць нашы суседзі і як працуем мы. На жаль, параўнанне не ў нашу карысць» («Коме. правда», 29. 3. 1987). Названыя толькі што творы — не рытарычны, а мастацка пераканаўчы заклік — даражыць гэтай нерастрачанай якасцю нацыянальнага характару, даражыць і культываваць яе ў душах чалавечых, паглыбляць і ўмацоўваць у свядомасці народнай. Калі дзе і не трэба баяцца прыёмаў гэтак званай паэтызацыі — дык гэта ў паказе працы. Траха не будзе. Бо нідзе і ні ў чым чалавек не бывае такі прыгожы, нідзе так поўна не раскрываецца яго духоўная сутнасць, як у таленавітай і самаадданай, грамадка карыснай працы. І, думаю, зусім слушна крытык Г. Шупенька называе раман І. Пташнікава «апафеозам працы чалавечай», «велічным і кранальным гімнам простым рабочым рукам і няпростым сэрцам тых людзей, імя якім — народ». «Людзі тут жывуць,— падкрэслівае ён,— радуюцца і пакутуюць... І працуюць, працуюць, працуюць... Колькі тут, аказваецца, у нашай сучаснай вёсцы з яе «няхітрым» светам, сапраўднага хараства і высокага трагізму» («Маладосць», 1985, № 1).

Сапраўднае хараство душы працоўнага чалавека, яго сацыяльная актыўнасць і маральная высакароднасць — прадмет мастацкага даследавання ў многіх найноўшых творах беларускай літаратуры, розных як па жанру, так і па ідэйнай праблематыцы. Прыгадайма Мар'яна Знаўца з Казьковай «Хронікі дзетдомаўскага

саду» — апантанага жыццёвай марай садзіць і даглядаць на роднай зямлі сад, што для яго азначае — і гадаваць у чалавеку гістарычную памяць, пачуццё духоўнай еднасці пакаленняў, пераемнасці народных традыцый. Прыгадайма старога Антося з аповесці «Вырай» В. Блакіта і такога ж старога, адзінокага Лаўрэна Маркевіча з рамана «Карані» А. Карпюка: што іх неадольна цягне на роднае котлішча, у сваю хату? Пражытае там доўгае працоўнае жыццё — пражытае сумленна, з годнасцю, без той дробязнай мітуслівасці, што стала сутнасцю маральна неўгрунтаванай, раз'едзенай хцівасцю душы іхніх адарваных ад зямлі дзяцей. Прыгадайма вобразы простых вясковых людзей з апавяданняў Х. Лялько — тых, якім аўтар шчыра і горача сімпатызуе: Ясю з «Касцоў», Гэльку з «Лёгкага хлеба», Сцяпана Забелу з «Бярэзінка на загонах», Фэльку з «Фэлькавых яблыкаў»... Колькі ў іх добрай жыватворнай сілы, колькі веры ў сваю праву — праву гаспадара гэтай зямлі, і разам з тым — колькі горкага суму і болю!.. Прыгадайма санітарку Ліду з апавядання І. Жарнасек «Санітарка» — нястомную ў сваёй гатоўнасці дапамагаць людзям, поўную міласэрнай дабрыні, якую так лёгка пакрыўдзіць. Апавяданне ўражвае сілай унутранага, маральнага пратэсту: чалавек на кожным кроку робіць дабро і ён жа на кожным кроку вымушаны цярпець ад людзей жорсткіх, фанабэрыстых, хамаватых... Прыгадайма, нарэшце, герояў п'есы А. Дударава «Вечар» — лепшай, на маю думку, з яго ўсіх п'ес. Якая глыбіня і моц сапраўды народных, па-народнаму цэласных характараў!..

Я называю творы прозы і драматургіі, а між тым у стварэнні абагуленага вобраза сучаснага беларуса немалая заслуга належыць і паэзіі. Чытач, напэўна, згатовіўся пачуць назвы эпічных паэм. А я то якраз думаю пра лірыку — пра кнігі «Пара любові і жалю» і «Каліна зімы» Яўгеніі Янішчыц. Так, Янішчыц — паэт-лірык, і лірык выдатны, усесаюзнага ўзроўню і маштабу, паэт рэдкай сілы лірычнай пранікнёнасці. А ў вершах у яе столькі народных вясковых характараў, тыпаў, чалавечых лёсаў — як у добрай эпапеі. Маці і бацька, дзядзькі і цёткі, дзяды і бабулі, суседзі, суседкі, аднавяскоўцы, і зноў маці, і яшчэ шмат разоў маці — бясконца прывабны вобраз беларускай жанчыны. І такімі ж трапнымі, псіхалагічна дакладнымі, эпічнымі мазкамі ды штрыхамі ўсе яны намаляваны! Жаль, што наша крытыка не звярнула на гэта належнай увагі. Гэта першы паказчык, чым жыве паэт, на што скіраваны зрок яго душы і сэрца.

Можна было б прывесці і яшчэ нямала падобных прыкладаў, але абмяжуюся гэтымі, бо іначай і да майго даклада прыкладуцца горканевясёлыя радкі паэта В. Сахарчука:

Герояў смелых, непадманных,

Я к ні ўздыхай, як ні круці,
Найбольш — у вершах і раманах,
І вельмі мала — у жыцці.

*(«Маладосць», 1985, № 8)*

Думаецца, што ў нашым жыцці людзей «смелых і непадманных» усё-такі больш, чым здаецца паэту. Можа быць, каму-небудзь з нас проста не шанцуе на сустрэчу з такімі героямі. Што ж датычыць раманаў і вершаў, г. зн. літаратуры, то папрок паэта я разумею як незадаволенасць слабым гучаннем у ёй чалавечага болю і трывогі, выкрывальна-самакрытычнага пафасу. Незадаволенасць, скажам, тым, што ў нас пакуль яшчэ не паявіліся такія творы — пра нашу сучасную рэчаіснасць — як «Пажар» В. Распуціна, «Сумны дэтэктыў» В. Астаф'ева, «Плаха» Ч. Айтматава,— творы такога ж нізкага балявога парога і такой жа гранічна бясстрашнай, самаахвярнай непрымірымасці да крывадушны, да подласці, да гнюснасці і ўсякага іншага гадства, якое прыніжае і топча ў гразь чалавечую годнасць. Хачу на гэта сказаць, што ў нас такі твор ёсць, толькі ён напісаны не прозай, а вершамі. Гэта новая кніга паэзіі Пімепа Панчанкі «І вера, і вернасць, і вечнасць». Запэўніваю вас, што крык душы, які рвецца з гэтай кнігі, нічуць не слабейшы за той, што так глыбока і балюча працяў нашы сэрцы са старонак названых вышэй твораў.

Увогуле ж голас сумлення ў нашай літаратуры мацнее, пафас непрымірымасці да маралі бюракратаў і перараджэнцаў, да пазіцыі душэўна атлусцелых, да філасофіі мяшчан і абываццеляў — нарастае, набірае сілу.

Зямля не любіць пуставаць —
жадае быць жытнёвым полем;
не будзем сеяць — і куколем
пачне патроху зарастаць.
Душа не любіць пуставаць —
жыве надзеямі на шчасце;
будзіць не будзем — і ў мяшчанства
пачне паціхеньку ўрастаць.

*(«Маладосць», 1985, № 10)*

Гэта — Алесь Каско, яго пранікнёнае слова. З найноўшых твораў у гэтым сэнсе вылучаецца публіцыстычная паэма С. Законнікава «Кульмінацыя».

А ўсе маўчаць, і вочы закрываюць,
І лічаць — праўда знойдзецца сама.
Мы пачакаем — наша хата з краю...
А краю нейкага ў жыцці няма!

*(«Полымя», 1987, № 4)*

Думаю, што гэты антымяшчанскі настрой і ў паэзіі, і ў прозе, і ў драматургіі, і, само сабой, у публіцыстыцы будзе шырыцца і глыбець, набываць усё больш бескампрамісны характар, і, можа быць, у гісторыі беларускай ды і ўсёй савецкай літаратуры канец 80-х гадоў будзе калі-небудзь названы антымяшчанскім перыядам. Натуральна, калі ў гэтым часе, у такіх грамадскіх умовах пачне ажываць і гаварыць сваё важкае слова неверагодна заняпалая ды і занядбаная ў нас сатыра. Толькі што пастаўленая купалаўцамі вострая, з'едлівая камедыя М. Матукоўскага «Мудрамер» — будзем спадзявацца — адна з першых ластавак блізкай вясны ваяўнічага, наступальнага смеху.

Узмацненне голасу душы, якой ведамы мукі, нарастанне прагі маральнага ачышчэння адчуваецца не толькі ў творах аб сучаснасці. Гэта прыкметна і ў кнігах пра нядаўняе мінулае — пра вайну і перадваенныя гады. Што да творчасці В. Быкава, дык у яго ад самага пачатку суд сумлення — пастаянная ідэйная дамінанта. І на гэты суд выносяцца ўсё больш складаныя, экстрэмальныя сітуацыі, ад чаго паўней і глыбей раскрываецца маральная філасофія пісьменніка. Рускі крытык У. Васільеў нядаўна пісаў: «Кар'ер» Быкава рэч, дзе падспудна адчуваецца духоўная прысутнасць Талстога». Гэта бясспрэчна так. Вернасцю духу найвялікшага пісьменніка-гуманіста вызначаецца і новая, толькі што апублікаваная ў «Полымі» аповесць Быкава «У тумане». Не ведаю, што пра яе скажуць крытыкі, я ж пакуль што зазначу: па-першае, прытчавы пачатак у ёй, бадай, ці не мацнейшы, чым у любой з яго ранейшых аповесцей; па-другое, вобраз Сушчэні — новая значная творчая ўдача пісьменніка.

Напружанымі маральнымі пошукамі жывуць героі трэцяга рамана В. Адамчыка «І скажа той, хто народзіцца» — перш за ўсё стары Карсак і яго сын Міця, з іх балючымі роздумамі: як быць і жыць на гэтым свеце, у гэтых ненатуральных для простага чалавека ўмовах, каб людзей не пакрыўдзіць і сумленне сваё не запляміць? Клопатам пра чысціню свайго чалавечага і партыйнага сумлення, пра перамогу справядлівасці жывуць і героі рамана І. Новікава «Ачышчэнне».

Адна з самых вялікіх і актуальных сёння сацыяльна-маральных праблем нашай рэчаіснасці - праблема сям'і, сямейных узаемаадносін, бацькоў і дзяцей. Здаецца, мы пачынаем ужо горка шкадаваць, што ні сама грамадскасць, ні літаратура доўга не надавалі ёй належнага значэння. Кажу: і літаратура, хаця на гэту тэму пісалася і пішацца ў нас вельмі многа. Што з гэтага мноства працягвае добрыя традыцыі беларускай класікі? Таксама нямала. Іван Шамякін — да яго гонару — не абмінуў гэтай тэмы бадай што ні ў адным сваім буйным творы — і ў самых апошніх таксама,

паслядоўна захоўваючы вернасць асновам народнай сямейнай маралі і педагогікі. З найноўшых твораў, у якіх зроблены сур'ёзныя спробы разабрацца ў складаных сямейных калізіях, у сацыяльных і псіхалагічных прычынах распаду сям'і, я назваў бы раман І. Навуменкі «Летуценнік». У абарону сям'і, калі можна так сказаць, і супроць мяшчанскай маралі напісаны аповесці «Сучасны канфлікт» А. Карпюка, «Дождж на світанку» А. Вараповіча, раман В. Гігевіча «Мелодыі забытых песень» і многія іншыя. Бяда, аднак, у тым, што пераважнай бальшыні твораў гэтай тэматыкі чагосьці істотнага нестае. Можа быць, якраз той вышыні маральнага ідэалу, якой вымяраўся пагляд працоўнага народа на сям'ю і сямейныя справы. Назіраецца пэўная, а часам і вялікая ўступка сучаснай літаратурнай і кіношнай модзе на «клубочку», на аблегчаны падыход да ўзаемаадносін «яго і яе», да ўтварэння сям'і, на нейкую, я сказаў бы, «партатыўную» мадэль кахання. Відаць, усё-такі наша літаратура слаба супрацьстаяла і супрацьстаіць гэтай небяспечнай пошасці. Не па яе, вядома, віне, прычыны — больш глыбокія, сацыяльныя, але маштабы распусты, палавой разбэшчанасці аказаліся непрадбачанымі. У краіне паявілася прастытуцыя, хаця і не на той глебе, што ў капіталістычным свеце. Нядаўна наш друк пісаў, што ў Італіі для маракоў, якія спыняюцца ў савецкіх гаванях, выдадзены каталог цэн: што і за колькі можна ў нашай краіне купіць. Сярод іншага ўказана, за колькі, за якую транту ці дробны сувенір можна купіць на ноч савецкую дзеўку Балюча такое чытаць, страшна? Вельмі! Але гэта трэба ведаць. Бо пакуль нам не стане да болю ганебна — мы не абурымся і не пачнём выпраўляць становішча.

Праблема сям'і і дзяцей — гэта па сутнасці праблема становішча, правоў і абавязкаў жанчыны. Ці ўсё ў гэтых адносінах у нас добра? Не думаю. Бяда пачалася з гадоў вайны. Мы не сказалі тысячнай долі праўды пра трагедыю, якая спасцігла мільёны нашых жанчын, навек аўдавелых або навек астаўшыхся незамужнімі. Жанчына пачала траціць жаноцкасць і маральна апускацца — у тым ліку і ў выніку непадрыхтаванасці да гэтак званай эмансіпацыі, да новага сацыяльнага становішча. На вытворчасці і на службе не жанчыны ўплывалі дабратворна на мужчын, а мужчыны на іх, і зусім недабратворна: ад мужчын яны набраліся і грубасці, і вульгарнасці, і самае горшае — далучыліся да іх у п'янстве і распусце. Мужчыны не дапамаглі ім выстаяць, а няйначай подла радаваліся, бачачы, як апускаецца, духоўна і маральна прымітывізуецца наша мадонна.

Яшчэ ў горшым становішчы сёння праблема «бацькоў і дзяцей». Яна набыла крызісны характар і блізкая да таго, каб мы зусім зайшлі з ёй у тупік. Дзіця не можа нармальна выхоўвацца ў

той сям'і, якой фактычна няма: ёсць агульная кватэра, гаспадарка, дача, машына — але не сям'я, не маналіт з кахання і павагі. Ужо не кажучы пра дзяцей-бязбацькавічаў, колькасць якіх расце не па днях, а па гадзінах. Выхаваўчая роля школы — па прычыне, што яна сама ў заняпадзе — яўна нездавальняючая. А якая ж дапамога літаратуры? Ды амаль ніякая! Назавіце яркую, моцную кнігу, якая б выхоўвала ў дзіцяці любоў да бацькі і маці, вучыла б шанаваць бацькоў і наогул старэйшых? Я такой кнігі — паўтараю: яркай і моцнай — не ведаю. Затое ўсе мы ведаем твор, які ўжо зрабіў і працягвае рабіць вялікую шкоду справе выхавання моладзі. Гады два назад дырэктар беларускага тэатра падзяліўся — на старонках друку — уражаннямі ад гастроляў у Балгарыі. І прастадушна расказаў пра фактычны правал спектакля «Трыбунал» у балгарскіх гледачоў — спектакля, на які ў першую чаргу рабілася стаўка. Кіраўнікі тэатра і артысты чакалі вялікага смеху-рогату падчас сцэны, калі дзеці запіхаюць бацьку, Калабка, у мяшок і здзекуюцца з яго. Але ў зале не толькі не пачулася смеху, а наадварот: усталявалася нейкае нядобрае маўчанне; людзі моўчкі, недаўменна пераглядаліся. Пасля спектакля гледачы растлумачылі прычыну: «Прабачце, але ў нас, у Балгарыі, гэта нямысліма, каб дзеці свайго роднага бацьку, як ката, у мяшок садзілі...» У іх, у Балгарыі, гэта нямысліма. А дзе ў свеце, дазвольце спытаць, такое мысліма? Анідзе! І ў нас, у Беларусі, спакон веку такое было нямысліма. Аўтарытэт бацькі ў сям'і быў не слабейшы, чым у Балгарыі ці ў якой-небудзь іншай краіне. Але мы і гэта разбурылі. І яшчэ смяёмся, выцягнуўшы такое святатацтва на сцэну.

Натуральна запытацца: а як да ўсіх найбольш важных сацыяльна-маральных праблем грамадства ставіцца наша мастацкая публіцыстыка і эсэістыка? Адказаць не проста. Сцвярджаць, што ставіцца з прахалоднай, без пачуцця абавязку і адказнасці,— нельга, гэта было б несправядліва. Сцвярджаць, што да гэтых жанраў-першапраходчыкаў у нашых чытачоў няма прэтэнзій,— значыла б гаварыць няпраўду. На маю думку, у нас ёсць бясспрэчна цікавыя, змястоўныя творы, якія апраўдваюць высокае прызванне і годнасць пісьменніка-публіцыста. Напрыклад, дакументальныя аповесці Ан. Казловіча, з уласцівымі гэтаму аўтару абвостраным чуццём сацыяльных і маральных калізій і высокай меркай грамадзянскай бескампраміснасці; грунтоўныя, уважлівыя да эканамічна-гаспадарчых падасноў нашага сацыяльнага быцця нарысы І. Дуброўнага; пазначаныя гарачай зацікаўленасцю, няўрымсна-ваяўнічым жаданнем умяшацца ў сацыяльную і гаспадарчую практыку нарысы і артыкулы В. Якавенкі; асветленыя прагай сустрэч з людзьмі, верай у чалавека прыгожага, сціплага, добрага — падарожныя нататкі і

нарысы Л. Левановіча; па-пісьменніцку жывыя, шчырыя нарысы і замалёўкі С. Алексіевіч і М. Вайцяшонак.

Аб тым, як плённа наша эсэістыка можа працаваць на вялікую, сацыяльна і маральна значную тэму, добра сведчыць толькі што апублікаваная ў «Полымі» падарожная аповесць-эсэ Віктара Карамазава «Глядзіце ў вочы лемура». Звыклы для беларускай літаратуры пафас інтэрнацыяналізму, дух брацтва людскога выказаны ў ёй вельмі натуральна, шчыра і проста, без фарсіравання тону, без наўмыснага падкрэслівання. І яшчэ: уражваюць і запрашаюць на роздум старонкі, у якіх расказваецца пра давер жывой прыроды да чалавека: і горлінка, і чайкі з крачкамі, і акіянскія рыбы ў прыбярэжных водах, і чарапаха, і мімоза — нішто на Сяйшэльскіх астравах яшчэ не баіцца чалавека!.. Як не задумацца сапраўды, бачачы, у што абярнуўся давер прыроды да нас на нашай роднай зямлі.

Як своеасаблівая палітычная падсветка тым нашым унутраным праблемам, пра якія мы гаворым, успрымаецца выдадзеная ў пачатку гэтага года кніга А. Вярцінскага «Нью-йоркская сірэна», з якою ён выступіў у якасці публіцыста-міжнародніка.

Пры ўсім тым, што, як бачым, ёсць і кваліфікаваныя творчыя сілы і пэўныя поспехі, даводзіцца прызнаць, што ў цэлым беларуская публіцыстыка і эсэістыка не заваявалі ўвагу шырокага чытача, прагнага сёння да літаратуры дакумента, факта, думкі. Яны ў нечым істотным уступаюць гэтым жанрам у сучаснай рускай літаратуры. У чым канкрэтна? Можа быць, у смеласці, у вастрыні, у ваяўнічасці, нестае ім і сапраўднай філасофіі факта, і, мушу падкрэсліць, высокай культуры размовы з чытачом, культуры пісьма, бляску стылю, моўнага майстэрства... Вось і атрымліваецца, што далёка не кожны нумар нашых літаратурных выданняў дорыць чытачам радасць сустрэчы з разумным, баявітым, гарачым публіцыстычным словам. А гэта ўжо кепска; з увагі ж на час, у які мы жывём, гэта, скажам па праўдзе, і зразумець немагчыма. Часопіс без публіцыстыкі — без усхваляванага жывога голасу самога часу — выбачайце, не часопіс. Гэта хутчэй літаратурны зборнік, або альманах, няхай сабе і штомесячны. Сардэчным вузлом і пульсам часопіса спакон веку была публіцыстыка. Пра гэта гаворыць і этымалогія самога слова часопіс. Так што задача і перад калектывамі рэдакцый, і перад усімі намі стаіць зусім ясная: пара стварыць моцную і дзейсную беларускую публіцыстыку. Публіцыстыку, якая разбудзіла б нарэшце ў беларускіх чытачоў гарачую цікавасць да гэтага жанру і прымусіла б іх саміх брацца слова ў гаворцы, у спрэчках-дыскусіях, якая прыцягвала б іх да абмеркавання вялікіх міжнародных і

ўнутраных праблем і спрыяла б росту іх палітычнай і маральнай свядомасці, іх грамадскай актыўнасці.

Асабліва крыўдна, што ў нас зусім мала публіцыстыкі, якая б вызначалася глыбокім паяднаннем праблем асабовых і глабальных, нацыянальных і агульналюдскіх, у якой бы мудра спалучаўся клопат пра чалавека з клопатам пра лёс Планеты. Ідэю гэтага паяднання выдатна, на маю думку, выказала ў сціслай паэтычнай формуле Любоў Тарасюк:

Я ратую душу ад распаду.
Можа, з ёй уратуецца свет.

Так, каб не распаўся свет — трэба засцерагчы ад распаду душу чалавечую, іншага спосабу няма.

Зусім зразумела, што сучасны пісьменнік не можа моўчкі назіраць за тым, як устрывожанае чалавецтва прымае ўсемагчымыя захады, каб уратаваць мір і жыццё на зямлі. Голас беларускіх літаратараў — абаронцаў міру — ва ўсе пасляваенныя гады гучаў і гучыць вельмі напружана і чуцен далёка. Гучыць і ў мастацкіх творах, і ў дакументалістыцы, і ў публіцыстычных выступленнях. Згадаем вершы і паэмы Панчанкі, Максіма Танка, Вярцінскага, Гаўрусёва, аповесці Быкава, дакументальныя кнігі Адамовіча, Брыля і Калесніка, Святланы Алексіевіч... Асабліва хацелася б адзначыць надзвычай актыўную ў гэтым кірунку публіцыстычную дзейнасць Алеся Адамовіча. Адно бянтэжыць: каб у нас не пачалося празмернае захапленне апакаліпсічнымі сюжэтамі, відовішчамі «ядзернай зімы». Зварот да такіх сюжэтаў Адамовіч лічыць для сучаснага пісьменніка «звышзадачай», а самі творы гэтай тэмы аб'яўляе «звышлітаратурай». У дыялогу з крытыкам Нат. Івановай («ЛГ» за 1. 10. 1986) ён гаворыць: «Ды і не цікава мне ўжо самому не рашаць звышзадачы. Ну, хоць бы такую: што і як скажа сабе, застаючамуся без нас, Сусвету апошні на Зямлі забойца?..» Хочацца запытаць: гэта і ёсць звышзадача для мастацкай літаратуры? Уявіць, што скажа сабе маньяк або нелюдзь, які загубіў свет? Што, напрыклад, сказаў бы сабе Адольф Гітлер, калі б ён застаўся на свеце адзін?.. Нешта ўва мне супраціўляецца супроць такога сюжэта, такога падыходу, і я пакутліва думаю што? Я горача падтрымліваю заклік, што трэба несціхана і ўсё мацней біць у набат Розуму і Сумлення, каб уратаваць свет ад тэрмаядзернай катастрофы, каб не дапусціць пагібель чалавецтва, каб людзі ясна зразумелі, якое жахлівае тое «нічога», што застанецца ў выніку апакаліпсіса. Што ж тады ўсё-такі мяне бянтэжыць? Можа быць, нейкая маральная невыверанасць у гэтым сюжэце пра забойства жыцця на зямлі? Можа, нейкі перакос у гэтай страшнай гульні фантазіі? Пэўная няўзгодненасць з мараллю і філасофіяй самога жывога чалавека?

Адна з выяўна вострых сёння сацыяльна-маральных праблем у нас на Беларусі — гэта нашы адносіны да сваёй гісторыі, да нацыянальнай мастацкай культуры, да роднай мовы, да духоўнай спадчыны, народа. Думаецца, што гэтыя адносіны покуль што добрага слова не заслугоўваюць. Вазьміце наша веданне гісторыі Беларусі — зямлі, на якой жывём і патрыётамі якой быць абавязаны. Для насельніцтва рэспублікі, паколькі яно прайшло праз нашы школы, гэта гісторыя пачынаецца фактычна з рубяжа XX стагоддзя, а што было датуль — на працягу добрых дзесяці вякоў — амаль нічога невядома. Месяц назад у інтэрв'ю на старонках «Известий» доктар гістарычных навук Станіслаў Цюцюкін сказаў: «Узнік сур'ёзны разрыў паміж рэзка ўзрослай і прадаўжаючай распі цікавасцю нашага народа да гісторыі і здольнасцю гісторыкаў-прафесіяналаў задаволіць гэту цікавасць. У наяўнасці пэўны крызіс даверу да гістарычнай навукі, (...) падзенне грамадскага прэстыжу гісторыка» (3.5.1987). Калі сказанае справядліва ў адносінах да ўсёй савецкай гістарыяграфіі, то ў шмат разоў справядлівей у дачыненні да беларускай. Галоўная наша бяда ў тым, што беларускія вучоныя-гісторыкі ў большасці сваёй усё яшчэ сядзяць пад каўпаком «абэцэдаршчыны» і баяцца высунуць з-пад гэтага каўпака галаву. Спадзявацца на іх падмогу нам, пісьменнікам, на вялікі жаль, пакуль што не прыходзіцца. Трэба самім церабіць сцежкі да гістарычных фактаў і адкрываць іх народу Асабліва важна рабіць гэта ў дачыненні да гісторыі нашай культуры, таму што, як пісаў у газеце «Правда» Сяргей Залыгін, «няма культуры без гісторыі культуры, і пачынаецца яна там, дзе пачынаецца яе гісторыя» (26. 9. 1986).

Як у Расіі, так і ў нас у Беларусі нядобрыя сілы стараліся нашу гістарычную памяць усыпіць. Вядома, песенькай: люлі-люлі, баю-бай. Ну, а калі песенька не памагала і ў нянькі канчалася цярпенне, тады і злосным вокрыкам: «Спі, а то дам! Спі, кажу табе!..» Але гістарычная памяць народа — не дзіцятка, яна спаць не можа і не павінна. І яе трэба не ўсыпляць, а будзіць. Без гістарычнай самасвядомасці цяжка вырашаць усе іншыя жыццёва важныя для нацыі і нацыянальнай культуры пытанні. Што можа зрабіць на карысць беларускай культуры гаспадарнік або адміністратар, у якога пры імені Каліноўскага, Багушэвіча, Цёткі, Купалы, Коласа, Багдановіча не здрыганецца гарачым трапятаннем сэрца, які не скажа сабе пранікнёна як малітву: «Ды гэта ж тыя, што запалілі светач, каб вывесці тваіх цёмных дзядоў у людзі! Гэта ж тыя, без якіх ні самой беларускай нацыі, ні беларускай дзяржавы проста не было б! І будзеш ты бяздомным прыблудам, а не сынам гэтай зямлі, калі для ўшанавання іх памяці не зробіш тое, што ад цябе залежыць. Бо ты ж не толькі ім аддасі

пашану, а найперш — Бацькаўшчыне сваёй, народу свайму, без якога ты — бубка авечая, а не чалавек!..»

Адной з прычын распаўсюджанага ў Беларусі нацыянальнага нігілізму, прыніжанага пачуцця нацыянальнай годнасці якраз і ёсць тая сумная акалічнасць, што недаравальна мала кніг пра выдатныя падзеі і пра вялікіх людзей Бацькаўшчыны за цэлае тысячагоддзе: ад першых полацкіх і тураўскіх князёў і да нашых дзён. Вось чаму раскатурхайце гістарычнай самасвядомасці ў масах беларускага чытача — надзвычай актуальная задача нашай літаратуры. Трэба з прыемнасцю адзначыць, што, бадай, ва ўсіх яе жанрах за апошняе дзесяцігоддзе адбыўся прыкметны паварот да мастацкага асэнсавання айчыннай гісторыі, вобразнага ўзнаўлення яе пэўных момантаў, значных падзей і выдатных асоб. Пісьменнікам як бы нарэшце стала сорамна заставацца ў баку ад грамадзянскага і творчага подзвігу незабыўнага У. Караткевіча. Гістарычнай або гісторыка-рэвалюцыйнай тэме прысвячаюць свае раманы, аповесці, апавяданні, п'есы Іван Шамякін, Леанід Дайнека, Васіль Хомчанка, Эрнест Ялугін, Вольга Іпатава, Уладзімір Мехаў, Лідзія Арабей, Алесь Петрашкевіч, Алесь Асташонак... Асабліва знамянальна, што паявіліся празаікі, якія што называецца з галавой акунуліся ў нашу гістарычную даўніну. Маю на ўвазе таленавітую творчасць Уладзіміра Арлова і Кастуся Тарасава. Побач з прозай і драматургіяй загаварыла мовай пашаны да айчыннай гісторыі паэзія. Прыгадаем паэмы Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Васіля Зуёнка, Міколы Арочкі, Раісы Баравіковай, Валянціны Коўтун, балады Янкі Сіпакова, Рыгора Семашкевіча, Алеся Разанава, вершы Дануты Бічэль-Загнетавай, Міколы Пракаповіча, Сяргея Панізніка, Алеся Каско, Любові Тарасюк, Юркі Голуба і — прашу прабачэння — многіх іншых. Выдатна, што асэнсаванне гістарычнага лёсу беларускага народа, роздумы пра яго культуру і мову мы знаходзім і ў многіх творах, якія да ўласна гістарычнай тэматыкі не аднясеш. Спашлюся — дзеля эканоміі часу — толькі на два прыклады. Першы — многія старонкі «Палескай хронікі» Івана Мележа. Другі — рэтраспектыўныя раздзелы ў аповесці Васіля Быкава «Знак бяды», якія істотна паглыбілі ідэйна-філасофскі змест твора, і некаторыя моманты з ягонай жа аповесці «Кар'ер». Несумненна, што Быкаў, упершыню кінуўшы зусім выразны пагляд на пэўныя падзеі ў гісторыі беларускага народа з удзелам у іх канкрэтных гістарычных асоб, зрабіў у сваёй творчасці вельмі важны крок наперад.

Такім чынам, зрух у асвятленні нашай літаратурай гісторыі Беларусі намеціўся, але нам павінна быць ясна, што мы стаім яшчэ ў самым пачатку вялікай работы. Я ўжо дзесьці гаварыў

прынародна і сёння скажу яшчэ раз: калі мы напішам і апублікуем хаця б дзвесце таленавітых гістарычных раманаў, аповесцей, п'ес, паэм — тады мы, як-то кажуць, пабачым і паглядзім, якое ў нашых чытачоў будзе самаадчуванне. Заадно глянем і на фізіяноміі сённяшніх скептыкаў і песімістаў, якія не вераць у заўтрашні дзень беларускай культуры. Пры гэтым хацелася б падкрэсліць, што пісаць добрыя, значныя гістарычныя творы цяжка, Апрача таленту, патрэбны вялізныя веды, навукова аб'ектыўнае бачанне мінулага, даўніны.

Выхаванне пачуцця павагі да гісторыі Бацькаўшчыны неадрыўна ад выхавання любові да роднага краю, да яго культуры і мовы. На апошнім пленуме СП СССР у Маскве востра крытыкавалася ідэйна-маральная няслушнасць вядомых песенных радкоў: «Мой адрас — не дом і не вуліца...» Гаварылі аб тым, што на фронце кожны салдат пры сабе, дзе-небудзь у надзейнай кішэньцы, хаваў свой адрас — менавіта з указаннем і дома і вуліцы. На выпадак смерці... Як жа можна было 20 гадоў круціць амаль штодзённа і на ўсю краіну гэту шкодную для патрыятычнага выхавання песню? А круцілі! І думалі, што ў імя і на карысць інтэрнацыяналізму. Ведаючы, што вытраўленне ў чалавеку патрыятычнай любові да месца, дзе ён нарадзіўся і вырас, да роднага дому і вуліцы, - гэта стратэгічная мэта ідэолагаў і практыкаў буржуазнага касмапалітызму. Які недарэчны парадокс! Як блізка сышліся пазіцыі нашых вяшчальнікаў шырокага у абмін бацькоўскага двара і хаты — патрыятызму і пазіцыі бязродных касмапалітаў! Вось што нарабіў чыноўніцка-бюракратычны страх перад чалавечай любоўю да роднага дому, да роднай мовы і песні, страх перад ростам нацыянальнай самасвядомасці!.. Іначай сказаць — перад вынікам заваёў Кастрычніка, таму што рост нацыянальнай самасвядомасці ва ўсіх рэспубліках Саюза — гэта самы непасрэдны вынік ажыццяўлення сацыяльных ідэалаў рэвалюцыі. Кастрычнік адкрыў мільёнам людзей доступ да асветы, да навукі, да культуры, а ў такіх умовах усведамленне сваёй нацыянальнай годнасці непазбежнае. Гэта цёмны чалавек можа заставацца ў становішчы несвядомага тутэйшага, а чалавек адукаваны раней ці пазней пачынае разбірацца ў сабе. І калі сёння ўсё-такі яшчэ многа ў нас нацыянальных нігілістаў — значыць, былі нейкія перашкоды таму, каб яны сталі нацыянальна свядомымі.

Думаю, што адна з галоўных перашкод — гэта звужэнне сферы карыстання беларускай мовай у Беларусі. Па гэтаму пытанню ў апошні час гаварылася і гаворыцца ў нас многа, і я не буду запыняцца на ім падрабязна. Адзначу толькі зусім коратка некалькі момантаў. Першае: ёсць няпісаны маральны закон, па-

водле якога, як натуральна для чалавека дыхаць, піць і есці па нараджэнні — гэтак жа павінна быць натуральна, каб дзіця, нарадзіўшыся на гэтай зямлі, пачынала гаварыць на мове гэтай зямлі. Гэта — у інтарэсах самога дзіцяці, у інтарэсах яго маральнага і наогул духоўнага развіцця, дзеля станаўлення яго чалавечай асобы. І гэта зусім не значыць, што пазней дзіця не авалодае іншымі мовамі. Другое: зямля і мова, у сэнсе — уся навакольная прырода і мова, зямля і душа народа, мова і душа народа, мова і гісторыя народа, гісторыя яго культуры,— усё гэта існуе ў цэласнасці і непарыўнасці, гэта нельга разрываць, таму што інача — крах патрыятычнай свядомасці, крах маралі, крах культуры, а замест усяго гэтага — бездухоўнасць, цынізм, пошласць, спажывецкая псіхалогія, корць разбурэння, дыктат нізкіх жывёльных інстынктаў. Трэцяе: мова, якая не ўдзельнічае ў арганізацыі працы, у арганізацыі грамадскага жыцця, больш таго — нават у арганізацыі сямейнага быту,— траціць жыццёвую сілу, драхлее, кансервуецца, пераходзіць у разрад музейнай экзотыкі. Іншымі словамі — спыняецца ў развіцці. Што ж яе чакае? У элементарных падручніках па дыялектыцы напісана: тое, што не развіваецца — паміраe.

Зыходзячы са сказанага, высновa можа быць толькі адна: трэба ўсямерна садзейнічаць таму, каб наша мова нармальна функцыянавала ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, каб ёю — скажам так — не саромеліся карыстацца ўсюды і скрозь гэтак жа, як рускай мовай. Яна выдатна распрацавана як мова літаратурная і гатова абслугоўваць жыццядзейнасць грамадства на ўсіх магчымых узроўнях. Менавіта ў гэтым і заключаецца парадаксальнасць сітуацыі. З аднаго боку — сапраўдны росквіт філалагічных навук, шматтомныя выданні самых розных слоўнікаў, шматлікія энцыклапедычныя выданні, 40-томны звод нацыянальнага фальклору, небывалы размах выдання нацыянальнай літаратурнай класікі і многае іншае, што яшчэ гадоў трыццаць назад магло нам толькі сніцца. І ўсё гэта, зразумела, кладзецца ў фундамент далейшага развіцця нацыянальнай культуры. Разам з тым — з другога боку усё больш прыкметнае звужэнне сферы, у якой мы карыстаемся родным словам. Такі рэальны стан рэчаў і такім яго трэба цвяроза ўспрымаць — з тым, каб не сядзець склаўшы рукі, а шукаць выйсце са становішча, рабіць канкрэтныя захады да выпраўлення сітуацыі. І першае, з чаго мы павінны пачаць, гэта — рашуча адкінуць той песімізм у поглядах на будучыню нашай мовы, які, на маё бясконцае здзіўленне і засмучэнне, публічна выказваюць некаторыя нашы ж калегі самі пісьменнікі. Я звяртаюся да іх з просьбай: дарагія таварышы і сябры, усё што хочаце — толькі не песімізм! З

песімізмам мы, як-то кажуць, і з месца не скранёмся. Сацыяльны песімізм увогуле штука паршывая — і не для нас. Нам патрэбна вера, і толькі вера. Тым больш у такі час, калі грамадства знаходзіцца на гістарычным пераломе. І гэта не танны казённы аптымізм. Гэта — адзінае, на што мы маем маральнае права. На песімізм такога права ў нас няма. За нашымі плячамі — тысяча гадоў развіцця нашай пісьменнасці, літаратурнай мовы, самой літаратуры і ўсёй духоўнай культуры народа. Гэта прызнана ўсім светам. Як жа мы, беларускія літаратары, павінны пачувацца, ведаючы, што за намі — тысячагадовы шлях пакут і барацьбы многіх пакаленняў, ведаючы, якая велізарная духоўная спадчына нам дасталася? Не толькі — з якою гордасцю мы павінны думаць пра гэта, а перш за ўсё — з якою адказнасцю! Тысячу гадоў збіраўся, накапліваўся, нарастаў духоўны скарб народа — і цяпер нехта мае права паставіць на ім крыж? Нікому з нас, сёння жывучых, такога права не дадзена — нікому! Не намі пачалося — і не намі кончыцца. Наш абавязак — прадоўжыць і перадаць наступнікам, нашчадкам. І менавіта перад лёсам нашчадкаў амаральна думаць: на мой век, маўляў, хопіць, а там — хоць трава не расці!.. Вось чаму песімізму некаторых нашых старэйшых таварышаў я хачу процiпаставіць веру і ўпэўненасць маладых, добра выказаную ў вершы 23-гадовай Вольгі Куртаніч:

Адчыніце, дзверы, людцы,
Адусюль хай далятае:
Словы родныя куюцца…
Кросны родныя снуюцца…
Песні родныя пяюцца…
Мова, Мова Нас вітае!

*(«Маладосць», 1987, № 5)*

Вось — і пазіцыя, і настрой, і талент! З такім настроем будзем глядзець у будучыню.

Усё, што было тут сказана пра неабходнасць павагі да сваёй гісторыі, да культуры, да. мовы — гэта элементарныя і агульнавядомыя ісціны. Табліца множання ў прымяненні да тэорыі і практыкі нацыянальнага будаўніцтва ў нашай шматнацыянальнай краіне. Пра гэта цяпер гаворыцца ва ўсесаюзным друку амаль не кожны дзень. Роўна тыдзень назад, напрыклад, «Советская культура» змясціла артыкул прафесара М. Джунусава «Табліца павагі», у якім чытаем: «Рост нацыянальнай самасвядомасці ўсіх нацый — рэалія дня. І таму людзі хочуць не проста роўнасці, але і беражлівых адносін да сваёй нацыянальнай годнасці». Далей, адзначыўшы гістарычную заканамернасць факта, што руская мова ў нашай краіне ўзяла на сябе асноўныя інфарматыўныя функцыі, аўтар піша: «Але гэта не здымае пытання аб вывучэнні,

удасканаленні і перадачы з пакалення ў пакаленне моваў вялікіх і малых народаў нашай краіны. У народаў у рознай ступені і ў рознай форме развіваецца патрэбнасць у пашырэнні грамадскіх функцый роднай мовы» (28.V.1987). Як бачыце, усё тое, пра што сёння гаворым мы. Увогуле ж, гэта пытанне — не дыскусійнае. У Праграме КПСС — новая рэдакцыя — зусім ясна вызначана магістральная лінія ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі, згодна з якою у нашай краіне будзе адбывацца далейшы росквіт кожнай нацыі і яе культуры і толькі праз росквіт — іх збліжэнне. Іншая рэч, што існуе і такі ўзровень разумення праблемы, які лічыць магчымым развіццё нацыянальнай культуры без развіцця нацыянальнай мовы — г. зн. культуры без свайго аблічча і без свайго ўласнага голасу. Што гэта будзе за культура і каму яна такая будзе патрэбна — пра гэта на ўказаным узроўні не задумваюцца. Наколькі нялёгка будзе нам пераадолець вось такі ўзровень разумення праблемы, пасведчыў артыкул С. Букчына ў «Литературной газете» за 3 чэрвеня г. г. Ёсць у артыкуле асобныя слушныя заўвагі, але ёсць і такое, з чым рашуча пагадзіцца нельга. Па-першае, цытату з майго выступлення на пленуме СП СССР ён неяк хітра прывязаў да сваёй думкі, якую я катэгарычна не прымаю, а менавіта, што ўмовы, у якіх апынулася наша родная мова, склаліся натуральна і што сама сённяшняя моўная сітуацыя ў Беларусі — натуральная. Па-другое, Букчын лічыць, што вярнуць беларускай мове прэстыжнасць ніякія меры і мерапрыемствы не памогуць. А што можа памагчы? Толькі адно: пішыце свае беларускія кнігі на такім высокім узроўні, каб яны не залежваліся. Пішыце, гаворыць ён, на ўзроўні Быкава, Караткевіча і Разанава. Ну, а паколькі аўтар артыкула сам піша кнігі, і яны, трэба думаць, не залежваюцца,— значыць, і на мастацкім узроўні Сямёна Букчына. Як усё проста вырашаецца! Аказваецца, мы, беларускія пісьменнікі, перш за ўсё і вінаваты ў сённяшняй непрэстыжнасці нашай роднай мовы. У народзе ў такім выпадку кажуць: і б'юць, і плакаць не даюць. Тым, хто разлічвае на наіўных і хоча зацямніць справу, адкажу зусім ясна: прэстыжнасць беларускай мовы будзе вернута тады, калі ёй будзе вернута законнае дзяржаўнае становішча ў рэспубліцы. Вось да гэтага, думаю, дабавіць няма чаго.

І яшчэ — у сувязі з праблемай маралі і маральнасці. Калі сённяшні боль усёй беларускай інтэлігенцыі за сваё роднае слова некаму не баліць, калі некага зусім не хвалюе, што ў нашых гарадах англійскія школы ёсць, а беларускіх няма, дык элементарная маральнасць павінна падказаць гэтаму некаму — не сыпце соль на чужыя раны, не можаце ў бядзе дапамагчы — дык хоць памаўчыце.

Прыкра бачыць баязлівую падмену праўды хітрымі маніпуляцыямі і падтасоўкамі там, дзе справа датычыць праблем развіцця нашай нацыянальнай культуры. Колькі разоў даводзілася нам чытаць артыкулы або слухаць выступленні, у якіх людзі адукаваныя, вучоныя, дзяржаўныя людзі, спрабавалі камусьці даказаць, кагосьці пераканаць, што ніякіх вострых праблем у сучаснай беларускай культуры няма. «Все хорошо, прекрасная маркиза! Все хорошо!» Пры гэтым, вядома ж, аперыравалі фактамі і лічбамі. Але так, што сапраўды — кругом выдатна!.. Прабачце, выдатна — ды не зусім. І вось пра гэта «не зусім» шаноўныя аўтары — ні слова. І як быць, што думаць сумленнаму чытачу, які ведае, што за агульным валам лічбаў і назваў хаваюцца неверагодна мізэрныя тыражы беларускіх выданняў, у выніку чаго іх практычная роля ў развіцці нацыянальнай культуры, у патрыятычным і інтэрнацыянальным выхаванні зусім нязначная.

Пачуццё Бацькаўшчыны, гістарычная памяць народа, яго душа, матчына песня, роднае слова — усё гэта разам узятае ёсць «святая святых» для кожнага культурнага чалавека, ёсць тая сфера духоўнасці, дзе мацней за ўсё азываюцца і боль, і сорам, і наогул — першародны голас чалавечага сумлення. Нішто не можа так акрылёна ўзвысіць чалавека, як усведамленне сваёй арганічнай далучанасці да духоўнай велічы свайго народа, і нішто не можа балючай ударыць, страшней абразіць чалавека, як прыніжэнне нацыянальнай годнасці яго народа. Калі, вядома, пачуццё гэтай годнасці знаёма яму самому — чалавеку. Калі народ і Радзіма для яго не проста звыклыя словы. У новым рамане маскоўскага пісьменніка С. Шуртакова «Одолень-трава» браканьеры і парубшчыкі душаахоўнай зоны названы «рускімі людзьмі без Расіі ў сэрцы». Правільна названы, дакладна. Ну, а ці ёсць у нас у рэспубліцы «беларускія людзі без Беларусі ў сэрцы»? Ці ёсць? Ды страшна падумаць, колькі іх! І колькі сярод іх тых, на каго ўскладзены непасрэдныя абавязкі клапаціцца пра беларускую прыроду, пра нашы цудоўныя лясы, рэкі і азёры, пра помнікі беларускай гісторыі і культуры, пра беларускі тэатр і мастацтва, і самае страшнае — пра будучыню Беларусі: пра нашых дзяцей, пра беларускую школу.

Яшчэ адно пытанне, якое блізка прымыкае да папярэдняга. У апошнія гады на старонках нашага літаратурнага друку — і рэспубліканскага і ўсесаюзнага, а таксама на нашых сходах неаднойчы ўзнікала тэма правінцыялізму як паняцця, канечне ж, і сацыяльна і маральна не эфемернага, а досыць канкрэтнага і пэўнага. Праўда, нейкага адзінага погляду на гэту з'яву духоўнага, у тым ліку літаратурнага жыцця — няма. Меркаванні і сцверджанні выказваюцца самыя розныя. Віктар Астаф'еў, напрыклад, мяркуе

так: «Правінцыялізм — паняцце не геаграфічнае. У Маскве яго, думаю, не менш, чым у якой-небудзь глушы. Наш правінцыялізм — пераймальніцтва. Гэта датычыць усіх галін культуры» («Книжное обозрение» за 4.1.1987). Як бачым, па Астаф'еву, правінцыялізм — гэта пераймальніцтва, іначай сказаць — некрытычнае захапленне чужым, прыносным або наносным, на шкоду свайму, айчыннаму, духоўна самастойнаму, нацыянальна самабытнаму. Вядома, гэта не поўная характарыстыка такога шматаблічнага з'явішча, як правінцыялізм. Але рыса названа дакладная. Бясспрэчна, пераймальніцтва заўсёды характарызавала паводзіны культурнай правінцыі. Пераймальніцтва і — як адваротны бок медаля — адмаўленне нацыянальнай самабытнасці. З другога боку, замыканне толькі ў сваім нацыянальным, няздольнасць успрымаць і засвойваць, духоўныя багацці іншых народаў, набыткі іншых культур,— таксама ёсць верная адзнака правінцыяналізму. Мне заўсёды здавалася, што гэтыя азбучныя ісціны дастаткова трывала засвоены нашымі пісьменнікамі яшчэ ў школьныя гады. Проста немагчыма дапусціць, каб хтосьці з сучасных беларускіх літаратараў не разумеў гэтага і ўсур'ёз мог заняць пазіцыю духоўнай самаізаляцыі, нацыянальна-культурнага герметызму. Ды і праяў чаго-небудзь падобнага — ні ў саміх мастацкіх творах, ні ў тэарэтычных даследаваннях — не відно. Вось чаму мяне моцна здзівіла абвінавачванне ў хутарскіх настроях і хутаршчыннай пазіцыі, якое было адрасавана некаторым беларускім пісьменнікам сваімі ж беларускімі крытыкамі. На думку апошніх, нібыта не ўсе з нас разумеюць, што каб полымя літаратуры шугала найлепш, яно павінна быць для ўсіх вятроў адкрытае. Хто гэтага не разумее — я асабіста не бачу; што за гэткія вузкалобыя нацыянальныя капшукі, што супроць засваення сусветнай культуры? У наш час — і такое дзікунства? Дазвольце не паверыць.

Тое, што ў многіх творах сучасных беларускіх пісьменнікаў заўважаецца рост цікавасці і ўвагі да нацыянальна самабытнага побыту, да нацыянальных вытокаў духоўнасці,— з'ява натуральная, заканамерная, і яе, калі па справядлівасці, трэба вітаць, бо гэта ёсць процідзеянне сярэдне-савецкай абязлічанасці самога жыццёвага матэрыялу ў сярэдне-савецкай літаратуры. Чаму ж некаторых таварышаў раздражняе тое, што з'яўляецца станоўчым, што заслугоўвае пахвалы і падтрымкі?

Па сутнасці, у выступленнях гэтых таварышаў адбываецца свядомая ці несвядомая падмена паняццяў. Дзе трэба гаварыць проста пра шэрасць і слабіну, пра ідэйна-мастацкі прымітыў — чамусьці пачынаюць гаварыць пра нацыянальную, з дапаўненнем — хутарскую, замкнутасць. Але ж прымітыву і шэрасці не менш і ў тых кніжках, якія тэматычна уга як шырока адкрыты сусвету! У

кніжках, якія па праблемах, што ў іх закранаюцца, па героях, што на іх старонках фігуруюць, з'яўляюцца надзвычай актуальнымі, сучаснымі і нават архісучаснымі. І якія, дарэчы, амаль зусім не крытыкуюцца.

Пара зразумець, што ярлыкамі і іншымі моцнымі эпітэтамі праўдзе не паслужыш. Дый удумаемся, таварышы, пра што можа ісці спрэчка? Што пісьменніку трэба трымацца родных каранёў і вытокаў, здаровых нацыянальных традыцый? А каму гэта даказваць? Хто гэтага не разумее? Ці — што пісьменніку трэба авалодваць дасягненнямі сусветнай культуры, жыць з адкрытай для паэзіі ўсяго свету душою? А гэта каму даказваць? Хто гэтага не разумее?.. Ды нібыта няма такіх недарэкаў. Тады — для чаго ўсё гэта?.. Васіль Быкаў аднойчы — па іншаму, праўда, поваду — сказаў: «Не трэба штучна ствараць для сябе праблем, хопіць нам тых, што стварае само жыццё». Вельмі мудра сказаў наш Васіль Уладзіміравіч!..

Хачу закончыць гэту тэму таксама мудрымі, на мой погляд, радкамі з нядаўна апублікаванага верша Сяргея Грахоўскага:

Мы ж аднадумцы ўсе і аднадомны.
Каб стаць і даўгавечнай, і дужэй,
Дабро памножым на дабро, каб сонца
Свяціла кожнаму даўжэй.

Так, што мы і аднадумцы і аднадомцы і што гэта нас да многага абавязвае,— усім нам трэба помніць заўсёды. І думаць пра гэта пастаянна.

* * *

У сённяшняй размове нам, канечне ж, не абысціся без пытання, якое месца ў літаратуры сацыяльна-маральнай праблематыкі займае крытыка, як яна садзейнічае пісьменнікам у асвятленні названых праблем і як іх разумее сама. Тут, як і ва ўсіх іншых жанрах літаратуры, усё залежыць ад асобы крытыка, ад яго грамадзянскай пазіцыі і таленту. Таму гаварыць пра ўсю крытыку агулам: так, садзейнічае і разумее, або: не, не разумее і не садзейнічае,— нельга. Мне, напрыклад, шмат дае чытанне кніг і артыкулаў тых крытыкаў, у якіх ёсць свой уласны погляд на стан рэчаў, ці іначай — свая канцэпцыя, сваё асабістае ўспрыняцце твора ў яго шматлучных сувязях з рэчаіснасцю, свае ўласныя падыходы, спосабы і прыёмы аналізу, нарэшце, свой почырк, свае фарбы пісьма псіхалагічнага, інтэлектуальнага, эмацыянальнага, іранічнага... Адным словам, усё тое, што і ў творчасці пісьменнікаў любога іншага жанру Глыбока перакананы, што крытык павінен быць цікавым самастойным мысліцелем. І што ні ў якім разе яго задачай не з'яўляецца хваліць твор або ганіць. Ацэначная крытыка — гэта крытыка непазбежна суб'ектывісцкая, прадузятая, якая

схіляецца да двух аднолькава шкодных крайнасцей: або да наўмыснай пагромшчыны, або да свядомай кампліментаршчыны. У нас да гэтага часу пераважала апошняя. У абкурванні некаторых аўтараў фіміямам даходзіла да крайняй мяжы, я сказаў бы, да непрыстойнасці. Іншы раз так і хацелася крыкнуць аўтару рэцэнзіі ці артыкула: «Ну што вы ў соты раз і ва ўвесь дух пампуеце пахвалу! Я і без вас, шаноўны, ведаю, што ўсе нашы масцітыя раманісты пішуць не горш за Дастаеўскага і Талстога! Нават яны самі ўжо гэта ведаюць! Вы пакажыце мне, у чым вы з пісьменнікам не згодны: у поглядах на прадмет? На тэму? У мове? У ідэйна-маральнай і эстэтычнай пазіцыі? Ці ў вас свайго погляду і сваёй пазіцыі няма? Калі няма, тады, прабачце, які ж вы крытык?»

Дарэчы, менавіта гэтым і вызначаюцца крытэрыі, якімі трэба кіравацца супрацоўнікам рэдакцый нашых выданняў (ды і не толькі нашых). Трэба зрабіць няпісаным законам правіла: прымаць крытычны матэрыял да друку толькі тады, калі ў ім ёсць самастойны погляд, сваё ўласнае разуменне праблемы і калі ён сапраўды крытычны. У таленавітага крытыка, як правіла, бывае ў чымсьці нязгода з аўтарам, і ён гэту нязгоду выказвае, спрачаецца па нейкіх пытаннях, даказвае і сцвярджае свой пункт гледжання,— і менавіта таму яго цікава чытаць. На жаль, крытычных публікацый, якія цікава чытаць, у нашым друку паяўляецца яшчэ вельмі мала. На сёння, перагартаўшы свежыя нумары часопісаў, я не магу радасна ўскрыкнуць: «Ты бач, як яна загаварыла, наша крытыка! Проста не пазнаць! Крытыкуе! Вы толькі паглядзіце: не сцелецца лістам, не сыпле кампліменты, а — спрачаецца, робіць сур'ёзныя і непрадузятыя заўвагі, і нават з'едліва кпіць — высмейвае відочную лухту і глупства!..» На жаль, паўтараю, гэтага яшчэ няма, і да гэтага яшчэ не такая лёгкая дарога. Бо далёка зайшло ў другі бок. Трэба дабіцца пералому ў самой атмасферы нашага, літаратурнага жыцця...

Баюся, мы і дагэтуль недастаткова ўсвядомілі, што той дух культаўшчыны, які панаваў у літаратуры ў часы культу асобы, застаўся фактычна не пераадоленым. Крытычныя панегірыкі, кампліменты, захвальванне — хіба гэта не атрыбуты атмасферы культу? Знайдзіце аб'ектыўную, прынцыповую крытыку на тых, хто займаў ці займае пасаду, ад якой сёе-тое залежыць! Калі і знойдзеце — дык як рэдкае выключэнне. Мы пастулова апусціліся да таго ўзроўню, пры якім пачалі кіравацца формулай: чые творы можна крытыкаваць, а чые — не, бо небяспечна, бо можа адпомсціцца. Практычна крытыкаваць не стала каго — паколькі кожны ад кожнага ў нечым залежыць. Гэты працуе сакратаром СП, той — у высокай інстанцыі, гэны — у выдавецтве, неабавязкова дырэктарам — і рэдактар можа з цябе гізунды

выцягнуць, гэты працуе ў часопісе, той — на радыё ці на тэле, гэны — дацэнт ці прафесар філфака, будзе прымаць на вучобу маё чада, якое я ўжо запланаваў зрабіць членам Саюза пісьменнікаў... Хто ж застаецца — каго можна крытыкаваць? Хіба якога няшчаснага пенсіянера! Ну, а дзе ж залежнасць ад сумлення? Ад маральных прынцыпаў? Ад абавязку шчыра служыць літаратуры?.. Мужнасці гаварыць поўную праўду пра стан крытыкі нам доўгі-доўгі час неставала. Пятнаццаць гадоў назад была прынята вядомая пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы». Пасля таго на кожнай справаздачы мы дакладвалі і самі сабе ўнушалі, што крытыка пачала развівацца лепш, што зроблены пэўны крок наперад, адбыўся зрух, ажыўленне. І гэта была няпраўда. Мы і некаму і самі сабе хлусілі. Хлусілі не зламысна, а проста па звычцы. Бо як жа так: раз пастанова прынята — значыць, яна выконваецца! На яе ж адклікнуліся!.. І смець не смелі падумаць іначай. А пастанова тым часам не выконвалася! І ніякага зруху, ніякага кроку наперад не было. Наадварот — яшчэ мацней запаноўвала руціна. Бо што стаіць на месцы — тое плынь часу гоніць назад.

Давайце ж зразумеем, што без перабудовы ў крытыцы перабудова ў літаратуры ў цэлым не адбудзецца. Час крытыкі прабіў! З чаго пачынаць? А хоць бы з таго, каб зрабіць крытыку канкрэтнай. Досыць таўчы ваду ў ступе — частаваць чытачоў агульшчынай: «Трэба смялей, вастрэй, глыбей, больш патрабавальна!..» Да каго гэтыя заклікі? Каму трэба глыбей — Быкаву, Панчанку, Танку, Адамчыку, Кудраўцу? Каму? Бо Мікола Пэцкаль і Міхась Марзэкала чытаюць гэту агульшчыну і думаюць: «Ага, нам з Быкавым і Панчанкам трэба глыбей... Ну, але разам з імі, у адной кампаніі, мы не прападзём, хай яны перш за ўсё думаюць...» Пазбыцца камплімentarшчыны і агульшчыны — гэта і будзе здзейсніць перабудову ў крытыцы. А моцныя крытычныя сілы ў нас ёсць — і ёсць на каго разлічваць. І гэта не толькі нашы аўтарытэтныя і, на шчасце, нястомна актыўныя старэйшыны крытычнага цэху — У. Калеснік, А. Адамовіч, В. Каваленка... Са шкадаваннем думаю, чаму так рэдка выходзяць «на людзі» са сваім бязбоязна шчырым, прынцыповым, а калі трэба і вострым словам А. Клышка, Г. Шупенька, М. Ермаловіч, Я. Лецка... Уяўляю, як маглі б, схамянуўшыся, успомніўшы даўнія гады, загаварыць М. Стральцоў, Д. Бугаёў, С. Андраюк, М. Грынчык... З яшчэ больш крытычным настроем пісалі б свае артыкулы і рэцэнзіі тыя, што ўвогуле выступаюць у перыёдыцы актыўна: У. Гніламёдаў, А. Яскевіч, А. Мальдзіс, А. Лойка, М. Тычына, В. Рагойша, М. Мушынскі, А. Сямёнава... Адным словам — сілы ёсць, у тым ліку і творча маладыя, перспектыўныя, надзейныя. Але патрэбна

разварушэнне — вялікае агульнае разварушэнне, пасля якога будзе немагчыма пісаць крытыку для абслугоўвання «патрэбных людзей» і сяброў, займацца выгадным калялітаратурным сервісам.

Партыя дала рэзка крытычную ацэнку праявам «беспрынцыпнасці і дзяляцтва» ў сферы мастацтва і літаратуры. Раз гэтыя з'явы названы і асуджаны — значыць, яны ёсць. А можа, у нас, у Беларусі, па шчасліваму выключэнню, іх няма — можа, яны толькі недзе? Ды не, на вялікі жаль, гэта — і пра нас сказана, і нас датычыць. Хаця — пагаджуся з тымі, хто скажа, што ў нас і беспрынцыпнасць, і асабліва дзяляцтва не набылі вельмі ўжо небяспечныя, пагражальныя памеры. Дык не чакаць жа нам, пакуль набудуць! Трэба зараз гаварыць пра ўсё — шчыра, адкрыта — і наколькі можна — спакойна; трэба асудзіць у нашым пісьменніцкім побыце, у жыццядзейнасці нашай арганізацыі, у пазіцыі і паводзінах асобных таварышаў, а дакладней — кожнага з нас,— усё тое, што не адпавядае духу камуністычнай маралі, традыцыйнай — ад Купалы і Коласа, ад Багдановіча і Гарэцкага — пісьменніцкай этыцы. Трэба шчыра сказаць, за што нам павінна быць сорамна і чаму, аднак жа, нам не сорамна. Калі і як гэта стала, што яўна амаральныя, непрыгожыя справы мы не ўспрымаем як амаральныя і непрыгожыя. А калі ўспрымаем — дык чаму не асуджаем іх публічна? Чаму мы іх церпім?

Чаму, напрыклад, пісьменніку не сорамна — хадзіць-выхаджваць для сябе прэмію, узнагароду, ганаровае званне? Як растлумачыць яму, што гэта ганебна? Што не пра гэта ён павінен думаць і клапаціцца,— асабліва калі ў жыцці грамадства, якому ён належыць, столькі ўсялякіх праблем, калі ў яго народа і краіны – столькі неймаверна цяжкіх турбот і клопатаў! На валаску вісіць мір; мільёнам людзей перавярнула душу чарнобыльская аварыя; пад пагрозай пагібелі самая зялёная ў свеце, лясная, рачная, азёрная зямля — беларускае Палессе, і не толькі Палессе; уся краіна што называецца ўсенародна рушыла ў наступ на прарыў — на ўсіх франтах эканамічнага, сацыяльнага і культурнага будаўніцтва,— а ён, пісьменнік, інжынер чалавечых душ, настаўнік людзей, асветнік, будзіцель, прарок — ідзе ў гэты час «на верх», да высокага начальства выкленчваць сабе чарговую прэмію ці ўзнагароду! Пра што думае, чым заклапочаны!..

Або: чаму, напрыклад, віднаму пісьменніку не сорамна пладзіць, падтрымліваць, заахвочваць публічны падхалімаж у дачыненні да ягонай творчасці і самой яго асобы? Не сорамна акружаць сябе «закадычнымі» сябрамі-крытыкамі, што спяшаюцца навыперадкі біць у літаўры: «Гром победы раздавайся!» Яшчэ раман у карэктуры, а ўжо хвалебныя рэцэнзіі гатовы — ідуць у друк! — каб хаця хто першы не напісаў праўду, што раманец-то —

так сабе, досыць пасрэдны, ці, як сказаў бы адзін мой знаёмы — «сярэдняй слабасці». І гэта ў той час, як гадамі не заўважаюцца і не рэцэнзуюцца кнігі, вартыя ўвагі.

Або: чаму нашым таварышам не сорамна, злоўжываючы становішчам, перавыдаваць свае творы ў Маскве і іншых рэспубліках штогодна і, вядома ж, за кошт выдавецкай квоты, адпушчанай на ўсю беларускую літаратуру? Паглядзіце хроніку выданняў у альманаху «Далягляды»: убачыце, што ў 1977 годзе адзін наш масціты празаік выдаў на рускай мове чатыры кнігі, тры з іх — перавыданні, а ў 1978 годзе ён жа выдаў на рускай мове пяць кніг, з іх — чатыры перавыданні. Значыць, дзевяць выданняў толькі на рускай мове — і толькі за два гады! І з іх — сем кніг перавыданні! І каб хоць адна душа звярнула ўвагу на гэту ганебную арыфметыку, на гэты, прабачце, выдаўнічы разбой! Ніхто — ні слова! Усё — нармальна, усё — як мае быць. Павага і пашана таварышу — поўнай мерай! Калегі мае дарагія, я ніколі не пакутаваў ад зайздрасці да нейчых поспехаў і ўжо ва ўсякім разе — ніколі не лічыў чужых ганарараў. Але я падлічыў, я вымушаны быў падлічыць іншае, а менавіта: калі б наш масціты таварыш урэзаў свае апетыты хаця б па палавіну, дык бы рускамоўны чытач за тыя два гады атрымаў бы, далікатна кажучы, не менш таленавітыя кнігі Караткевіча, Адамчыка, Кудраўца, Пташнікава, або не менш таленавітыя кнігі — Чарнышэвіча, Лупсякова, Кулакоўская, Лобана, або кнігі таленавітых маладзейшых таварышаў — іх першыя кнігі на мове, якая б адкрыла іх шырокаму чытацкаму свету. І гэта было б так па-гаспадарску і, з увагі на ўзрост, так па-бацькоўску мудра...

Калі ўжо гаворка зайшла пра ненармальныя, вартыя маральнага асуджэння з'явы ў сферы кнігавыдавецка-рэдакцыйнай, то можна спаслацца і на практыку «ты — мне, я — табе», якая набыла ў нас прыкметнае пашырэнне. Стала не сорамна дзейнічаць па прынцыпу крылоўскіх Зязюлі і Пеўня. Я пра цябе артыкул у часопіс — ты на маю кнігу рэцэнзію для выдавецтва; я пра цябе па тэле — ты пра мяне па радыё; я напісаў прадмову да твайго выбранага — ты выдасі ў «сваім» выдавецтве маё выбранае. Ах, ты ўжо больш у выдавецтве не начальнік і ад цябе не залежыць? Ну, тады я сваю прадмову-панігірык да твайго выбранага забіраю назад. А то людзі смяяцца будуць... Вось і ўся наша прынцыповасць, пра якую мы так любім пагаварыць, пагавэндаць, пафіласофстваваць...

Пытанне з пытанняў — адно: калі мы навучымся чырванець? Калі дойдзем да элементарнага ўсведамлення, што непрыгожа, сорамна прасіць: браток, напішы пра маю кнігу рэцэнзію? Што сорамна пабірацца і жабраваць пахвалу «падайце, радзі бога,

няшчаснаму!» — бо толькі ўбогія духам могуць сабе дазволіць гэта. Што, нарэшце, сорамна скакаць ад радасці, калі беспрынцыпны прымітыўны пісака курнуў табе фіміяму; калі ты сур'ёзны, таленавіты пісьменнік, то цябе павінна абразіць гэта, а не ўзрадаваць. На жаль, наша культура адносін да крытыкі яшчэ нярэдка вымяраецца элементарнай, я сказаў бы, дзетсадаўскай формулай: абы цёця пахваліла, абы сказала, што я цаца і ляля.

Аднак жа з даўных даўна вядома, што чалавечая і грамадзянская годнасць пісьменніка — гэта не дробязь, якую можна беспакарана ігнараваць. Для таленту сапраўднага высокамаральнае жыццё ў літаратуры — непераступны закон. Закон — няпісаны, вядома, і яго сутнасць кожны спасцігае сам. Чытач вельмі неабыякавы да таго, якая — ці высакародная? — жыццёвая і творчая пазіцыя пісьменніка, ці грунтуецца яго творчая мараль на сумленні, дакладней — на чыстым сумленні? Гэта — архіважнае пытанне, таварышы!.. Што можна чакаць ад пісьменніка, які ўсім сваім выглядам на кожным кроку падкрэслівае: ды чхаць мне на вашы праблемы і клопаты! У мяне адзін клопат: чаму вы не бачыце, які я вялікі і геніяльны? Чаму вы не цмокаеце мне ў ручку, не хапаецеся за працягнуты вам палец? Чаму не абціраеце рукавамі пыл з маіх чаравікаў?.. Або — што можна чакаць ад пісьменніка, які ўсім сваім выглядам крычыць і лементуе: дайце! Дайце мне і гэта, і гэна, і тое, бо вы ж бачыце, што мне яшчэ мала! Дайце! — а то ўсё роўна сам вазьму!.. Што, пытаюся, можа сказаць чытачу гэтакі творца? Якую мудрасць высокую «рэкне», якую праўду жыцця і часу адкрые? Чым прасвятліць чытача — сам цёмны,— аглухлы і аслеплы ад самалюбства, ад эгаізма, ад пыхі і фанабэрыі, ад хцівасці, ад лакейскай угодлівасці перад «власть имущими» і ад хамскай пагарды да людзей сціплых?..

У новай кніжцы Пімена Панчанкі ёсць невялікі верш пра пісьменніцкі сход — праўдзівы, на жаль, абразок з натуры, балюча чытаць, бо гэта пра нас з вамі, але што зробіш: лякарства заўсёды горкае.

Узнімаюць таміны тоўстыя,
Раздаецца праўдзівы крык:
Ад Дастаеўскага
Да Паўстоўскага
Пачынаецца пералік.

І натхнёна, і без абразы!
Вельмі доказна кожны сапе.
І гавораць усе тут разам
Пра сябе, пра сябе, пра сябе…

Дарэчы, наконт гэтага «пра сябс». Яно кідаецца ў вочы не толькі на сходах. Пацікаўцеся, як праходзяць выступленні некаторых таварышаў на сустрэчах з чытачамі — пра што там ідзе размова? Ці пра жыццё і літаратуру — ці менавіта пра сябе? На жаль, самарэклама лічыцца ў нас нармальнай з'явай, і прапаганда беларускай літаратуры нярэдка зводзіцца да самапрапаганды: мой раман, мая аповесць, мая п'еса, мая паэма... Дзве гадзіны гаворкі — і ўсё пра сваю персону, пра сябе! Без элементарнага пачуцця няёмкасці!..

Хвароба, аб якой размова, мае сваю дакладную назву: мітуслівасць. Мітуслівае жыццё ў літаратуры. Хвароба гэта даўняя, застарэлая і, вядома, не толькі наша нацыянальная. Можа быць, што дзесьці гэтай мітуслівасці сёння нават больш, чым у нас. Але гэта не павінна быць для нас суцяшэннем. Лепш задумаемся аб тым, чаму калісьці яе было менш у асяроддзі беларускіх літаратараў, а цяпер назіраецца больш. Адна з самых вызначальных адзнак гэтай мітуслівасці — гігантаманія, пагоня за колькасцю тамоў, кніг, публікацый, што непазбежна адбіваецца на якасці. Прыжываюцца і культывуюцца якіясьці не толькі не прыдатныя, але і шкодныя для літаратурнай творчасці спартыўныя норавы: гайда, навыперадкі! — хто каго абгоніць?! Але ж гэтак, у абгонку, займацца творчасцю небяспечна, дарагі таварыш! Як вясковы чалавек, скажу, што гэткім чынам можна і дыхавіцу нагнаць сваайму Пегасу А што за Пегас з дыхавіцай? Куды ты на такім Пегасе заедзеш? Пегас павінен быць здаровы!..

Мітуслівасць — родная сястра шэрасці ў літаратуры. Як правіла, менавіта мітусліўцы ствараюць той «шэры паток», якім мы абураемся і які адбівае ў чытачоў ахвоту да кнігі. Атмасфера мітуслівасці спрыяе таму, што ў літаратуру людзі ідуць не ад таленту, а ад эгацэнтрычнай прагі лёгкага хлеба і славы. Яны дзейнічаюць спрытам, нахабствам, хітрасцю, яны бегаюць, шмыгаюць, праціскаюцца і ўціскаюцца — і вось ужо заваёўваюць першую пазіцыю, і ўжо самі дзівяцца: ты глядзі —удалося! Проста не верыцца! Ну, а раз так — то «полный вперед!» і далей! Таварыша прымаюць у Саюз, прызнаюць за раўнапраўнага, пачынае мільгаць у пераліках яго прозвішча, а таленту — як не было, так і няма! І яго «творчы плён» — бяздушнае рамесніцтва, спекулятыўная фабрыкацыя эрзац-мастацкіх вырабаў, сурагат паэзіі, прозы, драматургіі... Таленту няма. Затое ёсць сябры-крытыкі — гэткія ж спрытныя, як сам, гэткія ж бессаромныя, вульгарныя, нахрапістыя — і яны ствараюць яму рэкламу, пхнуць-падпіхаюць яго на літаратурныя падмосткі, на высокую трыбуну.

Так замыкаецца круг, утвараецца рэальнасць, якая перад намі.

Здаецца, мы трохі перастараліся, дэкламуючы па бяздумнай звычцы тэзіс аб нашых поспехах у справе духоўнага росквіту чалавечай асобы, у тым ліку — і асобы пісьменніка. Мабыць, гэтыя поспехі ўсё-такі больш сціплыя. Адмаўляць іх агулам ні ў якім разе нельга, гэта было б несправядліва,— свядомасць і мараль народа на вышыні, пра што сведчыць і яго безагаворачна гарачая падтрымка абвешчанага партыяй курса на перабудову. Аднак жа і перабольшваць іх не трэба. Нядаўна Вячаслаў Кандрацьеў, з уласцівай яму салдацкай праматой, у інтэрв'ю «Комсомольской правде» (9.3.1987) сказаў: «Узровень інтэлігентнасці нашага Саюза пісьменнікаў панізіўся». Вядома, прачытаўшы такое, хочацца адразу ж запярэчыць: як гэта панізіўся? Гэта — паклёп на нашу арганізацыю! У нас наогул нічога не паніжаецца!.. Не будзем, аднак жа, спяшацца з такім пратэстам. Ва ўсякім разе, тут ёсць над чым падумаць, пытанне досыць сур'ёзнае. Ва ўмовах духоўна-марал ьнага застою мог знізіцца ўзровень інтэлігентнасці Саюза за кошт шматлікага папаўнення яго радоў і не надта таленавітымі і — што яшчэ горш — не надта культурнымі, малаадукавадымі людзьмі. Як гэта ні сумна прызнаваць, у нас ёсць постаці рэдкай адыёзнасці. Паглядзеўшы-паслухаўшы іншага члена СП, робіцца проста сорамна і за літаратуру, і за Саюз, і за тое, што ты ў гэтым Саюзе. І робіцца страшна ад думкі, што гэтыя члены СП раз'язджаюць па рэспубліцы і прапагандуюць нашу літаратуру, наша роднае слова. Бедная ты наша літаратура, няшчаснае ты наша слова! — толькі і ўздыхнеш цяжка. Найбольшы ж кур'ёз у тым, што сёй-той з гэткіх «творцаў» прымаецца ўсур'ёз не толькі крытыкай, але і літаратурнай навукай. Іх опусы змяшчаюцца ў чытанках і хрэстаматыях, даследуюцца ў артыкулах аспірантаў і кандыдатаў ад філалогіі. Дый што за дзіва: кніжкі выходзяць адна за адной, нават «выбранае», а паралельна — і ў перакладах на рускую, а то і на польскую і на тамільскую. Зніжэнне крытэрыяў — неверагоднае. А нізкі ўзровень крытэрыяў — гэта і ёсць верная адзнака ўзроўню агульнай культуры. У камедыі К. Крапівы

«Мілы чалавек» ёсць такая характарыстыка-эпіграма на адну дзейную асобу:

> Па прызванню быццам дворнік,
> а рыхтуе вершаў зборнік.

Даўно гэта было пушчана ў свет, але актуальнасці не страціла. Занадта лёгка стала набыць тытул пісьменніка! Галоўнае — самаўпэўненасць, настырнасць, бесцырымоннасць! — і тады тыповае графаманскае варыва сыдзе за раман, за аповесць, за п'есу. Энергічныя людзі, якіх так добра паказаў Васіль Шукшын, паявіліся і ў літаратурным асяроддзі. Зрэшты, яны былі ў ім заўсёды, але іншыя грамадскія ўмовы не давалі ім па-сапраўднаму

разгарнуцца. У 60-70-я гады ўмовы, як мы ведаем, змяніліся не ў лепшы бок, а іменна — на карысць энергічных людзей. Непрыкметна пісьменніцтва пачало рабіцца прэстыжным у мяшчанска-абывацельскім сэнсе: на прафесію літаратара ўсё больш пачынаюць глядзець як на высокадаходнае месца, якое гарантуе матэрыяльную забяспечанасць, вальготнае існаванне і ўсякія іншыя выгады.

Так, калі па вялікаму рахунку, а іншы рахунак сёння не прымаецца,— нам проста не хапае культуры, інтэлігентнасці, сціпласці, не хапае пачуцця годнасці і гонару. Калі дзеля матэрыяльных або іншых выгад пісьменнік ідзе на здзелку з уласным сумленнем — гэта, канечне, кепска, вельмі кепска. Але гэтае справядлівае меркаванне вымагае, на мой погляд, і пэўнай агаворкі,— не дзеля апраўдання, вядома, а дзеля таго, каб праўда нашага жыцця адкрывалася нам у большай паўнаце і канкрэтнасці. Маю па ўвазе, што сумленнаму пісьменніку даводзіцца трапляць у досыць цяжкія жыццёвыя абставіны і, мабыць, не кожны выходзіць з іх пераможцам. Скажам, пісьменніку непрыемна мець справу з выдаўцом ці з рэдактарам часопіса, але ён мусіць бо выбару ў яго няма, і яму нічога не застаецца, як сціснуць зубы і прыйсці на паклон. Раз, другі — і ён патроху прывыкае да такога спосабу існавання. Успамінае сабе на суцяшэнне прыказкі: вышэй пят не падскочыш, мур галавой не праб'еш, ды і жыве сабе поціху, друкуецца, вылаецца... Пісаць жа для шуфляды — доля зусім нямногіх. А менавіта — самых культурных і. самых інтэлігентных, людзей з найбольш высока развітым пачуццём чалавечай і мастакоўскай годнасці.

Культура і інтэлігентнасць вызначаюць і характар адносін да крытыкі. У нас крытыка — не пахвальба, а менавіта крытыка — успрымаецца як замах на гонар асобы. Няма сумнення, што гэта ідзе ад нізкай культуры, ад правінцыяльнай фанабэрыі. Сапраўдная крытыка — гэта размова аб творы, суаднясенне яго зместу з жыццём, гэта гутарка з аўтарам і чытачом — абавязкова з павагай і да аднаго і да другога, а найперш — з павагай і да праўды жыцця і да мастацкай праўды. Чаго ж у такім разе павінна ўзнікаць у пісьменніка крыўда на крытыку, хваравітае ўспрымынне яе? І нашто яму так турбавацца, каб абзавесціся крытыкамі, якія будуць яго хваліць? Давайце ўспомнім яшчэ раз, што ні Купала, ні Колас, ні Багдановіч, ні Гарэцкі, ні Чорны персанальнымі харугваносцамі, уласнымі прысяжнымі крытыкамі не абзаводзіліся. Больш таго, яны зазналі пры жыцці нямала крытыкі бязлітасна жорсткай і несправядлівай. І сёння, прызнаемся, гэта выклікае ў нас асабліва шчырую і глыбокую да іх павагу. Як жа ў святле сказанага ацаніць сітуацыю, калі пра твор-

часць многіх нашых паэтаў і пісьменнікаў ужо цягам цэлых дзесяцігоддзяў не прамаўляецца ні аднаго крытычнага слова?! Як жа не ўтварыцца застою і руціне?

Вельмі хацелася б, каб над усімі гэтымі маральнымі праблемамі нашага жыцця ў літаратуры як мага больш думалі маладыя. Мы абавязаны дапамагчы ім разабрацца ў духоўна-маральнай сітуацыі, якую яны заспелі, у ідэйна-мастацкай спадчыне, якая ім дасталася, у павіннасцях і задачах, якія кладуцца на іх плечы... Баюся — яны яшчэ слаба ўяўляюць, што ад іх чакаецца. Але ж нейкай іншай маладой змены ў нас няма, ёсць толькі яны, і якімі яны ўвойдуць у літаратуру, якімі будуць мастакамі, творцамі, мысліцелямі, якімі акажуцца гаспадарамі і рупліўцамі на роднай літаратурнай і шырэй — нацыянальна-культурнай ніве,— гэта ў вялікай ступені залежыць ад нас, ад таго, як мы, усе старэйшыя, сёння пра гэта паклапоцімся. Думаю, што ніякай паблажлівасці і патураннню тут не павінна быць месца. Тая акалічнасць, што на ўсіх нас, хто працаваў у літаратуры апошнія два-тры дзесяцігоддзі, ускладаецца пэўная віна за сённяшнюю сітуацыю, ніяк не павінна расслабіць нас і абяззброіць: маўляў, самі ў свой час не паказалі ні належнай прынцыповасці, ні пачуцця адказнасці, а ад нас цяпер — патрабуеце... Прызнаем віну, праглынём пілюлю, пацямнеем тварам — а патрабаваць будзем! Будзем — у імя будучыні той справы, якой мы — добра ці не надта добра служылі і служым. Будзем — кіруючыся тым жа пачуццём адказнасці, якога мы ўсё ж не страцілі.

Мы абавязаны шмат чаго сказаць нашым маладым таварышам, а ў першую чаргу, можа быць, наступнае: Не давайце волі нядобраму і злому ў душы сваёй! Не дайце злу разрасціся, стрымайце і забіце яго ў сабе, пакуль не позна! Агледзьцеся, задумайцеся і зразумейце, што няма ў вас і ні ў кога з нас права на раздзьмухванне непрыязні і варажнечы, а толькі ёсць права на згуртаванне, на кансалідацыю ўсіх таленавітых, здаровых творчых сіл. Сучасны этап грамадскага жыцця, а асабліва сённяшні стан беларускай мовы і ў цэлым нацыянальнай культуры абавязвае ўсіх нас думаць не пра матэрыяльныя і ўсякія іншыя выгады, а пра будучыню нацыі, народа, краю. Калі мы сапраўды нашчадкі Багушэвіча і Цёткі, Купалы і Коласа, Багдановіча і Гаруна, Гарэцкага і Чорнага, калі мы сапраўды верныя сыны і дочкі свайго народа, а не вартыя жалю пярэваратні і адступнікі...

Мы абавязаны сказаць маладым, што трэба выхоўваць у сабе вялікую грамадзянскую мужнасць. Сцверджанне і ажыццяўленне абвешчаных Кастрычнікам высакародных сацыяльных і маральных ідэалаў — без барацьбы, без змагання не магчымыя. А што можна без барацьбы — проста і лёгка? Шмат чаго можна! На-

прыклад, хлусіць, пісаць няпраўду, халтурыць, пампаваць грымучую дэмагагічную рыторыку, рыфмаваць прысягі і клятвы... На гэта ніякай ні мужнасці, ні смеласці не трэба. У беларускай кніжцы выдатнага балгарскага паэта Хрысты Радзеўскага ёсць такія радкі:

Прагматык ці рамантык ты выразны —
жыццё ёсць бой: яно даецца дарага.
І толькі ідыёт першаразрадны
не мае ворагаў.

Сказана неабавязкова для паэта ці для пісьменніка, але і для паэта і для пісьменніка. Жыць у літаратуры па прынцыпу «мая хата з краю — я нічога не знаю» — ганебна. Само прызванне пісьменніка абавязвае да мужнай грамадскай чыннасці. Жыць сумленна ў літаратуры — значыць адстойваць праўду, справядлівасць, дабро, а гэта ў сваю чаргу значыць — непазбежна ўступаць у паядынак з няпраўдай, несправядлівасцю, злом. Толькі так! Талент без сумлення і мужнасці — што птушка без крыл.

Што яшчэ мы абавязаны гаварыць маладым? — што трэба пастаянна вучыцца, паглыбляць сваё веданне гісторыі цывілізацыі і культуры, пашыраць свой духоўны кругагляд. Як ні парадаксальна для веку НТР, і як ні горка пра гэта гаварыць,— у нас, у нашым асяроддзі, яшчэ мнагавата невуцтва. Мы скардзімся, што нашых кніг не чытаюць. Пачнём з сябе — малавата чытаем. Або, можа, не тое чытаем. Ва ўсякім разе, наша прафесіянальная адукаванасць, мякка кажучы, кідаецца ў вочы не вельмі. Баюся, што выдадзеныя нам дыпломы не заўсёды адпавядаюць таму, што ў іх пасведчана. Далёка не ўсе з нас свае студэнцкія гады ахвяравалі на сур'ёзную вучобу, на штудзіраванне сусветнай і айчыннай класікі, на нястомнае карпенне ў бібліятэках, архівах, музеях, на паходы ў тэатры і высокага класа канцэрты. У выніку, не ва ўсіх выпрацавалася патрэба натуральна далучацца да мастацкага, шырэй — духоўнага, інтэлектуальнага жыцця краіны, рэспублікі, нашай сталіцы, і нават да тых найбольш значных кулыурна-мастацкіх падзей, якія адбываюцца ў нашым Доме літаратара. Такая бестурботнасць у дачыненні да свайго духоўнага свету — рэч не бяскрыўдная, яна садзейнічае прытупленню сацыяльнай і палітычнай чуйнасці, а ў выніку — і апушчэнню маральнаму.

Каб не склалася ўражанне, што сказанае выклікана нейкай асаблівай трывогай за культурны ўзровень і творчыя магчымасці нашых маладых таварышаў, спяшаюся зазначыць, што гэта не так. Проста вельмі хочацца, каб свае магчымасці, у якія я моцна веру, літаратурная моладзь рэалізавала як мага паўней. Зрэшты, найбольш таленавітыя з іх гэта выдатна разумеюць самі, і іх

творчы рост, сталенне майстэрства, бясспрэчна, у значнай меры абумоўлены павышэннем узроўню іх агульнай духоўнай культуры, развіццём іх маральна-этычных і эстэтычных поглядаў. Маю на ўвазе не самых маладых, вядома, а тых, што працуюць у літаратуры ужо наймала дзесятак гадоў і, думаю, пачуваюцца поплеч са старэйшымі досыць упэўнена. Іншая рэч, што ў масавасці празаічнага і вершаванага хламу не кожнага з іх мы бачым. Ці ўсе, напрыклад, заўважылі, як прыкметна выраслі і ўздужэлі каля «берасцейскага вогнішча» паэты Мікола Пракаповіч, Алесь Каско, Васіль Сахарчук? Прычым, уздужэлі ад той сілы, якую дае трывалая, непарыўная повязь з роднай зямлёю, з бацькаўшчынай, з лёсам народа:

Адзін у полі — не воін,
Калі гэта поле — чужое.
Устану ў полі адзін я,
Калі гэта поле — Радзіма.

Так пачуваецца на абранай жыццёвай пазіцыі лірычны герой Пракаповіча.

Не навучыўшыся мітусіцца і шумець, незаўважанай застаецца ў нашай літаратуры Любоў Тарасюк — і паэт з божай ласкі, і таленавіты, дасведчаны, удумлівы крытык, чалавек сучаснай філалагічнай культуры. Парадуемся, што не крыўдзіць няўвагай крытыка такіх набываючых сталую сілу паэтаў, як Леанід Галубовіч, Леанід Дранько-Майсюк, Мікола Мятліцкі, празаікаў Хрысціну Лялько і Уладзіміра Арлова. Пашкадуем, што гэткай жа ўвагі не хапае іх літаратурным равеснікам — паэтам Алесю Пісьмянкову, Уладзіміру Маруку, Віктару Шніпу, празаікам Ірыне Жарнасек і Івану Клімянкову. Своечасова заўважыць і падтрымаць таленавіта заяўлены голас — пачэсны абавязак усіх старэйшых таварышаў. Найлепшая падтрымка выданне кнігі маладога пісьменніка. Гэтым кіраваўся і я, благаславіўшы да друку ў мінулым годзе першую кнігу самастойнага, арыгінальнага паэта Алеся Жамойціна. Грамадскі савет выдавецтва ўхваліў намер выдаць яго кнігу ў 1988 годзе. Аднак выйшаў з друку канчаткова зацверджаны план — кнігі Жамойціна ў ім няма. Нейчая асабістая воля перакрэсліла волю грамадскага савета — цалкам у духу часу, у духу дэмакратызацыі і публічнасці. Сёння Жамойціну — трыццаць з гакам. Значыць, дацягнем да сарака — і тады выдадзім першы зборнік маладога саракагадовага паэта. Між іншым, гаворка ідзе пра аўтара, які якраз вельмі дбае пра сваю прафесіянальную культуру і наогул пра свой духоўны багаж: працуючы памочнікам машыніста на чыгунцы, Жамойцін паспяхова заканчвае аспірантуру пры АН БССР і піша дысертацыю па гісторыі нацы-

янальнай мастацкай культуры. Я ўспомніў пра Жамойціна і для таго, каб запытацца:

Як жа нам усё-такі быць са своечасовым выданнем першай кнігі маладога аўтара? Справа зайшла ў нейкі — шчыра скажам — тупік. У 1958 годзе ў Беларусі выйшла пяць першых зборнікаў маладых паэтаў, у 1959 годзе — дзевяць, у 1966 годзе — шэсць; у 1988 годзе выйдзе адна першая кніжачка паэзіі, ды і тая — праз тры гады з часу паступлення рукапісу ў выдавецтва. Падкрэслю, што ўсе тыя: і пяць, і дзевяць, і шэсць аўтараў першага зборніка — занялі сваё месца ў літаратуры, памылкі, ва ўсякім разе вялікай,— не было. Яшчэ падкрэслю: усе тыя — калі сплюсаваць — дваццаць маладых паэтаў — за выключэннем аднаго ці двух — былі ва ўзросце да трыццаці гадоў, а некаторыя — і да дваццаці пяці гадоў. Што ж здарылася? Дзе прычыны? Хто вінаваты? Ну, дапусцім, сацыяльны і наогул грамадскі інфантылізм, характэрны для нашай сучаснай моладзі. Бясспрэчна, ён мае месца і ў жыцці, і ў літаратуры. Працытую два радкі з нядаўна апублікаванага верша («Беларусь», № 2 за 1987):

Вось і я нарэшце пачынаю
Смак быцця зямнога пазнаваць.

Такое шчырае прызнанне: пачынаю пазнаваць смак быцця. Падумаеце: напэўна, хлопцу гадоў семнаццаць ад роду. Ды не — роўна ў два разы болей: трыццаць чатыры! У такім узросце пачынаць пазнаваць зямное быццё? Ці не пазнавата?.. Так што — інфантыльнасці ў нашых маладых хапае. І канечне ж — гэта адна з сур'ёзных прычын затрымкі творчага самавыяўлення. Інфанты сацыяльна змястоўных твораў не пішуць, аднак названая хвароба — не павальная. Прынамсі, найбольш таленавітыя з маладых на яе не хварэюць. А першай кніжачкі сваёй тым не менш чакаюць гадамі. Значыць, трэба рашуча штосьці мяняць у самой практыцы выдавецтваў. Трэба шукаць нейкае выйсце.

Зараз прынята ўрадавая пастанова штогод выдаваць да 12 першых кніжак маладых у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Значыць, за кошт існуючага выдавецкага аб'ёму, а не дадаткова — у бібліятэцы «Маладосці», пытанне пра якую так і застаецца нявырашаным.

Між тым, калі б гэта бібліятэчка пачала выходзіць, то ўжо ў наступным, 1988, годзе чытачы атрымалі б зборнікі вершаў таго ж Алеся Жамойціна, Людмілы Пятруль, Соф'і Шах, Сяргея Сокалава, Анатоля Дэбіша, Ганны Івановай, Лявона Баршчэўскага, Алеся Цвяха, Таісы Мельчанкі, Станіслава Валодзькі, Вольгі Куртаніч, кніжкі прозы Лявона Неўдаха, Вінцэся Мудрова, Ларысы Марушка, Франца Сіўко, Анатоля Казлова, Уладзіміра Міхно... Бачыце, налічыў ажно семнаццаць. І, на маё перакананне, гэта ўсё

несумненна здольныя маладыя паэты і празаікі. Зрэшты, некаторыя з іх не такія і маладыя — і па ўзросту, і па творчаму вопыту. Запомнім іх прозвішчы і прасочым, калі дзяржаўнае выдавецтва выдасць іх першыя кнігі. Мы занадта добра ведаем выдавецкую практыку, каб сумнявацца, што сёй-той з іх дачакаецца гэтай радасці толькі праз 5-7 гадоў. І гэта пры нашым становішчы, калі мы так зацікаўлены ў кожным паэтычным парастку, у тым, каб гэта маладая рунь «буйна ўскаласіла» і дала багаты творчы плён!..

Нашым жанравым секцыям, асабліва секцыі паэзіі, трэба больш уважліва і зацікаўлена ставіцца да лёсу тых, хто ўжо выдаў сваю першую кнігу, як, напрыклад, Валянціна Хамчук, Алег Мінкін, Алесь Касцень, Міхась Башлакоў і іншыя. Чаму іх цікавая творчасць не абмяркоўваецца на секцыях? Больш двух гадоў назад — яшчэ да красавіцкага (1985) Пленума ЦК КПСС — Валянціна Хамчук надрукавала верш, у якім ёсць такія радкі («Маладосць», № 4 за 1985):

Ды камусьці ужо карціць,
Прагавітым і спрытным не ў меру,
Дэмагогіяй замуціць
Нашу чыстую веру.

Радкі публіцыстычныя, так, але вельмі сімпатычныя як пазіцыя — пазіцыя непрымання дэмагогіі «прагавітых і спрытных». Дарэчы, сама В. Хамчук, паэт і празаік, можна сказаць — прыклад сціпласці сярод нашай літаратурнай моладзі. Выдаўшы кнігу, не стала грукацца ў дзверы Саюза пісьменнікаў, а наадварот узяла ды з'ехала са сталіцы на працу ў раён. Думаю, што менавіта такіх маладых трэба падтрымліваць своечасовай увагай, каб не даць загубіцца неакрэпламу таленту ў хвалях жорсткай будзённасці.

І каб зусім закончыць пра маладых, прашу тых, хто не паспеў гэта зрабіць, прачытаць у сёлетнім майскім нумары «Маладосці» падборку вершаў ужо згаданай мною Вольгі Куртаніч. Ашаламляльна яркі, моцны і па-сталаму ўпэўнены голас! А хтосьці кажа, што ў нас няма каго з маладых прымаць у Саюз.

* * *

Мы перажываем ключавы момант. Сёння ў нас пытанняў больш, чым адказаў на іх, і гэта, бадай, натуральна, бо пытанні накопліваліся доўгі час і не ўздымаліся. Але заўтра такая сітуацыя ўжо не будзе лічыцца натуральнай. Калі ў працэсе перабудовы мы не зможам атрымаць практычны адказ на самыя важныя пытанні — значыць, мы ўпусцім дадзены самім часам шанц.

Ва ўсёй нашай далейшай рабоце будзем помніць галоўнае, а іменна: сацыяльныя і маральныя ідэалы нашага грамадства — гэта

камуністычныя ідэалы. Перабудова — не адмаўленне іх, а наадварот — самае рашучае, самае энергічнае сцверджанне. У тым ліку і паэтычным, мастацкім словам. Сцягу, на якім напісана — народнасць, партыйнасць і рэалізм, або праўда жыцця і часу — мы не мяняем. Гэты сцяг, як і раней, над намі.

*1987*

## ПАТРЭБНА НОВАЕ МЫСЛЕННЕ

У сваіх бязлітасна-варварскіх адносінах да прыроды людзі зайшлі так далёка, што сёння і самі, здаецца, мала верацъ у магчымасць адваротнага працэсу нейкага ўсеагульнага практычнага ходу назад. Ці хаця б у магчымасць супынення гэтага варварства, стабілізацыі «дасягнутага на шляхах поспеху і перамог» становішча, пры якім бы бяздумна ваяўнічы наступ на прыроду не шырыўся далей. А між тым — без такой веры ў свой мудры розум, у сваю здольнасць стрымаць уласныя спажывецкія апетыты, спыніцца ў гэтай сляпой, бескантрольнай прагавітасці хапаць, ірваць, браць яе «міласці» — без такой веры, паўтараю, ніякі паварот у нашых дачыненнях да матухны-прыроды не наступіць. Патрэбна вера, што мы, людзі, здольныя праявіць мудрасць і волю. І Татрэбна перакананне, што іншага выйсця ў нас няма — апрача як толькі спыніць гэты глабальны варварскі разбой у прыродзе — на абшарах зямлі, у яе воднай і паветранай прасторах. Патрэбна ўселюдскос ўсведамленне, што мы дайшлі да крайняй мяжы, дзе павінны спыніцца, схамянуцца, агледзецца і ўбачыць, што наперадзе на гэтай дарозе, якой ідзём,— толькі гібель, самазабойства...

Іначай сказаць: патрэбна новае мысленне. І на яго аснове — новая гаспадарчая палітыка, новы стратэгічны курс у гаспадаранні. Сутнасць яго можна сфармуліраваць наступным чынам: будзем гаспадарыць на зямлі так, каб як мага больш скарбаў-багаццяў яе засталося наступным пакаленням, нашчадкам. Да гэтага часу ў гаспадарчых клопатах нашых цалкам панавала процілеглая дактрына: браць, выграбаць, выбіваць з прыроды як мага больш, не думаючы, колькі чаго застанецца ўнукам-праўнукам і ці застанецца ім наогул што-небудзь. Пераважалі і дыктавалі свае надзённыя, сённяшнія прагматычныя мэты. У заўтра — не глядзелі. І на душу чалавечую — а што тым часове з ёю робіцца? — таксама стараліся не глядзець.

Спробы спісаць усё да асаблівасць міжнароднай сітуацыі пераканаць не могуць, крытыкі яны не вытрымліваюць. Бясспрэчна, рэальная пагроза тэрмаядзернай вайны, якая можа наогул ліквідаваць жыццё на планеце, згубным чынам уплывае на ўсе нашы зямныя справы і клопаты, вымушае думаць і дбаць пра хутчэйшае забеспячэнне росту эканамічнай магутнасці, вымушае многае рабіць спяшаючыся — абы лягчэй, прасцей і з большым карысным каэфіцыентам. І ўсё ж, паўтараю, як бы мы ні змушаны былі лічыцца з напружанасцю міжнароднага становішча, апраўдваць ім безгаспадарчасць, дзікунства і варварства ў адносінах да прыроды нельга. У гады Вялікай Айчыннай, у цяжкіх для нашага

народа ўмовах, калі вырашаўся лёс Радзімы, таксама былі розныя погляды на стан рэчаў, на маральныя паводзіны чалавека ў час вайны і на тое, у якім маральным аблiччы прыйдзе і паўстане перад усім светам наша Перамога. Былі і такія людзі, якія пра апошняе проста не думалі і спрабавалі спісаць на вайну тое, што хацелася скінуць з уласнага сумлення. Менавіта ў іх асяроддзі ўзнікла тады і набыла пашырэнне вульгарна-пошлая, небяскрыўдная песенька з рэфрэнам: «Нажимай на вее педали — все равно война». А глыбінная мараль і філасофія працоўнага народа дакладна выказана ў беларускай прыказцы: «Паміраць сабірайся, а жыта сей». У амерыканцаў ёй адпавядае прыказка: «Мы павінны паміраць у чаравіках». Амерыканскі сацыёлаг прафесар Олвін Тофлер так патлумачыў, што гэта значыць: «Нават калі мы знаем, што павінны памерці, то ўсё адно будзем жыць так, як быццам нічога не здарыцца». Іншымі словамі — будзем жыць па-людску. Несумненна, што гэта адзіная дастойная чалавека пазіцыя. Мы павінны заставацца людзьмі — да канца, што б нам ні пагражала! У гэтым — найвялікшая мудрасць чалавечага розуму.

Жыць па-чалавечы, і ўсё рабіць па-чалавечы, і гаспадарыць на зямлі — па-чалавечы! На вялікі жаль, колькі мы бачым гаспадарнікаў рознага рангу — ад самага радавога да вельмі і вельмі высокага, з вялікімі паўнамоцтвамі,— якія дзейнічаюць не як мудрыя і добрыя гаспадары гэтай зямлі, а як, выбачайце, разбойнікі з вялікай дарогі, як нейкія рабаўнікі-прыблуды без роду і племені. Валянцін Распуцін у аповесці «Пажар» назваў такіх гаспадарнікаў архараўцамі. Гэта вельмі небяспечная для грамадства катэгорыя людзей у іх няма за душой нічога святога. Апрача грубых матэрыяльных інтарэсаў і выгад — яны нічога ў жыцці не цэняць і нічога ведаць не хочуць. У сацыяльнай і маральнай сутнасці сваёй — гэта агрэсіўныя мяшчане-спажыўцы, дзікуны і цынікі. А калі і як ён пачынаецца — архаравец? Пра гэта трэба думаць, бо не перамогшы яго, не выкараніўшы у нашым жыцці яго злачынную псіхалогію,— забяспечыць разумныя, беражліва-любоўныя адносіны да прыроды, да зямлі і яе багаццяў будзе немагчыма. Я не даю на пастаўленае пытанне адказу, хаця пэўныя меркаванні ў мяне, вядома, ёсць. Думаю, куды лепш, калі на ўсякае народжанае жыццём пытанне кожны з нас шукае і знаходзіць адказ сам. Ва ўсякім разе, час, у які мы жывём, гатовых рэцэптаў не дае, ён патрабуе вялікай сацыяльнай і духоўнай актыўнасці ад кожнага.

*15.06.1987*

## МЫ ЎЗЫШЛІ НЕ З НАСЕННЯ, ШТО ВЕТРАМ ЗАНЕСЕНА.
## (З роздумаў аб выхаванні гістарычнай свядомасці)

Выхаванне сапраўднага грамадзяніна і патрыёта немагчыма без выхавання ў чалавеку высокай гістарычнай свядомасці. Прызнаемся і скажам сабе шчыра: цягам доўгіх дзесяцігоддзяў мы ў Беларусі мала клапаціліся пра выхаванне і самавыхаванне ўрокамі айчыннай гісторыі. Работа па прапагандзе гістарычных ведаў і выхаванню пашаны да слаўнага мінулага свайго краю мела, як правіла, схаластычны або рытарычны характар, яна слаба падмацоўвалася практычнай дзейнасцю і больш таго — з рэальным стаўленнем да гісторыі Беларусі нярэдка ішла ўразрэз. Не паспеюць, бывала, заціхнуць гучныя словы-заклікі «шануйце гісторыю !»— як тут жа зямлю скаланалі гучныя выбухі — і чарговы помнік старажытнага дойлідства асядаў на дол прахам і пылам.

Ёсць мноства спосабаў палепшыць справу выхавання гістарычнай самасвядомасці ў нашым народзе, зрабіць работу ў гэтым накірунку больш дзейснай і эфектыўнай. Падзялюся думкамі толькі наконт некаторых з іх.

Многа-многа разоў, будучы ў народнай рэспубліцы Балгарыі, я спыняўся перад помнікам таму ці іншаму выдатнаму дзеячу нацыянальнай гісторыі або культуры і, калі была магчымасць, абавязкова высвятляў: хто, калі і за якія сродкі гэты помнік пабудаваў. Не магу прыгадаць выпадку, каб мне сябры-балгары адказалі: дзяржава. Кожны раз адказ быў адзін і той жа: «Людзі! Жыхары гэтага сяла (ці гарадка, ці горада). Сабралі грошы і пабудавалі...» І пры гэтым нават трохі здзіўляліся майму пытанню: маўляў, а хто ж яшчэ пабудуе?.. Думаю, што ўсё-такі выключэнні з правіла, напэўна, ёсць і ў Балгарыі — што некаторыя, асабліва найноўшыя велічныя манументы пабудаваны за сродкі сацыялістычнай дзяржавы. Тым не менш, агульнае правіла мацуецца на фактах, а факты гавораць: сотні помнікаў на балгарскай зямлі настаўлены за грошы, ахвяраваныя людзьмі, сабраныя па падпісцы. У тым ліку, многія помнікі рускім воінам, якія вызвалялі Балгарыю ў 1877-1878 гг., і савецкім байцам, якія загінулі за свабоду Балгарыі ў 1944 годзе.

Аб тым, што такая практыка збудавання помнікаў існавала ў дакастрычніцкай Расіі і існуе ў многіх краінах свету, я чытаў неаднойчы, ведаў. І аднак жа не задумваўся: а чаму яна ў нас перапынілася? Хто і калі яе адмяніў? З якіх меркаванняў? Балгарыя прымусіла і задумацца, і моцна здзівіцца: як жа гэта мы не выкарыстоўваем такі эфектыўны сродак выхавання гістарычнай і патрыятычнай свядомасці? У гэтым жа выпадку не проста паяўляецца новы помнік, які будзе расказваць пра гісторыю

народа і абуджаць у душы пачуццё павагі да яе,— ён паяўляецца дзякуючы твайму асабістаму ўдзелу, твайму ахвяраванню, твайму запрацаванаму рублю. Сам факт тваёй матэрыяльнай дапамогі найлепшым чынам далучыў цябе да гісторыі, да культуры, да памяці, якая ўшаноўваецца і ўвекавечваецца. Новы помнік — гэта ўжо і плён тваёй працы, ты ўжо, можна сказаць, сааўтар, ты ўжо можаш заявіць: гэта мы пабудавалі, гэта наш помнік! І ў тваёй душы адбудзецца нейкі добры зрух. Ты будзеш да гэтага помніка нераўнадушны па-асабліваму, і будзеш ганарыцца ім таксама па-асабліваму, і будзеш яго берагчы — не дазволіш, каб у дачыненні да яго было дапушчана варварства, вандалізм.

Гэтыя думкі-довады свае я шмат разоў выказваў паўнамоцным прадстаўнікам улады на прадмет рэалізацыі канкрэтных прапаноў — і заўсёды чуў у адказ або нешта няпэўнае: «Ну, гэта трэба падумаць, памеркаваць...», або катэгарычнае: «У нас так рабіць не прынята, мы такім самадзейным шляхам не пойдзем, мы — сацыялістычная дзяржава, ніякай прыватнай ініцыятывы ў нас быць не можа...» Вось такое, значыць, разуменне і гісторыі, і задач патрыятычнага выхавання, і самой прыроды сацыялізма. Як бы і не чуў таварыш, што менавіта сацыялістычнаму ладу жыцця больш за ўсё адпавядаюць такія не «прыватныя», а калектывісцкія па самой сваёй сутнасці ініцыятывы. Зрабіць што-небудзь добрае грамадскай талакой, гуртам, супольна — адна з даўніх і выдатных народных традыцый, якая і пацвярджае схільнасць працоўнага чалавека да калектывісцкіх, сацыялістычных форм узаемаадносін.

Чытач можа сказаць, усміхнуўшыся: а што ж цяпер гаварыць пра гэта — цяпер, калі ўтвораны Фонд культуры і занядбаная старая традыцыя талакі і народных ахвяраванняў адноўлена і будзе ўсяляк заахвочвацца? Перапрашаю паважанага чытача, але гаварыць — трэба. Аж датуль, пакуль слова не стане рэальнасцю — пакуль сапраўды не пачнуць стварацца манументы, аднаўляцца гістарычныя сядзібы, рэстаўрыравацца старажытныя храмы і іншыя помнікі нацыянальнага дойлідства — за сабраныя народам грошы або талакой. Мы занадта добра ведаем сілу раўнадушша і коснасці, каб адразу, па абвяшчэнні разумнай ініцыятывы, паверыць, што ўсё будзе рабіцца як найлепш. Каб рабілася гэта справа добра, а тым больш выдатна — трэба, на маё разуменне, забяспечыць дзве ўмовы. Па-першае, трэба, каб добрыя і выдатныя людзі «ўпрэгліся» ў яе - гэта значыць, гарачыя, апантаныя патрыёты роднай зямлі, нацыянальнай культуры, айчыннай гісторыі, а не кіслатварыя, казённа-бяздушныя чыноўнікі, якіх паставілі ці перакінулі з канторы «пух-пер'е» на культуру. Па-другое, трэба распачаць вялікую, разлічаную на

доўгія гады, агітацыйна-прапагандысцкую і асветніцка-папулярызатарскую работу ў шырокіх колах насельніцтва — самымі рознымі сродкамі масавай інфармацыі, сіламі навукі, літаратуры і мастацтва. Пра гэта «другое» я хацеў бы сказаць трохі больш.

Прапаганда гістарычных ведаў — будзем шчырымі — вядзецца ў нас пакуль што яўна нездавальняюча,— пачынаючы ад школы і канчаючы спецыяльнымі навуковымі і культурнымі ўстановамі, якія павінны рабіць гэта па свайму непасрэднаму абавязку. Парадзімся, што наш культурны сучаснік, асабліва малады, праяўляе павышаную цікавасць да літаратурна-мастацкіх набыткаў і скарбаў мінулых эпох, да каранёў і вытокаў народнай духоўнасці, да гісторыі сваёй Бацькаўшчыны наогул. Іначай сказаць — да той культурнай глебы, на якой каласіцца сённяшняя літаратурна-мастацкая ніва і з якой прарастаюць зерні шчаслівай веры ў нашу вялікую будучыню. А вось задаволіць гэту цікавасць сучасніка мы не спяшаемся. У прыватнасці, мала турбуемся, каб забяспечыць яго разнастайнымі выданнямі дабротнай навуковай і мастацкай літаратуры гістарычнага зместу. Наша нацыянальная гісторыя нашмат багацейшая, чым гэта людзям недасведчаным здаецца. Літаратурна-мастацкае і наогул культурнае жыццё ў Беларусі мінулых стагоддзяў было больш змястоўнае і інтэнсіўнае, чым сёй-той па даўняй завядзёнцы лічыць. Грамадска-палітычныя ўмовы былі больш складаныя і жорсткія, чым гэта некаторым уяўляецца. Жыццёвы і творчы лёс многіх тагачасных нашых дзеячаў культуры, навукі, літаратуры і мастацтва быў куды больш і супярэчлівы і драматычны, чым яго звычайна прадстаўляюць па школьных і нават універсітэцкіх падручніках. А іх роля ў гісторыі сацыяльна- і нацыянальна-вызваленчага руху, у гісторыі грамадскай думкі і нацыянальнай культуры не такая катэгарычна адназначная, як гэта яшчэ і дасюль прынята думаць. Значыць, патрэбны новыя навуковыя даследаванні — на ўзроўні сучаснай гісторыка-філасофскай думкі, пазбаўленыя аковаў коснасці і дагматызму, узброеныя новым палітычным мысленнем, новым паглядам на рэальны стан рэчаў.

На вялікі жаль, неразумная і, я нават сказаў бы, шкодная традыцыя недаверу да навукова-аб'ектыўнага асвятлення гісторыі Беларусі яшчэ не пераадолена. Усё яшчэ адчуваецца моц пазіцыі перастраховачнай: абы ціха было і як бы чаго не здарылася. Пераканальны доказ гэтага — лёс зборніка «Спадчына», які пяць гадоў назад ужо быў падрыхтаваны выдавецтвам «Мастацкая літаратура» і нават набраны, аднак жа свету так і не пабачыў. У зборніку мелася на мэце змяшчаць матэрыялы і даследаванні па гісторыі беларускай літаратуры і мастацтва, невядомыя чытачу,

знойдзеныя ў архівах і сховішчах, творы беларускіх пісьменнікаў, успаміны пра мінулае, пра выдатных людзей нашай культуры — і шмат чаго такога іншага. Гэту разумную ініцыятыву горача падтрымала літаратурная грамадскасць рэспублікі, таму што ў такім альманаху даўно наспела патрэба. Таму што беларускія вучоныя літаратуразнаўцы, гісторыкі беларускага мастацтва і філасофска-эстэтычнай думкі адчулі вялікі доўг перад чытачамі рэспублікі, сплачваць які без падобнай публічнай трыбуны цяжка. І вось — хаця неабходнасць у зборніку «Спадчына» больш чым відавочная — выданне было зарэзана на корані. Прычына? Прычына заўсёды знойдзецца. Было б жаданне. Дакладней — нежаданне: ваяўнічае, зацятае нежаданне, каб людзі лепш ведалі гісторыю свайго народа і яго культуры. Калі б не ўмяшанне грубай дагматычнай сілы — тым часове мелі б ужо сёння пяць выпускаў штогодніка «Спадчына».

Узбагачэнне — па крупіны, па каліўцу — нацыянальнай гісторыі — вялікая справа, бо ў дачыненні да гісторыі нават і крупінка праўды — не дробязь. Запаўненне прабелаў на карце нашай грамадска-палітычнай і культурнай гісторыі, пашырэнне і паглыбленне нашых уяўленняў аб далёкім і не так далёкім мінулым і праз гэта развіццё нашай гістарычнай самасвядомасці мае надзвычай важнае значэнне з пункту гледжання патрыятычна-выхаваўчага. Таму што нам, будаўнікам новага сацыяльнага ладу, новага грамадства, трэба сябе ведаць. І як мага лепш. Трэба ведаць, якія мы ёсць і што нас такімі, зрабіла, адкуль у нас, у нашым нацыянальным характары тое, за што нас паважаюць, цэняць і любяць блізкія і далёкія суседзі, і тое, што ў сваім этнічна-нацыянальным самастанаўленні мы развілі недастаткова — тое, пра што нам яшчэ думаць і клапаціцца ў дзесяцігоддзях, якія наперадзе. Трэба ведаць і помніць, што:

Мы ўзышлі не з насення, што ветрам занесена —
Мы не дзікай травы самарослыя парасткі.
У глыбінях зямлі гераічнай і песеннай
Нашых душ карані — з вузлякамі упартасці.

*21.06.1987*

## АДНОЙЧЫ АБРАНЫМ ШЛЯХАМ
### Адказы на пытанні карэспандэнта газеты «Звязда»

1. Паводле трапнага выказвання Сент-Экзюперы, усе мы родам з дзяцінства. Так, але ж светапогляд, жыццёвыя ідэалы замацоўваюцца, удакладняюцца, развіваюцца праз усё жыццё. Ці не змаглі б вы прыгадаць, калі, у якіх умовах, пад уплывам якіх падзей ці фактаў складваліся вашы жыццёвыя і творчыя прынцыпы?

— Я нарадзіўся і вырас у сям'і камуніста, які праз усё жыццё свята верыў у сацыяльныя і маральныя ідэалы Кастрычніка (цынікі такіх партыйцаў называюць ідэалістамі). Перад смерцю (ён памёр у 1972 годзе) бацька больш за ўсё шкадаваў аб тым, што ў нашым жыцці многае робіцца не па-ленінску, што крывадушнікі і перараджэнцы падрываюць аўтарытэт партыі і веру людзей у сацыялізм. Дух святасці ў дачыненні да рэвалюцыі і Савецкай улады быў у нашай хаце натуральнай атмасферай, тым сацыяльным паветрам, якім мы, дзеці, ад калыскі і да выхаду ў людзі штодзённа дыхалі. Пра чысціню гэтага паветра заўсёды клапацілася і наша непісьменная маці. Вось — галоўнае, з чаго пачалося станаўленне маіх жыццёвых прынцыпаў, адкуль ідуць вытокі і майго грамадскага светапогляду, і ўсіх маіх ідэйна-творчых пошукаў. А сам час гэтаму станаўленню больш чым спрыяў: досыць нагадаць, што мае падлеткавыя гады прыпалі на перыяд вайны, што кожны дзень пад акупацыяй быў для нас чаканнем смерці (сям'я камуніста і партызана!), што давялося стаяць пад расстрэлам і прайсці праз жорсткія мардаванні. Пасільная дапамога партызанам (хадзіў у разведку, ліў для іх з алюмінію лыжкі) — самае дарагое ў маёй памяці аб той пары.

Сказаным, думаю, тлумачыцца і маё заўсёднае абурэнне, калі пашлякі і дэмагогі пачынаюць мне тлумачыць, што такое Савецкая ўлада і як трэба ў творчасці адстойваць ідэалагічныя асновы нашага грамадства.

2. Колькі слоў пра людзей, якія дапамаглі вам — прыкладам, падтрымкай, парадай — пачынаючы з дзяцінства, юнацтва?

— Што датычыць маіх першых крокаў у літаратуру, то прыкладам і дапамогай былі мне перш за ўсё творы вялікіх паэтаў — Багушэвіча, Купалы, Коласа, Багдановіча, а таксама — Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Маякоўскага, Ясеніна, Шаўчэнкі... З удзячнасцю думаю і пра кнігі старэйшых сучаснікаў, асабліва — Куляшова, Панчанкі, Твардоўскага. Нейкага ж канкрэтнага настаўніка ці апекуна, які б вёў у літаратуру за руку, у мяне ў юнацкія гады не было — «церабіўся» сам, як-то кажуць —варыўся

ў сваім саку. Хаця добрыя людзі (неабавязкова знакамітыя) не раз падтрымалі добрым словам завочна — пісьмом ці ў друку. Помню, напрыклад, якой шчаслівай падзеяй быў для мяне летам 1946 года вялікі ліст ад Міколы Лупсякова — з мудрымі парадамі і з паведамленнем, што мой верш друкуецца ў чарговым нумары часопіса. Вясной 1954-га, пры разглядзе справы аб прыёме ў Саюз пісьменнікаў, шчырую сімпатыю і падтрымку я адчуў ад многіх — ад Міхася Клімковіча і Янкі Маўра, ад Янкі Брыля і Івана Мележа,— з апошнім з таго часу і пачаліся шчырыя сяброўскія ўзаемаадносіны. Гэтаксама як і з Міколам Аўрамчыкам, у асобе якога яшчэ ў свае студэнцкія гады знайшоў надзейнага старэйшага сябра. А рэдактарам маёй першай кнігі быў Анатоль Вялюгін. Ніколі не забуду дабраты Міхася Ларчанка Кланяюся памяці Юркі Гаўрука — сяброўства з ім было для мяне сапраўдным святам. Удзячны лёсу за дружбу з Васілём Быкавым — падтрымка ж патрэбна не толькі ў пару маладосці, а і сёння. Усім сваім шчырым сябрам удзячны — і высока цаню іх клапатлівую ўвагу.

3. Многімі гаварылася пра важнасць пачуцця шляху для мастака. Канечне, кожны паварот творчай біяграфіі па сутнасці непрадказальны, тым не менш пісьменніцкі шлях у цэлым — гэта сістэма. Што вызначае ваш шлях?

— У свой час я перагледзеў сшыткі з вершамі юнацкіх гадоў і быў вымушаны сказаць сабе: ну, вось, з чаго пачынаў, тым, відаць, і кончыш. «Родная мова», «Родны край Беларусі», «У роднай ніве» і іншыя з гэтым жа эпітэтам у загалоўку вершы напісаны вясной 1947 года. Прайшло чатыры дзесяцігоддзі. Многае істотна змянілася на дарозе да сённяшняга разумення місіі і абавязкаў працаўніка на ніве прыгожага пісьменства. Але ці змяніўся агульны накірунак руху душы і сэрца? Думаю, што не. Такая значная падзея, як XX з’езд КПСС, была ў пэўным сэнсе пераломнай, яна дапамагла лепш убачыць і зразумець сябе і сваю эпоху, адкрыла вочы на супярэчлівасці рэальнага стану рэчаў, але не павярнула творчыя пошукі з абранага шляху кудысьці ўбок — у бок ад паняццяў Бацькаўшчына, Народ, Рэвалюцыя.

4. Дзяржавін сказаў аднойчы, што паэзія «ничто иное есть, как говорящая живопись». А як бы вы сфармулявалі сутнасць паэтычнага мастацтва?

— Даць азначэнне, што такое паэзія, прабачце, не бяруся. Колькі ёсць спроб зрабіць гэта — ні адна не была вычарпальнай, дакладней, такой, якая б магла б усіх задаволіць. Можа, сапраўдная сутнасць паэзіі якраз у гэтым — што яе нельга дакладна акрэсліць і сфармуляваць? Тым не менш для сябе я адказ маю: паэзія — гэта тое, што дазваляе мне найлепшым чынам сказаць людзям пра самае запаветнае, пра самае дарагое, пра

самае балючае. А колькі ў ёй жывапісу, колькі філасофіі, колькі публіцыстыкі — на гэта звяртаюць увагу тады, калі пачынаюць паэзію прэпарыраваць.

5. Вы блізка ведалі многіх вялікіх мастакоў,— па якіх маральных, псіхалагічных і іншых якасцях вызначаеце буйную творчую асобу?

— Пушкін напісаў сваё знакамітае: «пока не требует поэта...» — каб не забывалі, што і паэт — чалавек, і, можа, нават больш грэшны, чым іншыя, і таксама мае права на літасць і спагаду. Але Пушкін жа даў і забойчую водпаведзь пашляку-мешчаніну, які любіць патрэсці брудную бялізну паэта, каб закрычаць: ага, і ён гэтакі ж, як мы ўсе!.. Маштаб творчай асобы вымяраецца не толькі сілай таленту, але і грамадзянскай мужнасцю, і чалавечай высакароднасцю, і — абавязкова — ступенню далучанасці жыцця і лёсу творцы да жыцця і лёсу свайго народа. Маральная нестаноўкасць, брак мужнасці, сумленнасці, годнасці непазбежна вядуць да здрабнення асобы мастака і да творчага заняпаду. Такое назіралася і назіраецца, па вялікі жаль, не толькі недзе далёка.

6. Бялінскі сцвярджаў: «Свобода творчества согласуется со служением современности». Але для гэтага трэба быць грамадзянінам свайго часу, сваёй Бацькаўшчыны. Што вы разумееце пад паняццем грамадзянскасці як пазіцыі пісьменніка?

— Перш за ўсё — нераўнадушнасць, палымянае жаданне паслужыць сваім словам узвышэнню чалавека і сваёй Радзімы. Не ўяўляю пісьменніка-грамадзяніна без мужнасці — баязлівым філістэрам, гэтаксама, як і без цвёрдых высакародных прынцыпаў і перакананняў.

7. Вы — аўтар добрай паўсотні кніг — калі да паэтычных даплюсаваць зборнікі публіцыстыкі, літаратурнай крытыкі, навуковыя манаграфіі і інш. Скажыце, калі ласка, якія з іх прынеслі вам радасці найбольш? Чаму?

— Не магу ўспомніць, каб хто запытаў у пісьменніка: якая ваша кніга прынесла вам найбольш засмучэнняў? Ці, можа, у пісьменніка такіх кніг няма — не бывае? Шчыра кажучы, мне было б цікава ведаць, якая з маіх кніг найбольш парадавала ці, наадварот, засмуціла чытача, які, па жаль, маўчыць. Ад такога ведання магла б быць карысць — улічыў бы заўвагі ў далейшай працы. А самому адказаць на гэта пытанне — значыць даваць тую ці іншую ацэнку сваёй жа рабоце. Не думаю, што гэта справа аўтара.

8. Як вы ацэньваеце сённяшні стан літаратурнай крытыкі, яе здольнасць уплываць на літаратурны працэс?

— Я ведаю магчымасці нашай крытыкі і ўпэўнены, што яе ўплыў на сучасны літаратурны працэс мог бы быць куды больш

дзейсным. Спадзяюся, што ў самы блізкі час яна канчаткова вызваліцца ад той ці то нерашучасці, ці то абыякавасці, якая яе досыць моцна-такі ў папярэднія гады скавала. Ва ўсякім разе, прыкметы абуджэння бачны — перш за ўсё на старонках тыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Наша літаратура непараўнана цікавейшая і багацейшая на з'явы, праблемы, супярэчнасці развіцця, чым можна меркаваць аб ёй па крытыцы. Замест таго каб сур'ёзна і ўдумліва даследаваць, крытыка або курыць фіміям, або нігілістычна зводзіць усю літаратуру да трох-чатырох імён. Для развіцця нашага краснага пісьменства абедзве гэтыя крайнасці аднолькава шкодныя.

9. З якіх пазіцый і з якім аналітычным інструментам павінен падыходзіць пісьменнік да такой з'явы, як масавая культура?

— Як і да ўсякай з'явы, што займае пэўнае месца ў духоўным жыцці грамадства, так і да гэтак званай масавай культуры трэба прыкладаць маральна-этычныя і ідэйна-эстэтычныя крытэрыі, выпрацаваныя марксісцка-ленінскай метадалогіяй. Масавая культура — паняцце вельмі шырокае, разнаітае, неадназначнае. Але яе стрыжнявы і вядучы элемент — сучасная эстрадна-рэстаранная, часцей за ўсё — замежная, музыка, пашырэнне якой прыняло ў нас незвычайныя і, на маё перакананне, небяспечныя памеры. Ці ёсць у гэтай музыцы хоць што-небудзь вартае нармальнага чалавечага слыху! Напэўна, сёе-тое ёсць. Але яно тоне ў моры вульгарна-прымітыўнай какафоніі, прыдатнай толькі для «балдзення». Дзесяткі мільёнаў маладых (ды і досыць убурэлых) людзей — ад Буга да Сахаліна — крычаць, вішчаць, крыўляюцца і скачуць пад чужую дудку. Лічыць, што гэта нармальна, не бачыць у гэтым пагрозы для нацыянальных культур, для нашай сацыялістычнай духоўнасці, для маральнага здароўя грамадства,— недаравальная слепата, за якую мы ўжо расплочваемся вельмі дарага, а калі не спахопімся, не апомнімся — расплоцімся яшчэ даражэй: такою цаной, што і падумаць страшна. Пісьменнік Васілій Бялоў назваў гэту «музыку» чумою нашага часу. Думаю, што ён сказаў не ўсю праўду: яна страшнейшая за чуму. Так хочацца верыць, што на радзіме Кастрычніка і Сацыялізма гэта заразная чорная пошасць будзе адолена сіламі сапраўднага, светлага, чалавекалюбівага мастацтва. Але для гэтага ўсім нам трэба як мага хутчэй празрэць, усенародна гнеўна ўзбунтавацца — ад сораму за сябе, за сваю бесхрыбетнасць і абыякавасць, за адрыў ад нацыянальнай глебы, ад каранёў і вытокаў. А іменна ў гэтым адрыве — найпершая і найгалоўная прычына пашырэння ў нас і пачварнай эрзац-музыкі, і ўсіх іншых праяў бездухоўнасці.

10. У чым, на ваш погляд, прычыны падзення чытацкай цікавасці да паэзіі? І што нам зычыць «маладая» паэзія?

— Па-першае, неспрыяльны для паэзіі час наступіў: там, дзе пануе дух прагматызму, дзе сваю волю дыктуюць тэхнакраты і бюракраты,— паэзіі цяжка. Па-другое, вінавата і сама паэзія: у нейкай меры прытупілася, відаць, яе адчуванне жыцця, рэчаіснасці, праўды. Што да творчасці маладых — дык будучыня пакажа, наколькі адметнае і важкае слова змогуць яны сказаць. Спадзяюся, і нават веру, што скажуць: ім жа здорава пашанцавала! Больш, чым майму пакаленню трыццаць гадоў назад. XXVII з'езд КПСС — гэта не паўтарэнне XX з'езда, якому мы былі бясконца ўдзячны. Гэта — вялікі новы крок наперад. Дык як жа не загучаць новаму слову паэзіі?

11. Актывізацыя памяці — працэс, які пачаўся ў пашай літаратуры яшчэ ў 40-50-я гады. Ён працягваецца, паглыбляецца і сёння. Працэс гэты актыўна выявіўся і ў Вашай творчасці...

— Вяртанне да пэўных падзей гісторыі, да гераічных вобразаў мінулага было характэрна для нашай літаратуры і мастацтва перыяду Вялікай Айчыннай. Гэта актывізацыя памяці была прадыктавана спецыфічнымі ўмовамі і мела тэматычна абмежаваны накірунак. Новы этап абуджэння цікавасці да гісторыі, да каранёў і вытокаў пачаўся на мяжы 50-60-х гадоў. Ён набіраў сілу, пашыраўся і паглыбляўся, заваёўваў усё большыя тэматычныя абсягі. У яго рэчышчы апынуліся ў значнай меры і мае творчыя зацікаўленні. Напрыканцы 50-х і затым на пачатку 60-х мною былі напісаны такія вершы, як «Сцежкі да родных магіл», «А ў полі вярба», «Роднае слова», «Сустрэчы ў снах», «Спадчына», вянок санетаў «Нарач». Я радаваўся, што і ва ўсёй савецкай, і ў нашай беларускай літаратуры гістарычная тэма набывае такое актуальнае гучанне. Але не чакаў, што так хутка надыдзе яе сапраўды зорны час, што ў навуковых і грамадскіх поглядах на далёкае і не так далёкае мінулае выспявае рашучы пералом. Гэты перелом пачаўся і нарастае літаральна з кожным днём — на нашых вачах. Так што застаецца адно сказаць: закасвайце рукавы, таварышы пісьменнікі: такога спрыяльнага для асвятлення гісторыі часу вашы папярэднікі не зналі!..

12. У чым вам бачыцца перабудова для пісьменніка? Што, якія праблемы турбуюць вас як паэта і грамадскага дзеяча?

— Галоўнае, на маю думку, гэта — каб кожны з нас разабраўся перш за ўсё ў сваіх уласных жыццёвых і творчых прынцыпах. Каб кожны мабілізаваў усе рэзервы мужнасці і сумлення — гаварыць у творах толькі праўду. І каб кожны прад'явіў самыя высокія патрабаванні да сябе як да мастака слова — каб выкарыстоўваў свае творчыя магчымасці на поўную сілу, з гранічнай самааддачай.

Задаўненая хвароба раўнадушнасці, апатыі, безыніцыятыўнасці ў пісьменніцкай масе і ў кожным з нас да канца яшчэ не пераадолена. Па-ранейшаму пануе, я сказаў бы, псіхалогія чакання: усё перайначыцца на лепшае само па сабе. Або дзядзька зробіць. А тым часам набірае сілу голас дэмагога. Хто і раней хварэў на гэта — цяпер актывізуецца яшчэ больш. Крык незадаволенасці нібыта агульным станам рэчаў у сапраўднасці аказваецца крыкам незадаволенай прэтэнцыёзнасці, непамернай ці нават хваравітай амбітнасці. У гэтым крыку — не клопат аб якасці літаратуры, аб вырашэнні праблем народнага жыцця, а — падкрэслены інтэрас да пасад, да званняў, да прэмій і т. п. Хочацца запытаць у такога крыклівага таварыша: а чаму вы, шаноўны ці шаноўная, не працуеце як належыць цяпер — на сваім пісьменніцкім месцы? Пачніце з галоўнага: напішыце добрыя новыя творы — такія, каб пра іх з удзячнасцю загаварылі людзі. Або: з’ездзіце ў які-небудзь прытулак, да няшчасных дзяцей, узятых туды ад бацькоў-алкаголікаў, і наплачцеся там горкімі слязьмі спачатку самі, а тады выкажыце свой боль і гнеў па тэле ці па радыё — па ўсю рэспубліку, ды так, каб тысячам сорамна і балюча стала, каб тысячы запыталі ў сябе: «Дык хто ж мы такія? І чаму мы так жывём на гэтым свеце? Што мы робім? Што церпім? З чым мірымся?..» Або: пабывайце ў адной-другой школе і пагутарце з настаўнікамі аб тым, як трэба выхоўваць у дзяцей павагу да гісторыі і культуры свайго краю, да фальклору і мовы народа... Вось гэта і будзе, таварышок, ваша канкрэтная дапамога перабудове. А крычаць наогул, што нешта недзе не так робіцца — справа марная, і нават як дэмагагічны прыём — сёння не спрацуе.

13. З часу выхаду вашай першай кнігі прайшло больш трыццаці гадоў. Вы пабывалі за мяжой, багата падарожнічалі па роднай краіне. Ці ёсць у вас мясціны, куды хацелася б вяртацца, што дарагога там?

— Да апантаных падарожнікаў я, відаць, не належу. Або вечная, без атхлання, праца не дазволіла стаць такім? Некалькі разоў пабываў у Балгарыі і ў Славеніі, з якімі моцна звязаны творчымі клопатамі. Па аднаму разу з’ездзіў на некалькі дзён у Францыю, у Манголію і ў Чэхаславакію, калісь — гадоў 25 назад — у Польшчу. Вось і ўсё! Па нашай краіне паездзіў крыху больш, але таксама ў некаторых рэспубліках не давялося пабываць ні разу. З кожнай паездкі вяртаўся ўзбагачаным не толькі радасцю адкрыцця і пазнання, шчасцем новых сяброўстваў, але і грузам нялёгкіх пытанняў, часам балюча-пакутных роздумаў. Зрэшты, апошнім, думаю, перш за ўсё і апраўдваюцца такія візіты, бо ездзіць адно па радасць — для пісьменніка замала... Дзе я хацеў бы раптам зноў апынуцца (толькі каб лёгка, як у сне)? Там, дзе блізкія сябры, якія, ведаю, будуць шчыра рады сустрэчы. Без такіх сяброў да чужое краіны — якой бы яна ні была прыгожай — душою не

прырасцеш. Сябры, пра якіх я ўспамінаю і думаю, таму мне дарагія і любыя, што яны найлепшым чынам увасабляюць у маіх вачах свой народ.

*25.07.1987*

# ПАД ЗОРКАЙ ПАБРАЦІМСТВА

## НАШ КУПАЛА

Я адплаціў народу,
Чым моц мая магла:
Зваў з путаў на свабоду,
Зваў з цемры да святла.

*Янка Купала*

Беларускі народ разам з усімі братамі-народамі нашай сацыялістычнай Бацькаўшчыны, разам з сябрамі і прыхільнікамі беларускага мастацкага слова за рубяжом святкуе сотую гадавіну з дня нараджэння аднаго з найвялікшых сыноў Беларусі, аднаго з яе найталенавітых і найслынных песняроў чыя творчасць з'яўляецца найбольш яскравым увасабленнем паэтычнага генія народа.

Мы святкуем дзень нараджэння паэта, якому было наканавана лёсам стаць, заадно з Якубам Коласам і Максімам Багдановічам, вялікім летапісцам жыцця-быцця беларускага народа, яго барацьбы за нацыянальнае і сацыяльнае разняволенне, за права «людзьмі звацца», найбольш яркім выказнікам ягоных дум і пачуццяў, яго неадольнага імкнення да шчасця і волі. Паэта, у якім мільёны крыўджаных і пагарджаных працоўных Беларусі ўбачылі свайго вялікага заступніка і абаронцу, свайго народнага трыбуна, убачылі і пачулі вешчуна блізкай і непазбежнай рэвалюцыйнай буры-навальніцы, пачулі прарока неспадманнага і неілжывага, якому паверылі таму, што не паверыць не маглі, таму што пазналі ў ім сябе, таму што пачулі ў яго перуновых песнях голас сваёй уласнай — спакутаванай і збалелай — душы, пачулі крык, якім жыла Беларусь. «Дзе мой дом? Дзе мой люд? Дзе айчызна мая?» «Чаму я сею, а другія з сяўбы маёй збіраюць плён?» — такія пытанні паўставалі, падымаліся з глыбіні яго душы адно за адным і ўсё з новаю сілай — дзесятае, сотае, тысячнае і без канца-краю, і кожнае патрабавала адказу, біла ў самае сэрца, прымушала апомніцца, схамянуцца, абудзіцца, зірнуць на сябе і на свет іншым зрокам, адчуць у сабе сілу-моц — і паўстаць! Паўстаць на бітву-бой з няпраўдамі і крыўдамі, на якіх заснавана іх нечалавечае жыццё. «Што ты спіш, што ты спіш, беларускі мужык? Няўжо мала яшчэ каталі цябе? Няўжо мала яшчэ слёз і гора табе?» — «До спаць! Паўстаньце грамадою... каб вораг не мог зламаць! Паўстаньце, покуль цар звыродны крыві ўсяёй не высcаў з вас! Паўстаньце! Край ваш стогне родны, заве збаўляць, як зваў не раз!» — усё гэта ён гаварыў так, такою мовай і такімі словамі, што не пачуць яго, не прыслухацца да яго і не пайсці за ім было нельга. Яго балюча-

гнеўныя пытанні падхоплівалі мільёны, яго набатныя заклікі былі тым больш страшнымі для дармажэрцаў-захрыбетнікаў, што іх паўтараў магутным хорам увесь край, увесь запрыгонены, заняволены народ. Вось чаму мы з поўным правам сёння гаворым, што мы святкуем дзень нараджэння найвялікшага беларускага паэта-рэвалюцыянера, паэта, чыю ролю ў справе абуджэння нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа немагчыма пераацаніць...

Мы святкуем юбілей паэта — не толькі палымянага трыбуна, апантанага будзіцеля і асветніка забітых і прыгнечаных працоўных мас, але і мастака-рэаліста, які здолеў паказаць «на свет цэлы» ўсю непрыхаваную праўду аб сваім народзе, і паэта-філосафа, чый праніклівы розум імкнуўся ахапіць многія складаныя пытанні часу, заглянуць у многія таямніцы чалавечай душы, і паэта-рамантыка, які горача любіў сваю мару аб прыгожым і справядлівым жыцці, які ўслаўляў і паэтызаваў хараство чалавека-творцы, хараство жанчыны, радасць кахання і маладосці, працы і міру на зямлі.

Мы святкуем свята паэта незвычайнай, невычэрпнай і нястомнай творчай энергіі і сілы, паэта, шматгранны талент якога знаходзіў аднолькава бліскучае выяўленне ў самых розных лірычных, эпічных і драматургічных жанрах і формах, якому былі аднолькава падуладныя песня і гімн, элегія і ода, байка і эпіграма, балада і паэма, камедыя і драма, паэта, якому аднолькава паслухмяна служылі сатыра і гумар, іронія і сарказм, вобраз канкрэтна-рэалістычны і ўмоўна-сімвалічны, гіпербала і метафара і, бадай што, усе вядомыя паэзіі прыёмы і сродкі мастацкага пісьма.

Мы святкуем свята паэта, які паказаў такія вобразна-творчыя магчымасці роднага беларускага слова, такія рытміка-выяўленчыя магчымасці беларускага верша, якіх ніхто — ні да яго, ні пасля яго — паказаць не змог. У яго вершах і паэмах віравала, бушавала і кіпела такая магутная, падуладная яму, стыхія жывой народнай мовы, якая захапляла, захапляе і будзе захапляць любога, хто да яе наблізіцца, хто паспрабуе ўвайсці ў яе магічна-чароўны, створаны сіламі ягонай душы і сэрца, свет.

Мы святкуем дзень нараджэння паэта, які даў нам, сваім нашчадкам, неперасўзыдзены прыклад жыватворнай сувязі з народна-паэтычнымі каранямі і вытокамі, узор у найвышэйшай ступені плённага выкарыстання фальклорных багаццяў народа. Старажытны міф і павер'е, казка і легенда, паданне і бываліца, песня і прыпеўка, прымхліца і замова, прыказка і прыгаворка — усё, усё гэта надзейна і ўпэўнена клалася ў падмурак яго паэтычных збудаванняў, усё давала яго творчасці форму і змест,

матыў і вобраз, усё служыла яму тым зернем, з якога прарасталі на радасць людзям цудоўныя кветы ягонай паэзіі.

Мы святкуем стогадовы юбілей паэта, чые першыя крокі ў літаратуру сталі крокамі ў несмяротнасць, таму што ў жыцці такіх волатаў духу, такіх валадароў слова, як ён, бывае толькі адна дата — дзень нараджэння. Таму што такія, як ён, прыходзяць да людзей назаўсёды, навек — каб зноў і зноў, для ўсіх новых пакаленняў. адкрываць праўду, хараство і мудрасць жыцця, усяляць у іх сэрцы веру ў неперэможнасць дабрыні і справядлівасці, асвятляць ім шляхі да шчасця.

Мы святкуем свята Купалы — чыё не падуладнае часу натхнёнае слова з намі — у вялікай, удумнай, усенароднай, чалавечай хадзе да камунізму — сёння і будзе з намі — у гэтай хадзе — заўтра.

*1982*

## ЛЕТАПІСЕЦ ЖЫЦЦЯ-БЫЦЦЯ НАРОДНАГА
## Слова пра Якуба Коласа

Ён нарадзіўся ў сям'і беззямельнага селяніна, які наняўся на казённую службу лесніком. З малых гадоў спазнаў ён усе цяжкасці жыцця сельскіх батракоў, усе крыўды-несправядлівасці, што чыніліся сытымі і пыхлівымі над бяспраўнай беднатой, усе здзекі над душой простага беларускага люду — над дарагімі для паэта святынямі, традыцыямі і звычаямі, над яго песнямі і танцамі, над яго «мужыцкай», «хамскай» мовай — перш за ўсё. У дваццаць гадоў ён стаў настаўнікам маленькай прыхадской школы ў непралазнай глухамані Палесся, а на дваццаць шостым «пасяліўся» — на доўгія тры гады — у мінскім астрозе: яго судзілі за ўдзел у нелегальным з'ездзе беларускіх настаўнікаў і за рэвалюцыйную прапаганду сярод сялянства. Усё гэта было для яго вялікай школай ідэйна-маральнай вывучкі і сацыяльна-класавай загартоўкі, школай, якая дала яму не толькі добрае веданне жыцця народа, глыбокае разуменне яго рэальных патрэб, але і тую шчырасць натхнення, і тую грамадзянскую мужнасць, якія ў спалучэнні з магутным паэтычным дарам вылучылі яго ў першыя рады змагароў за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне працоўных мас Беларусі.

Першымі ўрокамі паэзіі былі для яго песні маці, разумнай і з добрым сэрцам беларускай сялянкі, мудрыя прыказкі і важкія прымаўкі негаваркога, немітуслівага бацькі, казкі і апавяданні вясёлага выдумшчыка дзядзькі Антося. Ён быў не проста паклоннікам і ўдзячным чытачом вуснай народнай творчасці, але і адным з лепшых знатакоў яе і шчырым руплівцам у справе яе захавання, вывучэння і выкарыстання ў будаўніцтве прафесійнай нацыянальнай культуры: усё напісанае ім — ад першых да апошніх радкоў — тысячамі нябачных жылак глыбока караніцца ў народна-фальклорнай глебе, спажыўныя сокі якой няйначай пранізалі кожную думку і вобраз, верш і слова, надаўшы асаблівы — глыбінна-вячысты, эпічны — характар самой душы яго творчасці.

Маленства і ранняе юнацтва Коласа прайшлі ў адным з самых прыгожых куткоў цэнтральнай Беларусі, над ціхаплынна-празрыстым Нёманам, дзе змешаныя хваёва-ліставыя лясы перамяжоўваюцца з чыстымі сасновымі барамі, крыху пагоркавымі палянамі і роўнымі пойменнымі лугамі. Ён надзіва тонка спасціг чароўную прыгажосць роднай прыроды і стварыў неперасягнёны па яркасці і выразнасці яе вобраз — вобраз сваёй сыноўскай любові да бацькоўскага краю. Колькі пакаленняў прайшлі праз гэтую любоў паэта, і натхніліся ёю, і зрабілі яе сваёй любоўю, колькі прасвятлела душой над старонкамі яго кніг, перапоўненых колерамі, гукамі і водарам роднай зямлі!

Мова, якой ён навучыўся ад бацькоў і якой загаварыў спачатку з аднавяскоўцамі, а потым з усім народам, была той гаворкай жывой беларускай мовы, якая несла ў сабе найбольш характэрныя рысы апошняй і лягла ў аснову замацаванай граматыкай мовы літаратурнай. Таму і лягла, што вельмі ж ужо відочнымі былі ў вершах і апавяданнях Коласа выдатныя вартасці мовы, якою ён пісаў. Таму і лічыцца ён, разам з Купалам, стваральнікам сучаснай беларускай літаратурнай мовы, што за ім, за яго словам, пайшло ўсё найбольш таленавітае ў тагачаснай, бурна акрыялай, новай беларускай літаратуры. Яго аўтарытэт у гэтых адносінах быў непахісна высокі да апошніх дзён жыцця і застаецца такім дагэтуль: аўтарытэт Майстра з вялікай літары.

Ён вучыўся майстэрству слова ў фальклора, у сваіх беларускіх папярэднікаў і ў найвялікшых паэтаў і пісьменнікаў свету, перш за ўсё ў такіх геніяў рускай літаратуры, як Пушкін, Лермантаў, Крылоў, Някрасаў, Талстой, Горкі, чые імёны неаднойчы называў ён з пачуццём удзячнасці за вялікую навуку — за іх неацэнную дапамогу ў яго пісьменніцкім і грамадзянскім станаўленні. Увабраўшы ў сябе лепшае з мастацкай культуры свайго народа і ўсяго свету, ён змог, па-першае, істотна рассунуць жанравыя і стылявыя «рамкі» роднай літаратуры, стаць родапачынальнікам некаторых да таго не вядомых ёй структурных форм; па-другое, падняць, разам з Купалам і Багдановічам, на якасна іншы ўзровень саму культуру мастацкага мыслення і слова, псіхалагічна праўдзівага, рэалістычнага пісьма. З яго прыходам у беларускую літаратуру ў яе развіцці пачаўся, несумненна, новы этап, натуральным працягам якога з'яўляецца наша выдатнае літаратурнае сёння.

У 1926 годзе ўрад рэспублікі надаў яму ганаровае званне народнага паэта Беларусі. Яму было ў той час сорак чатыры гады, дваццаць з якіх ён аддаў літаратурнай працы. Зрэшты, дваццаць — гэта калі лічыць з моманту першага выступлення з вершамі ў друку. На самай жа справе з гэтага творчага стажу жыццём-лёсам былі адабраны, па-першае, тры гады, праведзеныя ім у царскім астрозе; па-другое, амаль столькі ж гадоў узяла ў яго першая сусветная вайна. Калі ж лічыць зусім дакладна, то за ўсё пражытае да той радаснай падзеі жыццё літаратурнай працы ён мог аддаваць толькі тыя гадзіны і хвіліны, якія ўдавалася выкраіць з бюджэту часу настаўніка прыхадской школы, а пазней, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, школьнага інструктара, выкладчыка педтэхнікума і універсітэта. Тым больш уражвае аб'ём зробленага ім да сярэдзіны 20-х гадоў ва ўсіх жанрах літаратуры, асабліва ж у паэзіі і прозе. Я сказаў «аб'ём», хаця значэнне і месца пісьменніка ў духоўным жыцці народа вымяраецца, канечне ж, не колькасцю

напісанага: ёсць паказчыкі больш істотныя, больш важныя. Аднак нельга не гаварыць і пра аб'ём, калі ў гэты аб'ём уваходзяць такія кнігі, як зборнікі паэзіі «Песні жальбы» (1910) і «Водгулле» (1922), зборнікі прозы «Апавяданні» (1912), «Родныя з'явы» (1914) «Крок за крокам» (1925), «На рубяжы» (1925), «У ціхай вадзе» (1925), «Казкі жыцця» (1926), аповесці «У палескай глушы» (1923, першая частка трылогіі «На ростанях»), «На прасторах жыцця» (1926), такія стварэнні нацыянальнага паэтычнага генія ў буйных формах, як «Новая зямля» (1923) і «Сымон-музыка» (1925). Так, усё гэта, што стала адразу ж па абнародаванні нацыянальнай мастацкай класікай, як і многае не названае мною (зборнікі апавяданняў у вершах, п'есы, кнігі вершаў, паэм і казак для дзяцей), да 20-гадовага юбілею творчага шляху Коласа было ўжо набыткам самых шырокіх працоўных мас Беларусі, карысталася, разам з творчасцю яго равесніка, сябра і пабраціма Янкі Купалы, усенароднай вядомасцю, папулярнасцю і любоўю.

А пачалася гэта вядомасць у тую поўную драматычных і трагічных падзей пару, калі яшчэ не ўціхлі грамавыя раскаты рэвалюцыі 1905 года, калі ў гарадах і сёлах краіны лютавалі царскія апрычнікі — душыцелі свабоды, карнікі, вешальнікі, пагромшчыкі. Трэба было валодаць немалой грамадзянскай мужнасцю, каб перад жахам шыбеніц і экзекуцыі палявых судоў і расстрэлаў падняць голас у абарону сацыяльных і нацыянальных правоў прыгнечанага народа. Але іменна тады і загучалі першыя натхнёна-палымяныя, акрыленыя прадчуваннем хуткай перамогі, набатна-заклікальныя вершы Якуба Коласа.

Устаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі!
Устань ты, наша старана!
Ужо глядзіць к нам на палаткі
Жыцця новага вясна.

Ці ж мы, хлопцы, рук не маем?
Ці ж нам сілы бог не даў?
Ці ж над родным нашым краем
Промень волі не блішчаў?
*(«Беларусам»)*

«Устань!..», «Прачніся!..», «Выйдзі!..» — як часта гучыць у яго гэты зварот да беларускага мужыка, да ўсяго працоўнага люду Беларусі! Як часта кідае ён у гушчу мас заклік — не падаць духам, не паддавацца роспачы, не вешаць галавы, упэўнена глядзець у будучыню і смялей ісці наперад! Такім жа мяцежным пачуццём і настроем ахоплены ў сваіх справах і ўчынках героі яго ярка

рэалістычных, праўдзівых апавяданняў, у большасці выпадкаў — маладыя, з усведамленнем сваёй сілы і права, сяляне. Няцяжка ўявіць, якое вялікае значэнне для сацыяльна-класавага выхавання працоўных мела яго творчасць, як садзейнічала яна рэвалюцыянізацыі іх розуму і настрою, асабліва калі ўлічыць, што гаварыў-то з імі, мужыкамі, не чалавек збоку, а свой, такі ж самы мужык, гаварыў пераканаўча, простай і зразумелай «мужыцкай» мовай, гаварыў з непрытворнай жальбай і болем у душы — і гаварыў праўду! Усю праўду пра жыццё і становішча прыгнечанага, зняважанага, бяспраўнага народа! Гэта вельмі добра разумелі суддзі паэта — ахоўнікі і абаронцы самадзяржаўя. І калі яны прыгаварылі настаўніка Канстанціна Міцкевіча да астрога за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе, яны ведалі, што саджаюць перш за ўсё паэта Якуба Коласа — паэта-выкрывальніка, паэта-асветніка і паэта-будзіцеля — за яго рэвалюцыйную творчасць. Коласа не абмінула і гэта доля народа: у тыя гады тысячы і тысячы лепшых яго сыноў і дачок ішлі ў турму і на катаргу.

Выкрывальная творчасць Коласа, ствараючы карціну мужыцкага лёсу, змрочную і невыносна цяжкую, паказваючы нэндзу і жабрацтва сялянства, падводзіла гэтым самым чытача да думкі, што чалавек не можа і не павінен жыць у такіх нечалавечных умовах, не павінен цярпець такога становішча — у яго ёсць поўнае маральнае права на бунт, на барацьбу!

Шырока вядома тая высокая ацэнка, якую даў дакастрычніцкай паэзіі Купалы і Коласа вялікі рускі пісьменнік Максім Горкі. «Нашым бы трохі гэтых якасцей. Вось бы добра было!..» — пісаў ён у адным з пісем М. Кацюбінскаму, маючы на ўвазе перш за ўсё праўдзівасць, шчырасць і прастату пісьма беларускіх паэтаў. Безумоўна, сапраўдны дэмакратызм і глыбокі гуманізм творчасці Купалы і Коласа вельмі імпанавалі Горкаму, былі яму блізкія і дарагія, асабліва ў той час — час захаплення дэкадансам. Ды і як было яму не адчуць сваёй ідэйна-эстэтычнай роднасці з гэтымі маладымі беларусамі: яго ж творчасць служыла для іх узорам і прыкладам! Якуб Колас неаднойчы прызнаваў, што побач з кнігамі Пушкіна, Лермантава і Някрасава ў пару яго грамадзянскага і пісьменніцкага станаўлення надзвычай плённы ўплыў аказалі на яго творы Максіма Горкага.

Колас, які выкрывае подлы свет і заклікае да барацьбы,— гэта толькі адна з яго творчых іпастасей, толькі адна грань яго мастакоўскага характару. Духоўнаму ўзвышэнню простага чалавека, сцверджанню высакародных сацыяльна-грамадскіх і маральных ідэалаў паспяхова служыла творчасць, якая ўвасабляла іншыя грані яго магутнага таленту. Якуб Колас — буйнейшы ў беларускай літаратуры мастак, які стварыў у вершах і прозе

мноства неперауздзеных па яркасці карцін і малюнкаў роднай прыроды — беларускага лета, восені, зімы і вясны, карцін, адухоўленых жывым чалавечым пачуццём і неспакойнай, дапытлівай думкай, амаль заўсёды суаднесеных з жыццём і лёсам аўтара, яго краю, яго народа. Наўрад ці хто можа параўнацца з ім і ў дакладнасці апісання беларускага вясковага быту і сялянскай працы, гэтак жа як і ў веданні душы беларускага мужыка, яго самых патаемных пачуццяў і думак. Апавяданні і аповесці, вершы і паэмы Коласа даюць надзіва поўнае ўяўленне пра Беларусь як зямлю на карце свету, пра цэлыя дзесяцігоддзі яе гісторыі на пераломе эпох, пра шматпакутны і гераічны лёс беларускага народа, пра яго нацыянальны характар, пра своеасаблівасць яго мыслення, яго погляду на жыццё, на свет, на сябе, на прыроду. І — пра яго таленавітасць: і ў працы, і ў мастацтве.

Цяжка назваць у беларускай літаратуры іншы твор, дзе б так па-мастацку пераканаўча было паказана ўменне беларускага селяніна працаваць, высокае майстэрства яго працы, як гэта зроблена Коласам у паэме «Новая зямля», увасоблена ў вобразах лесніка Міхала, яго брата — земляроба Антося, жонкі Міхала — маці семярых дзяцей Ганны. Вучоныя-літаратуразнаўцы не без падстаў называюць «Новую зямлю» першым беларускім раманам, хаця прыняць гэта азначэнне можна, вядома, толькі ўмоўна. Але тое, што «Новая зямля» наш сапраўдны нацыянальны эпас, гэта несумненна. Ён створаны не калектыўным геніем, як у многіх іншых народаў, а працай аднаго вялікага паэта, і створаны ў іншы гістарычны час — у эпоху росквіту рэалізму ў літаратуры і мастацтве, таму і ўяўляе сабой тварэнне ў вышэйшай ступені арыгінальнае і вельмі своеасаблівае. Можна сказаць, што і ў сусветнай паэзіі XX стагоддзя гэта з'ява унікальная. «Новая зямля», па сутнасці, складаецца з мноства паэм-песень, у кожнай з якіх — свой матыў, свая тэма. Паэма-песня пра годнасць, розум і талент простага чалавека працы. Паэма цудоўнай, адвечнай, невыкаранімай любові хлебароба да зямлі і да ўсяго жывога на ёй. Паэма чалавечай мары пра свабоду і шчасце. Паэма пра жанчыну-маці. Паэма пра нацыянальныя звычаі і абрады. Паэма пра беларускую прыроду. Паэма пра цяжкую долю панскага служкі. Нарэшце, сатырычная паэма пра паноў і падпанкаў, пра выродлівыя, агідныя для чалавечага сумлення з'явы подлага свету. У цэлым жа — вялікая кніга пра жыццё народа, кніга яго эпічнага зямнога быцця.

У другой выдатнай паэме «Сымон-музыка» гэтак жа пераканаўча раскрыты закладзеныя ў душы народа здольнасці да мастацтва, яго невычэрпныя сілы і магчымасці ў мастацкай творчасці. Ствараючы такія вобразы, як Міхал, Антось, Ганна,

Сымон-музыка і іншыя, Якуб Колас імкнуўся сказаць: народ, які яны прадстаўляюць, працавіты і таленавіты, і ён мае права на шчасце, гэта значыць на тое, каб быць гаспадаром сваёй зямлі і жыць радасцю свабоднай працы, свабоднай духоўнай творчасці.

Дарэчы, калі ўжо гаварыць аб працавітасці, то, напэўна, варта адзначыць гэту рысу і ў характары самога Коласа. Дазволю сабе звярнуцца да арыфметыкі. У паэме «Новая зямля» — адзінаццаць тысяч радкоў, у паэме «Сымон-музыка» сем з палавінай тысяч (і былі створаны тры зусім розныя рэдакцыі), у «Рыбаковай хаце» — таксама сем з палавінай тысяч, у паэме «На шляхах волі» — каля дзесяці тысяч. А яшчэ такія буйныя паэмы, як «Адплата» і «Суд у лесе», а яшчэ вершаваныя апавяданні і казкі і больш сямісот вершаў. Усяго каля ста тысяч вершаваных радкоў! Удакладню, што гэтак званых верлібраў, якія без высілкаў можна цягнуць вёрстамі, Колас не пісаў — над кожным радком ён працаваў руплівa, кожны верш старанна абточваў і шліфаваў.

Колас — аўтар першых у беларускай літаратуры сапраўды рэалістычных сацыяльна-бытавых апавяданняў і аповесцей («Малады дубок», «Шманаў дар» і інш.). Ён — стваральнік арыгінальнага жанру філасофска-алегарычнага апавядання (зборнік «Казкі жыцця»). Ён значна развіў нацыянальную традыцыю сюжэтнага вершаванага апавядання, моцную ў беларускай паэзіі XIX стагоддзя (В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Ф. Тапчэўскі). Ён стварыў высокія ўзоры сацыяльна-бытавой і рэвалюцыйнай сатыры — з'едлівай, бясстрашнай, па-народнаму трапнай і дасціпнай. Ён першы ў Беларусі напісаў вершаваныя казкі і паэмы для дзяцей і склаў, пераважна са сваіх арыгінальных апавяданняў, хрэстаматыю-чытанку для беларускіх школьнікаў. Ён — аўтар першай і лепшай да гэтага часу беларускай рэалістычнай аповесці для юнацтва («На прасторах жыцця»). Яго пяру належаць апрача «Новай зямлі» і «Сымона-музыкі» сацыяльна-біяграфічная паэма «На шляхах волі», героіка-драматычная паэма «Адплата»; гісторыка-сацыяльная паэма «Рыбакова хата». Адна з самых значных кніг шматнацыянальнай савецкай літаратуры — яго трылогія «На ростанях» — не апошняе, што я павінен тут назваць. Таму што яшчэ ёсць некалькі п'ес, ёсць два вялікія тамы публіцыстыкі і літаратурнай крытыкі. Але і гэта не ўсё: як не ўспомніць, напрыклад, яго вялікую і працаёмкую — першую ў беларускай педагагічнай навуцы — кнігу «Методыка роднай мовы»? Думаю, што ёсць сэнс гаварыць сёння аб працавітасці пісьменніка, бачачы, як ідуць у друк «тварэнні», што не знаюць чарнавікоў, варыянтаў, рэдакцый…

Якуб Колас у сваіх разнародных і разнажанравых творах ахапіў і па-майстэрску ўвасобіў у мастацкіх вобразах і карцінах

некалькі дзесяцігоддзяў жыцця, барацьбы і стваральнай дзейнасці беларускага народа — пачынаючы з канца мінулага стагоддзя і канчаючы сярэдзінай нашага веку. У вершах і паэмах, у прозе і драматургіі ён стварыў вобразы і характары, якія нясуць у сабе найбольш істотныя рысы і асаблівасці вялікага гістарычнага часу. Эпоха нарастання першай рускай рэвалюцыі і яе грамавыя раскаты ў Беларусі, уздым рэвалюцыйнай барацьбы беларускага народа за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, нараджэнне ў віхуры Кастрычніка і ў агні грамадзянскай вайны новага свету і новага чалавека, гераізм мільёнаў савецкіх людзей у іх паядынку з фашысцкай пачварай — усё гэта знайшло глыбокае і яркае адлюстраванне ў яго самабытнай таленавітай творчасці.

Якуб Колас, як і Янка Купала, быў паэтам і пісьменнікам сапраўды народным. Народным па характару і духу творчасці, па глыбіні пранікнення ў праблемы народнага жыцця, па ступені далучэння да кроўных інтарэсаў народа, спасціжэння яго самых запаветных спадзяванняў і жаданняў, па ступені духоўнага, маральнага яднання з народам, нарэшце, па мове, дзівосна жывой, простай, зразумелай. Колас зрабіў для свайго народа тое, што здольны зрабіць толькі вялікі мастак слова: ён памог яму не толькі адкрыць і зразумець сябе, але і паверыць у сябе, у свае маральныя і духоўныя сілы, у сваю будучыню. Вось якія мы людзі, вось на што мы здольныя, вось у чым наша веліч, вось чым мы можам і павінны ганарыцца! — гэтыя думкі і пачуцці ляжалі ў глыбіні яго душы і былі найпершым вытокам творчага натхнення.

У літаратуры кожнай краіны ёсць вялікія імёны, да якіх асабліва хораша прыкладаецца азначэнне «настаўнік». Настаўнік народа, духоўны настаўнік нацыі. У Беларусі гэты найвышэйшы, найпашаноўны для пісьменніка тытул найбольш натуральна прыкладаецца да несмяротнага імя Коласа. Так, у свядомасці ўжо многіх пакаленняў беларусаў ён не толькі вялікі пясняр народа, але і яго мудры настаўнік, вышэйшы маральны аўтарытэт, мерка чалавечай годнасці і грамадзянскай доблесці.

1982

## «СЛУХАЙ ПЕСНЮ, ВОЛЬНЫ МОЙ НАРОДЗЕ!..»

Сённяшнія аматары паэзіі, асабліва — маладыя, слаба ўяўляюць, што гэта за імя і постаць у гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя — Міхась Чарот, чым адметная і цікавая яго творчасць-Сённяшнія — чытаюць пераважна паэтаў сённяшніх. І гэта натуральна. Як кажа прыказка: новы час — новыя песні. У кожнага пакалення звычайна і свае песняры, якія найлепш угадваюць яго настроі, думкі, памкненні і выяўляюць усё гэта найбольш блізкай яму, сучаснай паэтычнай мовай. Творчы ж плён папярэднікаў становіцца спадчынай. Спяшаюся, аднак, падкрэсліць, што спадчына сапраўднага мастака слова — гэта не мёртвы капітал. Гэта спадчына — жывая, і да яе мы, часцей або радзей, звяртаемся таксама дзеля задавальнення сваіх надзённых духоўных патрэб. А яшчэ дзеля таго, каб адчуваць пад сабой надзейны духоўны грунт, каб чуцца звяном у гістарычна непарыўным ланцугу пакаленняў.

Самабытная творчасць Міхася Чарота — сёння таксама наша мастацкая спадчына. Спадчына! А быў жа час, калі яго імя на роднай зямлі гучала надзвычай шырока і голасна, калі ў Беларусі бадай нельга было знайсці школьніка, які б не ведаў напамяць хоць колькі-небудзь яго радкоў — прынамсі тых, што неадменна змяшчаліся ў чытанках і хрэстаматыях. Думаючы пра тагачасную вядомасць і папулярнасць Міхася Чарота, я калісьці напісаў прысвечаны яго памяці верш, у якім паспрабаваў уявіць аблічча паэта і выказаць свае асабістыя адносіны і да яго паэзіі, і да яго лёсу. Дазволю сабе працытаваць дзве страфы:

То ён бачыцца мне
Малады, кучаравы, вясёлы
У кашулі у вышытай
Лёгка ідзе па зямлі,
І вітаюць яго,
Пазнаюць беларускія сёлы,
Дзе ён госцем
Жаданым і любым
У кожнай сям'і.
То на плошчы святочнай
Пад гукі ўрачыстага гімна
Верш забыты чытае,
І слухаюць сцішана людзі:
«Не расіце слязамі
Вы брацкіх магіл…

Так было, але гэтак —
Не будзе!..»

Пра той, ужо далёкі час у гісторыі нашай Бацькаўшчыны варта крыху сказаць асобна — каб лепш зразумець і творчасць паэта, і яго жыццёвы лёс, і яго ролю ў літаратурна-мастацкім жыцці рэспублікі.

Час Міхася Чарота — гэта час вялікіх рэвалюцыйных пераўтварэнняў у краіне, час здабыцця беларускім народам сваёй дзяржаўнасці і выхаду на гістарычную арэну актыўнай сацыяльна-палітычнай, гаспадарчай і культурнай жыццядзейнасці. Час паэта Чарота — гэта час Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 года, час замежных інтэрвенцый (нямецкая, польская) і грамадзянскай вайны, час нялёгкай пачатковай пары сацыялістычнага будаўніцтва, індустрыялізацыі і калектывізацыі краіны. Час вялікага супрацьстаяння старога і новага светаў, бязлітасна-зацятага, крывавага і бяскроўнага змагання, час непрымірымай бараць-бы ідэй, поглядаў, думак, бурнага кіпення і бурлення чалавечых жарсцяў. Вядома, што такі час — гэта час паэзіі, бо дзе ж і нараджацца натхнёнаму радку, дзе ж і запальвацца паэтычнай іскры, як не ў такой крутаверці сацыяльна-палітычных падзей, у якія ўцягнуты і ў якіх вырашаецца лёс мільёнаў?..

У гэты незвычайны час і прыйшлі ў беларускую літаратуру — адзін за адным і цэлымі «абоймамі» — маладыя паэты і пісьменнікі, новыя песняры новай долі працоўнага народа: Міхась Чарот, Уладзімір Дубоўка, Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Міхась Зарэцкі, Уладзімір Жылка, Язэп Пушча, Алесь Дудар, Паўлюк Трус, Уладзімір Хадыка, Андрэй Александровіч, Міхась Лынькоў, Пятро Глебка і многія-многія іншыя. Першы ў гэтым, паважным шэразе — Міхась Чарот. Ён пачаў друкавацца на некалькі гадоў раней за сваіх малодшых пабрацімаў — у 1918 годзе, і. к таму часу, калі ў друку сталі паяўляцца іх імёны (1921-1924), быў ужо шырока прызнаны паэт. У 1922 годзе выйшлі ў свет адразу дзве яго паэтычныя кнігі: зборнік вершаў «Завіруха» і паэма «Босыя на вогнішчы». А што было на яго жыццёвай дарозе датуль? Было басаногае дзяцінства ў мястэчку Рудзенску, на Міншчыне, дзе ён нарадзіўся і закончыў двухкласную школу, была настаўніцкая семінарыя ў Маладзечне, была армія і фронт першай сусветнай бойні, быў удзел у падпольным руху ў час акупацыі Беларусі палякамі. Дарэчы, у падполлі, у 1920 годзе, малады паэт уступіў у рады Беларускай Камуністычнай арганізацыі.

На самым пачатку 20-х гадоў Міхась Чарот увайшоў у свядомасць чытачоў як палымяны пясняр кастрычніцкай «завірухі», як «мяцежны бунтар» і салдат рэвалюцыйнага «сонечнага паходу».

Менавіта так успрымаліся яго пафасныя, публіцыстычна-баявітыя, прасякнутыя лозунгавымі і трыбун-нымі інтанацыямі, поўныя шчырага грамадзянскага ўзрушэння вершы:

Да працы ўсе, хто чуе сілу.
Пад сцяг Чырвоны, Вольны сцяг!
Капайце ворагам магілу!
К Камуне стройце новы шлях!

Асабліва гучную вядомасць Чароту як паэту рэвалюцыі прынесла паэма «Босыя на вогнішчы», апублікаваная ўпершыню восенню 1921 года — да 4-й гадавіны Кастрычніка. Не было тады ў беларускай літаратуры іншага твора, аб якім бы так многа гаварылі і спрачаліся, як аб гэтай паэме. Сімволіка вобразаў паэмы, у тым ліку і самой назвы, была зразумелая: босыя — гэта беларускія сяляне-галетнікі, парабкі, рабочыя пралетарыі і бедныя раменснікі, усе — «хто ўбогі, хто раздзеты», «а іх тут — мільёны!». Вогнішча — гэта агонь-пажар рэвалюцыі, у якім гіне стары ненавісны свет. Паэт захапляецца сілай і рэвалюцыйным энтузіязмам працоўных мас, іх калектыўнай воляй, веліччу справы, якую яны здзяйсняюць.

Бягуць яны... іх ловяць вочы
Золата-сонечны прамень,
Які і родзіць з цемры ночы
Вялікай будучыні дзень.
Што крок — Пабеда бліжай, бліжай...
Штандар чырвоны на плячы...
Чым крыж цягнуць — лепш спаць пад крыжам...
Іграйце песню, трубачы!!!

У наступныя гады Чарот піша яшчэ некалькі паэм, кожная з якіх мае сваю змястоўную і мастацкую адметнасць, хаця ўсе яны ўступаюць «Босым...» у паэтычнай сіле і яркасці. У аснову паэмы-фантазіі «Чырванакрылы вяшчун» (1922) пакладзена ідэя сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі — адна з самых папулярных ідэй маладой савецкай паэзіі 20-х гадоў. У паэме «Ленін» (1924), напісанай неўзабаве пасля смерці Уладзіміра Ільіча, паэт паказвае, кім з'яўляецца вялікі правадыр рэвалюцыі для вясковай беднаты, як разумее просты селянін ленінскую праўду. Гэты твор паклаў пачатак беларускай паэтычнай Ленініяне. Паэма «Беларусь лапцюжная» (1924) прысвечана тэме беларускай савецкай дзяржаўнасці — у ёй Чарот спрабуе асэнсаваць значэнне Кастрычніцкай рэвалюцыі для гістарычнага лёсу беларускага народа. Вобраз канкрэтнага жывога «чалавека рэвалюцыі» паэт

паспрабаваў стварыць у героіка-рамантычнай паэме «Марына» (1924).

Перачытваючы паэтычную спадчыну Міхася Чарота сёння, пераконваешся, што найбольш каштоўнае ў ёй — гэта «Босыя на вогнішчы» і лірыка сярэдзіны 20-х гадоў. Лірычныя вершы паэта нямала добрага, светлага, чалавечнага могуць сказаць і нам, чытачам 80-х. Зрэшты,— як і ўсякая сапраўдная паэзія, што эрозіі часу не паддаецца. Прачытайма, для прыкладу, такія вершы, як «Сенажаці і полі аснежаны», «Я зноў, дзе поле каласамі», «Заспявай быллём, мяжа», «Балотам снежным праз сасоннік»... Колькі ў іх жывога чалавечага пачуцця, сапраўднага лірызму, рэальных «зямных» фарбаў, «бачнай» канкрэтнасці вобразаў і паэтычных дэталяў!

Балотам снежным праз сасоннік,
Які смаловым пахам вабіць,
Прастор балот зімою соннай
Люблю санямі разухабіць.
Люблю, як санкі мчацца з плачам,
Пісклявы гімн зіме заводзяць,
А конь, падкуты чортам, скача,
Нібы па шкле, па гладкім лёдзе.

Выяўленне радасці, абуджанай поспехамі дзяржаўнага і культурнага будаўніцтва ў рэспубліцы, пачуццяў захаплення і замілавання прыгажосцю роднай зямлі чаргуецца ў лірыцы паэта з настроямі невясёлымі і балюча-трывожнымі. Асабліва раздзірала яму душу ўсведамленне гістарычнай несправядлівасці Рыжскага міру, паводле якога палавіна Беларусі апынулася ў няволі, пад пятой белапольскіх акупантаў. Зноў і зноў да яго далятае «сумны спеў Белавежы», зноў і зноў звяртаецца ёй у думках да лёсу запалоненага краю і ў глыбокім засмучэнні піша: «О, там зіма! Дні не красуюць маем, там край украсілі шыпшына і быльнёг...»

Ва унісон гэтаму горкаму матыву пачаў гучаць у яго паэзіі і другі, прасякнуты болем і горыччу, матыў — выкліканы нападкамі на яго творчасць «жорсткіх людзей», што нібыта «сыплюць словы золатам», але гэтыя словы «ў сэрца жалам колюцца». Паэт бачыў,— а гэта была другая палавіна 20-х гадоў,— што «жорсткія людзі» пайшлі ў наступ на заваёвы Кастрычніка ў сферы нацыянальна-культурнай. Менавіта ў гэты час Янка Купала піша свой знакаміты верш «Акоў паломаных жандар» — гнеўную водпаведзь замаскаваным недабіткам чарнасоценнага шавінізму, што паднялі галаву і засыкалі-зашыпелі, напалоханыя ростам нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа. Вельмі характэрны ў гэтым сэнсе верш Чарота «Песня», на які даследчыкі творчасці паэта не

звярнулі належнай увагі. А між тым ён можа нямала сказаць нам пра тагачасны душэўны стан паэта, пра тое, як блізка да сэрца прымаў ён складаныя супярэчнасці рэальнага свету. Прывяду з яго некалькі найбольш вымоўных строф:

Крыўды шмат рассеяна,
Крыўдай свет замучаны…
Сёння я асмеяны,
Сёння я засмучаны.

На цябе, о, сонейка,
З матыгой не сунуцца,—
Мая ж песня звонкая
Чуе кпіны вуліцы.

Пташка песняй ранняю
Будзіць лес азелены…
У сэрца я паранены,
Вольны птах падстрэлены.

Гэй вы, песні-песенькі,
Мной вы не асуджаны…
Ветрам вы разнесены
Па краіне ўзбуджанай.

Няма сумнення, што крыўда паэта мае не вузка-асабісты характар: зласлівыя нападкі на яго песні-песенькі, «кпіны вуліцы» — гэта нападкі і кпіны ворагаў беларускага слова, беларускай нацыянальнай культуры.

А яму так хацелася бачыць свой народ у радасці і шчасці, сваю родную Беларусь — у росквіце магутнай індустрыі, культуры і дабрабыту, у ззянні працоўнай славы, у новым, сацыялістычным аблічча! Красамоўна выказана гэта яго рэвалюцыйна-патрыятычная мара ў вершы «Заўтра», напісаным у самым канцы 1926 года:

Вось чаму
Палымнею жаданнем:
Там, дзе свецяцца
Вочы зарніц,
Адчуць фабрыкі
Гул і дыханне,
Шыр прастору
Электр ай заліць.

І тады Васількавую просінь
Абаўе
Светлай фабрыкі дым,—
Вось чаму
У сэрцы радасць мы носім,
А я ў спевах сваіх
Малады.

Дасведчанаму ў беларускай савецкай паэзіі чытачу гэты матыў, напэўна, нагадаў нешта знаёмае, ці не так? А што менавіта? Канешне ж, знакамітыя радкі з напісанай годам пазней паэмы «Дзесяты падмурак» Паўлюка Труса: «Край палёў, о, край, калі ж ты станеш краем фабрык дымных і машын?..» Так, у Чарота вучыліся, за Чаротам — у яго ідэйна-вобразным рэчышчы — ішлі многія яго маладзейшыя паплечнікі, нават такія ярка-таленавітыя, як Трус.

На вялікі жаль, пасля вершаў «Песня», «Заспявай быллём, мяжа», «Заўтра», у паэзіі Міхася Чарота — хаця яму толькі пераваліла за трыццаць — пачынаюць усё мацней адчувацца прыкметы творчага крызісу. Піша ён усё менш і менш— па дватры вершы ў год,— і тое, што піша, пазначана відочным зніжэннем узроўню майстэрства, культуры пісьма. Ягоны верш як мастацкі твор ва ўсіх адносінах яўна рэгрэсіруе — у ім усё больш празаічна «раскілзаных», слаба арганізаваных радкоў, змест якіх нярэдка зводзіцца да плакатнага заклiку, да павярхоўнага рытарычнага воклічу. Кульмінацыяй на гэтым шляху заняпаду і разбурэння творчай асобы стаў напісаны ў канцы 1930 года верш «Суровы прыгавор падпісваю першым». Паверыўшы злосным, подла сфабрыкаваным паклёпам на многіх лепшых прадстаўнікоў беларускай асветы, навукі і культуры, паэт сваім радком падтрымаў, блаславіў учыненую над імі, яго аднадумцамі і адзінаверцамі, расправу. Гэта быў канчатковы ідэйна-псіхалагічны злом, маральная катастрофа з непазбежнай паралізацыяй творчага духу, пасля чаго ён ужо мог пісаць толькі нешта вось гэтакае (верш «Лірычны эскіз», 1934 год):

Са мною думкамі
Пачалі ўсе дзяліцца...
Яны ўпэўнены —
Іх стан непераможны.
«Калгас павінен быць
Калгасам бальшавіцкім;
Калгаснік кожны —
Павінен быць заможным».

Ворагі беларускай літаратуры, тыпу Бэндэ і яго хаўруснікаў, маглі паціраць рукі: каго не справадзілі з роднай зямлі на край свету, каго не давялі да самагубства — таго давялі да творчай канчыны, да анеміі душы і сэрца. Зрэшты, не за гарамі была і заўчасная фізічная смерць: набліжаўся злавесны тысяча дзевяцьсот трыццаць сёмы...

Так трагічна склаўся жыццёвы і творчы лёс аднаго з самых звонкагалосых запявалаў беларускай паэзіі савецкай эпохі.

Міхась Чарот застаўся ў гісторыі беларускай літаратуры перш за ўсё як паэт. Але ён быў і цікавы на тым часе празаік. Яго пяру належаць дзве кнігі апавяданняў («Веснаход», 1924 і «Выбраныя апавяданні», 1926), а таксама аповесць «Свінапас», па якой быў пастаўлены ў 1926 годзе першы беларускі мастацкі фільм «Лясная быль» (рэжысёр — Ю. Тарыч). Карысталіся поспехам і многія п'есы Чарота,— такія, як «Мікітаў лапаць» (1923), «Дажынкі» (1924), «Пастушкі» (1921), «Слуцкая варона» (1920), музычная драма «На Купалле» (1926). На тэкст гэтай апошняй кампазітар Аляксей Туранкоў напісаў оперу «Кветка шчасця» — адзін з лепшых твораў беларускай музыкі буйных форм.

Міхась Чарот быў і відным грамадскім дзеячам. На працягу некалькіх гадоў (1924-1929) рэдагаваў рэспублікан-скую газету «Савецкая Беларусь», якая тады выходзіла на беларускай мове, а пазней — часопіс «Чырвоная Беларусь». Быў ініцыятарам стварэння і першым кіраўніком літаратурнай арганізацыі «Маладняк». Выбіраўся членам ЦВК БССР і кандыдатам у члены ЦК КІТ Беларусі.

У снежні 1938 года Міхася Чарота не стала. Але засталіся нашчадкам, нам з вамі, яго пранікнёныя, узнёслыя песні. А значыць — жыццё паэта працягваецца.

А цяпер я ў сонечным паходзе,
Песня льецца залатым струменем...
Слухай песню, вольны мой народзе,
Твой паэт цябе так разумее!..

Паэт разумеў свой народ — народ разумеў і разумее паэта. І не толькі разумее, але і шануе яго імя і яго слова ў памяці сэрца.

*1986-1987*

## ПЯСНЯР ВЕРНАСЦІ
## Слова пра паэзію Максіма Танка

У кожнага сапраўднага паэта — свой адметны лёс і свой непаўторны шлях. І ў той жа час — гэта лёс і шлях народа, сынам якога паэт з'яўляецца.

Жыццёвы і творчы шлях Максіма Танка — адзін з самых адметных у сучаснай беларускай і ўсёй савецкай літаратуры.

Паўвека таму назад, зусім маладым юнаком, ён пачынаў сваю песню «на маўклівых мурах, на калючых дратах., ды на хмарах, што па-над турмой пралятаюць». Пачынаў ярка, самабытна, упэўнена, сваім грамавым голасам і са сваім мяцежна-бліскавічным, шырокім — на ўсё неба душы — размахам:

Якая цёмная на «ўсходніх крэсах» ноч!
Пажары толькі ў ноч такую бачны.

Гэтыя радкі напісаны ім у і 8-гадовым узросце, а як многа, ў іх ад характару і почырку Максіма Танка сягонняшняга — ад маштабнасці і глыбіні яго сацыяльных метафар, ад кантрастнай афарыстычнасці яго вобразнага мыслення, ад подыху яго магутнага паэтычнага тэмпераменту.

Здзіўляе сацыяльна-класавая чуйнасць і грамадзянская спеласць маладога заходнебеларускага паэта.

Як мы пішам? Звычайна, паны!
Перапісваем старанна,
Што пісалі на нашых плячах бізуны,
Кулі вашых загоншчыкаў карных.

Гэтае трапнае аўтарскае тлумачэнне наконт вытокаў рэвалюцыйнай заходнебеларускай паэзіі дадзена ім у 1931 годзе. Тады ж, прачытаўшы ў адной з рэдакцыйных газет подлую фразу: «няма ніякіх беларусаў і беларускай мовы», 19-гадовы рэвалюцыянер дае цемрашалам такую гнеўную водпаведзь:

Калі няма на свеце маёй мовы,
Майго народа і мяне самога,—
Дык для каго будуеце, панове.
Канцлагеры, катоўні і астрогі?

Канцлагеры, катоўні і астрогі сталі на доўгі час прыстанішчам яго шчырай і мужнай песні, песні, што «прыйшла з батрацкіх сяліб, з-пад саламянае страхі, з-пад тапара, касы, сахі, з-пад камяністых чорных глыб» і таму ацяжарана думамі і пакутамі народа. «Паэзія наша,— запісвае Танк у дзённіку за 1936 год,— цяжкая, як камень, вырваны з бруку падчас вулічных баёў...» Яго песня пазнавала надыход вясны па тым, што пачынала капаць у цёмнай

келлі астрога вада, там жа ў астрозе, парою сенакосу і жніва, ёй мроіўся далёкі бразгат калёс на пожні, а першыя сняжынкі да яе залятаЛі праз краты. У яго песню перайшлі як наказы, як запаветы, апошнія словы, апошнія просьбы таварышаў, што паміралі побач, на саломе астрожных нараў... І ўсё ж, ацяжараная слязьмі і болем, яго песня была акрылена марамі і надзеямі народа, акрылена верай у перамогу. Вылецеўшы з -пад саламяных стрэх, яна рабілася адозвай, ішла на маёўкі і падпольныя сходы, станавілася на барыкады, каб услед за гэтым — ісці па этапах пад звон кайданоў, і зноў вырывацца на волю, і клікаць да барацьбы, і будзіць у змагароў веру.

Вясною светлаю з-за крат
З сяўнёю, поўнаю зярнят,
Нас выйдзе шмат, як цёмны бор,
На скібы чорныя разор...

«Нас выйдзе шмат, як цёмны бор» — вобраз і арганічна-беларускі, народны, і тыпова танкаўскі. Нас — многа, мы — народ, і я — разам з народам, у адной грамадзе, — вось самаадчуванне паэта, якое прыйшло да яго своечасова і назаўсёды.

У тыя далёкія гады, на суровых дарогах сваёй рэвалюцыйнай маладосці, на этапах і ў астрогах, Максім Танк вельмі многа думае пра місію і месца паэта ў жыцці, пра назначэнне і ролю паэтычнага слова.

І ў вершах і ў дзённіках ён спрабуе сфармуляваць сваё ідэйна-творчае крэда. Зусім у духу ранняга Маякоўскага ён заяўляе:

Досыць!
Не штука іграць на кларнеце,
Медныя жменяй сыпаць акорды.
Блудзіць па прытонах,
Цешыць тлустыя морды.

У другім вершы малады паэт падкрэслівае, што «выводзіць напеў залацістым ажурам» — гэта занятак не для яго, такую паэзію ён катэгарычна адмаўляе. Чытаючы сёння раннія творчыя дэкларацыі паэта, міжволі думаеш: як гэта важна — своечасова, з першых крокаў, зразумець, што калі цябе надарыла родная зямля талентам — дык жа не для таго, каб марнаваць яго ў слоўнай гульні, у рыфмаваным штукарстве і забавах,— а для таго, каб шчыра, верна і самааддана служыць сваім таленавітым словам людзям, народу, Бацькаўшчыне. Духоўнае жыццё маладога паэта было ў той час незвычайна напружаным. Ён неймаверна многа чытае, вострачы свой мастацкі густ і ідэйна-эстэтычныя крытэрыі на ўзорах рускай і сусветнай класікі, на творах савецкай, у тым

ліку беларускай, літаратуры, на творчасці Купалы і Коласа, а таксама тагачасных пісьменнікаў Польшчы і Заходняй Еўропы. Рэвалюцыйная агітацыя і прапаганда сярод працоўных, падпольныя сходкі і сустрэчы, гутаркі і спрэчкі — як з сябрамі-адзінаверцамі, так і з ідэйнымі праціўнікамі, чытанне і роздумы, нарэшце, арышты, вобыскі, допыты, этапы і астрогі — гэта і былі яго універсітэты, экзамены ў якіх ён вытрымаў з годнасцю сапраўднага сына народа і сапраўднага салдата партыі. Цяжкая і суровая была яго маладосць, але — і прыгожая сваёй вернасцю сябрам і пабрацімам, чысцінёй сваіх высакародных мар і парыванняў. Нагадаю яшчэ адзін запіс з лісткоў календара, зроблены паэтам у той дзень, калі ён упершыню ў жыцці, будучы ўжо аўтарам трох кніг, атрымаў мізэрны ганарар за вершы, апублікаваныя ў польскім друку: «Да гэтага я ніколі не задумваўся, што вершы могуць мець хоць нейкую грашовую вартасць. Я знаў, што за іх могуць судзіць, садзіць у астрог, але каб за іх плацілі...».

Як вядома, Максім Танк быў не адзіным песняром на абсягах былой Заходняй Беларусі. Побач ці крыху воддаль гучалі самабытныя галасы знаёмых або не знаёмых яму асабіста Валянціна Таўлая, Піліпа Пестрака, Міхася Васілька, Міхася Машары, Міколы Засіма, Сяргея Крыўца, Ніны Тарас і іншых таварышаў. Голас Танка ў гэтай грамадзе быў, безумоўна, і самы яркі, і самы моцны.

«Мы — песняры праклятай сучаснасці»,— вырвецца ў яго аднойчы як горкі ўздых роздум-вывад аб лёсе сваім і сваіх паплечнікаў. Праклятай сучаснасці і светлай, шчаслівай будучыні,— азывалася ўслед думка-вера, думка-мара, думка-перакананне:

Чорныя скібы кругом...
Чорныя скібы кругом...

Гэта ідзе ў вершы і як рэфрэн і як сімвал. Але:

Звоніць аб камень
Сталёвы нарог.
Конь упіраецца, скібы цяжкія...
Глянь! На усходняй старонцы —
Іскры! Барозны затлелі зарою.
Выарам хутка і сонца!

Сонца з усходу засвяціла паэту ў верасні 1939 года. Паэту — і мільёнам працоўных Заходняй Беларусі, якія нарэшце ўз'ядналіся са сваімі адзінакроўнымі братамі ў адной савецкай сацыялістычнай рэспубліцы.

Здарова, таварышы! Доўга чакалі

Мы вас і чакала ўся наша зямля,—

такімі узнёслымі радкамі песні радасці вітаў паэт-зматар і рэвалюцыянер гэты дзень.

Але радасць вольнай стваральнай працы па абнаўленню яго роднага краю была, як мы ведаем, нядоўгай. З захаду насунуліся чорныя хмары фашыстоўскай навалы — і паэт, апрануўшы паходны шынель, стаў у баявы строй. Яго вершы ваеннай пары, яго выдатная паэма «Янук Сяліба», побач з вершамі і паэмамі Купалы і Коласа, Твардоўскага і Куляшова, Сіманава і Панчанкі, Пракоф'ева і Броўкі,— складаюць адну з самых яркіх старонак антыфашысцкай савецкай паэзіі.

Разам з такімі палымянымі заклікамі, як «Не шкадуйце, хлопцы, пораху!», «Вастрыце зброю!», «Падымайся, Беларусь!», гучалі, поўныя болю і смутку, радкі аб вялікай трагедыі народа і краю, што стаў ахвярай нечуваных фашысцкіх зверстваў.

Што за пагоркам сінее, таварыш?
Зноў папялішчы? Што ж каску ты зняў?
Мо ўпершыню нас вітаюць пажары?
Або радзімы сваёй не пазнаў?

Будуць праходзіць гады і дзесяцігоддзі, а з памяці так і не сатрэцца, як цяжка, як балюча было бачыць сваю ў пажарышчах і руінах зямлю, слёзы на вачах удоў і галодных, пакалечаных, змучаных гадамі смяротных жахаў асірацелых дзяцей. Будуць адбывацца іншыя, добрыя падзеі добрай мірнай пары, будуць прыходзіць іншыя, будзённыя і святочныя клопаты і турботы, а ў сэрцы паэта зноў і зноў будзе азывацца пранізлівым болем вайна, будуць паўставаць перад вачыма і сыходзіць на старонкі кніг «абгарэлыя салдацкія кацялкі» Трасцянца і «чорныя горы» спарахнелага дзіцячага абутку ў Асвенціма, «крывавыя кратэры каменяломняў» у Бухенвальдзе і натоўпы кляймёных лічбамі рэпатрыянтаў. І будзе заўсёды помніцца, як «мы ў свой горад прыйшлі», і той першы сярод мінскіх руін пасляваенны трамвай, што «на прыпынку кожным спыняўся доўга, быццам інвалід». І хіба дзіва, хіба магло быць іначай? — што менавіта Максім Танк у нашай беларускай і ва ўсёй савецкай пасляваеннай паэзіі становіцца адным з найбольш актыўных прапагандыстаў ідэй міру, дружбы і брацтва народаў свету? Пачынаючы з першых мірных дзён сорак пятага і да сёння — паэт пастаянна і нястомна выступае з асуджэннем вайны і яе крыважэрных апосталаў — тых, хто хацеў бы падпаліць свет нанова, каб у яго агні згінулі новыя мільёны чалавечых жыццяў. Зрэшты, можна сказаць, што сапраўдная паэзія, незалежна ад тэм і матываў, заўжды служыла і служыць міру, бо яна служыць жыццю, бо яна ўслаўляе радасць

жыцця, радасць працы і творчасці, сяброўства і кахання. Гэта, вядома, так, і аднак жа час, у якім нам выпала жыць,— наш суровы, пагрозлівы час — патрабуе ад сваіх паэтаў слова ў абарону жыцця адкрытага і пераканаўчага, слова ўсхвалявана-трыбуннага, вострапубліцы-стычнага, слова, у якім бы закіпала крутою хваляй гарачая кроў паэта, чулася б набатнае біццё яго неспакойнага сэрца. Вось чаму такія вершы Танка, як яго знакаміты «Жэтон», вершы такой ідэйнай глыбіні і мастацкай сілы,— варты таго, каб іх прыраўняць да ліку важных міжнародных дакументаў аб прадухіленні вайны, каб яны гучалі з трыбун самых адказных сусветных форумаў міру:

З нержавеючага сплаву гэты быў жэтон адліты,
Нумар сем мільёнаў трыста сорак пяць.
Я знайшоў яго на полі, дзе шуміць, красуе жыта,
Дзе варожыя салдаты сном бясслаўным спяць.

Я яго з пяску адчысціў. Кім ты быў, забіты вораг?
Я хацеў бы знак твой родным адаслаць.
Ды не знаю, як завешся, дзе сям'я і дзе твой горад,
Нумар сем мільёнаў трыста сорак пяць.

Толькі знаю: генерал твой нейкі Крыговольф ці фон Шпадэль
З бандай імперыялістаў хочуць зноў вайну пачаць.
Уставай, сваім ты крыкні, што зноў смерць рыхтуюць гады,
Нумар сем мільёнаў трыста сорак пяць!

Ці ж ты можаш ім дазволіць, каб дарогай беззваротнай
Сын пайшоў твой, загубіўшы маладосць сваю і чэсць,
Каб павесілі на грудзі яму новы знак смяротны —
Нумар сем мільёнаў трыста сорак шэсць!

Пры гэтым неабходна падкрэсліць, што, падымаючы голас у абарону жыцця і міру, паэт-гуманіст не забывае, што ён выступае прадстаўніком дзяржавы Саветаў — дзяржавы міру, прадстаўніком народа — будаўніка міру, ён помніць: «гэта на нашых грудзях заламаліся хвалі, што над Еўропай, як чорная ноч, бушавалі».

Паэт-патрыёт Максім Танк — сёння адзін з самых яркіх у сусветнай літаратуры паэтаў-інтэрнацыяналістаў. Ён вельмі рана далучыўся да інтэрнацыянальнай барацьбы змагароў супроць капіталізму і фашызму і ўжо ніколі не чуў сябе свабодным ад гэтага найвялікшага грамадзянскага абавязку. Пачаўшы з маладых гадоў, ён праз усё жыццё выхоўвае ў сабе жывую

заклапочанасць лёсам працоўных іншых краін і разам з тым чуйную цікавасць да жыцця, гісторыі і культуры іншых народаў. Шмат часу спатрэбілася б, каб толькі пералічыць тыя падзеі пасляваеннай міжнароднай гісторыі, на якія ён адгукнуўся ў вершах і паэмах, каб толькі назваць тыя краіны і гарады, горы і даліны, моры і рэкі, якія ён пабачыў і якія з яго ласкі назаўсёды ўвайшлі ў беларускую паэзію, каб толькі згадаць усе нянаскія імёны — гістарычныя і сучасныя — усіх дзеячаў культуры і навукі, літаратуры і мастацтва, якія ён увёў у духоўны свет беларускага чытача, узбагаціўшы іх вобразамі нашу нацыянальную мастацкую скарбніцу. Некалі малады дзяцюк з лясной і азёрнай Мядзельшчыны марыў: «Я, здаецца, далучыўся б да цыганоў, каб толькі павалачыцца па розных шляхах зямлі ды паглядзець на свет». Сёння можна сказаць, што гэты свет ён адкрыў — і для сябе, і для ўсіх нас — незвычайна шырока. І не будзе перабольшаннем канстатаваць, што ў Беларусі не было і няма паэта, хто ў такіх бы маштабах ахапіў у сваёй творчасці ўсю нашу краіну і цэлы свет, хто б гэтак чуйна ўмеў настроіць сваё сэрца на ўсе трывогі планеты, хто б гэтак цесна і трывала быў звязаны тысячамі думак, вобразаў, матываў з рознымі куткамі зямлі, нарэшце, хто б гэтак шматлучна і ўпэўнена паставіў сябе ў кантэкст сусветнай сучаснай паэзіі, яе тэматычных і фармальна-стылёвых пошукаў.

У гэтым сэнсе Максім Танк займае ў нашай паэзіі асобае месца, Я думаю аб тым, што ў беларускую літаратуру эпохі вялікага рэвалюцыйнага абнаўлення свету няйначай як павінен быў прыйсці пясняр, які б стаў у той шэраг паэтаў-інтэрнацыяналістаў, што пачынаецца імем Уладзіміра Маякоўскага і прадоўжаны такімі імёнамі, як Уладзіслаў Бранеўскі, Назым Хікмет, Поль Элюар, Нікола Вапцараў, Пабла Нэруда і многімі іншымі слаўнымі імёнамі рэвалюцыйнай паэзіі XX стагоддзя. І такі паэт прыйшоў, здзейсніўся і працягвае здзяйсняцца на нашых вачах.

Наўрад ці трэба тлумачыць, як хараша спрыяла і спрыяе гэтаму актыўная чыннасць Максіма Танка — рэвалюцыянера, камуніста, грамадскага дзеяча. Тлумачыць не трэба, а вось задумацца і зрабіць урок — асабліва тым, хто сёння ўступае ў літаратуру,— варта.

Адзначыўшы гэту выдатную рысу яго творчасці, яго чалавечага і паэтычнага характару, самы раз сказаць і пра гэтакую ж цесную, шматгучную і трывалую зпітаванасць ягонай душы з родным беларускім краем, з думамі і турботамі свайго народа. У гэтым сэнсе жыццё і творчасць Максіма Танка бліскуча пацвярджаюць тую заканамернасць, што сапраўднаму патрыёту далучэнне да духоўных багаццяў свету дапамагае яшчэ больш

горача любіць сваю Бацькаўшчыну, яшчэ глыбей пускаць карані ў векавечны дол айчыннай гісторыі і культуры, яшчэ мацней даражыць духоўнымі набыткамі роднай зямлі. Танкаўская любоў да Беларусі, да свайго роду-племені, танкаўскае — калі пакарыстацца старым праславянскім словам — родалюбства,— адна з самых прыгожых і прывабных рыс яго паэтычнага вобліку. Дзе б далёка ні быў яго гэтак званы лірычны герой — ён абавязкова спяшаецца вярнуцца ў свой родны кут — да затокаў і тоняў Парачы, да мядзельскіх бароў і лугавін, «у пераклік зязюль, у перасвіст шпакоў, у паразвон крыніц, у перашум дуброў», у тую хаціну, дзе некалі на змярканні маці клала на стол натруджаныя цёмныя рукі і ад іх, як ад сонца, святлела наўкола, дзе і цяпер яна бачыцца яму «у парэпанай раме дзвярэй» — «пасівелая, як. валун», «атуленая хусткай» вечнай мацярынскай трывогі... Пасля Купалы і Коласа немагчыма назваць паэта, хто б у гэтакай меры, у гэтакім абсягу, як ён, ахапіў жыццё і побыт беларускай вёскі, стварыў моваю вобразаў гэтакі поўны, яркі і дакладны прыродна-геаграфічны, эканаміка-сацыяльны і гісторыка-этнаграфічны партрэт Беларусі. У ягонай творчасці вобраз роднай зямлі паўстае ў сукупнасці тысяч рысаў і рысак, штрыхоў і штрышкоў, у сваіх прыродных фарбах і колерах, мелодыях і гуках, у павевах, знаёмых пахаў і водару. «Пасівелыя замкі вежаў» і «гартаваны дамаскі клінок» Антона Нябабы, шэрая сярмяга Кастуся Каліноўскага і спаленыя дзеля грама золата слуцкія паясы, «удушлівы дым папялішчаў» і брацкія курганы «пад небасхілам тугі неабдымнай»,— гэта наш край і наша гісторыя, гэта — Беларусь. І вішняк, што ад шчодрага інею «перахіліўся за парканы», і «кудлаты снежань», што «ахінуў стагі лугоў, як верацёны, снежнай воўнай», і «святаянская раса» на лясных палянах, і «шорах забабонных траў», і «вянкі грыбоў — лясныя анталогіі неверагодных, фантастычных казак»,— усё гэта таксама наша зямля, наша прырода, яе харасто і яе дары. І пісьмо з вёскі, у якім бацькі перадаюць паэту «паклон ад цёткі Марылі, у якой учора ацялілася рабая карова», і «паклон ад дзядзькі Анупрэя, які перад Новым годам закалоў кабана і, падвешваючы кумпякі, навярэдзіў сярэдзіну»,— гэта таксама Беларусь, бо дзе ж яшчэ можна навярэдзіць кумпякамі сярэдзіну, як не ў нас, у Беларусі?..

Дарэчы, і гумар танкаўскі — таксама вельмі беларускі, нацыянальны ў вышэйшай ступені. Бадай, ні ў чым так не выяўляюцца асаблівасці характару, як у смеху, у гумары. У адметнасці смеху — адметнасць душы і чалавека, і цэлай нацыі. Танкаўскі смех рассыпаны тысячамі блёсткаў — вясёлых, дасціпных, лёгка-іранічных, часам — нават трохі гарэзлівых, але ніколі не пошлых, не грубых, заўсёды — далікатных, вытрыманых

у лепшых традыцыях народнага гумару. Так, яго славуты майстар Люцыян Таполя пакляўся, што і перад смерцю сваёй не адпусціцца і не даруе толькі двум: біскупу Сямашку і «яшчэ яловаму суку, што век шкодзіў, псуў яго майстэрства». Біскуп і яловы сук ідуць нароўні — гэта цалкам у духу народнага, фальклорнага смеху.

А хіба не беларускі гумар вось у гэтай мініяцюры, якую паэт дасціпна і трапна назваў «Касманаўт»:

Ён толькі што пачаў хадзіць па хаце.
Савет сямейны вырашыў адзначыць
Падзею гэту. Замяніўшы мокры
Яго скафандр на ватны і сухі,
Панеслі да фатографа здымацца.
— Вам на кані,
на лодцы,
на ракеце?..
Дамовіліся.
Вось гатоў і здымак.
Ляціць шчаслівы касманаўт між зораў
І смокча соску з кольцам каляровым,
Падобную да нейкага Сатурна.

Вяршыня гумару, на маё разуменне,— гэта іронія над самім сабой,— вышэйшая ступень свабоды, развітасці і культуры пачуцця смешнага. Максім Танк валодае гэтай культурай пачуцця ў дасканаласці. Як чытачам вядома, ён любіць сам у вершах пагаварыць пра сваю ж паэзію і даць ёй ацэнку. Але — як і якую?

Я не такі ўжо наіўны,
Каб думаць,
Што вершы мае...
Больш варты,
Як нейкі глыток невялічкі вады.
Я рад і таму,
Што прадаўшчыца
Сягоння мне ў вершы мае
Селядца загарнула.
Мне так і. карцела
Спытацца прахожых:
Вы не каштавалі яшчэ
Селядцоў з вершамі?

Вялікі жыццялюб і бязбожны смехатворац, ён нават такі сур'-ёзны дакумент, як паэтычнае завяшчанне, насмешліва пазваў

«інструкцыяй» і ўключыў у яе — нашчадкам для выканання — такія пункты:

Курган мой зраўняйце з зямлёю спрадвечнай,
Каб часам не ўздумаў хто помнік паставіць.
І вершы спаліце, каб нейкі зануда
Пра іх дысертацыю не нагрымзоліў.

Іронія — найлепшы сродак ад паэтычнай коснасці і руціны. Танк зразумеў гэта яшчэ ў маладосці. У «Лістках календара» за 1939 год чытаем: «Усё часцей пачынаю ўцякаць у краіну Іроніі — уцякаць ад розных няпрошаных гасцей, затхлага паветра і банальнасці». Дзе канчаецца гумар і пачынаецца сатыра — правесці такую мяжу часам амаль немагчыма. У паэзіі Максіма Танка гэтыя дзве катэгорыі смеху здаўна, яшчэ з даверасnёўскай пары, ідуць поруч. Вось ён вычытаў дзесьці такія статыстычныя даныя: француз выпівае за год 153 літры віна, італьянец — 120, аргенцінец — 74. Прывёўшы гэтыя лічбы ў вершы «Статыстыка», паэт робіць такое падсумаванне:

Сасункі яны, прызнацца,
У параўнанні з Галіяшам Рылам —
Маім суседам,
Які толькі за абедам,
Ці дома ці ў шынку,
Тры гарцы выпівае першаку.
І мы не хвалімся.

Чаму паэт з лірычнай або дабрадушна-гумарыстычнай танальнасці пераходзіць на іранічна-кплівую, з'едліва-саркастычную — на гэта ён адказвае сам у вершы «Каб дзень абрыдай не пачаць»:

Каб дзень абрыдай не пачаць,
Па прыкладу прамудрых класікаў
Пачаў пісаць пра сенажаць,
Цяністы сад з пчалінай пасекай.
Ды зноў пабачыўшы лычы,
Адзервянелыя, зацвілыя,—
Сарказмам лірыка гучыць
І парушаецца ідылія.

Эмацыянальная палітра панкаўскай паэзіі, як бачым, незвычайна багатая і разнастайная: ад узнёслай патэтыкі да элегічнасці, ад трыбуннай узрушанасці да спакойнай медытацыйнай разважлівасці, ад мяккага, дабрадушнага гумару да сарказму. Адпаведна разнастайны ён і ў жанравых формах свайго паэтычнага

самавыяўлення. Побач з жанрамі лірычнымі ў яго агромністым творчым набытку суседнічаюць жанры ліра-эпічныя і эпічныя. Танк — аўтар добрага дзесятка паэм, у тым ліку такіх значных гісторыка-рэвалюцыйных і гісторыка-патрыятычных палотнаў, як «Нарач», «Кастусь Каліноўскі», «Янук Сяліба» і апошняя па часе драматызаваная паэма «Мікалай Дворнікаў». Ён — прызнаны майстар балады і літаратурнай вершаванай казкі. Ды нават і ў яго лірыку досыць часта і зусім арганічна ўваходзіць элемент апавядання, стыхія мовы эпічнай. Прыгадаем яго знакамітую, яшчэ даверасн ёўскую, «Песню кулікоў» — якая зайздросная мастацкая хватка эпіка:

Пахне дзёгцем, потам, рыжаю аўчынай,
Цішыня у хаце згорбленай старой;
Ды гарыць памалу ноч даўгой лучынай,
Сцелючы сасновым дымам і смалой...
Дымна ў печы дровы і карчы палаюць.
Зайцамі кладуцца цені на сцяне.
Пеніцца сярдзіта бульба, закіпае
Снежнаю завеяй ў чорным сагане.

Зрэшты, жанравая і стылёвая разнастайнасць напісанага Танкам не павінна здзіўляць — як яна не здзіўляе нас у паэтычнай спадчыне Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і Аркадзя Куляшова. Максім Танк — гэта агромністы паэтычны свет, які не можа быць ні аднаколерным, ні аднабаковым, ні аднамерным. Ён ахоплівае мацерыкі і краіны, народы і народнасці, гісторыю і сучаснасць. А ў цэнтры гэтага сусвету — родная Пількаўшчына, Мядзельшчына, Беларусь, простыя, звычайныя людзі. У цэнтры яго філасофска-эстэтычнай сістэмы — як яе галоўная апора, яе надзейны падмурак,— мараль і эстэтыка чалавека працы, чалавека будаўніка і творцы. Невыпадкова, што сваю паэзію ён і сягоння бачыць у вобразе жняі, што «пад бабкаю жыта грудзьмі загарэлымі корміць малога, які хоча сонца злавіць». Чалавек працы!.. У паэзіі Танка гэта перш за ўсё — земляроб, сейбіт, садоўнік, пчаляр і, вядома,— рыбак. А і многа ж натхнёных, шчырых і светлых песень-гімнаў прысвяціў яму паэт: цэлую анталогію можна было б скласці з іх! А і прыгожы ж ён, гэты чалавек, у праменнях павагі і любові паэта! Прыгожы, калі працуе, у рабоце: за плугам і з касою, за вёсламі і з сякерай, за кроснамі і з сярпом, за рулём і за пультам, пры свежай баразне і сярод спелай нівы! Прыгожы ў адпачынку, у сяброўскай бяседзе, у застоллі — пры чэсна запрацаваным хлебе і пры мядовым пітве, на кірмашы і на гулянцы, у агністай «Лявонісе» і з песняй на вуснах! А яшчэ — ён невыказна прыгожы ў каханні: у шчаслівыя хвіліны сустрэч і ў

смутку расстання, у палымянай размове позіркаў і ў той нявіннай гарэзлівасці, за якую хаваюцца і чысціня, і цнатлівасць, і сарамяжлівасць.

Свавольнай была маладая суседка:
То чуб асмяе, то характар мой зганіць,
То шапку закіне ў крапіўнік ці ў кветкі,
То кіне антонаўкай неспадзявана.
Паскардзіцца думаў — засунула браму,
Не раз памірыцца хацеў з ёю шчыра.
Збіраўся пабіць, ды так крыкнула «мама!»,
Што ледзь пацалункамі я ўціхамірыў.

Няма сумнення, што толькі глыбокае веданне народа, яго мужнага, спакойнага і добрага характару, жывіць у душы паэта тую любоў, тое цяпло і ласку, якімі ён абдароўвае свайго лірычнага героя, нашага сучасніка, і якія пры сустрэчы з ім, гэтым героем, на старонках кніг, перадаюцца нам. Каб і мы таксама сталі хоць на трохі і чысцейшымі, і прыгажэйшымі, і лепшымі.

Народнасць і рэалізм заўсёды былі і ёсць непарушнымі для паэта прынцыпамі яго падыходу да жыцця і творчасці. Хацелася б падкрэсліць, што ў станаўленні гэтых вызначальных рыс Максіма Танка як творчай асобы, як мастака і грамадзяніна, неацэнную ролю адыграў фальклор — вусная паэзія народа. Максім Танк і фальклор — тэма асобнай гаворкі, вартая цэлай манаграфіі. Нямнога ў гісторыі нашай літаратуры ёсць прыкладаў, каб творчасць народа гэтак плённа жывіла мастацкую энергію, думку і фантазію паэта. «Ізноў узяўся за фальклор,— запісвае Танк у дзённіку за 1939 год.— Я часта вяртаюся да яго як да крыніцы, каб асвяжыць свае вусны, змыць з твару дарожны пыл». Вобразы і матывы народных казак і паданняў, бываліц і легенд, песень і прыказак, нават прымхліц і замоў далі жыццё мноству яго цудоўных твораў, у тым ліку некаторым сапраўдным шэдэўрам паэзіі для дзяцей. Хачу ў гэтай неабсяжнай тэме вылучыць толькі два моманты. Па-першае, праз свае ўзаемадачыненні з фальклорам Максім Танк праводзіць усё тую ж думку, што сапраўдная творчасць ідзе ад роднай зямлі і з глыбінь народнага жыцця, і толькі ім — свайму народу, сваёй зямлі, сваёй маці, у рэшце рэшт, паэт абавязаны ўсім тым лепшым, што ён здолеў зрабіць. «Закалыхваючы, пэўна стомленая, памылілася маці: не на верацяно, а на сэрца маё навіла сваю песню. Я і сёння асцярожна, з хваляваннем, разматваю клубок песень, каб хаця не парваць яе нітку». Не менш красамоўна сказана ім аб вытоках свае творчасці і ў вершы «Як я стаў паэтам». На местачковым кірмашы, за прададзеныя лапці і венікі, ён набыў вялізнае рэшата, «і калі пачаў

на ім — жменьку за жменькай — прасяваць нашу зямлю, убачыў на дне рэшата песні». Па-другое, фальклорны вобраз або матыў варта браць толькі пры ўмове, што ён будзе пераасэнсаваны, творча інтэрпрэтаваны, што ён стане зернем для самастойнай паэтычнай задумы. Паводле народнай прыкметы — гром на голы лес — гэта кепска. Так — у фальклоры. А вось радкі з верша паэта-грамадзяніна, для якога клопат і турботы народа — вышэй і даражэй усяго, вышэй самых вялікіх клопатаў асабістых:

Ударыў гром на голы лес.
Гаворыць, цяжкі будзе год:
Зярня і пошару — ў абрэз.
Грыбоў і ягад — недарод…
Ударыў гром на голы лес.
Ударыў бы ў мяне ён лепш.

Нарэшце, Танк абавязаны фальклору і як школе паэтычнага майстэрства. Хто адчувае паэзію слова, хараство і сілу слова народнага, фальклорнага, той напэўна запыніцца, зачараваны вось гэтай музыкай слоў, гэтай свабодай дыхання, гэтай шчодрасцю паўтораў у вершы пра пакінутыя гнёзды птушак:

Дзе, быццам у калысках, ціха
Закалыханыя спяць песні,
Усе трэлі, свісты, перасвісты,
Куванні, звоны, пераззвоны,
Гуканні, гуды, перасуды,
Лясныя шумы, перашумы.

Або вось гэтыя радкі з верша пра старога крумкача, у якім паўтарэнне невыпадковых слоў стварае атмасферу казанна-баладнай таямнічасці і загадкавасці:

У цёмнай-цёмнай пушчы,
На цяглай-цяглай туі,
Стары-стары крумкач там
Даўно-даўно гняздуе.

Карыстаючыся прыёмамі народнай словатворчасці, ён піша дасціпную і ёмкую па сэнсу байку-прытчу пра тое, як «захацеў Паўдзед аб'ехаць Злыбяду», запрогшы «Паўгнедага ў паўкалёсы-паўсані», у духу фальклорнай этымалогіі дае імёны Буркун і Ракатун грамам, па ўзорах народнай — стварае сваю вясёлую міфалогію са сваімі добрымі боствамі.

Звычайна трывалая сувязь з фальклорам характэрна для творчасці гэтак званых паэтаў-традыцыяналістаў. Хаця Максім Танк і сказаў пра сябе ў вершы «Самакрытыка», што ён «страшэнна адстаў ад свайго часу», а іменна:

Даўжэй ад усіх данашваў шырокія штаніны,
Апошні галасаваў за міні-спаднічкі…
Не адпусціў доўгіх валасоў,
Не навучыўся штодня мяняць сваіх поглядаў…
І працягваю пісаць у рэалістычным стылі,—

да традыцыяналістаў яго ніколі ніхто не залічваў; наадварот — у свядомасці і крытыкі, і шырокай чытацкай публікі ён заўсёды быў і застаецца, бадай, ці не найбольш сучасным і наватарскім паэтам сярод вядомых паэтычных імён Беларусі. Ён сучасны перш за ўсё сваёй чуйнасцю да турбот і трывог дня, да голасу чалавека і чалавецтва, да руху мастацкай думкі ў свеце. Яго наватарства — гэта актыўнасць ягонай душы, яго інтэлекту, сіла яго перажывання, энергія духу, волі і мыслі. Яго наватарства — гэта яго мужнасць не здрадзіць сабе, прыродзе свайго таленту, свайму крэда, сваёй пазіцыі грамадзяніна і чалавека, гэта яго смеласць гаварыць так, як ён хоча — моваю сваіх самабытных рытмаў, інтанацый, вобразаў. Яго наватарства — гэта яго вернасць праўдзе жыцця, вернасць ідэалам рэвалюцыі, вернасць прынцыпам мастацтва сацыялістычнага рэалізму. Яно не наўмыснае і не хітрадумнае. Перад намі паэт, якому перш за ўсё важна і дарага сказаць важкое, перакананае, патрэбнае людзям слова. У апошні час, а дакладней — дзесьці з сярэдзіны 60-х гадоў, яго паэтычнае слова ўсё часцей выказваецца ў форме гэтак званага свабоднага верша, па сутнасці — лірычнага экспромта, што, трэба думаць, у значнай меры тлумачыцца імправізатарскай прыродай яго магутнага таленту. Не ігнаруецца ім і верш напеўны, рытмічна строга арганізаваны і аснашчаны арыгінальнымі рыфмамі. Менавіта ў іх ліку мы знаходзім такія непераўзыдзеныя шэдэўры савецкай лірыкі, як «Спатканне», «На пероне», «Каб ведалі», «Рукі маці», «Жэтон», «Ave Maria», «Ляжаць пакошаныя травы», «Тост за дружбу», «Мой хлеб надзённы», «Дарогай з сенажаці» і многія іншыя, якія вызначаюць ягоны, танкаўскі, узровень. Такія вершы, увасабляючы ў сваіх вобразах найбольш характэрныя адзнакі часу, надоўга становяцца своеасаблівымі паэтычнымі сімваламі, вершамі-вяхамі ў развіцці нацыянальнай паэзіі.

У вышэйшай ступені крытычны да сябе аўтар, Максім Танк падзяліўся аднойчы думкаю, што ён збіраецца «прайсці праз пушчу сваіх вершаў і пакінуць толькі тыя, на якіх шчэрбіцца сякера часу». Думаецца, што самому паэту турбавацца не трэба — гэта зробіць час, і няма сумнення, што сваю сякеру ў паэтычнай пушчы Танка ён вышчарбіць ушчэнт і нарэшце адкіне прэч, а пушча будзе зелянець і шумець пад высокім небам Бацькаўшчыны, як яна зелянее і шуміць сёння. Дарэчы, можа, шаноўнай грамадзе

цікава, якая дакладная велічыня гэтай пушчы? Вось даведка: у 6-томным Зборы твораў Максіма Танка — каля дзвюх тысяч вершаў і паэм, не лічачы паўтысячы паэтычных перакладаў. Калі да гэтага дадаць досыць аб'ёмістую эсэістычную кнігу «Лісткі календара» і некалькі дзесяткаў літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў,— мы можам скласці зусім пэўнае ўяўленне аб інтэнсіўнасці творчай працы паэта. А калі яшчэ нагадаць хаця б толькі галоўныя, найбольш значныя яго грамадскія абавязкі? Яго нястомны, самы актыўны і, я сказаў бы, дысцыплінаваны ўдзел у паўсядзённым літаратурным і грамадскім жыцці? Калі прыкінуць, колькі сілы і часу ў яго забіраюць сустрэчы з чытачамі, з выбаршчыкамі, бясконцыя пасяджэнні і выступленні на ўсемагчымых форумах, асамблеях, канферэнцыях, сімпозіумах, нарадах, камітэтах, камісіях і падкамісіях, прэзідыумах і сакратарыятах, сходах і пяцімінутках?.. Вось і думаеш: якой жа сілы і моцы волата нарадзіла на шчасце роднай літаратуры наша любая беларуская зямля!

Сёння, на такой паважнай вяршыні творчага шляху, можна сказаць, што яго паэтычны лёс склаўся шчасліва. На самым пачатку дарогі яго падтрымалі верныя сябры, рэвалюцыянеры-камуністы, камсамол і партыя, сам працоўны народ. Яго благаславіў і прадказаў яму бліскучую будучыню другі вялікі дзеяч культуры нашай эпохі Рыгор Шырма. Яму было трыццаць з гакам, калі ён, у першыя пасляваенныя гады, стаў хрэстаматыйным, увайшоў у падручнікі сярэдняй школы не толькі творамі, але і сваёй незвычайнай, я сказаў бы, легендарнай біяграфіяй. Ужо колькі пакаленняў беларускіх школьнікаў, якія святлелі душой і тварам над яго радкамі, выйшлі у вялікае жыццё, сталі творцамі нашай кіпучай рэчаіснасці, а ён — усё такі ж няўрымслівa малады і па-юнацку акрылены, і ўсё ў дарозе —-у цвёрдай і ўпэўненай хадзе да новых вяршынь, і ўсё ў няспынным пошуку,— а ён — нягледзячы на ўсе старанні сяброў,— так і не заглянцаваўся хрэстаматыйным глянцам, і ўсёй сваёй істотай гаворыць: калі хто-небудзь на гэта яшчэ спадзяецца, таго я моцна расчарую!

Хацелася б яшчэ шмат чаго сказаць з такой прыгожай нагоды пра нашага слаўнага паэта, але я помню ягоны ж верш пад назвай «Юбілейнае», напісаны ім яшчэ да першай круглай даты:

Пачынаюць ужо і мяне віншаваць,
Колькі там да дванастай? Мінут яшчэ дзесяць?
Трэба, покуль не позна, білет заказаць
Ды хутчэй уцякаць, хоць на месяц.

Ведаючы, што цяпер ён настроены яшчэ больш антыюбілейна, яшчэ больш на будзённы, працоўны лад, што яго

чакае на рабочым стале чысты аркуш паперы,— я сваё слова канчаю. І канчаю пажаданнем, пераадрасуючы яму ягоныя ж радкі з верша пра сваю хату з краю — пра душу паэта, у якую ў першую стукаюцца ўсе, хто шукае цяпла, падтрымкі і спагады. Хай жа і далей і заўсёды ў гэтай хаце будуць:

Усе дні — клапатлівыя,
Усе ночы — бяссонныя,
Усе лавы — занятыя,
І ніколі не гуляюць,

Ні хвіліны не святкуюць
Ні печ, ні качарэжнік,
Ні міскі, ні лыжкі.
Ні конаўкі, ні цымбалы!

*1982*

большым за звычайны — маштабам вымярэння чалавечай годнасці. Дробнага, не вартага ўвагі шукаць сярод напісанага ім бадай што марна. Ён быў верным і самаадданым слугою свайго народа, сваёй Бацькаўшчыны, чый лёс прыняў як свой уласны яшчэ ў маладыя гады і на ўсё жыццё, а таму — ён жыў вялікім, значным, істотным і пісаў — пра вялікае, значнае, істотнае.

Пра любую сэрцу маці-Украіну, пра дзівоснае хараство яе раздольных прастораў з бязмежнымі падольскімі стэпамі і палескімі барамі, з лагодным і шумным Чорным морам і з ярка-зялёнымі пакатымі схіламі карпацкіх гор, з бацькам Дняпром і чароўнай Дзясной, са старажытна-белакаменным стольным Кіевам, дзе паэт нарадзіўся, жыў і працаваў да скону дзён сваіх, з неаглядным нівамі залацістай пшаніцы і белымі палеткамі грэчкі, з вішнёвымі і яблыневымі садамі, з сівымі вербамі над стаўкамі і рэчкамі, з высачэзнымі капрамі Данбаса і з агнядышачымі домнамі Запарожжа.

Пра вялікую, шматпакутную і гераічную гісторыю ўкраінскага народа — з далёкімі і не так далёкімі векапомнымі падзеямі і незабыўнымі эпізодамі, з гіганцкімі постацямі яе таленавітых, мужных і бясстрашных творцаў,— правадыроў казацкіх і сялянскіх войнаў, паўстанняў, бунтаў, арганізатараў і кіраўнікоў рэвалюцыйнай барацьбы працоўных, герояў вайны грамадзянскай і Вялікай Айчыннай, рабочых і хлебаробаў, вучоных і паэтаў.

Пра мірнае супрацоўніцтва і дружбу народаў зямлі, асабліва ж — пра дружбу славянскіх народаў, неаднойчы змацаваную супольна пралітай крывёй у барацьбе за волю і незалежнасць. Бадай што не шмат знойдзецца ў агромністым моры славянскай паэзіі творцаў, хто прысвяціў бы братэрству славян столькі натхнёных песень, столькі шчырых радкоў прызнання ў любові і павазе!

Пра паэзію і паэтаў, пра мастацтва і мастакоў, пра музыку і музыкантаў — пра ўсіх, каму запала ў душу іскра ад непагаснага праметэевага агню, пра іх незвычайныя лёсы і высокую місію на зямлі, пра іх еднасць і пабрацімства ў вялікім процістаянні сілам зла і цемры, няпраўды і варажнечы, як умеў ён, беззапаветны рыцар краснага пісьменства, даражыць і ганарыцца сяброўствам з выдатнымі паэтамі, пісьменнікамі, дзеячамі культуры Расіі, Беларусі, Грузіі, Арменіі, Латвіі, Польшчы, Чэхаславакіі, Балгарыі, Югаславіі і многіх-многіх іншых народаў нашай краіны і свету і які ў гэтым сэнсе высакародны прыклад падае ён усім тым, хто выходзіць па жыццёвую і творчую дарогу сёння!..

Пра шчасце творчасці і працы — той «разумнай работы, што ўзвышае наш дух», пра слаўных людзей працы — «пра сейбітаў, і кавалёў, і цесляў», «палёў, садоў і ферм чараўнікоў».

Пра маладосць і каханне, пра святочную радасць сустрэчы з вясною, калі і ў думках-марах, і ў пачуццях — чысціня і светлыня такая ж, як і па зямлі, і ў небе, пра смутак і горыч прадчування блізкае восені, напазбежнае старасці, якая мудрымі вачыма памілавання і любасці, надзей і веры глядзіць па веснавое буянне маладых пакаленняў...

На ўсім, што створана паэтам Максімам Рыльскім, ляжыць адзнака высокай культуры мыслення і пачуцця, культура працы над радком і словам,— ён справядліва лічыцца адным з самых дасканалых майстроў верша ў нацыянальнай паэзіі. Яго лепшыя творы ўражваюць глыбінёй паэтычнага зместу, маштабнасцю і размахам ідэйнай задумы, свабодай выкарыстання духоўных скарбаў-набыткаў розных народаў, розных эпох і часоў — ад антычнай старажытнасці да нашых дзён. Яго паэзія — інтэрнацыянальная ў самым сапраўдным значэнні гэтага слова.

Зрэшты, гэтаму ёсць і вытлумачэнне. Па-першае, ён нарадзіўся ў сям'і вучонага-этнографа, атрымаў грунтоўную гісторыка-філалагічную адукацыю і пранікаць у таямніцы паэтычнай апрацоўкі слова пачаў вельмі рана: першы зборнік Рыльскага выйшаў у 1910 годзе, калі юнаму паэту было ўсяго пятнаццаць гадоў. Па-другое, ён і ва ўсе наступныя гады і дзесяцігоддзі нястомна клапаціўся пра ўзбагачэнне сваёй памяці плёнам сусветнай мастацкай культуры, пра пашырэнне свайго эстэтычна-філасофскага кругагляду, пра выпрацоўку ідэйна дакладных творчых перакананняў і прынцыпаў. Гэта пабуджала яго і да актыўнай навуковай творчасці. Нагадаю, што яго пяру належаць сотні бліскучых артыкулаў па праблемах развіцця літаратуры, фальклору, мовазнаўства, мастацтва. Цудоўная манаграфія пра творчасць А. Міцкевіча, якога ён лічыў адным са сваіх трох вялікіх настаўнікаў (побач з Л. С. Пушкіным і Т. Р. Шаўчэнкам), што па працягу доўгага часу ён узначальваў акадэмічны Інстытут мастацтвазнаўства, фальклору і этнаграфіі, што ён быў акадэмікам рэспубліканскай Акадэміі навук і правадзейным членам Акадэміі навук СССР (выпадак у дачыненні да пісьменнікаў выключна рэдкі). Апрача таго, Рыльскаму належаць велізарныя заслугі ў галіне мастацкага перакладу — дзякуючы яго плёну ўкраінскі чытач атрымаў на роднай мове цэлую бібліятэку лепшых паэтычных твораў з сусветнай літаратуры. Нарэшце, шырокая грамадскасць і рэспублікі, і ўсёй краіны высока цаніла ў яго асобе палымянага і мудрага публіцыста.

Наколькі значнай і плённай была яго шматгранная літаратурная, навуковая і культурная дзейнасць сведчыць той факт, што яшчэ пры жыцці паэта выйшаў дзесяцітомны Збор ягоных твораў, а пасмяротнае выданне ажыццяўляецца ў дваццаці тамах.

Так, ужо даўно — перад вачыма шырокай грамадскасці краіны і свету — паэт і навуковец Максім Рыльскі вырысоўваецца на даляглядзе не толькі ўкраінскай, але і агульнаславянскай культуры як адна з самых яркіх і буйных постацей. Таму і звяртаюцца — зноў і зноў — гарачыя, неспатольныя ў сваёй празе праўды, дабрыні і хараства, сэрцы мільёнаў чытачоў да яго творчай спадчыны, да яго навекі жывога слова.

Застаецца сказаць, што Максім Рыльскі быў вялікім сябрам Беларусі, беларускай літаратуры і яе творцаў. Ён неаднойчы бываў у нашым краі, сябраваў з многімі выдатнымі беларускімі паэтамі і пісьменнікамі, па-брацку любіў іх, перакладаў іх творы на родную ўкраінскую мову, прысвячаў ім свае цудоўныя паэтычныя радкі. Асабліва глыбокай пашанай і любоўю прасякнуты яго вершы і артыкулы, прысвечаныя Янку Купалу і Якубу Коласу. Ён ставіў Купалу ў прыклад як вялікага майстра, што «мовы беларускае алмаз граніў штодня любоўна і рупліва», і ганарыўся тым, што Колас назваў яго братам — словам, якому вечна «зоркаю цвісці». У адным з яго вершаў пра Купалу ёсць такія памятныя радкі:

Ён рыцарам быў волі і святла,
Ён ворагам быў цемры і няволі.

Думаю, што яны могуць адрасавацца і самому Максіму Тадэевічу Рыльскаму.

*1985*

## А ПЕРШ ЗА ЎСЁ — ДЗЕЦІ

У студзені 1956 года ў Маскве праходзіла Трэцяя Усесаюзная нарада маладых пісьменнікаў. Мелася быць у верасні папярэдняга, 55-га, але штось прытармазіла гэтае вялікае свята літаратурнай моладзі, і вось, адразу ж пасля Новага года, у самыя шчадроўскія маразы, мы з'ехаліся нарэшце ў сталіцу Радзімы. У нашай беларускай камандзе былі паэты Сцяпан Гаўрусёў, Пятрусь Макаль, Артур Вольскі, Навум Кіслік, празаік Аляксей Карпюк, драматургі Алесь Махнач і Пятро Васілеўскі... У шматлюднай зале, у фае і калідорах прыглядаемся да сваіх равеснікаў з усіх рэспублік Саюза — авось пазнаем каго-небудзь з тых, каго ведаем па друку, за чыёй творчасцю раўніва, прыдзірліва сочым. Кінулася ў вочы невысочанькая танклявая дзяўчына, амаль дзяўчо,— белатварая, кірпаценькая, з крыху прыпухлымі губамі, з чорнымі косамі за спіной, у зялёным — з белымі аленямі на грудзях — світэры... Λ сама такая сур'ёзная, строгая!.. «Мабыць, нейкая дзесяцікласніца, з вундэркіндаў»,— ківае мне сябра. «Напэўна»,— пагаджаюся. Хутка высвятляецца, што мы памыліліся: дзяўчыне ўжо дваццаць гадоў, яна студэнтка 4-га курса Кіеўскага універсітэта імя Т. Р. Шаўчэнкі, на нараду прыехала з карэктурай свайго першага зборніка вершаў, і звацць яе Тамара Каламіец. Успомнілі, што гэта прозвішча называлася ў асноўным дакладзе аб паэзіі — разам з прозвішчамі яе супляменнікаў, маладых украінскіх паэтаў Дзмітра Паўлычкі і Ліны Кастэнка На вялікай афішы аб маючым адбыцца ў Маскве вечары маладой паэзіі, у якой, на маё здзіўленне, значыўся і я, крыху ніжэй майго прозвішча стаяла: Тамара Каламіец (Украіна),— нам належала выступаць разам...

З таго незабыўнага дня прайшло — ні многа ні мала,— роўна трыццаць гадоў. Трыццаць гадоў жыцця і напружанай творчай працы. І — каля трыццаці кніг паэзіі: дзесяць — лірыка, астатнія — вершы для дзяцей. А калі дадаць да іх усе кнігі перакладаў,— найперш з беларускае,— дык агульны лік сігане яшчэ вышэй. Адным словам, напрацавана так многа і — спяшаюся дабавіць — на такім узроўні, што міжволі здзіўляешся: адкуль бралася столькі творчай энергіі, натхнення, імпэту, столькі цягавітай дужасці і сілы ў гэтай нездараўчанай на выгляд жанчыны? Якую, да таго ж, зусім-зусім не песціла жыццё — ні ў дзяцінстве, ні пазней у маладосці, ні яшчэ пазней — калі на яе руках засталіся дзве дачушкі і хворая маці, і давялося аб усім дбаць-клапаціцца самой: каб і сям'я была накормлена, і хата дагледжана, і каб калегі-таварышы не папракнулі ў слабой грамадскай актыўнасці...

Нарадзілася Тамара Апанасаўна Каламіец 9 красавіка 1935 года ў горадзе Корсунь-Шаўчэнкаўскі на Чарашчыне — у родным

краі вялікага Кабзара. Праз дзевяць гадоў — на пачатку 1944-га — назва яе горада будзе цэлы месяц трымацца ў зводках Савецкага Інфармбюро: там, сіламі двух Украінскіх франтоў (Першага і Другога) была акружана і ліквідавана буйная групіроўка фашысцкіх войск. Там, на растурзанай, апаленай і знявечанай зямлі Кабзара, чакала вызвалення ад фашысцкай няволі дзяўчынка, у дзіцячым сэрцы якой ужо абуджалася любоў да паэзіі, да гармоніі жыцця і слова, да мелодыі вершаванага радка. Там на ўсё жыццё запомніліся ёй жахі вайны і была спасцігнута вартасць міру, і было глыбока навек усвядомлена, што вайна — гэта смерць і кроў, голад і холад, бязбацькаўшчына, сіроцтва і горкія дзіцячыя слёзы, а мір — гэта сонца і кветкі, гэта мама і яе пяшчотныя рукі, гэта школьны званок і новая кніга, гэта праца ў полі і па агародзе, гэта звонкі чысты смех радасці і шчасця, дзеля чаго і прыходзяць у жыццё людзі. Канечне ж, там і тады пачалася паэтэса Тамара Каламіец — там і тады, бо нараджэнне паэта адбываецца намнога раней, чым ён напіша першы верш і апублікуе яго ў друку… Можа быць, думаю, гэта здарылася ў той самы дзень, калі ў сям'ю прыйшла горкая і страшная вестка: у баях за вызваленне Латвіі загінуў бацька Тамары…

У пасляваеннай вясковай школе ў Гельмязеве на Чаркашчыне Тамара Каламіец жыве перш за ўсё літаратурай — гэта яе любімы прадмет, яна чытае кнігі пісьменнікаў розных часоў і народаў запоем, а найбольш — сваіх украінскіх, і замірае душою і плача над паэтычнымі радкамі Тараса Шаўчэнкі і Лесі Украінкі, над апавяданнямі Івана Франка і Міхайлы Кацюбінскага. І, вядома ж, складае, піша сама вершы. І друкуе іх, будучы ўжо старшакласніцай, у раённай газеце. Не толькі вершы, але і карэспандэнцыі, допісы пра жыццё і справы хлебаробаў, школьнікаў, моладзі. Вось чаму па заканчэнні школы наконт выбару будучай прафесіі хістанняў не было: ну, вядома ж, журналістыка! Яна ж ніша — і гэта ёй прыносіць вялікую радасць і насалоду! Напэўна — хаця і страшнавата думаць — гэта яе прызванне! Людзі нярэдка, а дакладней — вельмі часта блытаюць краснае пісьменства з журналістыкай: раз пішаш і друкуешся ў газеце — значыць, пісьменнік; няважна, як і пра што пішаш — ці вершы або мастацкія апавяданні, ці інфармацыйныя паведамленні з месца падзей. Думалася, што паэты і пісьменнікі гадуюцца на факультэце журналістыкі, і восенню 1952 года Тамара Каламіец становіцца студэнткай гэтага факультэта ў Кіеўскім універсітэце імя Т. Р. Шаўчэнкі.

На пачатку творчага шляху лёс маладой паэтэсы складваўся мала сказаць удачна — проста шчаслівa. У 1956 годзе, яшчэ студэнтка, яна была прынята ў члены Саюза пісьменнікаў. Выдадзены ў тым жа годзе першы зборнік вершаў «Пралескі» быў вельмі пры-

хільна сустрэты крытыкай, а праз год, на Усесаюзным фестывалі моладзі і студэнтаў у Маскве, быў адзначаны першай прэміяй і залатым медалём. Якое прызнанне і поспех! Якія прыкметныя першыя крокі! Колькі ў іх абяцання на будучыню, колькі надзей для сучаснай украінскай лірыкі!.. Але працяг шляху — як гэта найчасцей і здараецца ў літаратуры — не быў лёгкім і прамым узыходжаннем на новыя творчыя вяршыні. Па-першае, паэтэса пайшла, па заканчэнні універсітэта, на журналісцкую працу, якая забірала вельмі шмат сіл і часу. Па-другое, паявілася сям'я, дзеці, непазбежныя дадатковыя клопаты і турботы. Па-трэцяе, адыходзіла маладосць, набліжалася чалавечая і грамадзянская сталасць, якая ўжо не магла задаволіцца асвоенымі рубяжамі, авалодаеш узроўнем і патрабавала іншага, новага ўзаемадачынення з рэчаіснасцю і словам. А галоўнае, даволі нечакана для многіх, а можа, і для яе самой, паэтычны талент Тамары Каламіец прыгожа і ярка засвяціўся новай гранню: яна пачынае пісаць і друкаваць вершы для дзяцей. І ўсё больш і больш!

І сама ўсё мацней адчувае патрэбу гаварыць з малышамі, з дашкалятамі, з тымі, што яшчэ самі і не чытаюць, з тымі — хачу гэта падкрэсліць двайною рысаю — з каго пачынаецца заўтрашні дзень грамадства, яго ідэйна-палітычны, маральны і эстэтычны патэнцыял. Лірыку паэтэса не закідвае, о не, і піша ў гэтым жанры многа, і піша добра — шчыра, па-жаночы эмацыянальна, разам з тым удумліва, важка, глыбока. Адна за другой выходзяць новыя кнігі — «Родныя далягляды» (1960), «Чырвоныя макі» (1961), «Пад ветразямі хмар» (1967), і яе імя часта называецца побач з імёнамі тых, што прыйшлі ў паэзію крыху пазней, на пачатку 60-х (Барыс Алейнік, Іван Драч, Мікола Вінграноўскі, Віталь Кароціч), але мала-памалу лірычнага паэта Тамару Каламіец у вачах чытачоў і літаратурнай грамадскасці пачынае засланяць Тамара Каламіец у другой іпастасі — як вельмі таленавіты і самабытны паэт для дзяцей. Натуральна, і ўвага крытыкі патроху перасоўваецца на гэтую дзялянку яе літаратурнай працы, і ўсё часцей у друку і ў вусных размовах яе імя праходзіць па разраду дзіцячай літаратуры. Крыўдная сітуацыя! Тамары Каламіец-лірыку не дадаецца толькі таму, што яна шмат і вельмі добра піша для дзяцей! Зрэшты: у літаратуры гэта здараецца нярэдка, калі праца пісьменніка ў адным жанры перашкаджае бачыць яго поспехі ў іншым ці нават у іншых.

Пачынаючы з 1961 года, калі выйшаў першы зборнік вершаў Каламіец для малышоў «Пастушок», паэтэса падарыла дзецям не менш дваццаці кніг, не лічачы мноства кніжачак-малютак — з аднаго верша і некалькіх каляровых ілюстрацый. Назаву хоць бы некаторыя — на мой погляд — найбольш значныя з іх: «Гушка-

лачка-гайдалачка» (1965), «Памочнікі» (1966), «Наша падарожжа» (1966), «Нядобры чалавек Няхай» (1967), «Боб-бабізна» (1968), «Кацілася кацёлка» (1969), «Чырвоны параход» (1971), «Лугавы аэрадром» (1972), «Пачынаюцца дзівосы» (1973), «Хто рассыпаў росы» (1975), «Жмуркі» (1978), «Найпершая сцежачка» (1985), «Песня крынічкі» (1985), «Пра што спявае трава» (1986). Сёння Тамара Каламіец — бадай, ці не адзін з найбольш вядомых і папулярных на Украіне аўтараў з ліку тых, што пішуць для самых маленькіх чытачоў. Папулярнасць сярод чытачоў дарослых можа быць і спадманнай, можа грунтавацца і па фальшывай аснове, на прынцыпах моды, у тым ліку мяшчанска-абывацельскай, іншымі словамі — быць папулярнасцю таннай. Не тое ў чытачоў-дзяцей. Папулярнасць сярод школьнікаў і дашкалят набываюць толькі творы сапраўды таленавітыя, глыбокаідэйныя, высокамастацкія. Ні на фальш, ні па раўнадушша, ні па шэрасць дзіцячая душа не адгукнецца, прывязанасцю і любоўю не адкажа. Дзіця распазнае сапраўдны талент беспамылкова, а распазнаўшы — прымае безагаворачна. Так прыняла малеча кніжкі і кніжачкі Тамары Каламіец. Прыняла за іх таленавітасць, вядома,— за багаты жыццёвы змест, за добрую, светлую выдумку, за простую, высакародную, даступную форму.

Якія ж, дзе і ў чым сакрэты яе творчага поспеху на ніве дзіцячай літаратуры? Увесь сакрэт у тым, што яна ведае «сакрэты» дзіцячай псіхалогіі, асаблівасці душы маленькага чалавечка. Напрыклад, яна ведае, што дзецям паэтычны твор падабаецца тады, калі ў ім ёсць вясёлая, дасціпная выдумка, ёсць займальны, інтрыгоўны сюжэт, яркія абразкі і малюнкі, жывыя, інтанацыйна выразныя, лексічна багатыя дыялогі, лёгкі дакладны рытм і арыгінальная эфектная рыфма і — з другога боку — калі ў творы няма лабавога маралізатарства, нуднага павучання, празмернай зацягнутасці сюжэтнай дзеі. Гэта — па-першае. Па-другое, яна ведае, што ў творы для дзяцей павінна быць гэтак званая карысная інфармацыя, дзіця павінна па творы нечаму навучыцца, пра штосьці з яго даведацца, скажам, пра нейкія асаблівасці або якасці прадметаў навакольнага свету, жывёл і раслін, рэчываў і г. д. Вось, напрыклад, вершы «Я хадзіў сягоння ў лес», «Вазьму вярбовую галінку», «Асеннія каралі». З першага маленькі чытач-слухач даведаецца, што ў лесе не ўсе грыбы ядомыя,— ёсць і «мухаморышча стары», якога трэба гнаць прэч з кошыка. Другі вершык расказвае, як проста і лёгка можна з вярбовай галінкі самому зрабіць выдатны свісток, а трэці — аб тым, што з ягад рабіны, шыпшыны, акацыі можна зрабіць для сястрычкі і для мамы цудоўны падарунак — каралі або пацеркі.

Дзіцячы паэт — абавязкова прыродны педагог. Пра што б ні пісаў — ён помніць, для каго ніша, помніць, што ў творы для малых не павінна быць ні адной фальшывай, нявернай «ноты»,— ні ў этычным, ні ў эстэтычным плане. Дасягаць гэтага вельмі цяжка, дык жа і ўвогуле пісаць для дзяцей надзвычай цяжка — нашмат цяжэй, чым для дарослых! Ён помніць, што павінен неўпрыкмет, неназойліва ўнушаць, падказваць дзіцяці, што сапраўдны, добры, варты павагі чалавек — той, хто ўмее і любіць працаваць, хто любіць і шануе сваіх бацькоў, родную зямлю, беражэ і ашчаджае яе прыродныя і духоўныя багацці, хто робіць дабро другім, хто заступаецца за слабых, спачувае і дапамагае пакрыўджаным і птмат-тттмат чаго падобнага іншага. Ці ёсць усё гэта ў творах Тамары Каламіец? Ёсць, безумоўна. Таму і вяду пра гэта гаворку, што яе вершы, казкі, небыліцы нябачна нясуць у сабе моцны выхаваўчы зарад. Як пісаў Пушкін: «Сказка — ложь, да в ней намёк: добру молодцу урок».

Тамара Каламіец паказвае сваім чытачам навакольны свет як незвычайны, казачна прыгожы, у якім безліч дзівос і цудаў, яны — на кожным кроку, толькі трэба ўмець іх бачыць. Гэта — яе падыход і пагляд на рэчаіснасць, яе адносіны да нрадметна-рэчыўнага свету. Невыпадкова, што ёю напісана цэлая кніга вершаваных загадак, паэтычных мініяцюр, кожная з якіх — незвычайны метафарычны або метанімічны вобраз. Ні з’яў, ні рэчаў, ні прадметаў звычайных, нецікавых, непаэтычных няма,— сцвярджае сваёй творчасцю паэтэса. Ёсць, і, на жаль, іх нямала, людзі з нецікаўным і непаэтычным бачаннем свету. І сталі яны такімі, можа быць, таму, што з калыскі, з ранняга маленства іх не далучылі да паэзіі. І да гэтак званай кніжнай, створанай паэтамі-прафесіяналамі, і да вусна-моўнай, або фальклорнай, створанай самім народам.

І вось тут я падышоў да таго, што ў станаўленні Тамары Каламіец як дзіцячага паэта адыграла выключна вялікую ролю, што, уласна, стала і асновай, і вытокам яе творчасці для малечы, што, нарэшце, вызначыла і галоўныя рысы яе паэтыкі — жанравую спецыфіку, характар вобраза, прыёмы і сродкі мастацкага адлюстравання, паэтычны сінтаксіс, фарбы мовы. Усё гэта ў Тамары Каламіец ад нацыянальнага фальклору, ад глыбокага ведання вусна-паэтычнай народнай творчасці. Вось ужо дзе той зусім наглядны прыклад, калі далучэнне да паэтычных крыніц народа пайшло творцу на карысць, дало прыгожы і багаты плён!..

Бадай, было б марнай справай адбіраць для пацвярджэння сказанага нейкія асобныя характэрныя творы. Варта адкрыць яе любую дзіцячую кніжку на любой старонцы, каб пераканацца ў

гэтым. Фальклорныя жанры? Калі ласка! Вось, напрыклад, казкі: «Нядобры чалавек Няхай», «Пра вандроўку жабоцькі-балабоцькі», «Дзедаў абед» (казка без канца, або «дакучлівая»); многа казачнага ў вершах «Гром-аўтар», «Найдаражэйшае слова», «На прагаліне», «Лугавы аэрадром», «Выхваляўся калабок», «Песенька пра гнома», «Падарунак», «Мядзведзеў танец»!.. Пра загадкі я ўжо гаварыў вышэй. А вось зусім вытрыманыя ў фальклорным духу небыліцы: «Крот-кухар», «Дзівакі», «Цар-гарох», «Вось дык птушка!», «Конікі», «Небыліца». Побач з імі — лічылкі, у якіх, канечне ж, скарыстаны творчы вопыт гэтага папулярнага жанру дзіцячага фальклору: «Сядзіць певень на паркане», «Жмуркі», «Буслава лічылка», «Дбайкава лічылка», «Лічылка-небываліца».

А колькі скарыстана ёю фальклорных, абрадавых і пазаабрадавых песень, у тым ліку такіх старажытных па паходжанні, як песні-заклічкі, з характэрнымі для іх паэтычнымі зваротамі! Тут і вяснянкі, і калыханкі, і забаўлянні, і жартоўныя…

Пра фальклор у творчасці Тамары Каламіец, пра майстэрства яе абыходжання з народнапаэтычным вобразам і словам, рытмам і інтанацыяй, пра яе чуйнасць да эстэтычнага вопыту народа можна гаварыць многа. Спыняюся на сказаным, яшчэ раз падкрэсліўшы, аднак, што абраны ёю кірунак — калі можна так сказаць — творчага супрацоўніцтва з народам,— не выпадковасць, а глыбока-ўсвядомленая ідэйна-эстэтычная арыентацыя, трывалая партыйна-грамадзянская пазіцыя; паэтэса зыходзіць з непахіснага перакanання, што без вернасці прынцыпу народнасці, без вернасці эстэтыцы і маралі працоўнага люду, сур’ёзна і плённа працаваць у літаратуры і мастацтве нельга. І гэта яе перакананне ёсць сведчанне, што мы маем справу з мастаком слова сур’ёзным, удумлівым, глыбокім. Зрэшты, не менш, чым паэзія для дзяцей, пацвярджае сказанае і лірыка Тамары Каламіец, асабліва — 70-80-х гадоў, сабраная ў кнігах «Вершы» (19П2), «Раўнадзенства» (1974), «Колас лета майго» (1979), «Асенняя баразна» (1981), «Касцёр на мяжы» (1984).

На заканчэнне было б недаравальна не сказаць, што Тамара Апанасаўна Каламіец — даўні і верны друг Беларусі і беларускай літаратуры, нястомны перакладчык і папулярызатар нашай паэзіі на Украіне. Колькі беларускіх паэтаў розных пакаленняў гучыць сёння на цудоўнай мове Кабзара дзякуючы яе выключна добрасумленнай і ў вышэйшай ступені таленавітай працы! Цалкам у яе перакладзе выйшлі ў Кіеве томікі выбранай лірыкі Аляксея Пысіна і Еўдакіі Лось, дзесяткі яе перакладаў змешчаны ва ўкраінскіх выданнях Максіма Танка, Петруся Макаля, Рыгора Барадуліна і многіх-многіх іншых. А колькі цудоўных, пранікдівых, сардэчна-шчырых радкоў прысвяціла яна Беларусі! Калі б сабраць і выдаць

іх разам — быў бы цэлы том,— вялікая кніга яе вялікай любові да зямлі Купалы і Коласа, да пашае мілай Бацькаўшчыны. Між іншым, і пачатак яе сардэчных адносін да Беларусі звязаны з дзецьмі — дзеці прымусілі яе сэрца забіцца пад беларускім небам тым шчаслівым хваляваннем, якое не можа ўлегчыся ў берагі дагэтуль і, відаць, не ўляжацца ніколі. Вось што піша пра тую падзею сама Тамара Апанасаўна ў адным з лістоў да аўтара гэтых радкоў: «Калі я ўпершыню прыехала да вас на Дэкаду, то прыкіпела душою да беларускіх дзяцей, якія дарылі нам кветкі... То ж да душы мне гаварылі не толькі майстры сваім мастацтвам слова, музыкі, жывапісу, а найперш — беларускія дзеці». Пра гэта яна напісала вершык, які так і называецца «Кветкі».

За плённую перакладчыцкую дзейнасць, за таленавітую творчасць, якая служыць умацаванню дружбы паміж братнімі народамі нашай краіны, Тамары Каламіец прысвоена званне лаўрэата прэміі імя П. Р. Тычыны.

На гэтым я і хацеў бы закончыць сваё невялікае сяброўскае слова.

*1986*

## КАЛІ ЯСНА ВІДНЫ ДАЛЯЧЫНІ

Пачынаючы з 1962 года ў Балгарыі ў вельмі прэстыжнай серыі «Савецкія паэты» адзін за адным выходзяць томікі вершаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Петруся Броўкі, Пімена Панчанкі і іншых майстроў паэтычнага слова Беларусі. Беларуская паэзія становіцца ў братняй краіне за Дунаем не проста вядомай, але і папулярнай. Нямногія, аднак, ведаюць, каму найперш належыць заслуга, што ў паэтычным садзе Балгарыі так галасіста і зладжана заспявалі птахі з берагоў Дняпра і Нёмана, Прыпяці і Дзвіны, Віліі і Бярозы. Вядома ж, таму, хто благаславіў той шчаслівы паэтычны вырай у палёт — галоўнаму рэдактару названай серыі Хрысту Радзеўскаму.

Хрыста Радзеўскі… Адно з самых яркіх імён балгарскай паэзіі ХХ стагоддзя. Народны дзеяч культуры НРБ. Герой Сацыялістычнай Працы. Двойчы лаўрэат Дзімітраўскай прэміі.

Тады ж, у сярэдзіне 60-х, гэты славуты літаратар напісаў у адно беларускае выданне артыкул, радкі з якога мне хочацца тут падаць, бо яны, па мой погляд, сёе-тое тлумачаць у нашых беларуска-балгарскіх паэтычных узаемадачыненнях і, думаецца, нямала гавораць душы і сэрцу беларускага чытача — патрыёта роднага мастацкага слова.

«Можа быць, таму, што ў мяне такое выхаванне і такія мае творчыя пазіцыі, але асабліва моцнае ўражанне робіць на мяне высокая грамадзянскасць беларускіх паэтаў. Гэтую грамадзянскасць я тлумачу сабе асаблівасцю гістарычнага лёсу Беларусі. А паэты, зразумела, найбольш чулыя да лёсу роднага краю. Вядома, што ўсякая сапраўдная паэзія — патрыятычная, але кожная патрыятычная па-свойму. Таму што ў кожнага народа свой непаўторны лёс. Беларускі народ не пешчаны лёсам, і яго высокая нацыянальная самасвядомасць, яго пачуццё роднай зямлі, яго імкненне да справядлівага жыцця на гэтай зямлі,— знайшлі самае чуйнае адлюстраванне ў вершах паэтаў».

Як бы ў адказ на гэтыя шчырыя, цёплыя словы — хочацца сказаць, што менавіта такімі ж якасцямі — грамадянскасцю, патрыятычнасцю, народнасцю — блізкая і дарагая нам сучасная балгарская паэзія, у тым ліку і творчасць аднаго з яе мудрых старэйшын — Хрысты Радзеўскага.

Імя Радзеўскага стала вядомае балгарскім чытачам у канцы 20-х гадоў. Яно было, бясспрэчна, самае прыкметнае сярод імён яго паэтычных равеснікаў, якія групаваліся вакол рэвалюцыйных выданняў і стаялі па партыйных камуністычных пазіцыях (М. Ісаеў, А. Тодараў, Н. «Панкаў, К. Пенеў і інш.). Напісаны ім у 1929 годзе верш «Партыі» на доўгі час зрабіўся баявым гімнам

балгарскіх камуністаў. Так адкрыта, так горача і пераканана сваю вернасць Камуністычнай партыі ніхто яшчэ з балгарскіх паэтаў не выказваў:

Але клянуся перад светам:
Не здраджу, покуль буду жыць.
У кожным слове клятвы гэтай —
глядзі — святло тваё гарыць.
І калі ты на грозны прыступ
мільёны клічаш за сабой —
я ўжо не Радзеўскі, не Хрыста —
я безыменны воін твой!

З таго часу, як упершыню прагучалі гэтыя палымяныя радкі, прайшло больш за паўвека. Час немалы, каб праверыць і пераканацца, ці заставаўся і ці застаўся да канца верны ідэалам сваёй маладосці паэт. Праз усе доўгія дзесяцігоддзі паэт з гонарам пранёс у душы сваю рыцарскую вернасць Партыі (гэтае слова ў названым вершы ён і па сённяшні дзень насуперак граматыцы друкуе толькі з вялікай літары). Вернасць сцягу камунізму з'яўляецца сапраўдным ідэйным зместам усіх яго кніг, глыбінным, унутраным пафасам усёй яго паэтычнай творчасці. Яна была яго натхненнем і тады, калі краіна задыхалася ў ярме фашысцкага панавання, калі «не хапала паветра» і калі імя Партыі — роднае і дарагое паэту, як імя маці або каханай,— ён не мог напісаць у вершы: «Я імя твайго не ўспамінаю. Ты даруй мне. Не магу цябе назваць». І тады, калі прыйшла доўгачаканая свабода, у краіне пачалося небывалае абнаўленне жыцця, вялікі паход насустрач «шчаслівай будучыні» — «з песнямі моладзі, з шумам сцягоў, са звонам молатаў і грукатам матораў», калі ў «напружанні працы Радзіма стала набываць прыгожы ад шчасця твар». І ўжо не тады, а цяпер, сёння, калі любая сэрцу бацькаўшчына шчаслівa ганарыцца перад светам плёнам гераічных намаганняў сваіх сыноў і дачок не толькі росквітам «палёў без меж», «букетамі садоў», але і «атамнымі крыламі» індустрыі.

Ёсць нешта вельмі прывабнае ў гэтай паслядоўнасці і вернасці паэта самому сабе, у гэтай цэласнасці характару яго лірычнага героя, які ніколі не ведаў роспачна-трагічнага надлому, а тым больш раздваення душы і сэрца. Надзелены пачуццём уласнай годнасці, але высакародна стрыманы і сціплы, без рэвалюцыйнай фанабэрыі і самаўлюбёнасці, ягоны лірычны герой прымушае сябе паважаць таму, што ў ім чуецца ўпэўненасць і сіла перакананага воіна.

Сказанае, аднак, не азначае, што герой Радзеўскага ва ўсе часы і эпохі заставаўся дакладна той самы. Гаворачы пра першыя кнігі паэта («Партыі», 1932, «Пульс», 1936), крытык З. Пятроў

заўважыў, што ў іх «было нешта бязлітаснае, рабесп’ераўскае». Зборнікі лірыкі, выдадзеныя за апошнія дваццаць гадоў («Неба блізка», 1963, «Раскаваная краіна», 1966, «Людзі», 1970, «Прамудрая кніга», 1971, «Зрэнка», 1980, «Лірычны дзённік», 1981), засведчылі не толькі натуральныя ўзроставыя перамены эмацыянальна-псіхалагічнага парадку, як, напрыклад, паспакаенне тону, паяўленне схільнасці да роздуму, да паглыблення ў самога сябе. Яны засведчылі і нешта іншае, чаго ўзростам не растлумачыш: лірычны герой Радзеўскага 60-70-х гадоў зажыў непараўнана больш актыўным душэўным жыццём, кола яго зямных зацікаўленняў раптам вельмі прыкметна пашырылася, сэрца пачало акумуліраваць паэтычныя токі па тых правадах, якія, здавалася, не былі да яго падключаны або былі ў свой час абарваны. Духоўны свет лірычнага героя стаў намнога багацейшы, а сам ён — куды больш жывы і непасрэдны, больш прывабны і па-чалавечы даступны. Вядома, гэтым творчым разрастаннем ушыр і ўглыб паэт абавязаны часу, але — і свайму магутнаму прыроднаму таленту, які быццам чакаў гэтага часу.

І вось што яшчэ вартае ўвагі: у параўнанні з вершамі канца 40-х — пачатку 50-х гадоў у апошніх кнігах Радзеўскага мы бачым прыкметна вышэйшы ўзровень паэтычнага майстэрства. Да яго верша прыйшла прастата і выразнасць класічнага ўзору, ён зазіхацеў тым някідкім хараством, якое выдае «руку» майстра сталага, мнагавопытнага, ужо непадатнага на спакусы вонкава эфектных упрыгожанняў.

Прыкладам, у многіх адносінах паказальным для творчасці Радзеўскага 60-70-х гадоў, з’яўляецца верш «Пахаванне» (з прысвячэннем: бацьку). Малюнак пахавання простага селяніна, земляроба, які «памёр, як былінка, што ў полі зламалася, адышоў непрыкметна і ціха, як жыў», дзякуючы ўдала знойдзеным, яркім метафарычным вобразам і параўнанням набыў маштабнасць і сілу велічнага паэтычнага абагульнення. Пра развітанне з жыццём таго, хто ўвесь век араў зямлю, паэту ўдалося сказаць з тым эмацыянальным пранікненнем, за якім стаіць глыбокае асэнсаванне чалавечага жыцця і лёсу. Сціпламу вясковаму працаўніку, касцу і сейбіту «пахаванне наладзілі» неба і долы, ды так пашаноўна — «знакаміты нібыта памёр генерал».

З цяжкім стогнам
да жоўтай магілы раззеўранай
цёмных хмараў сцягі
нахіліліся ўніз:
іх вятры падымалі
над цішай заземленай,
як на дрэўцах —

на вострых агнях бліскавіц.
Гром, як доўгі салют,
між пагоркаў не змесціўся.
Неба слёзным рыданнем
раздзерлася ўшчэнт.
...Вечар ясны ўжо быў.
Над магілаю месячык —
пасмяротны твой ордэн —
блішчэў.

Радзеўскаму-лірыку ўласцівы рамантычна ўзвышаны лад вобразнага светаўспрымання, паэтычнага мыслення. У многіх яго вершах думка-пачуццё выяўляецца не праз дакладнае рэалістычнае апісанне ці канкрэтную бытавую дэталь, а часцей за ўсё — праз яркую буйнапланавую метафару-параўнанне, праз вобраз маштабна велічны, падкрэслена экспрэсіўны. Непарыўнае яднанне свайго лірычнага героя з Радзімай паэт сцвярджае пры дапамозе разгорнутага вобразнага паралелізму: «Глыбока б'ецца тваё сэрца ў мяне ў грудзях. Тваё быстрыя рэкі віруюць у маіх напятых жылах. Тваё скіраваныя ў прасцяг бетонныя дарогі штосілы бягуць па маіх нервах. Зірні на дол, на трэшчыны зірні!.. Ці не маршчыны то ў мяне на твары? А гэты стогн тваіх вятроў бяссонных — мой ціхі стогн. І то мая ўсмешка — калі займецца зарой твой гарызонт. Які ж там думае вар'ят, сабраўшы сілы-духу многа, ад тваёй плоці адарваць мяне жывога?!» Вобраз лірычнага героя, як бачым, узбуйнены тут да маштабаў усёй Радзімы, вобраз жа Радзімы ў сваю чаргу пададзены ў самых агульных рысах: быстрыя рэкі, скіраваныя ў прасцяг дарогі, трэшчыны зямлі, бяссонныя вятры, расквечаны зарой гарызонт.

Адметнай старонкай у творчасці позняга Радзеўскага з'яўляецца яго любоўная лірыка. Выдатныя, дасканалыя ўзоры гэтай лірыкі траплялiся ў паэта і раней, у прыватнасці, у першыя гады пасля 9 верасня, калі з-пад яго пяра выйшлі такія шэдэўры, як «У лесе страшны навальніцы гнеў» і «Карай мяне якою хочаш карай». Але тады зварот да інтымных перажыванняў меў, можна сказаць, эпізадычны характар, і матывы кахання займалі ў кнігах паэта параўнальна малое месца. Цяпер жа гэта вечная тэма паэзіі стала ў яго творчасці адной з асноўных. Праўда, у новых вершах «пра гэта» ўжо няма таго вулканічнага напору пачуцця, якое было калісьці — эмацыянальны тон іх куды больш спакойны; перад намі ўжо не столькі палымяныя прызнанні, не столькі выбухі і ўсплёскі таямнічае сілы сэрца, колькі — мудрае асэнсаванне прыроды і сутнасці гэтага найвялікшага дару зямнога, яго трываласці і яго нявечнасці.

Вось характэрны прыклад любоўнай лірыкі з кнігі 1966 года:

Птушку ў неба не ўздыме крыло —
два крылы для палёту патрэбны.
Гэтак будзе і гэтак было
ад найпершага дня сатварэшія.
Шчыра ўдзячныя лёсу свайму,
два крылы мы — у птушкі кахання,
у адзінай душы.
І таму
Я не веру у наша расстанне.

Верш напісаны з пачуццём, вобразна і хораша, але на першым плане тут — думка, разважанне, работа разумнай, чалавечай мыслі. Адным словам, тыповая медытатыўная лірыка.

У такім жа эмацыянальным ключы напісаны ў гэты час і амаль усе вершы паэта аб прыродзе, а таксама вершы на тэмы старасці і смерці, пройдзенага шляху, выкананага перад людзьмі і Радзімай абавязку. Прадыктаваныя ўзростам, вершы гэтай тэматыкі вызначаюцца мудрай змястоўнасцю самой паэтычнай ідэі, яны прасветлены думкай чалавека, якому ёсць што сказаць, які зразумеў у жыцці многае з таго, што зразумець надзвычай важна. Так, напрыклад, лірычны герой паэта ўясніў сабе ісціну, што для сапраўднага песняра няма вышэйшага гонару, як быць у павазе ў людзей працы, у тых, што маўкліва, без мітусні і гучных слоў, ствараюць усе даброты жыцця. І што больш за ўсё трэба даражыць тым, каб у самай галоўнай сваёй чалавечай сутнасці быць падобным на іх, а іменна: гэтаксама сумленна і сціпла, як яны, выконваць свой грамадзянскі абавязак, «свой план». Вельмі хораша сказана пра гэта ў вершы «Жаданне»:

І калі мяне на дно магілы
у труне сасновай накладуць —
хай наблізіцца адзін з маўклівых,
што на рыштаваннях хлеб ядуць.

Даланёй шурпатай хай размажа
слёзы з пылам чорным папалам.
— Спі спакойна,— хай нягучна скажа.—
— Спі — ты добра выканаў свой план.

Спакойная, але пераканаўча-ўпэўненая, валявая інтанацыя, сур'ёзная засяроджанасць думкі, метафарычная ўзбуйненасць паэтычнага вобраза пры поўнай адкрытасці, непрыхаванасці настрою, пры дакладным і ясным радку — гэта і ёсць адметныя рысы мастацкага стылю Радзеўскага-лірыка апошніх дзесяцігоддзяў.

Але Радзеўскі — не толькі лірык. Ён з'яўляецца і вялікім у сучаснай Балгарыі паэтам-сатырыкам. Яго пяру належыць многа

кніг сатырычных вершаў, фельтонаў, эпіграм і баек («Паважаныя», 1947, «Яны яшчэ жывуць», 1959, «Сатыра», 1961, «Сто баек», 1961, «Ці не праўда», 1966 і інш.). У адной лірычнай мініяцюры, адказваючы на папрок, што нібыта ён глядзіць на жыццё праз чорныя акуляры і толькі затое многія рэчы яму здаюцца цёмнымі, паэт заяўляе: «Таму і бачу гэтак шмат брыдоты, што надта многа бачу хараства». У гэтым арыгінальным паэтычным афарызме глыбокі сэнс. Чым больш прыгожага ў жыцці бачыць паэт, чым мацней гэта прыгожае, чыстае, светлае любіць — тым вастрэй рэагуе ён на ўсё агіднае, нізкае, брыдкае, тым больш непрымірыма да ўсякай брыдоты ставіцца. Вядома, самаадвольны мешчанін-абывацель праходзіць міма зла раўнадушна — ён сам надзяліў сябе правам гэтае зло «не заўважаць», яго хата з краю. Але паэт-воін, паэт-камуніст такога права не мае. «Хто баязлівы — не паэт, а подлы назіральнік. Для лірычнага героя Радзеўскага пазіцыя назіраьніка зусім не прымальная: з гэтага ён пачынаў у маладосці — гэтым жыве і цяпер. (Дарэчы, у друку Радзеўскі дэбютаваў як сатырык.) Ён і цяпер не аддзяляе перагародкаю слова любові ад слова гневу — у яго душы яны заўсёды побач. У вершы «Да старасці», просячы смерць пачакаць, не спяшацца з прыходам, паэт піша: «Яшчэ мне трэба шмат чаго ўславіць і шмат яшчэ па чым нанесці ўдар!»

Цяжка пералічыць усе агіднасці, на якія паэт-сатырык абрынае шквал вострa-іранічных, пякуча-кплівых радкоў. У змаганні за чысціню маральнага ідэалу будаўнікоў новага грамадства ён непрымірымы і бязлітасны. З носьбітамі зла ён не цырымоніцца і далікатных слоў асабліва не падбірае. Безыменнаму апаненту, які кінуў яму папрок за «грубае слова», што, маўляў, псуе «праўдзівы твор», паэт адказвае: «Я — грэшнік, брат, і выдаваць сябе за іншага не буду. Але скажы: а як паскуду — апроч паскуда — называць?»

Самае каштоўнае ў сатырычнай творчасці паэта, на наш погляд, не вершы і не эпіграмы, а байкі. У гэтым жанры балгарскай паэзіі яму бясспрэчна належыць сёння пальма першынства. Пасля класіка XIX стагоддзя Стаяна Міхайлоўскага Радзеўскі — найвялікшы балгарскі байкапісец. Многія яго байкі вызначаюцца дасканалай суладнасцю зместу і формы. Апрача таго, іх выдатнай адметнай рысай з'яўляецца актуальнасць сацыяльных, палітычных і маральных праблем, у якія ўмешваецца аўтар.

Шматгранны талент паэта (а ён яшчэ і аўтар многіх кніг вершаў для дзяцей) у Радзеўскага шчасліва спалучаецца з талентам публіцыста і эсэіста. Апрача таго, Радзеўскі — адзін з самых выдатных і самых заслужаных перакладчыкаў і прапагандыстаў

савецкай паэзіі ў Балгарыі. Усё гэта разам узятае вылучае яго постаць у першы шэраг дзеячаў нацыянальнай культуры.

## ШЧЫРАЯ, МУЖНАЯ РАЗМОВА З ЧАСАМ І ЛЮДЗЬМІ

Васемнаццацігадовы юнак, яшчэ нядаўна — падпольшчык і партызанскі сувязны, а цяпер — астрожнік, палітычны вязень, пасля чарговай серыі садысцкіх мардаванняў трапляе ў адзіночную камеру. Там, на заледзянелай мураванай сцяне, ён бачыць надрапаныя асколкам каменя дзесяць прозвішчаў — подпісы тых, што былі тут да яго і пакінулі гэтыя свае апошнія аўтографы як сведчанне іх стойкасці і мужнасці, як паведамленне таварышам і радзіме пра тое, што чалавечая і грамадзянская годнасць перамагла ў паядынку з нялюдскасцю, не зламалася і не ўпала на калені. Доўга стаіць малады вязень перад гэтымі подпісамі, усведамляючы, што вось надыходзіць і яго чарга пакінуць такую звышсціслую — у адным слове! — справаздачу будучыні... Усведамляе —і ўсё ж вагаецца: а ці мае на гэта ён маральнае права? а ці заслужыў, каб да гэтых дзесяці подпісаў далучыць адзінаццаты — свой? Вядома, ворагі не вырвалі з яго ні слова, ён мужна пераносіць усе катаванні і гэтак жа мужна спаткае смерць... І ўсё-такі: за кожным з гэтых імёнаў, напэўна, вялікі шлях рэвалюцыйнага змагання, гераічныя ўчынкі і подзвігі, а ён?.. Яму яшчэ толькі васемнаццаць, і ён нічога асаблівага не паспеў зрабіць — для Рэвалюцыі, для Свабоды, для перамогі над фашызмам. Для будучай, новай Балгарыі.

Доўга перад імі
я стаяў,
доўга не рашаўся
падпісацца.

Гэта — з верша Георгія Джагарава «Перад подпісамі», і гэта — з яго біяграфіі, гэта — момант яго асабістага лёсу.

Так незвычайна ўступаў у грамадзянскую сталасць юны змагар-камсамолец, актыўны ўдзельнік антыфашысцкага падполля Георгій Джагараў, і так незвычайна пачынаўся яго паэтычны жыццяпіс. Блізка года праседзеў ён у фашысцкім астрозе, дзе зведаў самыя жорсткія катаванні і цяжкія душэўныя пакуты. Перажытае стала зместам вершаў, якія ён пісаў у першыя гады пасля Вераснёўскай рэвалюцыі. Вершы гэтыя малады паэт не спяшаўся аддаваць у друк, хоць яны хадзілі па руках, у літаратурных колах пра іх ведалі. Толькі ў 1954 годзе, праз два гады пасля заканчэння ў Маскве Літаратурнага інстытута імя М. Горкага, Джагараў выдаў іх асобным зборнікам пад назвай «Мае песні». Зборнік зрабіў на чытачоў вельмі моцнае ўражанне, асабліва драматызмам пачуццяў, мужнасцю інтанацый, падкрэслена валявым характарам «лірычнага героя».

У 1956 годзе выйшаў другі зборнік Джагарава «Лірыка», яшчэ праз два гады — зборнік «У хвіліны маўчання».

Гэтыя кнігі паставілі імя паэта побач з імёнамі найлепшых балгарскіх лірыкаў другой палавіны XX стагоддзя.

І не толькі балгарскіх.

У адным інтэрв'ю (часопіс «Септември», № 5 за 1974 год) Георгій Джагараў даў такое азначэнне лірычнай паэзіі: «Сама па сабе лірыка ёсць бесперапынная размова з часам і людзьмі. Вершы — гэта рэплікі ў вялікай драме часу. Я ніколі не пісаў вершаў інакш. Яны заўсёды паяўляліся ад сутыкнення з людзьмі і падзеямі». Гэтыя словы не толькі праліваюць святло на псіхалогію творчасці паэта, але і гавораць пра галоўнае ў характары яго паэзіі — пра яе сацыяльна-грамадскую накіраванасць. Калі вершы нараджаюцца ў сутыкненні з людзьмі і падзеямі, калі ў іх паэт размаўляе з часам, то само па сабе зразумела, што пра камернасць, духоўны герметызм, сузіральнасць і іншыя падобныя рэчы не можа быць і гаворкі. Так яно і ёсць у сапраўднасці: Джагараў быў і застаецца ў самай высокай ступені паэтам з абвостраным пачуццём партыйнага і грамадзянскага абавязку.

У праграмным вершы «Паэзія», напісаным неўзабаве пасля гістарычнага красавіцкага (1956) Пленума ЦК ВКП, сваё разуменне грамадскіх функцый паэтычнага слова Георгій Джагараў вызначаў досыць дакладна. «Не для ўлады, не для славы, не для помніка залатога» прыйшла на зямлю яго паэзія.

Я прыйшла, каб на вязнях
рваць аковы і путы,
каб хоць трохі на свеце
зменшыць боль і пакуты;

каб у сэрцы нясмелых
кінуць семя адвагі,
каб санлівых са спячкі
падымаць без развагі.

Усё, што напісаў паэт, адпавядае абвешчанай дэкларацыі: быць патрэбным людзям. Паэт браўся за пяро, як правіла, толькі тады, калі адчуваў пільную неабходнасць выказацца, умяшацца ў сур'ёзную, нядробязную размову «з часам і людзьмі».

Джагараў належыць да ліку тых дзеячаў балгарскай культуры, якія асабліва глыбока і бурна, у вялікім узрушэнні перажывалі красавіцкія перамены. Не толькі як паэт, але і як публіцыст, удзельнік дыскусій, у тыя дні ён вылучыўся ў лідэры абнаўленчага працэсу літаратурнага жыцця ў краіне. Асабліва горача і самаахвярна ён падтрымліваў у барацьбе «супроць

рэтраградскіх сіл» маладое пакаленне паэтаў, якім прысвяціў адзін з сваіх найлепшых вершаў той пары «Прадвесне».

Лірыка Джагарава канца 50-х гадоў — гэта лірыка пераважна палітычная: яе ідэйны змест складаюць перажыванні і роздумы чалавека глыбока партыйнага і, мы сказалі б, дзяржаўнага, кроўна зацікаўленага ў ажыццяўленні вялікай праграмы сацыялістычнага будаўпіцтва ў краіне. Нават у вершах, дзе паэт, здавалася б, мае права на размову ў чыста інтымным плане, ён застаецца верны сабе і прадаўжае сцвярджаць і прапаведаваць тое, чым заняты яго душа і сэрца, яго грамадзянскае сумленне ў хвіліны самага высокага напалу публічнай палемікі.

Мабыць, самая істотная рыса «лірычнага героя» Джагарава — цэласнасць характару, найвышэйшага парадку адзінства эмацыянальна-душэўных праяў, мэтанакіраваная падпарадкаванасць волі і пачуцця вялікай грамадскай мэце. Апрача таго, яго герой — натура незвычайна актыўная, пасіўнасці і сузіральнасці ў ім не ўгледзіш нават на імгненне. У барацьбе з ідэйнымі праціўнікамі герой Джагарава выяўляе непрымірымасць і ваяўнічасць, ён катэгарычны і рэзкі.

I я не сплю, о не! Стаю на варце,
Авось ты з маскі выйдзеш у азарце.
I ты нарэшце выйдзеш, чорт вазьмі!
I люты гнеў разбудзіш ува мне.
I як казалі людзі ў нас даўней:
тады старая пушча паглядзіць,
як косці трушчацца і пух ляціць!

Гэта папярэджанне адрасавана не любоўнаму саперніку, як можна было б падумаць, а аднаму з тых, хто становіцца ўпоперак новаму курсу жыцця, курсу партыі.

Але падобная ваяўнічасць даецца яму нялёгка, бо ён — жывы, з крыві і нерваў, чалавек, канфлікты эпохі ён перажывае абвострана, балюча і нават пакутліва. Больш таго: не заўсёды ў «сутыкненнях з часам і людзьмі» ён аказваецца пераможцам. «Людзі, эх... Засмуцілі глыбока. Нібы ў сэрца загналі мне церань. Цяжка скрыўдзілі. Кінулі цень. А за што? Проста так. Назнарок. Я змаўчаў. І пайшоў за парог. За парогам плыў дзень урачысты, сонца сыпала-сеяла бляскі, і такія чароўныя краскі на прыгрэве цвілі за мастком, свет такі быў прыгожы і чысты, што я выняў аловак і сшытак і заплакаў над белым лістком...» Цяжка, канечне, паверыць, што перад намі той самы «лірычны герой», які толькі што кідаў камусьці «папярэджанне». І ўсё-такі — той самы. Крайняя палярызацыя пачуццяў не азначае эмацыянальна-духоўнага раздваення асобы: крайнасці, як вядома, сходзяцца.

У іншым псіхалагічна-эмацыянальным стане знаходзіцца лірычны герой верша «Пытаюся ў цябе». Ён ахоплены трывожным роздумам: як адаб'юцца поспехі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі па маральных вартасцях чалавека, на яго духоўным аблічча. Ці не акажуцца дасягненні навукі і тэхнікі ў супярэчнасці з ідэаламі гуманнасці, чалавечнасці? «Пытаюся ў цябе: а ці дасягнеш да сэрца, што і дзень і ноч з табой...» Таго сэрца, што спакон веку чакае ўвагі і ласкі, што, як дрэўца пры дарозе, спадзяецца, калі ты спынішся каля яго, дагледзіш, каб яно «заквітнела радасна і светла найпрыгажэйшым цветам на зямлі».

Лірычны двайнік паэта можа быць і бывае розны. Але ёсць у яго характары адна рыса — бясспрэчна, галоўная,— якая дамінуе над усімі астатнімі, якой падпарадкавана ўсё, што складае яго духоўны свет, яго чалавечы вобраз. Гэтая рыса — найглыбейшае пачуццё душэўнага дачынення да ўсяго, што ёсць Балгарыя: і да яе вялікай гісторыі, і да яе велічнай сучаснасці, пачуццё ўсведамлення свайго месца ў гістарычным быцці народа. Мы перакананыя, што без гэтага пачуцця вялікі паэт увогуле не можа здзейсніцца. Таму што ў ім, і толькі ў ім, выток таго творчага натхнення, якое нараджае паэзію высокага грамадзянскага гучання, таму што толькі яна дае паэту тое глыбокае дыханне, без якога песня не можа прагучаць па ўвесь голас. У Георгія Джагарава гэтае пачуццё не проста моцнае, але магутнае, усёабдымнае і ўсёпранікальнае, яго паэзія ім літаральна дыхае і жыве. Ідэя Балгарыі завалодала паэтам цалкам і даастатку — настолькі цалкам, што яму амаль не ўдаецца глыбока зачапіцца радком верша за іншую зямлю, за іншую краіну. Натхніць на песню яго можа перш за ўсё Балгарыя. Тая Балгарыя, у вернасці якой ён клянецца страшнаю клятвай:

І калі твой прастор мне стане цесны
і клятву гэтую парушу я —
забі мяне! — хай груганоў сям'я
зляціцца ў полі скончыць маю песню!

Тая непакорная, вечная Балгарыя, якая была добрая да тых, хто ішоў з дабром, «да нелюдзяў жа літасці не знала», якая «скрышыла ў сваёй грубай далоні кубак з візантыйскай атрутай і крывавы турэцкі ятаган», якую «распрадавалі па драбку гандляры табакай і крывёй» і якая — смерцю адолеўшы смерць — усё-такі жыве, квітнее і ўсміхаецца жыццю. Тая Балгарыя, маленькая, як чалавечая далонь, зямля, якая паэту — «цэлы сусвет», таму што яна дала яму сваю кроў, каб ён быў яе верным і шчаслівым сынам.

Зямля — як чалавечая далонь...
Ды большая ты мне і не патрэбна.
Шчаслівы я, што твой хрыбетнік — крэмень,

што ў жылах кроў твая — жывы агонь.

Тая Балгарыя, вобраз якой і «ў дзень турбот, і ў ноч пакут» у ягоным сэрцы, на прызнанне і апошняе мацярынскае блаславенне якой ён спадзяецца:

Мяне твой вобраз не пакіне.
І веру я, што хоць калі
ты ўсё ж мне ціха скажаш: «Сыне!..»
І лягу я ў тваёй зямлі.

У той, што звеку калыхала
барацьбітоў высокі дух
і не цярпела, не прымала —
ані багоў, ані падлюг.

Шчаслівая зямля, якая мае такіх верных, самаадданых у барацьбе за яе светлую долю сыноў! Але і шчаслівы паэт, які мае такую радзіму, які належыць такому народу — гераічнаму, працалюбіваму, таленавітаму. Народу — творцу вялікай гісторыі, вялікай матэрыяльнай і духоўнай культуры. А тым больш шчаслівы, што яго творчасць сёння належыць ужо не толькі Балгарыі. Яна шырокавядомая і за межамі Бацькаўшчыны. Зборнікі яго лірыкі выходзілі па розных мовах свету, у тым ліку некалькі разоў на рускай. Ведаюць Георгія Джагарава — па радзіме і ў свеце — і як выдатнага драматурга, аўтара п’ес «Дзверы зачыняюцца», «І заўтра будзе дзень», «Пракурор», «Гэта малая зямля». І як палымянага, бліскучага публіцыста, кожнае выступленне якога ў друку рабілася з’явай у культурна-грамадскім жыцці краіны. Ведаюць і як віднага дзяржаўнага дзеяча, члена ЦК ВКП, намесніка Старшыні Дзяржаўнага Савета НР Балгарыі.

Георгій Джагараў — правадзейны член Балгарскай акадэміі навук. Яго творчасць пашанавана Дзімітраўскай прэміяй. За вялікія заслугі ў развіцці нацыянальнай літаратуры яму нададзена званне народнага дзеяча культуры НРБ. Аб шырокім міжнародным прызнанні творчасці паэта сведчыць прысуджэнне яму ў канцы 1982 года Спецыяльнай прэміі за паэзію Французскай акадэміі навук, мастацтваў і літаратуры.

*1975, 1983*

## ПРА ПАЭТА, ЯКІ ПАЧАЎСЯ З ПЛАЧУ ПА ЗАБІТАМУ СЛОВУ

Сёння ў літаратурных колах Балгарыі ўсё часцей можна пачуць галасы прызнання, што творчасць гэтага паэта належыць да ліку самых буйных і цікавых з'яў у сучаснай паэзіі краіны. Сам ён, аднак, пачуць гэту безумоўна справядлівую ацэнку ўжо не можа: Андрэй Германаў памёр у маі 1981 года, амаль роўна за год да свайго пяцідзесяцігоддзя. Памёр у самую шчодрую пару духоўнай і творчай сталасці, пасля працяглай хваробы, прычына якой для мяне асабіста больш чым відочная: пастаяннае — з году ў год, з дня ў дзень — перанапружанне фізічных сіл, бясконцая і неперапынная «работа на знос». «Самазабойча жывём» — назваў ён сваю апошнюю прыжыццёвую кнігу лірыкі. Цяжка было б знайсці загаловак больш адпаведны.

Пачынаючы з 1959 года, калі выйшаў яго першы зборнік вершаў «Расткі», і да канца жыцця, гэта значыць, па працягу дваццаці двух гадоў, ён выдаў дваццаць дзве кнігі лірыкі. У сярэднім — па адной на год. Ды якія кнігі — якой лірыкі! Без адзінага верша, народжанага для забавы, непранушчанага праз сэрца. А яшчэ — некалькі кніг для маленькіх чытачоў. А яшчэ — паэтычныя пераклады. Перш за ўсё — з рускай, беларускай, украінскай. Лермантаў, Някрасаў, Блок, Твардоўскі, Багрыцкі, Купала, Колас, Сасюра, Малышка, Бажан і многа-многа іншых, «добрых і розных» паэтаў славянскага свету. Пераклады, бадай, таксама саставілі б столькі ж томікаў, колькі і яго арыгінальныя вершы. Апрача паэзіі, ён выдаў яшчэ і вельмі цікавыя кнігі прозы: гісторыка-дакументальную аповесць «Камчыйская балада», успаміны пра сваё дзяцінства і юнацтва «Хлопчыкі ў шарачку» і інш. Пры гэтым ён ніколі не быў «вольным мастаком». У маладосці, пасля універсітэта, працаваў настаўнікам у вясковай школе, потым — выкладчыкам рускай мовы ў Сафіі, затым — у Цэнтральным Камітэце камсамола, у літаратурных выдавецтвах «Народная моладзь» і «Балгарскі пісьменнік», у часопісе «Сучаснік». Апошнія гады ён быў галоўным рэдактарам літаратурнага часопіса «Полымя» («Пламък»), з'яўляўся членам бюро праўлення Саюза пісьменнікаў Балгарыі, як паэт-камуніст прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці пісьменніцкай арганізацыі.

Ён жыў і працаваў, сапраўды не шкадуючы сябе. Да таго ж — душа ў яго была надзвычай ранімая. Зборнік лірыкі, які выйшаў з друку ўжо пасля смерці паэта, так і названы: «Душа безабаронная»... Не ведаю, сам ён паспеў папрасіць, каб так ахрысцілі кнігу, ці сябры падабралі загаловак...

Андрэй Германаў быў паэтам ад нараджэння і вершы пачаў пісаць вельмі рана — у адзінаццаць гадоў. Упершыню гэта

здарылася ў полі, дзе ён памагаў бацьку сеяць кукурузу. У згаданай кнізе ўспамінаў «Хлопчыкі ў шарачку» сам паэт расказвае пра гэта так: «Я ляжаў у траве, глядзеў на казюлек і на аблачынкі, пакуль не разгледзеў усё. І тады як быццам сама зямля і само сонца пачалі шаптаць мне якіясьці словы. Я не насіў з сабой ні алоўка, ні паперы. І так як у кішэні ў мяне быў толькі сцізорык, я выбраў гладкі пясчанік і надрапаў гэтыя словы на гладкай паверхні каменя».

Зрэшты, калі праўда, што паэт і слова — паняцці больш чым роднасныя, што наяўнасць паэтычнага таленту вызначаецца пачуццём слова і асаблівымі адносінамі да слова (а гэта, вядома ж, так), то ў Андрэі Германаве паэт прачнуўся нашмат раней. Яму было гады чатыры, калі з размовы бацькоў ён даведаўся, што іх сяло Петрушан ужо больш не Петрушан, а — Яварава. Пераіменавана. «Як так? Петрушан і раптам — Яварава. Для мяне імя было нечым неад’емным ад таго, хто яго насіў, і яно не магло замяніцца, як не можа камень не быць каменем або яр — ярам. У перайменаванні мне ўбачылася нешта пыхлівае. Я забраўся ў спальню, кінуўся па шырокі — ад сцяны да сцяны — драўляны тапчан і паціхеньку, але ўпэўнена «задзьмуў у дуду». Пачуўшы, што я плачу, зайшла мама. Яна пастаралася мяне супакоіць, пасядзела каля мяне трохі, і я заснуў».

Над загубленым — адабраным або забітым — словам можа плакаць толькі паэт, нават калі яму ўсяго чатыры гады ад роду.

Паэтычным дарам надзялілі Андрэя бацькі — людзі несумненна не абдзеленыя ні пачуццём прыгожага, ні пачуццём слова. Маці часта спявала яму ў дзяцінстве народныя песні — яна іх ведала вельмі многа. Бацька ж... Праз месяц пасля смерці Германава ў Балгарыі паявілася надзвычай цікавая кніга пра лёс балгараў-перасяленцаў, чытай — пра лёс балгарскага народа, «Надзеі і роспач». Аўтар прадмовы да яе пісьменнік Станіслаў Сяўрыеў справядліва назваў яе «балгарскай народнай хронікай», «сагай пра балгарскія трагічныя перасяленні», «баладай пра беднасць і гордасць сельскай галыцьбы». Напісаў гэту кнігу васьмідзесяцігадовы стары — Дзімітр Германаў, бацька паэта. Па настойлівай — Андрэй мне расказваў аб гэтым — просьбе сыноў. Па просьбе — але не больш. Як падкрэслівае Сяўрыеў, «стары аказаўся ўпартым, са сваёй меркай да чалавечай мовы і да людскіх спраў — ён не даў сынам лавіць яго руку, што выводзіла на паперы пісьмёны...». Кажу: сынам — таму што і старэйшыя браты Андрэя — Пётр і Георгій — таксама філолагі. Прычым, Георгій — філолаг з іменем, вядомы ў свеце славістыкі русіст, аўтар многіх кніг па гісторыі рускай літаратуры, доктар філалагічных навук, прафесар.

Хаця і пачаў пісаць вельмі рана, першы верш Андрэй Германаў падрукаваў толькі ў 1951 годзе — будучы дзевятнаццаці-гадовым. Наогул жа ў літаратуру ён уваходзіў ціха і, можна сказаць, непрыкметна. Сенсацый не было, шумных абмеркаванняў і спрэчак — таксама. Доўгі час крытыка амаль не заўважала яго, успамінала паміж іншым, у «абойму» ён не ўваходзіў, і калі зрэдку трапляў у доўгі пералік імён — то яго месца было звычайна дзесьці зусім блізка да сакраментальнага «і іншыя». Многія з яго паэтычных равеснікаў у гэтых адносінах былі на пачатку свайго творчага шляху куды больш шчаслівыя. Зрэшты, не толькі на-пачатку. Роўнымі і спакойнымі былі адносіны крытыкі да паэзіі Германава і пасля, пазней, хаця і больш уважлівымі і досыць добразычлівымі.

Чаму, натуральна спытаць, адзін з самых таленавітых прад-стаўнікоў гэтак званага «красавіцкага пакалення» балгарскіх паэтаў не быў па-сапраўднаму адкрыты і належным чынам ацэнены своечасова?

Думаю, перш за ўсё таму, што, верны прыродзе свайго таленту, ён не захапіўся самамэтным абнаўленнем мовы і формы верша, не паддаўся спакусе быць залічаным у «наватары», а час — канец 50-х — пачатак 60-х — быў якраз такі, калі пошук і навізна формы, арыгінальнасць почырку (калі нават на паверку яна ака-звалася манернічаннем і эпігонствам) карысталіся асаблівай увагай у крытыкі і былі нечым накшталт пасадачных талонаў у экспрэс паэзіі сучаснай, новай, не ацяжаранай грузам старых «грахоў і хвароб». Да таго ж час сапраўды нарадзіў нямала яркіх талентаў, якія арганічна ўвасобілі ў сабе дух абнаўлення мовы і вобразнага ладу паэзіі (Пене Пенеў, Любамір Леўчаў, Уладзімір Башаў, Канстанцін Паўлоў, Стэфан Цанеў). У такіх абставінах цяжка было разгледзець творчую самабытнасць паэта-«традыцыя-наліста».

А ён тым часам, не спяшаючыся, без мітусні, не падымаючы шуму наўкол уласнага «я», але цвёрда і ўпэўнена рэалізоўваў свае вялікія творчыя магчымасці. Ад кнігі да кнігі ішоў углыбіню, разбіваючы псіхалагічную і моўную культуру верша, дасягаючы нярэдка філіграннага майстэрства ў кампазіцыі, у структуры па-этычнага вобраза, у адшліфаванасці ідэі-думкі, дакладней — у яе выверанасці і адвостранасці.

Размову пра паэзію Германава хочацца пачаць з таго, што нам здаецца самым выдатным і каштоўным у яго паэтычным дары. Якасць гэтая мае сваё дакладнае вызначэнне: гіпертрафія сумленнасці. Рыса, якую ў наш цвяроза-практычны і жорсткі век многія лічаць дзівацтвам. Сам паэт разумеў гэта:

Нават кветку сарваць для сябе не асмелюся,

Галавы не ўздымаю — так працы нязводнай рад.
Калі вы яшчэ не зразумелі мяне — зразумееце,
Што я вельмі смешны і нават трошку вар'ят.
*(«Гісторыя гэта бясконца старая»)*

У Германава было абвостранае чуццё жыццёвай праўды, справядлівасці і дабраты. Гэтыя адвечныя маральныя каштоўнасці паэт шукаў і знаходзіў у людзей працы — любімых герояў яго кніг, у іх чыстых, адкрытых і непадатлівых злу душах. Дабратою праменяцца старонкі ўсіх яго паэтычных зборнікаў — дабратою вернага таварыша, сардэчнага друга, клапатлівага бацькі. У вершы «Над калыскай» лірычны герой, седзячы апоўначы над хворай дачкою, піша ёй ліст і пускае яго «ў паштовую скрынку часу».

Ціха ў доме.
Хрыпучая музыка ў грудках тваіх
пераразае ўсяго мяне так, як толькі
хрыпучая музыка з грудак дзіцячых
можа пераразаць.
Нічога
не ведае той, у каго не хварэла дзіця.
Пройдзе час, і ты станеш вялікай,
ты даведаешся,
што твой бацька шукаў чалавечнасць,
а не вечнасць,
і хадзіў у штанах, на каленях працёртых,
не ад падання
на калені,
і наогул табе стануць яснымі многія рэчы...

Паэт не толькі паказваў дабрату, але і разважаў аб ёй — і разважаў па-народнаму мудра, глыбока. Быць добрым — вельмі цяжка, вельмі:

«Калі ты добры, цябе дурныя прымуць за дурнога, а слабыя цябе палічаць слабым, а баязліўцы — баязлівым, што прыкрыўся ўмелай дабратой». Гэта — цяжка, прыкра і непрыемна, але — «дабрата па натуры цярплівая». Калі ж ты сцерпіш усе насмешкі і крыўды — у тваю дабрату паверацъ і «аб'явяць цябе сваім богам».

«Тут пачнецца самае труднае: абавязак — нідзе не зграшыць. Тое, што дурань — дурны, слабак — слабы, баязлівец — баязлівы,— даруецца ім. А табе прабачэння няма — бо ты ж добры! Ты пазбаўлены права на глупства, на слабасць, на страх — бо ты добры!» («Грам дабраты»).

Як паэт пераважна спавядальны, Германаў не таіў сваіх трывог, сваіх пакут і згрызот сумлення. Трывогі яго — вялікага грамадскага папаўнення, вытокі іх — у складаных супярэчнасцях жыцця, у тым разладзе, што пануе на зямной планеце, у

драматызме адносін паміне чалавекам і рэчаіснасцю, паміж асобай і грамадствам. Заўсёды няшчадна крытычны да сябе паэт балюча пераплываў маральныя і іншыя канфлікты часу, у сэрца ў яго кожны дзень упівалася «безліч пытанняў — вострых, як кручкі рыбалоўныя», і ён вымушаны быў вырываць іх «бязлітасна, з мясам». Неабходныя для таго, каб заставацца Чалавекам і Грамадзянінам, вера, стойкасць і ўпэўненасць даваліся яму немалою цаной: «Ты лічыш, што мне гэта лёгка — думаць аптымістычна?» («Як нараджаецца аптымістычны верш»).

Драматызм паэзіі Германава — унутраны, глыбінны, а не дэманстратыўны, не паказны. Цікавым у гэтых адносінах з'яўляецца верш «Рэчы» — твор значнага сацыяльнага зместу.

Рэчы — гэтыя «дзіўныя стварэнні з дрэва, і з металу, і са шкла» наступаюць на чалавека, на яго жыццё, пагражаюць яго духоўнай свабодзе, яго чалавечай сутнасці.

Стомлены вяртаюся дадому,
думаю да позняе пары:
не з'ядуць яны мяне, вядома,
гэтыя маўклівыя звяры.

Але кожнай клеткай адчуваю,
як мой дух нядобрай сілай гне,
як япы ўвесь час пераліваюць
кроў сваю сцюдзёную ў мяне.

О, няўжо аднойчы ранак белы
дакранецца пальцамі святла
да маёй душы, наскрозь сцвярдзелай
ад металу, дрэва і ад шкла!

Германаву было не ўласціва філасофстваваць мудрагеліста, абстрактна, яго мысленне заўсёды паэтычна канкрэтнае, звернутае да непасрэднага рэчыўнага свету, а таму вобразная сістэма — звычайна прадметная. Усё гэта выдае ў ім паэта «ад зямлі», ад суровай і грубай праўды жыцця, паэта, які і падняўшыся да вышынь культуры, да строю думак інтэлігента ўзвышанага і вельмі няпростага, застаўся ў той жа час верны асноўным прынцыпам эстэтыкі працоўнага селяніна — чалавека вёскі.

Дарэчы, тэма вёскі, а больш дакладна — вёскі і горада,— тэма, да якой Германаў вяртаўся зноў і зноў. Яго лірычны герой так і «не прырос душой» да горада, і хоць не можа выйсці з-пад яго ўлады, усё-такі яшчэ не належыць яму цалкам — нейкая непераадольная сіла цягне яго ў шчаслівы свет вясковага дзяцінства і надрайвае на сумна-элегічны лад. «Я ўсё яшчэ нашу між пальцаў цёплы, як прысак, пыл прасёлачных дарог»,— гэта

сказана не так сабе, гэта — вельмі характэрнае прызнанне, пад якім, між іншым, маглі б падпісацца многія паэтычныя аднагодкі Германава (напрыклад, Слаў Хр. Караславаў). Зрэшты, гэта якраз той матыў, якім сучасная балгарская паэзія вельмі блізка перагукваецца з беларускай. Наша крытыка ўжо неаднойчы адзначала, што многія паэты сярэдняга і малодшага пакаленняў неадступна «топчуцца» вакол тэмы «вёскі і горада», далёка не заўсёды, на жаль, вырываючыся з павярхоўна-эмацыянальнай плыні лірычных мемуараў у глыб мастацкага асэнсавання жыццёва важных працэсаў. Сама ж пераклічка гэтага матыву ў паэзіі двух братніх краін зразумелая: Балгарыя, як і Беларусь, у мінулым — адсталая аграрная краіна — шпаркім тэмпам набывае зусім новае — індустрыяльна-урбаністычнае — аблічча. А яе сённяшнія паэты, як і беларускія, у пераважнай большасці — дзеці вёскі...

Яшчэ адна любімая тэма Германава (і зноў жа — не толькі Германава) — тэма кругавароту жыцця. Філасофскія роздумы над такімі вечнымі пытаннямі, як хуткаплыннасць часу, як непазбежнасць пачатку і канца ў чалавечым лёсе, як працяг і паўтарэнне чалавека ў наступных пакаленнях апаноўвалі паэта даволі часта. Лепшым узорам ягонай лірыкі гэтага плана з’яўляецца выдатны, на наш погляд, верш «Трое».

Спакон вякоў, праз ліхалецці,
кругаваротамі жыцця,
ідуць, ідуць па белым свеце
мужчына, жонка і дзіця.

І двое ў трэцім паўтараюць
свае дзіцячыя гады:
з травой і лісцем размаўляюць
і зоркі чэрпаюць з вады.

Яно — як парастак вясною —
цвіце, красуе, а яны —
паціху сходзяць сівізною...
і круг змыкаецца зямны.

Назіральны і ўдумлівы, як правіла, стрыманы ў тоне, некрыклівы ў фарбах, дакладны і ясны ў слове, Андрэй Германаў валодаў тым вышэйшым класам паэтычнага майстэрства, якога не відаць, якое не кідаецца ў вочы. Чым зачароўвае і бярэ ў палон яго паэзія — адразу сказаць нялёгка. Можа — сваёй чалавечнасцю і грамадзянскай чуйнасцю, можа — драматызмам і эмацыянальнасцю, можа — даверліва-спавядальнай лірычнасцю... А можа, вось гэтай мяккай і ціхай музыкай, гэтым напеўным, лёгкім, як кружэнне сняжынак, рытмам?

Над прасторам анямелым,
над гуртамі срэбных стрэх —
кружыць дзіўны, кружыць белы,
беларускі кружыць снег.

*(«Беларускі снег»)*

Аб тым, што Германаў ішоў усё далей у глыб жыцця і рэчаіснасці, што яго майстэрства дасягае ўсё больш зайздросных рубяжоў, сведчаць яго вершы 70-х гадоў, як, напрыклад, «Адсталы ад выраю бусел», «Дзікая качка паўскрай затокі», «З чаго заўсёды пачынаюць? З каменя» і інш. У Германава і раней вобраз вызначаўся рэалістычнай канкрэтнасцю, але такой паэтычна-яркай, мы сказалі б, ашаламляльнай выразнасці малюнка, здаецца, раней не было. Тым больш што гэтай зрокава-маляўнічай яркасці адпавядае незвычайная яркасць пачуцця,— само сабой зразумела — пачуцця грамадзянскага, высакароднага, глыбока гуманістычнага. Дазволім сабе праілюстраваць гэта адным з названых вершаў. Лірычны герой паэта заклінае бусла, у якога зламана крыло, ляцець з усёю чарадой у вырай: «Ляці з усімі! Хоць праз боль пакут — крыляй бязмежжа сіняга прасторы, зваліся каменем, разбіся ў моры, але — ляці! Не заставайся тут!» Чаму лепш разбіцца, згінуць у дарозе, чымся заставацца аднаму? Таму, што хоць людзі і прыйдуць на падмогу, вылечаць крыло,— жыцця яму ўсё роўна не будзе: вясною вернецца белая чарада, і яна прынясе яму смерць. Адсталаму ад выраю яна не даруе! Але дадзім слова паэту, бо лепш за яго не скажаш:

Як позні снег, на дол яна ўпадзе,
цябе ў маўклівае акружжа возьме —
і зразумееш ты ў глухой трывозе:
адсталы ў лёце — вораг чарадзе!

Заляскаюць, завернутыя ўбок,
чырвоныя, на белых спінах, дзюбы,
і з непатрэбным крыллем ты, нялюбы,
стаяцьмеш там... І звузіцца кружок!

І ўдарыць першы хтось з былых сяброў.
Да ўчора брат, не будзе мець ён жалю.
На доўгіх дзюбах, нібы на кінжалах,
заблішча кроплямі густая кроў!

...Як без цябе яны пакінуць луг,
ты будзеш месівам крывава-белым,
і над табой, як над кастром датлелым,
ледзь-ледзь дыміцца будзе белы пух.

Вобразна-эмацыянальная яркасць у паэзі і сама па сабе вялікая каштоўнасць, яшчэ ж большую вартасць яна мае тады, калі служыць выяўленню глыбокай ідэйнай задумы, калі сам паэтычны малюнак набывае абагульнена-сімвалічны сэнс, што мы і бачым у разгледжаным творы. Цікавы ў гэтых адносінах і другі верш — «Дзікая качка паўскрай затокі». Сюжэт яго просты: падстрэленую ў крыло шрацінкай дзікую качку ловяць, пераломваюць другое крыло, далучаюць да свойскіх качак, кормяць збожжам, а затым, у нейкую месячную ноч, пускаюць, прывязаную, на затоку. Ад радасці, адчуўшы родную стыхію, яна закрычыць, і на яе крык прылятуць і апусцяцца на ваду стомленыя, але вясёлыя птушкі. Тады раптоўна ўдарыць гром з замаскіраваных дулаў — і пырсне кроў, і пух, і крык разляціцца на ўсё наваколле. «А пачалося проста — са шрацінкі, якая раніць, а не забівае». Вось гэтая афарыстычная выснова — «а пачалося проста...» — і робіць твор дасканала завершаным, у ёй — ключ да багатага паэтычнага падтэксту.

У 70-я гады Германаў, захапіўшыся ідэяй пашырэння жанравых магчымасцей верша, шмат часу і ўвагі ўдзяляе так званым чатырохрадкоўям, якія склалі ўжо — ні многа ні мала — тры асобныя зборнікі. Зварот да гэтай традыцыйнай формы ўсходняй паэзіі (рубаі) прадыктаваны, вядома, не жаданнем «бліснуць майстэрствам» — для гэтага Германаў занадта сур'ёзны паэт. Чатырохрадкоўе прыйшло да яго як зусім натуральны спосаб выказаць думкі-афарызмы, пачуцці-імгненні, якія «прасіліся па волю», аднак разгорнутага лірычнага верша не вымагалі. Ва ўсякім разе, успрымаць іх проста і толькі як стылізацыю не прыходзіцца: глыбіня і арыгінальнасць зместу сведчыць аб арганічнасці іх мастацкай прыроды, аб «законнасці» іх паяўлення на свет.

У пекле ён сярод дарослых — дзіця вялікае, паэт:
так адчувае ўсё ён востра — абразу, крыўду, непрывет,
шукае, стукаецца ў сэрцы, мур галавою прабівае —
і не знаходзіць: шчыры, просты,
згубіўся дзесь дзіцячы свет!

Нішто злабы по затрымае. Ды праўда ўсё-такі жыве.
Паклёп душу мне раз'ядае, ды праўда ўсё-такі жыве.
Абрабаваны, апляваны, я знядужэў і паміраю,
але й паклёпнік мой канае. А праўда ўсё-такі жыве.

Хаця форма ўсходняя, але вершы — арганічна балгарскія па паходжанні. Яны істотна дапаўняюць уяўленне чытачоў і пра багацце духоўнага свету паэта, і пра моцны інтэлектуальны пачатак яго таленту, і пра чалавечую мудрасць яго добрага, чэснага, высакароднага сэрца.

У вершах апошніх гадоў, напісаных пераважна ў бальніцах, многа смутку і болю, народжаных прадчуваннем і ўсведамленнем непазбежнасці трагічнага зыходу, але яны па-ранейшаму поўныя святла і дабраты, яны надзіва мужныя і, больш таго, па-грамадзянску ваяўнічыя. І адыходзячы, паэт ні на крок не адступіў ад той праўды-веры, якою жыў заўсёды і ў імя сцвярджэння якой спальваў сябе на высокім полымі творчасці. Жыццялюбства і мужнасць паэта — надзвычайныя!..

Перачытваю час ад часу старонкі яго апошніх кніг, і кожны раз сэрца заходзіцца ад болю — амаль дваццаць гадоў мы былі з ім вельмі блізкімі сябрамі. І копшы раз з самай глыбіні душы падымаюцца словы, якія кажу яму, як жывому: «Дзякуй, брат Андрэй! За гэту велічнасць духу дзякуй. За гэты ўрок чалавечай годнасці і дабраты — ён так нам сёння патрэбен...»

## СЛОВА ПРА ОТАНА ЖУПАНЧЫЧА

Чытаючы творы вялікага паэта, які належыць колькасна невялікаму, да таго ж — вякамі крыўджанаму народу, неаднойчы і не без пэўнага пачуцця горычы думаў: як жа ўсё-такі несправядліва распараджаецца на пашай чалавечай планеце лёс! Ды калі б такі паэт нарадзіўся па зямлі адвеку дзяржаўнай і падзяржаўнаму магутнай, вядомай дынастыямі сваіх імператараў ці каралёў, пераможнымі паходамі сваіх палкаводцаў,— ах, якім бы слынным у свеце было яго імя, як далёка ішоў бы розгалас пра яго творчасць! Але паэт нарадзіўся на зямлі, нічым асаблівым у гісторыі не знакамітай, належыць народу ні ста-, ні пяўста-, ні чвэрцьстамільённаму, а галоўнае — народу сціпламу і міралюбіваму, які не толькі не дыктаваў нікому сваю волю, а наадварот — сам у стагоддзях цярпеў ад дыктату мацнейшых і больш спрытных суседзяў. Народу, якому неспрыяльныя гістарычныя ўмовы доўга не давалі заявіць пра сябе адпаведна таленту, што дастаўся яму «з ласкі божай». Таму, будучы сапраўды вялікім, несумненна геніяльным мастаком слова, ён не карыстаецца той вядомасцю ў неабсяжным чытацкім свеце, якой карыстаюцца імёны многіх роўных, а нават і далёка не роўных яму па таленту шчаслівіўцаў — паэтаў з краін іншага гістарычнага лёсу. І хаця многае перамянілася на планеце, з невядомасці і забыцця паўсталі да актыўнай дзяржаўна-палітычнай і культурнай жыццядзейнасці дзесяткі народаў — у тым ліку і народ ягоны, ён працягвае заставацца для чытачоў многіх краін «у цяні», бо і цяпер выходзіць яму «на святло» няпроста: куды прасцей выйсці на гэтае святло чытацкіх вачэй другаступенным і нават трэцяступенным вершатворцам з гэных самых зямель адвеку дзяржаўных. Ці шмат, напрыклад, знойдзецца ў свеце аматараў паэзіі, якія ведаюць нашага геніяльнага Максіма Багдановіча? Ці шмат яго перакладаюць па іншыя мовы? Або, скажам, вялікага славацкага паэта і драматурга Павала Гвездаслава?.. Вядома, вядома,— сёетое, хоць краем вуха, чулі, сёе-тое нават чыталі, здаецца... А хутчэй — менавіта здаецца. І ўжо ж, бясспрэчна, адносіны «шчасліўцаў» да гэтых паэтычных геніяў уваскрэслых народаў — далёка не самыя паважлівыя. Калі і праяўлялася да іх увага — дык, як правіла, паблажлівая, звысоку, з паляпваннем па плячы і, канечне ж, без спробы чаму-небудзь павучыцца ў гэтых «няшчасных», якія таксама вось — няйначай па недагляду ўсявышняга — паявіліся на свет і нават патрабуюць увагі... А між тым, павучыцца ў іх ёсць чаму,— і найбольш мудрыя прадстаўнікі літаратур вялікіх гэта бачылі і разумелі. Успомнім словы Горкага, які, яшчэ на пачатку стагоддзя, у эпоху росквіту дэкадэнцтва, пазнаёміўшыся з просты-

мі, шчырымі, чалавечнымі вершамі мужыцкіх беларускіх песняроў Купалы і Коласа, з горыччу і шкадаваннем у пісьме да Кацюбінскага напісаў — няйначай цяжка ўздыхнуў: «Нашым бы трошкі такіх якасцей. О, божа! Вось бы добра было!»

Гэтакія думкі — у каторы раз! — агарнулі мяне і над старонкамі вялікага паэта Славеніі Отана Жупанчыча. Вялікага не толькі ў маштабах нацыянальных, але і ў маштабах усёй сям'і славянства, і — не будзе перабольшаннем сказаць — у маштабах свету. Жупанчыч — найбольш яркае — пасля Францэ Прэшарна — выяўленне нацыянальнага паэтычнага генія, найбольш дасканалае ўвасабленне духоўнай моцы і велічы свайго народа. З ягоным, у першую чаргу, імем звязаны пачатак новага этапу ў развіцці славенскай паэзіі, пачатак рашучага абнаўлення і традыцыйнага славенскага верша, і самой паэтычнай мовы. Такая рэфарматарская місія ў літаратуры дастаецца, як вядома, на долю творцаў незвычайных, творцаў-волатаў, надзеленых асобай сілай магічнага валодання словам, а праз слова — чалавечым сэрцам. Дакладней — сэрцамі мільёнаў.

Натуральна думаць, што ў мастака такога маштабу і значэння павінен быць вельмі адметны жыццёвы лёс. Ці так гэта ў дачыненні да Отана Жупанчыча, да яго вонкавай чалавечай біяграфіі? Наўрад ці яна чым-небудзь асабліва выдатная, багатая на падзеі і факты, здольныя моцна ўразіць. Але ж усё залежыць ад таго, што для чалавека з'яўляецца падзеяй, драмай, трагедыяй,— іначай сказаць,— залежыць ад ступені чуйнасці яго сэрца. У паэта сапраўднага, глыбокага і досыць звычайны жыццёвы факт можа прарасці незвычайнай па сіле драматычнага ці трагічнага гучання песняй. А тым больш калі паэту выпала жыць не ў часе ціхім і супакойным, а ў часе вялікіх сацыяльных і палітычных катаклізмаў, у эпоху грандыёзных рэвалюцыйных пераўтварэнняў і сусветна-гістарычных падзей. Час Жупанчыча — канец XIX і першая палавіна XX стагоддзяў — быў менавіта гэткім.

Нарадзіўся Отан Жупанчыч 23 студзеня 1878 года ў невялічкай вёсцы Вініца ў Белай Крайне — так называецца паўднёва-ўсходняя ўскраіна Славеніі на этнаграфічным сумежжы з Харватыяй. Дарэчы, Жупанчычам ён стаў на трыццаць першым годзе жыцця, у канцы 1908 года, да таго ж ён насіў прозвішча Зупанчыч, пад якім і выдаў свае першыя кнігі вершаў. Бацька паэта Фран Зупанчыч быў родам з іншага, Доленьскага краю, доленец, і паходзіў з бедных сялян, а маці Ана Маліч была дачкой мясцовага багацея, гандляра лесам, які, аднак, праз колькі гадоў ушчэнт, да жабрацкага стану, разарыўся.

У Вініцы Отан пражыў усяго два-тры гады, а затым сям'я перабралася ў суседні Драгатуш, дзе і прайшлі дзіцячыя і

падлеткавыя гады будучага паэта. У Драгатушы ён пачаў хадзіць у школу, потым па працягу трох гадоў вучыўся ў гімназіі ў невялікім гарадку Новае места. У 1891 годзе бацькі пераехалі ў Любляну, і Отан становіцца гімназістам Люблянскай гімназіі. Варта зазначыць, што малая радзіма Жупанчыч Бела Крайна, мясціна казачна прыгожая, этнаграфічна яркая, надзвычай багатая фальклорам, народнымі песнямі, сыграла вырашальную ролю ў яго станаўленні як асобы і паэта. І грамадзянін, і паэт Отан Жупанчыч пачаўся, несумненна, там. Нездарма так любіў ён прыязджаць у свой родны куток пазней, будучы сталым і знакамітым. Белая Крайна, аднак, не толькі чаравала хлапчука-падлетка сваімі цудоўнымі краявідамі, будзіла ў душы трапяткія пачуцці паэтычным хараством сваёй гаворкі. Тут будучы паэт атрымаў і першыя, па-сапраўднаму ўсвядомленыя, напэўна, пазней, урокі сацыяльнага і нацыянальна-патрыятычнага выхавання. З яго маляўніча прыгожай і песеннай Белай Крайны людзі, ратуючыся ад нэндзы і голаду, падаваліся за трыдзевяць зямель у эміграцыю,— у Нямеччыну або — за акіян, у Амерыку. Усё жыццё будзе кроіцца і яго сэрца болем ад згадкі, што і пяць родных матчыных сясцёр — пяць яго родных цётак — былі выгнаны з радзімы нядоляй туды ж — у Амерыку.

У люблянскай гімназіі Отану Жупанчычу, можна сказаць, двойчы пашанцавала. Па-першае, ён пачаў займацца ў навуковым гуртку, якім кіраваў вядомы грамадска-палітычны і культурны дзеяч, асветнік, сацыёлаг Янез Крэк. Пад уплывам Крэка малады гімназіст глыбока зацікавіўся фальклорам — як нацыянальным, так і іншых славянскіх народаў, што надзвычай плённа адбілася пазней на яго ўласнай творчасці. Па-другое, у гімназіі Жупанчыч пазнаёміўся і блізка сышоўся з вельмі таленавітымі маладымі людзьмі, чые імёны сёння ў ліку тых, што складаюць славу і гордасць славенскай літаратуры. Гэта — Іван Цанкар, Драгацін Кеттэ, Ёсіп Мурн-Аляксандраў. У адрозненне ад сяброў, Цанкар пазней стаў буйнейшым славенскім празаікам, а тады ўсе яны былі пачаткоўцамі-паэтамі і ўваходзілі ў канспіратыўнае таварыства гімназістаў-старшакласнікаў «Задруга». Маладыя інтэлектуалы пачынаюць сур’ёзна задумвацца над такімі важнымі пытаннямі, як лёс нацыянальнай культуры і ўвогуле лёс народа, як шляхі развіцця славенскай літаратуры і ў прыватнасці — паэзіі, шмат гавораць і дыскусіруюць аб народнасці літаратуры і мастацтва, аб адносінах да найноўшых плыняў у культурным жыцці Заходняй Еўропы. Дарэчы, на гэты час прыпадае іх моцнае захапленне рускай літаратурнай класікай — настолькі моцнае, што нават паэтычныя псеўданімы яны выбіраюць сабе з рускіх імён і прозвішчаў: Жупанчыч — Аляксей Нікалаеў, Цанкар — Іван Са-

вельеў, Кеттэ — Міхайлаў, Мурн-Аляксандраў; апошні так і застаўся ў гісторыі літаратуры са здвоеным славенска-рускім прозвішчам: Ёсіп Мурн-Аляксандраў.

Гады вучобы ў Люблянскай гімназіі — час актыўнага выхаду маладога Жупанчыча на старонкі перыядычнага друку. Вершы ён піша даўно, а першае апублікаванне іх адбылося ў 1894 годзе, калі юнаму паэту было шаснаццаць гадоў. Спачатку друкуецца ў дзіцячых і маладзёжных газетах «Анёлак», «Садок», «Заранка» («Ранішняя зорка»), у каталіцкім літаратурным часопісе «Дом і свет» (пад псеўданімамі Белы Кранец, Смілян Сміляніч, Гойка), крыху пазней — у вядучым славенскім часопісе «Люблянскі звон» (пад псеўданімам Аляксей Нікалаеў).

У 1896 годзе Отан Жупанчыч паступае на вучобу ў Венскі універсітэт, на аддзяленне гісторыі і геаграфіі філасофскага факультэта. У біяграфіі паэта пачынаецца этап асабліва актыўнага засваення набыткаў мастацкай культуры свету, перыяд плённай творчай вучобы ў вялікіх майстроў паэзіі мінулага і сучаснага. Ён блізка знаёміцца з творчасцю буйнейшага французскага паэта-сімваліста Поля Верлена, папулярных па тым часе нямецкіх мадэрновых лірыкаў Рыхарда Дэмеля і Стэфана Георге. У Вене вучыцца і Іван Цанкар, нейкі, непрацяглы, час — і (Осіп Мурн-Аляксандраў. Тады і аформілася творчая група, якая ўвайшла ў гісторыю нацыянальнай паэзіі над назвай «славенскі мадэрн». Ядром групы якраз і былі сябры па люблянскай гімназіі: Цанкар, Жупанчыч, Кеттэ і Мурн-Аляксандраў. Маладыя, поўныя творчага імпэту песняры абвясцілі курс на пэўнае эстэтычнае пераўзбраенне нацыянальнай паэзіі, а перад усім — на абнаўленне традыцыйнай паэтыкі, паэтычнай мовы верша, яго кампазіцыйнай і рытмічнай структуры, яго інтанацыйных і эўфанічных якасцей. Чытача не павінна ў даным выпадку бянтэжыць само азначэнне «мадэрн». У дачыненні да такой літаратуры, як тагачасная славенская,— літаратуры духоўна і маральна здаровай, глыбока дэмакратычнай, народнай у сваіх ідэйных вытоках,— яго трэба ўспрымаць менавіта як пэўную навізну паэтычнага светабачання і самога пісьма, як выклік вершатворнай руціне. Вядома, сёе-тое з мадэрнісцкіх настрояў, матываў, поглядаў у нейкай меры адбілася на творчасці маладых славенскіх лірыкаў, у прыватнасці, на першым і адзіным зборніку вершаў Цанкара «Эротыка» (1899), дзве трэці тыражу якога біскуп Егліч скупіў і спаліў «з-за амаральнасці», менш — на першым зборніку лірыкі Жупанчыча «Чаша захаплення» (1899), на некаторых вершах Кеттэ (цыкл санетаў «Чорныя ночы»). Вернасць народна-фальклорпым вытокам, жывая цікавасць да народнай песні, побыту, звычаяў, святаў, да ўсяго, у чым самабытны дух

народа, паслужылі Жупанчычу той духоўнай апорай, якую было не пад сілу зламаць ніякім чужародным павевам. А галоўнае — яму, як і яго сябрам-равеснікам, занадта ў гэтым жыцці балела, каб эстэцтвавацъ і транжырыць свае творчыя сілы па пустое, па тое, чым займаюцца ад роскашы і празмернай сытасці.

На мяжы двух стагоддзяў маладога паэта напаткалі страты, якія ён перажыў як вялікую асабістую трагедыю. У 1899 годзе, у 23-гадовым узросце, памірае ад сухотаў Драгацін Кеттэ — шчыры паэт-рамантык, апантаны вораг мяшчанска-буржуазнай сытасці, а ў 1901 — зноў жа ад сухотаў, пражыўшы ўсяго дваццаць два гады, згарае і Ёсіп Мурн-Аляксандраў — таксама цудоўны, дасканалы лірык і самы блізкі сябар Жупанчыча. І адзін і другі памерлі, не пабачыўшы сваёй першай кнігі. Для Жупанчыча гэта быў удар страшны. Тым больш страшны, што ён разумеў, якая гэта непапраўная страта для славенскай паэзіі, для ўсёй нацыянальнай культуры. Асабліва рыдала яго душа па «бацюшку», як любоўна звалі яго сябры, Мурну-Аляксандраву. Праз год ён прысвеціць яго памяці лірычны цыкл «Манам Ёсіпа Мурна-Аляксандрава», у якім не толькі выплача свой боль, але і кіне гнеўны праклён лёсу, богу і самой рэчаіснасці.

Крычаць магілы...
Равуць і шчэрацца, незакапаныя,
як панічы ненажэрныя, разяўлены
у змрок начны... што трэба вам ад нас?
Былі ў нас людзі — кветкі між травы,
былі ў нас людзі — між кустоў дубы,
яны былі — мы аддалі іх вам,
чаго ж яшчэ вы хочаце ад нас?
Глыбока грудзі дыхаюць паветрам
свабоды, сэрца закіпае кроўю
і б’ецца так, што чуе ўвесь народ.
Мільён прыгнечаных, знай, гэта твой
наканаваны лёс: крычаць магілы!

Бадай, ці не ўпершыню так глыбока паэт задумваецца пад тэмай жыцця і смерці. Не толькі ў агульна-чалавечым, філасофскім плане, але і ў канкрэтна-гістарычным. Не сляпая ж выпадковасць, а сухоты — хвароба абяздоленых — косіць у такім маладым узросце лепшых, таленавіцейшых дзяцей народа!

Але сапраўды вялікі роздум пра лёс народа і роднага краю, яго любай і шматпакутнай Бацькаўшчыны, прыйдзе ў вершы паэта крыху пазней; а покуль што, як засведчыла новая кніга «Па раўніне» (1904), у яго творчасці пераважаюць матывы жыццялюбства, прамаўляе голас поўнага здароўя і сілы маладога чалавека, які прагне, сцвярджаючы сябе, усталёўваць у жыцці любоў і праўду, волю і радасць, дабрыню і справядлівасць.

У 1904-1905 гадах Жупанчыч некалькі месяцаў — каля паўгода — праводзіць у Парыжы. Наступныя гады — 1906-1908 — за невялікім выняткам — ён пражыў у Вене, а затым — да канца 1910 года — у Нямеччыне, дзе працаваў хатнім настаўнікам. Жыццё на чужыне, у славутых цэнтрах еўрапейскай культуры, не толькі пашырыла яго інтэлектуальна-філасофскі кругагляд, зрабіла больш важкім яго эстэтычны багаж. Галоўнае тое, што яно вельмі паспрыяла інтэнсіўнаму выспяванню сацыяльнай і нацыянальнай самасвядомасці паэта. У Парыжы Жупанчыч слухае на мітынгу палымяныя выступленні выдатнага дзеяча міжнароднага сацыялістычнага руху Жана Жарэса і віднага прапагандыста марксізму Поля Лафарга, слухае публічныя лекцыі Анатоля Франса, захапляецца творчасцю геніяльнага скульптара Агюста Радэна, знаёміцца з філасофіяй буйнейшага прадстаўніка ірацыянальна-інтуітыўнай тэорыі мастацкай творчасці Анры Бергсона, багата часу аддае на засваенне паэтыкі вялікага амерыканца Ўолта Уітмена і яго вучня з Бельгіі, фламандца Эміля Верхарна. Увогуле варта зазначыць, што Отан Жупанчыч, будучы выхадцам з сацыяльных нізоў народа, належачы да інтэлігенцыі ў поўным сэнсе слова дэмакратычнай, умеў вучыцца. Ён пільна прыглядаўся і чуйна прыслухоўваўся да незлічона разнастайных з’яў неабсяжнага свету мастацтва і з карысцю браў для сябе ўсё, што можна ўзяць. У тым ліку — і з мадэрнісцкіх плыняў у тагачаснай еўрапейскай паэзіі, у прыватнасці — з імпрэсіянізму. Яго, чалавека з народа, з людзей простых, не палохалі з’явы складаныя, далёкія і чужародныя, ён грэбліва не адварочваўся ад іх, маўляў: гэта — мастацтва панскае, арыстакратычнае, а мы ўжо як-небудзь сваім абыдземся. Як талент мудры, ён глядзеў па гэту справу іначай: сёе-тое з дасягнутага вялікімі-перадавымі і для нас падыдзе, возьмем і паставім на службу нашым задачам, нашым ідэям — дэмакратычным, народным, нацыянальным…

Паэзія Уітмена, блізкая славенскаму паэту светапоглядам, жыццялюбствам, чалавечнасцю, дала маладому Жупанчычу нямала. Гэтаксама, як і паэзія Верхарна. Не без уплыву, напэўна, гэтых майстроў слова пачаў ён карыстацца элементамі найноўшай паэтыкі, культываваць — хаця і непаслядоўна — вольны верш (верлібр). Аднак значэнне іх уплыву перабольшваць не трэба. Жупанчыч глядзеў на вялікі свет, а бачыў, прымружыўшы вочы, сваю бедную, гаротную бацькаўшчыну, захапляўся знакамітымі шэдэўрамі літаратуры і мастацтва, а душа яго плакала па няздзейсненых, загубленых талентах на радзіме, пачціва нямеў перад неабсяжнымі даляглядамі сусветнай культуры, а думаў— пра сваю родную, думаў: як вывесці яе «на людзі», як паказаць свой народ, свой край — з яго талентамі — усяму свету?..

Ах, гэта гарачае, балючае, родалюбівае пачуццё сыноў паняволенай айчыны! Колькі талентаў вывела яно з цемры-глушы, з невядомасці на «свет божы», колькі дало яно імпэту і сілы, каб падняцца да зіхоткіх вяршынь чалавечага духу! Упершыню адкрыта і на ўвесь голас Жупанчыч выказаў свае патрыятычныя пачуцці ў вершы «У цягніку», які датуецца 1904 годам.

Дай руку мне, айчына,
не ўцякай, дай з табой набыцца,
да цябе цясней прытуліцца,
буду пець табе песні шчыра,
як дагэтуль ніхто не пеў
пра цябе, матулю зямлю.
Сэрцаў мільён запалю,
падчыню іх табе навечна,
каб у душах агонь адсвечваў
юнай мары высакароднай,
каб дарылі табе свабодна
скарб найлепшы, найчалавечны.

У вершах наступных гадоў, якія ўвайшлі ў кнігу «Маналогі» (1908), тэма Бацькаўшчыны становіцца галоўнай, аб’ядноўваючай і вызначальнай. Цэнтральным творам названага зборніка славенскія гісторыкі літаратуры па справядлівасці лічаць невялікую лірычную паэму «Дума». «Загаловак тут ёсць адначасна і абазначэнне жанру, і адгукнулася ў ім даўняе захапленне паэта ўкраінскімі народнымі песнямі-думамі. У творы сапраўды на першым плане роздум — глыбока эмацыянальны, зварушлівы роздум пра лёс роднай зямлі, пра жыццё-быццё народа, якому належала яго сэрца. Разам з тым — гэта і шчырая споведзь паэта, прызнанне ў любові і вернасці Радзіме, выказанае ў далёкай дарозе як адказ на прызыўны голас жанчыны, што дзесь засталася ў вёсцы… У «Думе»,— пісаў пазней Жупанчыч,— я хацеў паглядзець на наш дом яснымі вачыма і чуйным сэрцам…»

Паглядзець на наш дом, на свой родны дом! Паглядзець і сам-насам з сабою глыбока задумацца. Адвеку гэта было прызваннем і абавязкам усякага сапраўднага паэта. Думкі Жупанчыча на чужыне былі невясёлыя. Успаміналіся вобразы дарагіх яму людзей, якіх нядоля пагнала з роднай зямлі шукаць прыстойнага чалавечага жыцця далёка, прымусіла сарвацца з бацькоўскага котлішча, з родных каранёў дзеля кавалка хлеба, дзеля крохі шчасця. Ад крыўды захлыналася душа. Дык што ж гэта за гэтакі лёс і што за лад-парадак, калі чалавеку няма жыцця на Бацькаўшчыне? І што ў такім разе Бацькаўшчына? Каму яна належыць? Хто на ёй гаспадарыць? Чужакі-прышэльцы? Але чаму? Чаму — калі тут спакон веку жылі нашы дзяды-прадзеды і цяпер жывём мы, іх нашчадкі? Хто адабраў у нас магчымасць

гаспадарыць самім? Хто прысвоіў сабе на гэты гвалт права? І чым у такім разе павінна быць слова песняра роднага краю? Пра што яно павінна гаварыць? Да чаго заклікаць і куды весці?..

Якімі б горкімі ні былі роздумы паэта, ён не траціў веры ў народ, у яго светлую будучыню. Ён бачыў, што яго паняволеныя ў стагоддзях супляменікі захавалі жывыя карані нацыянальнага духу, пе толькі зберагглі, але ўмацавалі і развілі ў сабе жыццятворны пачатак, здольнасць да актыўнай гаспадарчай, сацыяльна-культурнай і дзяржаўна-гістарычнай дзейнасці. Ён бачыў у нацыянальным характары працоўнага славенца такія выдатныя якасці, як глыбокі дэмакратызм перакананняў, прыродная свабода сумлення, сціпласць і цнатлівасць душы, трываласць маральнага здароўя, чалавечая натуральнасць поглядаў на свет людзей і на ўзаемаадносіны ў гэтым свеце. Бачыў, разумеў і гаварыў пра ўсё гэта ў сваіх вершах, бо — маўчаць не мог, бо — ён сам быў гэтым славенцам, быў сапраўдным сынам свайго народа. Гаварыў ярка і пераканаўча, гаварыў так, каб яго пачулі і да яго прыслухаліся сотні тысяч... І ён быў пачуты. Ужо ў 1909 годзе вядомы гісторык літаратуры І. Прыяцель назваў Жупанчыча вядучым славенскім паэтам эпохі. Праз два гады былі перавыдадзены абодва першыя зборнікі Жупанчыча («Чаша захаплення», «Па раўніне»), у сувязі з чым славуты Іван Цанкар у сваім водгуку зазначыў, што ўся наймалодшая генерацыя славенцаў прасякнута яго, Жупанчычавым, духам, «духам самаўсвядомленай сілы і даверу да жыцця», што яго паэзія дала ўсяму славенскаму роду «вясёлыя вочы і мужныя сэрцы».

У 1911 годзе Отан Жупанчыч як прафесіянальны літаратар працуе драматургам пры нацыянальным тэатры ў Любляне; адначасова распачынае вельмі актыўную дзейнасць у галіне мастацкага перакладу (першай творчай «заяўкай» на гэтай ніве быў знакаміты аб'ёмісты раман Дзікенса «Олівер Твіст»). У 1913 годзе Жупанчыч атрымлівае сталую службовую пасаду — ідзе на месца архіварыуса ў гарадскі архіў, якое перад тым доўгі час займаў масціты паэт і пісьменнік старэйшага пакалення Антон Ашкерц. У сувязі з гэтым пазначэннем ён едзе на некалькі месяцаў у чэшскую Прагу па практыку. Трэба думаць, як паднастроіла яго нацыянальна-патрыятычныя пачуцці тагачасная Чэхаславакія, дзе ўсё кіпела і бурліла ў прадчуванні хуткага вызвалення ад няпрошанай шматвяковай апекі, дзе ідэя нацыянальнай незалежнасці з кожным днём станавілася ўсё больш відочнай рэальнай сілай.

У тым жа 1913 годзе Отан Жупанчыч уступае ў шлюб і неўзабаве стварае ці мала цудоўных літаратурных шэдэўраў пра шчасце кахання, пра паўнату радасці сямейнага чалавека, пра

жанчыну маці, якая чакае першынца. Каханне ў яго лірыцы падаецца высокаадухоўленым, арганічна ўводзіцца ў маральна-этычны і сацыяльны кантэкст. Стаўшы сем'янінам, ён як бы нанова вяртаецца ў стыхію маленства і выдае — адну за другою — дзве новыя кнігі для дзяцей («Ціцібан і яшчэ сёе-тое» і «Сто загадак», абедзве — 1915) . Было гэта ўжо ў разгар крывавай імперыялістычнай бойні, і прагучалі яны не толькі гімнам міру і гуманізму, чысціні і хараству дзіцячага свету, але і своеасаблівым пратэстам супроць разгулу крываžэрства і людажэрства, супроць пажару вайны, у якім гінулі дзеці. Дарэчы, не ўсе гэтак званыя дзіцячыя вершы і нават загадкі Жупанчыча разлічаны на ўспрыняцце і разуменне маленькіх чытачоў; некаторыя з іх яўна адрасаваны дарослым, якім устрывожаны паэт няйначай гаворыць: думайце, думайце, людзі, пра дзяцей, пра іх лёс, пра будучыню чалавецтва!..

Перыяд з 1908 па 1918 год у творчасці Жупанчыча супадае з перыядам актыўнага нарастання нацыянальна-вызваленчых настрояў у шырокіх грамадскіх колах Славеніі, з перыядам абвастрэння сацыяльна-класавых адносін у краіне (як і ва ўсім капіталістычным свеце — аўстра-венгерская імперыя, у склад якой уваходзілі славенскія землі, не была выключэннем) . Піша ў гэты перыяд Жупанчыч не часта, але тое, што выходзіць з-над яго пяра, у большасці сваёй назначана актыўнай грамадзянскай пазіцыяй. Побач з вершамі, у якіх пануюць пантэістычныя і натурфіласофскія погляды па свет і жыццё, паэт друкуе творы, прасякнутыя моцным выкрывальна-крытычным пафасам, творы, у якіх ён усё больш набліжаецца да радыкальных пытанняў часу, да ідэй нацыянальнай рэвалюцыі і сацыялізма (верш «Голад», «Кавальская», «Песня цвікароў» і іншыя). Тэма лёсу народа, яго мовы і культуры, становіцца адной з цэнтральных у творчасці многіх тагачасных славенскіх паэтаў і пісьменнікаў. Па той жа самай прычыне, што і ў літаратуры іншых славянскіх народаў, якія жылі вялікай надзеяй не ўпусціць свой гістарычны час і выйсці з ярма нацыянальнага прыгнёту на свабоду. Успомнім шырокавядомыя словы правадыра пралетарскай рэвалюцыі ў Расіі У. І. Леніна — сказаныя ім менавіта ў гэты перыяд, у 1915 годзе: «Для ўкраінцаў і беларусаў, напр., толькі чалавек, які ў марах жыве па Марсе, мог бы адмаўляць, што тут няма яшчэ завяршэння нацыянальнага руху: што абуджэнне мас да авалодання роднай мовай і яе літаратурай — (...) — тут яшчэ адбываецца. «Бацькаўшчына» тут яшчэ не адспявала ўсёй сваёй гістарычнай песні. «Абарона бацькаўшчыны» яшчэ можа быць тут абаронай дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды супраць прыгнятаючых нацый, супраць сярэдневякоўя...» (У. І. Ленін,

Творы, выд. 4-е, том 23, с. 27-28). Асабліва моцным і яркім усплёскам нацыянальнай тэмы ў славенскай паэзіі тых гадоў якраз і з’явіліся вершы Жупанчыча — такія, як «Наша пісьмо» (1917), «Наша слова», «Пытанні» (1918) і інш.

Так, гэта і нам засталося, браты:
усімі сэрцамі сёння,
усімі сумленнымі сэрцамі,
усімі збалелымі сэрцамі
рычыце, рычыце й рычыце, пакуль —
не вернуць нам наша пісьмо,
не вернуць нам нашае слова!

*(«Наша пісьмо»)*

1918 год прынёс Славеніі палітычную свабоду і незалежнасць — яна ўвайшла ў склад новай паўднёваславянскай дзяржавы — аб'яднанага Каралеўства сербаў, харватаў і славенцаў. Гэта гістарычная падзея ў жыцці славенскага народа прынесла вялікаму паэту не толькі радасць, але і засмучэнне, і расчараванне: значныя тэрыторыі адвеку роднай зямлі — этнаграфічна славенскія раёны — былі адрэзаны і прысвоены дужэйшымі суседзямі. Крыўда, нанесеная патрыятычным пачуццям Жупанчыча, мабыць, адбілася і на творчым настроі паэта. Выдаўшы ў 1920 годзе кнігу вершаў «На зары Відава дня» (праз дванаццаць гадоў пасля зборніка «Маналогі»), Жупанчыч-лірык надоўга, амаль да сярэдзіны 30-х гадоў — замаўчаў. Месцам прылажэння яго творчых сіл сталі нацыянальны тэатр, навука (мовазнаўства і літаратуразнаўства), мастацкі пераклад. У тэатры ён працуе звыш дваццаці гадоў — з 1920 па 1941: спачатку — драматургам, затым — галоўным сакратаром і нарэшце — дырэктарам.

У 1924 годзе быў пастаўлены спектакль па п’есе Жупанчыча «Вераніка Дэсенішка» (любоўная трагедыя), але працягу гэта спроба на ніве драматургіі не мела.

Надзвычай плённа працаваў Жупанчыч у 20-30-я гады як перакладчык паэзіі і прозы розных краін свету. У гэтых адносінах яго заслугі перад нацыянальнай культурай Славеніі цяжка пераацаніць, і паставіць з ім побач бадай што няма каго. Чытачам у роднай мове ён падарыў агромністую бібліятэку сусветнай літаратуры, у тым ліку творы вялікіх еўрапейцаў — Мікеланджэла, Дантэ, Шэкспіра, Дзікенса, Галсуорсі, Конрада, Вальтэра, Мальера, Стэндаля, Бальзака, Мапасана, Франса, Гётэ, Гейнэ і іншых, творы такіх волатаў старажытнасці, як Гамер, Катул, Гарацый. З рускай літаратуры Жупанчыча-перакладчыка наймацней і найчасцей прываблівала паэзія вялікага Пушкіна, якую ён перакладаў да апошніх дзён жыцця (карэктуру «Меднага конніка» трымаў у руках літаральна за дзень-два да смерці). Дарэчы, перакладамі з рускай

мовы і пачаў ён яшчэ ў ранняй маладосці гэту сваю надзвычайную, самаахвярную дзейнасць: першай перакладзенай ім кнігай быў зборнік песень Кальцова, музыку да якіх напісаў кампазітар Антон Лаёвіц (выйшаў з нотамі ў 1903-1904 гадах).

Цягам многіх гадоў Жупанчыч не пісаў ні радка свайго, а дарэшты аддаваўся працы над перакладамі. Напэўна, сёння можа сёй-той выказаць і шкадаванне: ах, калі б увесь гэты час і сілы ён прысвяціў сваёй уласнай творчасці! Колькі ён напісаў бы новых цудоўных вершаў!.. Можа, і напісаў бы. І аднак жа вялікі паэт ведаў, што робіць. Ён быў мудрацом і глядзеў далёка наперад. Ён разумеў: народ, які не далучыць сябе ў роднай мове да скарбаў сусветнай культуры, рызыкуе застацца ў сучасных умовах народам правінцыяльным і гістарычна нежыццяздольным; непадключанаму да крываносных артэрыяў вялікага свету, яго арганізму пагражае духоўная дыстрафія, малакроўе і ўрэшце — непазбежнае выраджэнне і выміранне. Як выраджаецца і гіне ад унутрыродавых міжсваяцкіх шлюбаў род. Не можа нацыянальная культура жывіцца толькі сваімі ўласнымі сокамі, не можа нацыянальная літаратурная мова развівацца, не асвойваючы лексічныя, стылёвыя і іншыя моўныя багацці далёкіх і блізкіх літаратур. Ну, а хто павінен займацца мастацкім перакладам — яму было таксама зразумела: паэты і пісьменнікі найбольш таленавітыя,— няздары сусветную класіку да славенскага чытача не данясуць.

Напад фашысцкіх агрэсараў на Югаславію вясной 1941 года Отан Жупанчыч сустрэў з годнасцю сапраўднага патрыёта-грамадзяніна. Ён быў адзін з першых, хто кінуў народу кліч — падымацца на барацьбу з акупантамі. Ужо ў пачатку верасня сорак першага на старонках органа Камуністычнай партыі Славеніі газеты «Дело» быў змешчаны верш Жупанчыча «Абавязак свой ведаеш, паэт?». Да тэмы назначэння паэзіі, прызвання паэта за сваё доўгае творчае жыццё Жупанчыч звяртаўся неаднойчы і трактаваў яе ў розныя часы па-рознаму — і з рамантычнай узнёсласцю, і з засяроджанай сузіральнасцю, і нават з мадэрнісцка-ідэалістычнай падсветкай. Прабіў час сказаць пра найпершы абавязак паэта суровымі словамі баявой лістоўкі:

Будзем зноў вітаць
весніх зор вянкі,
будуць зноў ваўкі
лоўчым глоткі рваць.
Кліч, ляці праз Саву і Драву:
Зуб за зуб, смерць за смерць —
па праву!

Па ўзросту і стану здароўя — Жупанчычу было ўжо далёка за шэсцьдзесят — паэт не мог удзельнічаць у баях з акупантамі непасрэдна, у радах Народна-Вызваленчай Арміі Югаславіі. Але ў гэтых баях удзельнічала, натхняючы байцоў на подзвігі, яго слова. І нават само яго імя. Імя вялікага паэта і вялікага славенца.

У 1945 годзе выйшла апошняя прыжыццёвая кніга лірыкі Жупанчыча «Барвінак пад снегам», якую склалі вершы 30-х гадоў і перыяду антыфашысцкага супраціўлення. Пісаў ён зрэдчасу і ў наступныя гады, вітаючы прыход новай, сацыялістычнай эры на старажытную зямлю яго Бацькаўшчыны, радуючыся магчымасці «дыхаць свабодным паветрам Славеніі і Югаславіі». Але ў асноўным астатак жыцця Жупанчыч прысвяціў навуцы: кіраваў інстытутам культуры славенскай мовы пры Славенскай акадэміі навук і мастацтва, сапраўдным членам якой ён з’яўляўся з 1938 года.

Памёр Отан Жупанчыч 11 верасня 1949 года ў Любляне і быў пахаваны побач з тымі, з кім калісьці, у далёкую пару юнацтва, пачынаў, чыім сяброўствам і памяццю свята ўсё жыццё даражыў: побач з Драгацінам Кеттэ, Іванам Цанкарам і Ёсіпам Мурнам-Аляксандравым.

Творчы шлях паэта быў, як мы маглі пераканацца, і няпросты, і нялёгкі. Гэта быў шлях пастаяннага, няспыннага пошуку — пошуку сябе, свайго голасу, свайго слова. Напачатку — пераважала захапленне вобразам імпрэсіяністычным, затым — на доўгі час — цікавасць скіравалася да верша экспрэсіяністычнага, а нарэшце — пануючым стаў метад рэалізму, з яго невычэрпнымі магчымасцямі мастацка-вобразнага выяўлення. Але які б тып паэтычнага бачання снегу і які б стыль мастацкага пісьма ні пераважаў — галоўным і вызначальным для яго паэзіі заўсёды было глыбока ўсвядомленае пачуццё абавязку перад радзімай, пачуццё непарыўнай еднасці свайго жыцця і лёсу з жыццём і лёсам працоўнай грамады. Як творца, ён заўсёды заставаўся чалавекам з народа і для народа. І ўвогуле — заставаўся чалавекам. Натуральна простым і шчырым у сваім абыходку з людзьмі, без фальшу і позы, непасрэдным і сціплым. Еўрапейская культура, высокая адукацыя шчасліва спалучаліся ў ім і ў яго творчасці з увагай і любоўю да культуры народна-фальклорнай, да філасофіі і маралі працоўнага чалавека, да невычэрпных крыніц жывога народнага слова. Вернасць вытокам нацыянальнага духу, вытокам чалавечнасці — пры ўсіх захапленнях і ўплывах — не дала падрэзаць, высушыць, ачарсцвіць, аказёніць чалавечую душу яго музы. Да Жупанчыча — такога канкрэтнага, жывога, вобразна-згушчонага пісьма славенская паэзія не знала. Яго мастацкая мова — гэта мова чарадзея, якая ўражвае багаццем лексікі, дзівосна-разнастайнай музыкай рытмаў, сінтаксічнай гнуткасцю, свабодай

інтанацый, закасцянелай рухомасцю форм — і разам з тым — філіграннай апрацаванасцю радка, страфы, кампазіцыі верша.

Па словах блізкага сябра паэта, выдатнага вучонага і пісьменніка Ёсіпа Відмара Жупанчыч быў чалавекам, «які ўвасабляў сабой вышэйшы маральны аўтарытэт у жыцці славенцаў». Ці трэба тлумачыць, што чалавечы і грамадзянскі аўтарытэт паэта — гэта перш за ўсё аўтарытэт яго творчасці, яго слова?

1986

